# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

10 (984)

КАСТРЫЧНІК

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2011

ЗМЕСТ





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

# ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ



## ВЯДРО

З грымотамі, быццам ядро,
І роспаччу смаглай гартаннаю
Ляціць яно ў студню, вядро,
Ў жалеза як след забрытанае.

Павісне з вадой нараўне.
І недзе, пад Оршай ці Стоўбцамі,
Дзівуецца — колькі на дне
Сузор'яў з алмазамі тоўпіцца!

І ў студні, што ўчора, відно,
Падноўлена нейкаю фірмаю,
Зачэрпне з вадой заадно
Жамчужын зіхоткіх з сапфірамі.

І, ледзь пераводзячы дух,
Грабецца наверх, як не высмягне,
Аж покуль з палёгкаю — ух! —
Урэшце са зруба не высягне.

---

*__Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч__ нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994).*

І поіць граду за градой
З таемнаю радасцю стоенай
Жывою глыбіннай вадой,
На зорах світальных настоенай.

А раніцай сочыць з двароў
Пасёлак, турботамі ўстураны,
Як вочап трымае вядро,
Нібыта мензурку з мікстураю.

## ПАЖАР

Пажар, нібы кірмашны торг,
Рванецца ўгору, то апусціцца.
А полымя цярэбіць торф
Каля бярэзіны-спакусніцы.

Ды ахінецца ўміг яно
Гарачым дымам, нібы тогаю.
Кудысьці ў прорву, як на дно,
Ляціць карчэўе васьміногае.

І хоць вачам сваім не вер, —
Нібыта д’ябламі падкуплены,
Агонь аціхне, быццам звер,
Ды шугане ізноў з-пад купіны.

І брагай — хай яе кадук! —
Багніна дыхае, як бражніца,
Скрозь галасамі папрадух
Пераклікаецца і дражніцца.

Задымлен захад ды і ўсход.
Гудзе ў агні прасцяг і божкае, —
Нібы прайшоў тут артналёт
З авіяцыйнаю бамбёжкаю.

І голай пусткаю, дзе цень
Сарвацца з месца парываецца,
Бяжыць па шэрым прыску дзень,
Пакуль у пекла не праваліцца.

І недзе там сваёй чаргой
Не жар, а груды, сама меншае,
Брыльянтаў, срэбра качаргой,
Нібы скупеча, перамешвае.

* * *

Дзе леснікамі,
Ў шапцы з цэшкай,
Дажджы хадзілі, бухаў гром, —
Наўгрунь спяшала сыраежка
Праз шэры крохкі буралом.

Ніхто за ёй не гнаўся з палкай,
Не страшыў рыссю, ні ваўком.
З-пад павучынкі, як вуалькі,
Глядзела пільна навакол.

Яна спяшала волкім лесам,
Бо часу мелася ў абрэз.
Была ў дванаццаць баранесай
З вяльможных юных баранес.

На зайздрасць сойцы з баравінай,
Што ледзь віднеліся ў смузе,
Ах, як карцела балерынай
Крутнуцца вёртка на назе!

Ды ля хваіны неўпрыкметку,
Пачуўшы дзятла гучны грук,
Дарунак, матчыну ларнетку,
Знячэўку выпусціла з рук.

Была, напэўна, ніцавокай —
Прысела ледзь не са слязой,
Дол шэры мацае навокал —
Ігліцу з рознай драбязой.

А пад раскосаю асінкай,
У тым прасмоленым ляску,
Ларнетка ранішняй расінкай
Блішчыць і ззяе на лістку.

* * *

Клянчыць дажджоў долу трэба,
Як ні круці!
Краны і вентылі ў небе,
Дзень, адкруці!

Клочча ўгары. Мо парылі
Хмару лычы?
Гарычыня, бы ў парыльні, —
Стогнуць драчы.

Над сціхатою задушнай
І астраўком ярыны
Звалены ў груд, нібы ў крушню,
Спяць перуны.

У воблакаў прэсны прысмак.
А загарчыць —
Рванецца пярун, нібы з прыску,
І — загірчыць!

Пад ветрам хіснецца блёкат.
І кулкамі — грах!—
Ударыць пагрозна ў аблоках
Гром-алігарх.

Глыбока ўздыхнуць выгары,
Бульбоўе і кроп.
Чаўбохне з хмурын Ніягарай
Лівень-патоп.

І неба вадою спакуснай —
Дыхай, зямля! —
Дол поіць з вуснаў у вусны,
Як немаўля.

* * *

Можа прыкінуцца ёгам і крамнікам,
Быць, як агонь.
Часам зірне з-пад ілба крымінальнікам
Зух-самагон.

З жэстамі блазна, з вар’яцкаю мімікай
Колькі вякоў
Верным падручным лічыўся ў алхімікаў
І ведзьмакоў!

Хоць і сядзеў за святочнаю скацеркай,
Напаўлегал,
Арышту ўсё ж ды прамой канфіскацыі
Ён падлягаў.

Часам прылюдна мог выкінуць коніка,
Хітры, як чмур.
Капаў, цурчаў у гладышык, то ў конаўку —
Цур-р ды ўсё цур-р!

Лез не ад страху ў бадылле засохлае
Ён ад відна.

Свой інтарэс, нават больш — філасофію
Меў аддаўна.

Просьбай дзядоў і бабулек не грэбаваў —
Ранкам ці днём
Воз ён з дрывамі цягнуў гразкай грэбляю
Разам з канём.

Возьме юрлівасць — у патлах з саломаю,
Франт і штукар,
Сцежку знаходзіў у спальню салонную,
То ў будуар.

Мог бы скрыжалі ў нябёсах ён высечы,
Дзесь ля Стажар.
Мае аблiччаў не менш, мабыць, тысячы, —
Доўгажыхар!

* * *

А яліны, з вярхушкамі-шпілямі,
Апрануўшы са снежнем даху,
На сто гузікаў цесна зашпілены,
І, здаецца, не могуць дыхнуць.

Вецер снегам шугае ды плёскае,
Хоча вызнаць, напэўна, сакрэт,—
Мо сабраліся світай пасольскаю
За мяжу рушыць цугам карэт…

А дыхне пушча даўняй былінаю —
Снег з вяршалін абрынецца ўраз!
Бач, ва ўсіх каўняры сабаліныя,
А спадыспаду — шоўк ці атлас!

Хоць вятры-малайцы і буянілі
Талакой густачубых братоў, —
Перад елкай, як перад баярыняй,
На калена стаць кожны гатоў.

А пад вечар мяцеліца ўскрыліцца,
Загудзе на стогорлай дудзе, —
Як наміткаю, ельнік акрыецца
І, здаецца, з вачэй прападзе.

Дым узыдзе, нібыта над броварам,
Ды спаўе сцежкі ўсе і шляхі.

А над імі — ці шапкі бабровыя,
Ці то елак спічастых вярхі.

* * *

Мой дружбак, віхрасты верабей,
Снег ізноўку валіць белым валам.
А ў цяпле дзесь горад спіць Бамбей, —
Мы з табой там зроду не бывалі.

Мы, скажу, не мастакі лаўчыць.
Ды сягоння трэба не дрындушку —
Мне ў Бамбеі рыфму залучыць,
А табе — дзівосную жар-птушку.

І калі з паднеб'я зарапад
Стане на зямлю сплываць пакорна,
Хай адзычыць залатых зярнят
Нам дзеля звычайнага прыкорму.

Вецер змоўк і не гудзе трубой,
Зоры паднябессе не рашэцяць.
Слова я даю, што нам з табой,
Як ніколі у жыцці, пашэнціць!

І павер, дружбак мой, вербей,
Што пад гул завейнай лапатушкі
Ноччу нам прысніцца ён, Бамбей, —
З рыфмай — мне! Ну а табе —
З жар-птушкай!

## ВАСЬМІРАДКОЎІ

* * *

Гэты поезд ідэальны
Стаўся дораг мне ўдвайне
За маршрут скрыпучы, дальні,
Крыгу шклістую ў акне.

Нібы кропля, ў свеце кану —
Будзе месці ці дажджыць.
Шлях кружны да акіяна
Па ўзбярэжжы дзён бяжыць.

* * *

Дзён барозны. Тыдняў дзюны.
Луста пляжа. Сну барыш.

Ты, душой яршысты, юны,
Каля Балтыкі ляжыш.

Валам грозным, нібы дрынам,
Шторм наўзмах — не прадыхні! —
Ломіць дужыя рабрыны,
А табе — ну хоць бы хны!

* * *

Ты, скажу, паходзіш з касты
Не ткачых і не ткачоў,
А язычніц языкастых,
Крывічанак-крывічоў.

Драла Крывія лучыну,
Ў Кракаў слала не крыўляк.
Крывічане й навучылі
Танчыць модны кракавяк.

* * *

А восенню палетак,
Як летні пал прайшоў,
Прачнуўся ў эпалетах
Сланечын-кругляшоў.

Над ім, нібы пярэхрыст,
Паўдзён — чаго таіць? —
У світачцы пярэстай
Смугі рабой стаіць.

* * *

Навёўшы на курэй перапалох,
Карослівы, руды і крываногі,
Як валацуга, вунь чартапалох
З кавенькаю прыцüх каля дарогі.

Яго крамсаюць сотні абадоў,
І з каляін пясок кідаюць спіцы.
А ён, васпан-чартапалох, гатоў
І за паганца нават заступіцца.

* * *

Пойдзе горача кадрыля
Выбіваць у круг ды біць, —

Бытта ў неба эскадрылля
Самалётаў узляціць.

За акном трасуцца клумбы,
І паўзе па сценцы хмель.
Дзе? — у небе а ці ў клубе
Кружыць танца карусель?

* * *

Век, гаркатой не абміні,
Не абдзялі хвілінай скрушнай!
Кідаў пад ногі камяні,
А сёння падбіраеш крушні.

А кожны камень — казка, міф
І бохан спечаны з закальцам.
Ах, як цяпер пражыць хоць міг,
Ног не збіваць, не спатыкацца?

* * *

Калега мой, нібы падбіты качар,
За цёткай-славай стоячы ў чарзе,
Каторы год бесперапынна скача
Да цёткі-славы на аднойназе.

А ёй арла падайце, як паненцы,
Каб ірвануць да болю мог струну!..
Магчыма, да яе дзівак дапнецца,
Калі ўжо трэба класціся ў труну.

* * *

Прысядзеш на латочынцы
На шэры пень рабы.
І слухаеш, як точацца
Праз шыгалле грыбы.

І здзівіць небываліца —
Праломіць чаравік
Ды лезе, прабіваецца
Між пальцаў баравік.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# СЕМ ГАДОЎ У ЦК[1]

(раман-дзённік)

## 1975

**1 студзеня.** Атрымаў навагоднюю паштоўку ад Максіма Танка. Не забыў. Я адразу пазваніў, падзякаваў і павіншаваў яго і яго жонку, якую ён пяшчотна называе Любашай. Пагаварылі пра мінулы год. Яўген Іванавіч прыгадаў, што ў мінулым годзе бура паваліла ў Белавежскай пушчы дуб Ягайлы, пад якім ён любіў адпачываць. Гэта значыць, Ягайла.

**3 студзеня.** Адзначалі 50-годдзе шэфа — загадчыка аддзела С. В. Марцэлева, запрасіў на кватэру. «Залаты юбілей». Гучалі тосты і добрыя пажаданні ў гонар юбіляра. Ён ужо доктар навук, хутка будзе прафесарам. Было нямала жартаў, весялосці, успамінаў. Яўген Барысавіч зачапіў (пры нагодзе ён гэта любіць) «сталінскую тэму». Размова зайшла пра дзіцячыя гады, пра выхаванне.

— А вы ведаеце, Сталін гладзіў мяне па галаве!

Усе прымоўклі.

— Я, таварышы, вучыўся ў школе разам з ягоным Васіліем. Зімнім вечарам неяк вывелі нас на Манежную плошчу, на каток. Хлопцы, і Васілій у іх ліку, каталіся на каньках, а я не ўмеў і стаяў ля кромкі лёду збоку. Раптам падыходзіць ён. Прагульваўся з аховай. Спыніўся каля мяне, вельмі ўважліва паглядзеў і пагладзіў па галаве.

— Сказаў што-небудзь? — пацікавіўся Лабун.

— Не.

Усе былі ўражаныя.

— Па шапцы пагладзіў ці па голай галаве? — спрабаваў удакладніць цікаўны Сяргей Лакішык.

Для Яўгена Барысавіча такое «ўдакладняючае» пытанне здалося, відаць, недарэчным.

— Якая розніца? — незадаволена буркнуў ён.

Юбіляр, мяркуючы па ўсім, таксама быў незадаволены, што размова адхілілася ўбок, перайшла на «коўзкую» тэму, далёкую ад юбілею.

**6 студзеня.** Вечарам разам з Б. Сачанкам былі ў Лужаніна. Яўгенія Эргардаўна прыгатавала сціплы стол, але было што і выпіць, і закусіць. Я вярнуў Аляксандру Амвросьевічу кнігу Б. Ліўшыца «Полутораглазый стрелец» — пра літаратурны рух пачатку ХХ ст., пра мадэрнізм, якую (старое выданне) браў у яго пачытаць. У Лужаніна шмат знаёмых сярод рускіх пісьменнікаў

[1] Працяг. Пачатак у № 5—9, 2011 г.

(калісьці — да вайны і ў час вайны — ён і сам знаходзіўся ў Маскве). Пасля вайны ён працаваў сакратаром Якуба Коласа, які сябраваў з многімі і многімі рускімі пісьменнікамі — і маскоўскімі, і ленінградскімі ад Сяргея Гарадзецкага (сябра Аляксандра Блока) да Аляксандра Пракоф'ева. Ведаў многіх і Аляксандр Амвросьевіч. Расказаў, як Саша Пракоф'еў (з яго слоў) гасцяваў у Сашы Фадзеева ў Перадзелкіне. Расказаў так, як бы гэта гаварыў сам Пракоф'еў:

— Сядзелі з самай раніцы, перагаварылі, здаецца, пра ўсё ды і выпілі добра. Але нешта гарэлка гэтым разам не брала, а ўжо звечарэла. «Пайшлі, Саша кажа, да Пастарнака, аб вышэйшых матэрыях пагаворым. Ён, брат, высока лятае…» Хаця выпіць яшчэ і было што.

Я згадзіўся. Пайшлі. Дача Пастарнака побач, недалёка. Бачым, і веснічкі адчынены, і святло гарыць. Ну, Саша пастукаў. Раз, потым яшчэ раз ці два. Адчынілася фортка, і сам гаспадар вызірнуў — Барыс Леанідавіч. Убачыў Фадзеева, рукой махнуў: «Счас, Саша!» І тут жа прыносіць бутэльку гарэлкі і паўкруга сыру, праз фортачку падае: «На, Саша, трымай!» Аддаў і тут жа, нягоднік, фортачку зачыніў і занавеску зашморгнуў. Стаім мы з Сашам, адзін на аднаго глядзім і плячамі паціскаем. Так ні з чым і вярнуліся. Ды як ні з чым? Гарэлку і сыр яму не пакінулі!..

Аляксандр Амвросьевіч дадаў, што ў Фадзеева звычайна запоі пачыналіся з чытання любімага верша Пастарнака. З якога, я, на жаль, не запомніў, бо паспелі ўжо выпіць па чарцы. Трэба будзе перапытаць.

Загаварылі чамусьці пра Горкага. Аляксандр Амвросьевіч расказаў, як Горкі недзе ў сярэдзіне 30-х гадоў выказаў Сталіну жаданне напісаць пра яго кнігу. Сталін згадзіўся. Прайшоў час, але Горкі маўчаў, шкадаваў, пэўна, што гэтак неабачліва прагаварыўся. Сталін праз іншых людзей няраз нагадваў пра яго абяцанне, а потым адправіў яго ў ссылку, у Тэсель, як бы на папраўку, бо Горкі хварэў на туберкулёз. Тэсель — гэта ў Крыме. Пісьменнік паехаў туды разам з апошняй сваёй каханкай Алімпіядай Чартковай, якая была пры ім за медсястру. Ён пяшчотна называў яе Ліпкай…

Цікава сказаў пра Горкага Чэхаў: «По-моему, будет время, когда произведения Горького забудут, но сам он едва ли будет забыт, даже через тысячу лет». Гэта малавядомае выказванне, і зразумела, чаму. Чэхаў (памёр у 1904 годзе) зусім не цаніў творы Горкага і дзівіўся асабістым якасцям свайго калегі, які «пераняў» у яго актрысу Андрэеву.

**7 студзеня.** У маскоўскай літаратурнай прэсе можна прачытаць намёкі на тое, што, мяркуючы па ўсім, гераічная эпоха мінула. Пачынаецца фарміравацца (як і на Захадзе) час спажыўца. Мінула, відаць, ці мінае эпоха герояў, нахрапіста сцвярджае сябе шэрая паўсядзённасць. Прынамсі, паміраць за ідэю, як калісьці герой верша А. Суркова, ужо ніхто, здаецца, не збіраецца. Яшчэ Мантэнь, мудры Мантэнь, калісьці (XVI ст.) сказаў: «Памерці за ідэю — значыць прыдаваць залішне шмат цаны недаказаным ісцінам». Тое ж — сам чуў — кажа і наш Макаёнак: «Гераізм не можа быць пастаянным станам чалавека. Удых патрабуе выдыху. Удых — выдых, удых — выдых!» Апошнім часам Макаёнак шмат чытае.

Усе бакі чалавечага існавання — раўназначныя для паўнацэннага жыцця, не толькі гераічныя. Літаратуразнаўчы варыянт гэтай думкі: ніякая ідэя — самая, здавалася б, новая і ёмістая — не здольная ўлічыць і змясціць у сабе ўсё багацце і шматстайнасць жыцця.

**8 студзеня.** Прыкрыя перабоі з прадуктамі. Тое, што ёсць, не высокай якасці. Кажуць, што ў час вялікага посту, перад Калядамі, вернікі задалі пытанне святару: «Ці можна нашу каўбасу лічыць мясным прадуктам? Калі нельга,

дык ці можна спажываць яе ў пост?» Святар задумаўся і нічога пэўнага не мог адказаць.

**12 студзеня.** Хадзіў на Камароўку купіць сала. Сала цяпер прадукт не модны, гасцей салам не частуюць, але часам добра (памяць дзяцінства) з'есці скварку з цыбуляй. Успомніў, як захацелася сала таму ўкраінцу — саветніку нашага пасольства ў Дэлі. Гарачыня, па шчоках пот плыве, а яму сала давай.

**13 студзеня.** Быў на прэм'еры спектакля па п'есе М. Матукоўскага «Апошняя інстанцыя» ў Рускім тэатры імя Горкага. Рэжысёр Б. Луцэнка.

Матукоўскі не бог ведае які драматург. Публіцыст-газетчык. Ні ў чым не сумняваецца. У яго ўсё плавае на паверхні.

**17 студзеня.** Сустрэў каля помніка Я. Купалы Рыгора Саламонавіча. Спытаў, ці чытаў ён раман А. Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік» (нядаўна друкаваўся ў «Полымі»). Відаць, у крытыка не было настрою, бо адказаў даволі рэзка:

— Я яшчэ ў другі раз Томаса Мана не прачытаў, а вы мне пра Асіпенку кажаце.

Ну, я і заткнууся. Пра А. Асіпенку ахвотна піша В. Каваленка. Удумлівы крытык, ён заўсёды ўмее знайсці нешта цікавае.

**20 студзеня.** Паклікаў Юрый Пятровіч. Прадстаіць вялікая праца: у Мінску склікаецца Усесаюзная нарада пісьменнікаў і крытыкаў па ваеннай літаратуры, пра што казаў калісьці Пётр Міронавіч. Разам з Юрыем Пятровічам пайшлі да яго на інструктаж. Там ужо сядзеў Кузьмін. Пётр Міронавіч пачаў дзяліцца сваімі развагамі:

— У жыццё ўжо даўно ўступаюць новыя пакаленні людзей, якія не ўдзельнічалі ў той, нашай, вайне, але якія павінны ведаць і пра пакуты, горыч страт, панесеных народам, і пра радасць здабытай Перамогі, якая была аплачана вялікай крывёй, і пра тое, чым мы, жывыя, абавязаны тым, хто астаўся на той вайне, каго няма побач з намі. Думаю, таварышы, што не трэба баяцца паўтарыць і ўжо добра вядомае, напомніць аб тым, што агрэсія Германіі супраць Савецкага Саюза паставіла пытанне аб існаванні славянскіх народаў. І гэта зусім не рытарычная і не палітызаваная фраза. Вядома гітлераўская практыка генацыду цэлых народаў. Знішчэнне яўрэяў на захопленых нацыстамі тэрыторыях, якое ўвайшло пазней у гісторыю пад назвай Халакост, пераўзышло ўсе вядомыя ў гісторыі прэцэдэнты. Такі ж лёс быў падрыхтаваны славянскім народам. Генеральны план «Ост», складзены тымі ж фашысцкімі «спецыялістамі», дэтальна прадугледжваў апакаліптычнае знішчэнне славянскіх народаў. Асноўная колькасць ахвяр барацьбы супраць фашызму прыходзіцца на іх.

Вялікая Айчынная вайна не хоча з намі расставацца і адыходзіць у гісторыю. Асабліва гэта становіцца ясным і зразумелым сёння, напярэдадні 30-годдзя Вялікай Перамогі, калі, здавалася б, па часе, попел астыў і настаў момант паглядзець на ўсё спакойнымі і бясстраснымі вачыма. Не, перажытае ў вайну, памяць аб героіцы і ахвярах, стратах, уздымах і падзеннях чалавечага духу, працягвае жыць у сэрцах ветэранаў, удзельнікаў вайны, партызан і іх нашчадкаў, захоўвае сваю актуальнасць, да гэтага часу вярэдзіць свядомасць мастакоў, у тым ліку і пісьменнікаў.

Не ўсё, вядома, з таго, што напісана на ваенную тэму, узнімаецца па сваіх гістарычных, філасофскіх, мастацкіх вартасцях, па сіле ўздзеяння на чытача да належнай вышыні, да таго, што зроблена для Перамогі партыяй і народам. Тут яшчэ шмат работы.

Як звычайна, Пётр Міронавіч гаварыў шмат. Закурыўшы цыгарэту і дыхнуўшы дымам, дадаў:

— Ну, канешне, нешта трэба сказаць і пра сучаснае становішча, пра пытанні эканомікі, кадравай палітыкі, маральнай атмасферы і г. д. Чыста літаратурныя праблемы закрануць самі пісьменнікі, нас жа больш цікавяць агульназначныя моманты.

Размова ў Машэрава выдалася цікавая, змястоўная. Мы, як звычайна, за ім запісвалі. Вядома, агульныя яго разважанні трэба палажыць на канкрэтыку. Гэта адказна, бо слухачы — пісьменнікі.

Пётр Міронавіч станоўча ацэньвае раман Шамякіна «Атланты і карыятыды».

— Вось толькі партработнікам зноўку не пашанцавала.

Юрый Пятровіч, невядома да каго звяртаючыся, па-філасофску зазначыў:

— Пишущие пусть бы выбирали свой предмет по силам.

Нічога не запярэчыш — святая ісціна.

Зайшла размова пра Быкава.

— Быкаў — франтавік, — памаўчаўшы, сказаў Пётр Міронавіч. — Ён піша на аснове асабістага вопыту, паказваючы вайну такой, якой сам яе бачыў, ведае і помніць. Чалавек ён складаны. Мы абавязаны на яго ўплываць. Па гэтым, — зірнуў на мяне, — будзем ацэньваць і вашу работу.

Я быццам заложнік ці што? Калі што — мяне будуць біць. «Казёл адпушчэння».

**24 студзеня.** Выконваю даручэнне Пятра Міронавіча. Праглядаю ўсё, што напісана на ваенную тэматыку — і мастацкае, і дакументальнае. Выдаецца ўсяго даволі шмат. Чытаю, раблю выпіскі. Кіруе працэсам Юрый Пятровіч — вялікі ўмелец складаць шэфу прамовы. Ведае артыстызм шэфа і асаблівасці яго позы і маўлення. Адчувае яго інтанацыю і падбірае пад яе словы, іх спалучэнне і выразы. Сам не раз бачыў, як ён чытае асобныя сказы і размахвае рукой, як бы дырыжыруе, намацваючы патрэбную інтанацыю.

**31 студзеня**. Прайшлі дзесяць дзён беларускай літаратуры ў Польшчы. Ездзіла дэлегацыя: М. Танк, Г. Бураўкін, А. Адамовіч, І. Чыгрынаў, П. Макаль і інш. Іван Гаўрылавіч на Прэзідыуме СП расказваў, што ў Польшчы быў аб'яўлены конкурс чытачоў на лепшую рэцэнзію на кнігі савецкіх пісьменнікаў. Сучасных, вядома. З беларускіх сярод пералічаных быў В. Быкаў (аповесць «Сотнікаў»). «Хай бы падобны конкурс абвясцілі і мы!» — падхапіў Б. Сачанка.

— Ціка-а-ва! — адгукнуўся на яго прапанову Мікола Гамолка. Гэта яго любімае слова, якое ён гаворыць кожны раз, дзе трэба і дзе не трэба. Пастаянна чуеш ад яго: «Ціка-ава!»

**7 лютага.** У 11.20. пазваніў з дому П. У. Броўка — вярнуўся толькі што з лячэння, з Масквы. Папытаў, ці маю яго кнігу «Пишу о сердце человечьем…» — на рускай мове. Маю. Сказаў, што няблага падлячыўся, адно толькі голас яшчэ не такі, як трэба, гаворыць дрыжачым басам. Сапраўды, голас дрыжыць. Плануе прысвяціць свайму хірургу некалькі вершаў.

**8 лютага.** У «ЛіМе» прачытаў, што на філалагічным факультэце Адэскага дзяржуніверсітэта імя Мечнікава адкрыўся літаратурны клуб «Савецкая Беларусь». Старшыня — невядомая мне Марына Пахалюк. «Цікава!» — як сказаў бы Гамолка.

**11 лютага.** Пазванілі з рэспубліканскага таварыства «Веды». Ёсць магчымасць паехаць у Польшчу з чытаннем лекцый па сучаснай савецкай літаратуры. Паездка плануецца на сакавік—красавік, групу фарміруе Масква. Даў згоду, пабачу Польшчу.

**16 лютага.** І. Я. Навуменка наладзіў банкет у рэстаране «Журавінка» ў сувязі з днём свайго нараджэння. Споўнілася 50.

Сярод прысутных былі пісьменнікі, кіраўніцтва СП, рэдактары газет і часопісаў, уплывовыя крытыкі. Пачаставаць супрацоўнікаў інстытута збіраецца заўтра.

Навуменка ўзнагароджаны — ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Дакументы рыхтаваў я асабіста.

**19 лютага.** Пётр Міронавіч абмяркоўвае з намі даклад. Ён гаворыць, як звычайна, а мы з Юрыем Пятровічам, як звычайна, слухаем, робім пометкі:

— Неабходна адзначыць і тое, што прынятыя партыяй і ўрадам меры дабратворна сказаліся на паляпшэнні ўмоў жыцця і быту інвалідаў вайны, сем'яў загінуўшых воінаў, партызан і падпольшчыкаў. У нашай рэспубліцы рэгулярна праводзіцца абследаванне жыццеўладкавання гэтай катэгорыі насельніцтва, планамерна здзяйсняюцца канкрэтныя мерапрыемствы па задавальненні патрэб і запытаў інвалідаў вайны, сем'яў загінуўшых. Толькі за апошнія дзевяць гадоў звыш 120 тысячам з іх палепшаны жыллёвыя ўмовы. У цяперашні час больш за 10 тысяч інвалідаў вайны карыстаюцца бясплатна выдзеленымі аўтамабілямі і мотакалясками, палепшана іх медыцынскае абслугоўванне, стацыянарнае і санаторна-курортнае лячэнне…

Пётр Міронавіч гаварыў нібы разважаючы з самім сабой і, абапёршы галаву на руку, сказаў:

— Апошнім часам я думаю яшчэ над адной тэмай, над тым, што правільны асабісты інтарэс можа стаць перадумовай грамадскага дабрабыту. Але пра гэта, відаць, яшчэ не час…

Лішніх пытанняў мы не задавалі. Не паложана.

— І яшчэ. Закраніце пытанне пра рамантыку. Пра тое, што мы не можам абысціся без рамантыкі, я чытаў нядаўна ў Леніна, не помню ўжо ў якім томе. Знайдзіце. Вось пра гэта я павінен сказаць…

Будзем шукаць, падключым «Ленінку».

**23 лютага.** Раніцу хадзіў на Камароўку. Іду па вуліцы, гляджу — Піліп Сямёнавіч узяў жменьку снегу і спрабуе на смак. Заўважыў мяне.

— Што, здзіўляешся? Гэта, брат, сакрэт талай вады. Яна адрозніваецца ад звычайнай. Бачыў, як вясной верабейка спяшаецца папіць талай вадзіцы?

— Дык ён жа і летам п'е…

— Не, талая — не тое! У талай вадзе і зерне хутчэй прарастае, і расток спарней развіваецца. Ого! Талая вада…

Я, шчыра кажучы, быў па-юнацку проста ў захапленні ад гэтай «мікралекцыі» Піліпа Сямёнавіча. Я ішоў, а ён ужо вяртаўся з Камароўкі, нешта купіў.

**25 лютага.** Завяршаем дапрацоўку даклада. Вычытваем пасля машыністак. Распрацавалі пытанне і пра рамантыку. Работа атрымалася салідная. Вядома, гэта дзякуючы Юрыю Пятровічу.

**27 лютага.** Адкрылася Усесаюзная нарада пісьменнікаў і крытыкаў «Неўміручы подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне і савецкая літаратура». Пасяджэнне адбываецца ў Тэатры оперы і балета.

Шмат гасцей з Масквы (я на вакзале сустракаў К. Сіманава, які прыехаў з жонкай «генеральшай» Жадавай), з іншых рэспублік. Мы размясцілі іх у гасцініцах «Юбілейная» і «Мінск». Запланавана наведванне «Хатыні» і Кургана Славы. Апроч пісьменнікаў, прысутнічаюць партыйныя і савецкія работнікі, прадстаўнікі палітупраўлення ЧБВА, камсамола, Рэспубліканскага Савета ветэранаў вайны.

І што для мяне вельмі прыемна — увесь Інстытут літаратуры.

Аглядны даклад па тэме нарады падрыхтаваў Леў Якіменка. Затым заслухалі Пятра Міронавіча Машэрава. Гаварыў гадзіну з нечым. Чытаў сваю пра-

мову з відавочнай насалодай, павышаючы і паніжаючы інтанацыю, робячы акцэнты на асобных словах і выразах. Пакінуў у пісьменнікаў, у большасці, вельмі добрае ўражанне. Гаварылі пра яго з пахвалой. Пра Брэжнева гэтак не гавораць.

— Але добра ведае сельскую гаспадарку! — сказаў Л. М. Навічэнка, які, як крытык, умее і «падкалоць».

Пасля Пятра Міронавіча выступалі па чарзе: Сяргей Баруздзін, генерал-маёр авіяцыі Клецкін, Юрый Збанацкі, Лазіз Каюмаў, Мікалай Грыбачоў, Мумін Канаат і інш.

**28 лютага.** Выступіў В. Быкаў. Запомніліся яго словы: «На фундаменце нашай Перамогі пабудаваны гмах сучаснага свету».

«Вайна, — сказаў ён, — шматаблічная, подзвіг чалавека ў ёй шматгранны, гэта вядома кожнаму. Было б дзіўным таму зводзіць літаратуру аб ёй да якойсьці, няхай і бліскучай, аднастайнасці, заўсёды згубнай для мастацтва. Як немагчыма ўніфікаваць вопыт усіх удзельнікаў гэтай чатырохгадовай драмы, таксама немагчыма дабіцца, каб усе аўтары пісалі аб адным і тым жа і былі аднатыпнымі па стылі і мове. Рознасць вопыту, натуральна, патрабуе розных тэм і зместу, неаднолькавасць таленту — рознай глыбіні адлюстравання характараў і з'яў. Усведамленне гэтай элементарнай ісціны здымае ўсю вастрыню праславутай спрэчкі аб «акопнай праўдзе» і «маштабнасці ахопу».

Добра! Лагічна!

К. Сіманаў жа, які таксама выступаў крыху пазней, сцвярджаў, што праўду пра вайну ведае толькі народ: «Ніхто не мае права сказаць: «Я ведаю вайну». Ніхто вайну не ведае. Магчыма, ведае нейкую часцінку. Адзін больш, другі менш. Вайну ў цэлым ведае народ, і народ трэба распытваць пра яе».

У гэтым я адчуў стоеную палеміку з Быкавым і з іншымі аўтарамі, а таксама падтрымку «Я з вогненнай вёскі…»

Выступалі Серо Ханзадзян, Давід Кугульцінаў, Леў Гінзбург, Анатолій Сафронаў, Нічыпар Пашкевіч, Юлій Ванаг, Сяргей Смірноў, студэнтка БДУ імя У. І. Леніна Галіна Пакіслюк.

**1 сакавіка.** Няма калі падступіцца да дзённіка, ідзе Усесаюзная нарада пісьменнікаў і крытыкаў «Неўміручы подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне і савецкая літаратура». Сёння — субота. Госці размеркаваліся на групы і раз'ехаліся ў вобласці для сустрэч з людзьмі. Вяртанне заўтра вечарам.

Мне выпала ехаць у Брэст, цягніком. Кампанія выдалася вельмі цікавая: С. С. Смірноў, які праславіўся кнігамі пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці, Міхаіл Аляксееў, Б. Васільеў, М. Луконін, В. Озераў, пару чалавек яшчэ, некаторыя з жонкамі. Чаго толькі ні расказвалі! Часам цяжка было нават паверыць. Дзюбалі гарэлку. Міхаіл Аляксееў, як чалавек (лідар — ?) «рускай партыі», трымаўся крыху адасоблена.

Агледзелі крэпасць. Сустракаліся з калектывам дывановага камбіната.

**3 сакавіка.** Раніцай быў працяг пасяджэння. Выступалі Аляксандр Розен, Юрый Сураўцаў, Пятро Кручанюк, Яўгеній Вараб'ёў, Міхаіл Аляксееў, Рэваз Джапарыдзе, Максім Танк… Заключнае слова — Віталій Озераў.

Нарада, думаю, прайшла не без карысці. Усе гэта прызнаюць. Было шмат цікавых, у літаратурным і проста чалавечым плане, выступленняў. Яшчэ відавочней стала, што ваенная тэма аказала і працягвае аказваць значны ўплыў на ўсю літаратуру, на яе маральна-этычныя пошукі, паказ чалавека, меру праўдзівасці і ўзбагачэння паэтыкі. І яшчэ. 1960-я гады фарміруюць зусім іншы вобраз Вялікай Айчыннай вайны. Яе вопыт па-ранейшаму захоўвае сваю актуальнасць, але яго ацэнка аказваецца нашмат больш складанай і неадна-

значнай, і гэта прынцыпова. З часоў «адлігі» ваенная тэма ў нашай літаратуры па сутнасці стала антываеннай.

Вечарам 3-га сакавіка, у рэстаране «Журавінка», адбыўся ўрадавы прыём у гонар удзельнікаў нарады.

**7 сакавіка.** Заўтра Жаночы дзень. Вясна. Абавязкова трэба дастаць кветкі. Як-ніяк, у маёй сям'і дзве жанчыны. Буду званіць Міколу. Ён ведае, як гэта зрабіць.

Прачытаў Тамары, як характарызаваў жанчыну знакаміты філосаф Кант:

«Жена должна быть подобна башенным часам, чтобы делать все минута в минуту, и не похожа на часы, чтобы не оглашать всех тайн, она должна уподобиться улитке в отношении любви к своему дому и не походить на улитку, чтобы не нести на себе все хозяйство».

Тамара смяецца.

**11 сакавіка.** Аўтарскі вечар М. Танка ў філармоніі. Былі з Тамарай (з дзецьмі засталася Вера Васільеўна). Выступілі Я. Брыль, Р. Барадулін, Р. Шырма, Я. Міско. З поўнай падставай гаварылі пра тое, што ў паэзіі Танка адлюстравалася жыццё народа, свет яго традыцый і культуры. Але гэта, як я разумею, не гарантыя спакою ў наш трывожны, разбэрсаны век. Народ са сваімі традыцыямі пачувае сябе не надта камфортна і таксама мае патрэбу ў падтрымцы і абароне. Паэзія Танка сведчыць, што ён шукае маральнай апоры, шукае аптымізму.

Паэт адказаў на запіскі чытачоў.

**12 сакавіка.** Аформіў дакументы для паездкі ў Польшчу і атрымаў дазвол. Завяршаю падрыхтоўку лекцыі «Сучасная савецкая літаратура: чалавек і прыроднае ўлонне». Карыстаюся творамі і выказваннямі У. Вярнадскага, С. Залыгіна, В. Распуціна, В. Казько і некаторых іншых пісьменнікаў і вучоных.

**14 сакавіка.** Упершыню пакаштаваў віскі. Разам з Жэнем Б. трапіў на пачостку, якую наладзіў А. заезджым філосафам-функцыянерам, супрацоўнікам маскоўскага часопіса «Вопросы философии». Мае, відаць, інтарэс, бо і сам «філосаф». Пра А. я ведаю толькі тое, што ён, будучы аспірантам, звычайна разношваў свайму навуковаму кіраўніку купленыя ім новыя і яшчэ цеснаватыя туфлі.

Усё адбывалася ў лазні. Апошнім часам лазня з парылкай стала моднай, паказчыкам жыццёвага камфорту. А. працаваў за мяжой, мае «боны», г. зн. магчымасць схадзіць у «Ивушку», купіць дэфіцыт. Ён гэта і зрабіў, прынёс з «Ивушки» тры бутэлькі віскі «Белая лошадь». Філасофскія праблемы не абмяркоўваліся, а віскі падалося смачным. Нагадвае нашу самагонку. Быццам адно і тое ж.

З аспіранцкіх часоў мяне цікавіць катэгорыя сувязі. Гэта, мне здаецца, надзвычай важная філасофская праблема. Сувязі часавыя і сувязі прасторавыя. Як яны дзейнічаюць паасобку і разам? Як праяўляецца тыпалогія сувязей, іх дыялектыка, непазбежнасць? У чым іх аб'ектыўнасць і заканамернасць? Хацеў падыскутаваць на гэту тэму з заезджымі філосафамі, але «Белая лошадь» (0,7 у бутэльцы) змарыла, прыціснула да стальніц.

**16 сакавіка.** Дрэнны настрой, і не магу зразумець, чаму. Прычын для дэпрэсіі, здаецца, няма, а настрой дрэнны, і не ведаю, як гэта вытлумачыць. Псіхолаг і паэт Уладзімір Леві лічыць, што гэта інтуітыўнае прадчуванне чагосьці нядобрага. Знак аднекуль збоку ці зверху, з космасу. Вось пішу гэта і адчуваю, як незаўважна падступае да мяне незразумелы смутак. Падступае і авалодвае маёй істотай.

Меў рацыю чуйны П. Панчанка, калі пісаў: «Бяда і радасць ходзяць побач вечна».

**17 сакавіка.** Напрыканцы рабочага дня пазваніў М. Лужанін:

— Калі можаце, зайдзіце сёння да мяне.

— Здарылася што?

— Нічога асаблівага, але зайдзіце.

Я згадзіўся. У шэсць з мінутамі паклаў паперы ў стол і накіраваўся да Аляксандра Амвросьевіча, жыве ён побач, на вуліцы Я. Купалы, ля Свіслачы, у адным пад'ездзе з прэзідэнтам Акадэміі навук Барысевічам.

Сустрэў гаспадар, які быў адзін у хаце. Яўгенія Эргардаўна кудысьці выйшла, сервіраваўшы стол. Мы селі.

— Гэтую ноч не спаў, — уздыхнуў Аляксандр Амвросьевіч. — Тады, у 1934-м, у гэтую сакавіцкую ноч да мяне пастукалі. Зайшлі і забралі, арыштавалі. Па даносе, нават ведаю, хто. Але, прабачце, не скажу, не буду забіваць вам галавы.

Я не стаў дапытвацца.

— Была зацяжная адліга, а потым падмарозіла.

Аляксандр Амвросьевіч падняўся, дастаў з напольнага гадзінніка прыхаваную там пляшку гарэлкі, паставіў на стол.

— Сядзеў тут, у «амерыканцы», тут і судзіла «тройка» так званая, далі пяць гадоў лагераў. Абвінавацілі ў нацыяналізме. Нацдэм! Верш фігураваў у справе. Я яго яшчэ ў снежні 1928-га надрукаваў у часопісе «Чырвоны сейбіт». Нумар 12(32) — як цяпер помню. І верш помню.

Ён пачаў чытаць, верш называўся «Беларусь»:

Кожны дзень прыходзіць расцвітаць,
Каб пасля памерці за гарамі.
Мы не хочам радасці пітаць,
Што чужымі дадзена рукамі.

Каб ізноў не йсці ў кабалу —
Дышуць сталлю нашыя заводы,
І нясе магутны Асінбуд
Электрычную сваю пагоду.

І калі ў саўгасавых палёх
Завястую наш савецкі трактар,
Гэта значыць лепшых міліён
Пойдзе ў вёску брукаваным трактам.

Вось чаму я радасці хачу,
Каб свая, нязломная, жывая,
Каб заўжды свяцілася ў вачу —
Што і мы сягоння расцвітаем!

Паэт змоўк, наліў у кілішкі пітво, і мы выпілі.

— Няўжо за гэты верш вас пасадзілі? Што ж у ім благога?!

— Пасадзілі, братка, пасадзілі і на Усход павезлі, у «цялятніках». На Таварнай станцыі доўга стаялі, пакуль пагрузілі ўсіх. Чутно было, як ля вагонаў варта з прымкнёнымі штыкамі размаўляла з чыгуначнікамі.

— Каго везяце? — пыталіся тыя.

— Надземаў вязём.

Замест «нацдэмы» чырвонаармейцы (народ просты) вымаўлялі «надземы».

Жыццёвая «адысея» Лужаніна надзвычай багатая. Ды, відаць, і складаная. З высылкі трапіў у Маскву, дзе працаваў у ведамасным выдавецтве «Недра» рэдактарам. У вайну ваяваў, але яго ўвосень 1942 года перавялі з-пад Сталінграда на новае месца службы — зноў у Маскву.

У 1945 годзе быў накіраваны ў Германію вяртаць кнігі, вывезеныя немцамі з Беларусі.

Якуб Колас узяў яго сабе за сакратара.

**20 сакавіка.** У Вільнюсе адбылося адкрыццё Дзён літаратуры і мастацтва Беларускай ССР. Кіраўнік беларускай дэлегацыі Кузьмін. Перад ад'ездам, мне запомнілася, сказаў: «Беларусы і літоўцы — добрыя суседзі, ніколі паміж сабой не ваявалі». Сапраўды так.

**21 сакавіка.** Прыляцелі гракі. Падзяліліся на пары і заняліся рамонтам мінулагодніх гнёздаў.

Ноччу ішоў дождж. Галалёд. Ідучы на службу, ледзь не ўпаў.

**27 сакавіка.** Дні тры назад пазваніў бацька. Памёр дзядуля Лявон Міхайлавіч. Стары ўжо быў, 87 гадоў, але з дапамогай Марыі Ільінічны яшчэ даваў сабе рады, надта не хварэў, калі не лічыць таго, што рэзка пагоршыўся зрок. Вестка літаральна ашаламіла. Праўду кажуць, што чалавек столькі разоў памірае, колькі разоў траціць сваіх блізкіх.

«И от судеб защиты нет», — як сказаў паэт. Так было, так будзе.

Калі б апісаць усё тое, што пабачыў дзядуля на сваім жыцці, хаця б знешне, падзейна, дык цяжка было б даць веры, што чалавек столькі можа, што ў яго такі вітальны запас. А ён любіў жыццё! Маладым паехаў і гадоў сем пражыў (прапрацаваў) у Амерыцы. Працяглы час знаходзіўся ў бежанстве ў Расіі. Паранены (куляй, у левае плячо) у Першую сусветную вайну. Потым было вяртанне на радзіму. Польшча. Нягоды Другой сусветнай вайны. Пасляваенныя нястачы. Калектывізацыя (аб'явілі кулаком) і інш., і інш. Усё жыццё шкадаваў, што не навучыўся ездзіць на веласіпедзе (веласіпед набыў) і не ўмеў плаваць (рака побач). Лічыў, што да гэтага не здатны.

Развіталіся з дзядулем пагодным вясеннім днём. На полі там-сям яшчэ ляжаў снег, але сонца выглядала з-за хмар па-вясенняму, дарыла шмат святла. Над могілкамі, над поймай нашай ракі Лясной кружыўся адзінокі журавель.

Бывай, дзядуля.

Паэт Рыльке (як і ўсе паэты, крыху дзівак) трактуе ў сваіх вершах смерць — гэта парадаксальна — як адну з мэтаў асэнсаванага, паўнавартаснага жыцця чалавека.

**31 сакавіка.** У Расіі на вырашэнне нацыянальнай самасвядомасці прэтэндуюць пісьменнікі-«деревенщики»: В. Бялоў, В. Распуцін, В. Астаф'еў, В. Носаў, В. Шукшын і інш. А ў нас? У нас, я думаю, у першую чаргу гэта У. Караткевіч, Л. Геніюш, У. Калеснік, А. Лойка…

Некаторыя лічаць нашу беларускую літаратуру традыцыйна вясковай. Вядома, генетычна вясковыя рысы ў ёй ёсць, і шмат, але яна намнога багацей. Хіба можна, напрыклад, Максіма Танка, які, здавалася б, усё жыццё вядзе «перапіску з зямлёй», назваць сялянскім паэтам? Ясна, што гэты прыметнік не вызначае галоўнага ў творчасці паэта. А творчасць М. Багдановіча, М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, К. Чорнага, ды і саміх — Купалы і Коласа? А што — І. Чыгрынаў і Б. Сачанка вясковыя пісьменнікі? Не, не толькі вясковыя. Аснова іх творчасці — агульначалавечае.

Руская «вясковая» проза — гэта рэакцыя на тыя працэсы, якія мелі і маюць месца ў рускай вёсцы апошніх дзесяцігоддзяў. Параўнайце «Палескую хроніку» І. Мележа з «Развітаннем з Мацёрай» В. Распуціна і вы ўбачыце гэтую розніцу.

**2 красавіка.** Цёпла. На вуліцу можна выходзіць у адным касцюме, без плашча, але «распранацца» пакуль што ніхто не адважваецца.

**3 красавіка.** Каб зрабіць прыемнае І. Мележу (скардзіцца на нездароўе), надрукаваў рэцэнзію на яго ваенныя дзённікі, апублікаваныя ў сакавіцкім нумары часопіса «Маладосць». Добра асветлены ў іх першыя дні вайны. Аўтар піша, як у адно імгненне зніклі паняцці «малой крыві» і «на чужой тэрыторыі» — палілася вялікая кроў, загарэліся свае, родныя гарады і вёскі. У франтавым дзённіку малодшага палітрука І. Мележа, які ў той час толькі марыў стаць пісьменнікам, 4 ліпеня 1941 г. з'явіўся запіс: «Вайна такая не падобная на тую, якой мы яе ўяўлялі. Ой, як сурова яна нас вучыць. Бязлітасна».

Гэта, на жаль, не дастаткова перадаюць творы пісьменніка пра вайну. Але вінаваты ў гэтым больш час, калі яны былі напісаныя. Вось і ваенныя дзённікі таксама чакалі, калі нешта зменіцца.

**11 красавіка**. У «Правде» — артыкул В. Быкава «Сорок третий». Нічога асаблівага, цяпер такія артыкулы пішуць усе. Але Быкаў — мастак, ён піша вобразна, панарамна, ён малюе. Гаворка ідзе пра незабыўныя падзеі ваеннага лета 1943-га:

«Весь июль сорок третьего года внимание мира было приковано к пылающим и грохочущим, политым кровью и мазутом курским полям. 12 июля под Прохоровкой произошло знаменитое, для нас победоносное сражение, когда войска 5-й гвардейской танковой армии встретились с двумя танковыми корпусами фашистов. Более полутора тысяч танков и самоходных орудий столкнулись здесь во встречном наступательном бою. Мир тогда еще не знал подобной картины — две противоборствующие гигантские лавины танков стальным морем залили степной простор».

Аналіз спалучаны з абагульненнем, аб'ёмным па сваім змесце:

«Битва была выиграна благодаря усилиям всего ведомого Коммунистической партией воюющего советского народа, начиная от бойцов передового охранения где-то под Белгородом и кончая подростком-учеником на каком-нибудь из оборонных заводов Сибири. Замечательную победу под Курском ковали все сообща: и те, о героизм которых разбилась бронированная мощь вермахта, и те, кто в глубоком тылу создал все необходимое для достижения победы».

Артыкул — уклад у агульную канцэпцыю гісторыі Вялікай Айчыннай.

**12 красавіка.** Беларуская літаратура вядома і на Кубе. Творы М. Танка і В. Быкава ў перакладзе на іспанскую надрукаваны ў кубінскім часопісе «Union».

**15 красавіка.** У Маскве адбыўся аб'яднаны пленум праўленняў творчых саюзаў СССР, прысвечаны 30-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. У нас такое мерапрыемства не плануецца, таму што нядаўна была ўсесаюзная нарада фактычна па гэтай тэме.

**22 красавіка.** У СП БССР адбыўся адкрыты партыйны сход камуністаў СП БССР з удзелам прадстаўнікоў Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава. Было абмеркавана пытанне «Аб умацаванні і пашырэнні творчай садружнасці з працоўнымі калектывамі». Я не выступаў, кіраваўся прымаўкай: менш гавары, то больш пачуеш. Выступаў У. Юрэвіч.

Не лёгкі занятак — партработа. Цяжка ўкласці душу ў справу, да якой яна не ляжыць.

**26 красавіка.** Суботнік. Калегі мае па Інстытуце літаратуры, як звычайна, працавалі ў Батанічным садзе, а я тут пры амуніцыі, у камбінезоне і з шуфлем, зноў на бетонных работах, з растворам, які, стаўшы ў чаргу, скідаюць самазвалы. Аднак ужо так, як раней, не шчыраваў. Не выжыльваўся. Ды і начальства побач не было — недзе, казалі, на рыбалцы.

**1 мая.** На трыбуну не хадзіў. Вельмі ціснуць на псіхіку лозунгі з рэпрадуктараў. Той, хто ідзе паўз трыбуны ў шэрагах працоўных, зблізу чуе іх некалькі мінут, а той, хто стаіць на трыбуне, чуе іх увесь час. Адно і тое ж!

У дзяцінстве на дэманстрацыі ў сельсавеце, у Ратайчыцах, лозунгі, панапісанаму, выкрыкваў сам старшыня. Помню, з усяе сілы гукнуў:

— Няхай жывуць савецкія пажарнікі!

Я не ведаў, хто такія «пажарнікі», і спытаў у настаўніцы. Яна растлумачыла, што гэта тыя, каторыя тушаць пажар. Мне было дзіўна, бо ў нашай вёсцы іх не было. Калі загаралася ў каго сажа, дык ваду насілі і падавалі на дах усе.

— Гэта ў гарадах, — дадала настаўніца.

**5 мая.** Учора святкаваўся Вялікдзень. Уражанне ад калегаў, якія курыруюць гэты бок грамадскага жыцця, «справы рэлігіі»: «Надта шмат народу на ўсяночнай. Не праціснуцца. Шмат моладзі, камсамольцаў».

**6 мая.** У Празе, у Доме савецкай навукі і культуры, адбыўся вечар, прысвечаны сучаснай беларускай літаратуры. Браты-славяне не забываюць. Асабліва памятае пра нас Вацлаў Жыдліцкі.

**7 мая.** Сустрэў суседа М. Запрасіў зайсці да яго на хвіліну. Жонка кудысьці з'ехала. Атрымаў глыток свабоды. Кватэра ў яго невялікая. Здзівіў мяне аграмадны гадзіннік, ад падлогі да столі. Унутры яго важна шавяліўся маятнік. Сусед расказаў, што цешча яго — вядомая разведчыца часоў вайны — забрала гэты гадзіннік ад Кубэ. Можа, маніць? Як гэта яна магла зрабіць? Да таго, як яго падарвалі на міне, ці пасля таго? М. паціскае плячыма, не ведае.

У гісторыі Мінска часоў акупацыі шмат цьмянага, нявысветленага, таемнага, сакрэтнага (як, скажам, гісторыя Баляслава Берута).

Гісторыя Мінскага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны да гэтага часу застаецца непраясненай, нягледзячы на чэрвеньска-ліпеньскую 1969 года пастанову «Аб дадатковых мерах па вывучэнні падполля…» Загадкава выглядае постаць сакратара падпольнага гаркама партыі Івана Кавалёва. Дарэчы, яшчэ жыве яго ўдава Матрона Кузьмінічна Кавалёва.

З таго, што высветлена, што атрымлівае вядомасць і галоснасць, таксама, відаць, не ўсяму можна верыць. У літаратурных колах жартуюць. Аказваецца, усе падпольшчыкі і партызаны хаваліся на гарышчах у хатах беларускіх пісьменнікаў. Мазураў — у Барыса Сачанкі, Піліп Пестрак (дэпутат Вярхоўнага Савета СССР) — у Міколы Капыловіча, Прытыцкі — у Сцяпана Міско ў Чамярах.

Але чаму я надзвычай рады, дык гэта таму, што нарэшце прызналі ветэранамі вайны былых палонных і штрафнікоў.

**8 мая.** Урачыстае пасяджэнне ў Крамлі, у Палацы з'ездаў. З вельмі доўгай прамовай выступіў Леанід Ільіч. Шмат апладысментаў. Літаральна пасля кожнага сказа. Толькі сцішацца — пачынаюць ізноў. Пад канец гаварыць яму стала цяжка. Сківіцы слаба падпарадкоўваліся, рухаліся быццам самі па сабе, чапляючыся адна за другую. Стары ўжо, а гадоў 5—6 назад гаспадар быў хоць-куды.

Нарэшце скончыў. Прагучала традыцыйнае: «Няхай жыве камунізм!»

**9 мая.** З учарашняга дня ў Плешчаніцах. Павячэралі як трэба. Эх, залатая ў мяне цешча! Раніцай цесць схадзіў у Чысцік па піва. Прынёс два трохлітроўкі. Я яшчэ спаў.

**10 мая.** Хларафіл набірае сілу. Буйна зацвілі каштаны. Успамінаюцца радкі Аркадзя Куляшова:

І каштанаў сваіх незгасальныя свечкі
Над маёй адшумеўшай вясной запалі…

Прачулая, трапяткая паэзія гэтага душэўнага жэсту асабліва востра і глыбока адчуваецца, відаць, у пажылым узросце…

Заўтра еду ў Маскву, адтуль — у Варшаву. У Маскве інструктаж і знаёмства з групай. Тэкст лекцыі аддрукаваў, каб карыстацца і прад’явіць па месцы патрабавання.

**11—23 мая.** Выкладаю свае ўражанні па вяртанні з Польшчы. Туды ехаў, як звычайна ў падобных выпадках, праз Маскву. У Маскве з вакзала падаўся ў знаёмы Політэхнічны музей. Група наша маленькая: доктар педагагічных навук Белых Мітрафан Дарафеевіч і я, грэшны. Атрымалі інструктаж, гэтым разам не надта строгі. Напомнілі, аднак, што адносіны з польскім бокам да гэтага часу досыць супярэчлівыя, таму не трэба губляць пільнасці. Пра лекцыю ніхто не пытаў.

Паездка ў Польшчу, адразу скажу, была не такая багатая на ўражанні, як у Індыю, але па-свойму цікавая, змястоўная. На вакзале ў Варшаве сустрэла прадстаўніца TWP (Товажыство ведзы повшэхны) прыветная жанчына пані Хэлена Пентрыкоўска. Размясціліся ў гатэлі з сярэдняй колькасцю зорачак, але ў асобных нумарах. Затым накіраваліся ў Палац культуры, пабудаваны калісьці Сталіным па тыпу маскоўскіх «высотак». У Палацы адбылася сустрэча з настаўнікамі і інспектарамі школ, якія, трэба сказаць, задавалі пытанні і актыўна цікавіліся пастаноўкай школьнай адукацыі ў СССР. Мітрафану Дарафеевічу, а часткова і мне, давялося адказаць на шматлікія пытанні. Аднак мы былі ўсцешаны такой нечаканай цікавасцю да вопыту савецкага школьніцтва і адчувалі задавальненне ад сустрэчы з работнікамі польскай школы.

Вечарам хадзілі па вуліцах, знаёміліся з Варшавай. Пасля вайны горад адноўлены такім, якім быў да разбурэння. Я імкнуўся ўявіць, як успрымалі гэтыя вуліцы, дамы і помнікі мае землякі, якім даводзілася наведаць Варшаву. Да вайны, недзе ў сярэдзіне 30-х, сюды, у Варшаву, пяшком, пад кіраўніцтвам польскага настаўніка Мандрашчака хадзілі хлопцы-падлеткі — мае аднасельцы — павіншаваць Пілсудскага ў дзень яго нараджэння. Але маршалка не засталі, адпачываў недзе на курорце «u Wlochach», так што вярнуліся не пабачыўшы. Аднак уражанняў мелі шмат: аўтамабілі на брукаваных варшаўскіх вуліцах, высокія, па некалькі паверхаў дамы, палацы, музеі, занятыя самі сабой людзі… Іванька Шаўчук — дзяцюк з прыбабахам — дзівіўся мноству пячных каміноў над дамамі: «Але ж і каміноў! Людкове, але ж і каміноў!»

Назаўтра нас з Мітрафанам Дарафеевічам пані Хэлена пазнаёміла з праграмай нашага знаходжання ў краіне. Ён мусіць ехаць на поўнач, у Ольштын, я — на поўдзень, у Люблін. Будзем аглядаць мясцовыя славутасці і сустракацца з людзьмі. Прызначылі гідаў — студэнтаў-русістаў з Варшаўскага ўніверсітэта. Мною заапекавалася пані Эльжбэта — разумная, усмешлівая студэнтачка, даволі камунікабельная.

Да Любліна ехалі «Ікарусам». «Люблін — не Варшава, — распавядала па дарозе пані Эльжбэта. — У нас варшавяк на галаву вышэй за астатніх, варшавяка ўсе паважаюць. Варшавяк — «шмат гонару!» Мяне гэта, прызнаюся, здзівіла. Здзівіла, бо, па-першае, я ўпершыню пра гэта пачуў, па-другое, я прывык, што ў прынцыпе ўсе людзі роўныя (савецкае выхаванне!), і тое, што чалавек жыве ў сталіцы, не дадае яму чагосьці надзвычайнага. Не раз, дарэчы, у гэтым пераконваўся.

У Любліне выступаў у клубе савецкай кнігі і прэсы «Маша» перад русістамі — выкладчыкамі рускай мовы і літаратуры. Присутнічала чалавек 50.

Пыталіся пра сацыялістычны рэалізм, пра тое, ці выяўляе ён шматстайнасць савецкай літаратуры. Я адказаў, што тэорыя сацыялістычнага рэалізму развіваецца, што гэты метад адкрыты для розных мастацкіх канцэпцый і паэтык. Савецкія пісьменнікі не паўтараюць М. Астроўскага з яго раманам «Як гартавалася сталь». У станоўчых героях Чынгіза Айтматава, Васіля Быкава, Алеся Ганчара, Валянціна Распуціна, Васіля Шукшына, Уладзіміра Цендракова і іншых адлюстравалася новая гуманістычная канцэпцыя, больш багатая ў параўнанні з той, якая панавала ў мінулым.

На наступны дзень выступаў з лекцыяй перад слухачамі народнага ўніверсітэта ў Гардзеніцах (20 км ад Любліна). Прысутнічала чалавек 80. Тут цікавіліся ўсім: і літаратурай, і тэатрам, і гісторыяй. Я, як умеў, адказваў. Адзін з прысутных (стары член Народнага фронту — гэтак ён сябе адрэкамендаваў) напомніў, што нікому, а толькі палякам Сталін дазволіў у 1945 годзе ўнесці свой сцяг у пераможаны Берлін, дзе да гэтага палякі ніколі не былі.

Слухачы пыталіся, што чытаюць у Савецкім Саюзе, ці папулярныя ў СССР Дастаеўскі і Чэхаў, цікавіліся кнігамі К. Сіманава.

Абедалі позна, у тых жа Гардзеніцах, у сталовай мясцовага сельскагаспадарчага тэхнікума. Стол даволі сціплы: чырвоны боршч і катлета, — і мы пабралі ўжо лыжкі і пачалі сёрбаць гэты боршч-юшку (у Польшчы яго падаюць без варыва), як мой візаві — гаспадар пан Вантрабянскі (дырэктар гэтай вучэльні і заадно старшыня мясцовага прадстаўніцтва TWP) раптам уважліва на мяне зірнуў і хітравата спытаў:

— А можа, пане професожэ, по-за протоколэм? Дактары пану не забараняюць? — Ён пстрыкнуў сябе пальцамі ніжэй вуха.

Я няпэўна пацісνуў плячыма.

— Ядвісё! Ядвісё! — паклікаў пан Вантрабянскі.

Падышла афіцыянтка — маладая дагледжаная бландзінка з карункавым фартушком і ў белай накрухмаленай наколцы.

— По пенцьдзесёнт! — загадаў, хвацка махнуўшы рукой, мой візаві.

Я між іншым падумаў, што закажа болей, таму што разам з намі сядзелі яшчэ некалькі чалавек з нашай «світы», і яны відавочна не адмовіліся б ад пачастунку, але не, пан Вантрабянскі аказаўся чалавекам эканомным. Ядвіся прынесла на талерцы дзве чарачкі, і мы выпілі, экзарбітавалі, як казалі даўней. Крыху няёмка было перад астатнімі, але я тут усяго толькі на правах госця.

Пасля Гардзеніцаў вярнуліся ў Люблін. Маю спадарожніцу пані Эльжбэту змяніў мясцовы гід пан Яцэк Гонсёроўскі, таксама малады і ўвішны, ён забяспечыў турыстычную частку праграмы. Агледзелі цэнтр горада, спыніліся каля помніка Люблінскай уніі. Гэта даўно пастаўлены абеліск на адной з плошчаў у гонар Люблінскай уніі 1569 года, якая аб'яднала Вялікае Княства Літоўскае з Польшчай у Рэч Паспалітую з польскім каралём на чале. Гэтае дзяржаўнае ўтварэнне існавала да 3-га падзелу Рэчы Паспалітай.

Наведаліся ў касцёл Святога Станіслава, дзе была падпісаная гэтая унія. Ёсць звесткі, што беларускія паслы падпісалі яе пад прымусам.

Зазірнулі ў музей сучаснага мастацтва. Мадэрнізм у яго горшым разуменні. Цяжка гэта назваць карцінамі, у лепшым выпадку проста опусы: нейкія плямы, выпадковыя зігзагі пэндзля, штучныя, адарваныя ад рэчаіснасці фарбы.

Пан Яцэк — чалавек не без гумару: «У Польшчы, — сказаў ён, — калі першы хваліць другога, то часцей за ўсё, каб насаліць трэцяму». Але ці толькі ў Польшчы?

Назаўтра пабывалі ў Майданаку. Гэта былы гітлераўскі канцлагер. Жахлівае месца, ва ўсім праступае пачварнае аблічча фашызму. Сапраўдная фабрыка смерці.

17 мая ўзялі курс на Радам (цэнтр Радамскага ваяводства). Па дарозе спыняліся ў летняй рэзідэнцыі польскіх каралёў Казімежы Дольным, у горадзе Варка, наведалі сядзібу-музей Баляслава Пруса ў Грубешуве. Люблю гэтага раманіста, майстра сацыяльна-псіхалагічнага аналізу.

Цікавай для мяне з’явілася сустрэча ў горадзе Варка з выкладчыкамі і вучнямі мясцовага ліцэя, школьнымі настаўнікамі і іншымі асобамі. Я распавёў пра сучасную савецкую літаратуру, пра экалагічныя праблемы, вастрыню якіх яна імкнецца асэнсаваць. Потым пайшлі пытанні і выступленні ад публікі. Кранулі гістарычныя падзеі. Нейкі мужчына, сівы і з кульбай, кінуў рэпліку, што ў 1939-м СССР выступіў на баку Гітлера. Я адказаў, што гэтак лічыць нельга. Пераканаўчы доказ таму — 22 чэрвеня 1941 года, якое можа быць адказам на кінутую рэпліку. Публіка, здаецца, мяне падтрымала.

Выступаў перад творчай моладзю і актывам Саюза сацыялістычнай моладзі Польшы, а таксама разам з польскімі пісьменнікамі ў клубе міжнароднай кнігі і прэсы ў праграме «Вясеннія сустрэчы з савецкай літаратурай».

У Радаме прысутнічаў на вельмі цікавым, разняволеным канцэрце-конкурсе савецкай песні. Падарылі доўгагральную пласцінку з песнямі Акуджавы па-польску. Па-польску Акуджава гучыць не горш, чым па-руску.

Нарэшце вярнуўся ў Варшаву, дзе ў гатэлі сустрэў Мітрафана Дарафеевіча. Запрасілі нас прыняць удзел у падвядзенні вынікаў конкурсу сярод тых, хто вывучае рускую мову. «Алімпіяда—75» — так называлася гэтае мерапрыемства — праходзіла ў Інстытуце рускай мовы. Дырэктар Інстытута — вельмі прыстойны чалавек — праф. Івінскі П. І. з Вільнюса.

З пасольства званіў Мечыслаў Сянкевіч.

Увечары выкраіў гадзінку, каб наведаць Барскага. Знайшоў Валбжыка 15, дзе ён «мешка». Халасцякуе. Кватэра застаўлена самаварамі. Сотні дзве, цэлая калекцыя. Стаяць на паліцах, як кнігі ў бібліятэцы. Алесь правільна ўкладвае грошы, далёка глядзіць. У дзедавай хаце ў Кругелі валяецца на гарышчы пазелянелы самавар, які бабуля Фёкла ў 1922 годзе прывезла з Заволжа. Жылі небагата, на чай і цукар грошай не хапала і вядзёрны самавар закінулі на гарышча. Хай бы Алесь забраў.

Алесь частаваў варанай бульбай, якую шчодра пасыпаў скваркамі. Бульба — смачная. Была пані з прыгожымі ножкамі.

**22 мая**. Злазіў з цягніка ўжо ў Мінску. Развітаўся з Мітрафанам Дарафеевічам, які тым жа цягніком паехаў у Маскву.

Загадалі напісаць справаздачу.

**24 мая.** Учора споўнілася 70 гадоў Шолахаву. У «ЛіМе» з вялікім партрэтам гэтага пісьменніка артыкул І. Чыгрынава «Урокі вялікага настаўніка». Сёння, на дачы ў Атоліне, чытаю гэты артыкул. Усё быццам бы і правільна, а нестае нейкай ізюмінкі, чагосьці асабістага, пісьменніцкага. У вусных гаворках Іван Гаўрылавіч любіць распавядаць пра стасункі паміж Шолахавым і Сталіным, ведае нават тое, пра што правадыр цікавіўся і пытаў, калі выклікаў аўтара «Ціхага Дона» да сябе ў кабінет і размаўляў з ім. Апроч таго, Іван Гаўрылавіч быў нават у тым доме на вуліцы Сіўцаў Уражак у Маскве, дзе мае кватэру Шолахаў. Як бы прымярае сябе на Міхаіла Аляксандравіча.

У Польшчы пра Шолахава ніхто не пытаў.

Выходзіў на ўчастак паглядзець, што Тамара паспела пасадзіць за маю адсутнасць. Але ж гаспадарлівая! Гуркі ўзыходзяць, а памідоры ўжо растуць, гайдаюцца на градзе. Шмат кветак: ружы, вяргіні, нарцысы, цюльпаны. І любімыя Тамарыны клімацісы.

Цэкоўскія дачнікі працуюць як двухжыльныя, лепш чым над пісьмамі працоўных. Што значыць — працаваць на сябе.

**26 мая.** На працы ў аддзеле ўсё без змен. Ну, што ж, можа гэта і някепска, калі няма дрэнных навін. Горш, калі навіны дрэнныя.

**7 чэрвеня.** У Пастарнака натрапіў на такое месца: «Терять в жизни более необходимо, чем приобретать. Зерно не даст всхода, если не умрет. Надо жить не уставая, смотреть вперед и питаться живыми запасами, которые совместно с памятью вырабатывают забвения». Цікавы паэт — цікавы філосаф.

**13 чэрвеня.** Заранок ужо ў гарадскім камітэце партыі. Расце. Лезе на неба, як цыган па драбіне.

**17 чэрвеня.** Кандрату Крапіве прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Дакументы паслалі калі! А толькі цяпер стала вядома.

Ніколі не бачыў у ЦК Кандрата Крапіву. Ды і ў Саюз пісьменнікаў ён не ходзіць. Нейкая загадка. Пятрусь Усцінавіч дык у нас днюе і начуе. Умее даступіцца да начальства, нешта камусьці «выбіць» — ордэн, званне, кватэру. Кандрат Кандратавіч — не.

**20 чэрвеня.** Прыязджаў з Масквы вядомы крытык і літаратуразнавец Уладзімір Максімавіч Піскуноў. Хоча тут абараніць дысертацыю. Нацэліўся на Інстытут літаратуры Акадэміі навук, дзе ёсць доктарскі савет. З Уладзімірам Максімавічам я пазнаёміўся ў рэдакцыі часопіса «Вопросы литературы» ў Маскве. Чалавек ён бывалы, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, пасля якой працаваў у камісіі, якая адбірала трафейныя кінафільмы для паказу ў СССР. Я гэтыя фільмы перагледзеў, здаецца, усе: «Тарзан» (4 серыі), «Девушка моей мечты», «Королевские пираты», «Леди Гамильтон», «Три мушкетера», «Кардинал Ришелье», «Дорога на Эльдарадо», «Тигр Акбар», «Сети шпионажа» і іншыя. Фільмы ўсіх кінастудый свету: нямецкія, аўстрыйскія, англійскія, французскія, амерыканскія… Не дубляваныя, а з цітрамі, трэба чытаць.

Дысертацыя Піскунова на тэму: «Человек в советском романе», — два таўсценныя тамы, пераплеценыя ў сіні каленкор.

Апякуецца ім наш Віктар Каваленка. Справа, здаецца, «на мазі».

**21 чэрвеня.** Піскуноў прапанаваў схадзіць у рэстаран і, здаецца, вельмі здзівіўся, калі я згадзіўся. А мне цікава пачуць маскоўскія навіны. Як там Яўгеній Еўтушэнка, Васілій Аксёнаў, Бэла Ахмадуліна? Уладзімір Максімавіч хваліўся, што бывае ў іх кампаніі. Знаёмы з Назымам Хікметам, які дзівіць усіх сваёй неабыякавасцю да жаночага полу.

Раней Піскуноў працаваў у Інстытуце сусветнай літаратуры, пісаў у сааўтарстве з М. К. Геем. Колем Геем, — як ён гаворыць. Коля Гей — сын Канстанціна Гея, які ў пачатку 30-х гадоў быў на пасадзе першага сакратара ЦК КП Беларусі. Гэта ён дакладваў Сталіну пра Купалаў замах на самагубства ў 1930-м.

— Цяпер Коля, — Уладзімір Максімавіч крыху злараднічае, — пачаў піць. Але, — дадае ён, нібы апраўдваючы былога свайго сябра, — у кожнага чалавека свая бочка. Хто з маладосці яе выпівае, а хто толькі пад старасць пачынае.

Ад Піскунова пачуў прымаўку:

Чем правее, тем глупее,
Чем левее, тем подлее.

Гэта ўжо што тычыцца нашага менталітэту.

**22 чэрвеня.** Самы доўгі дзень. У гэты дзень пачалася вайна і разам з ёй маё ваеннае дзяцінства. Можа, калі і раскажу, што тады адбывалася. Я ўпэўнены, што імкненне захаваць уласнае жыццё ў страшэнных абставінах не менш

годная і цяжкая справа, чым памерці, са зброяй у руках абараняючы іншых. Калі, зразумела, выжываючы чалавек не становіцца нягоднікам, здраднікам, забойцам. Але ўсяго было.

Я, па сутнасці, ветэран.

**23 чэрвеня.** Шкада Уладзіміра Максімавіча. Перашкодзіла яму абараніцца Фіглоўская. Агаварыла перад Машэравым. Уладзімір Максімавіч успамінае, што калісьці даў адмоўны водгук на яе дысертацыю, і яна запомніла.

Але саветаў па абароне па краіне шмат, недзе абароніцца.

**25 чэрвеня** — 70 гадоў Петрусю Броўку. Ён ужо з раніцы ў нас, у ЦК. Не ведае спакою нават у дзень юбілею. Вельмі плённа працуе як галоўны рэдактар Беларускай савецкай энцыклапедыі.

А мне падабаецца верш П. Броўкі «Калі надыдзе час спачынку…» Зрэшты, не толькі гэты. Адразу пасля вайны ён напісаў цудоўныя балады. Помняцца паэмы «Ясны кут» і «Голас сэрца». Мулявін не памыліўся, калі паклаў «Александрыну» на музыку.

**27 чэрвеня.** Завяршыліся Дні літаратуры і мастацтва БССР на Украіне. Канцэрты, творчыя сустрэчы, вечары, выстаўкі кніг, кінафільмы, спектаклі. Вярнуліся стомленыя. Пачнём рыхтавацца да візіту ў адказ.

**29 чэрвеня.** Былі на дачы ў Атоліне, трэба было падкарміць гуркі. Дачнік Мікуловіч — былы першы сакратар Гродзенскага абкама — вельмі працавіты і практычны чалавек. Па-свойму ініцыятыўны, вынаходлівы, нават дасціпны. Ходзіць за кароваю з вядром і ўмее своечасова падставіць яго пад хвост, калі тая пачне апраўляцца. Застаецца толькі здзіўляцца, — як кажа ў такіх выпадках Марцалеў. Сярод калегаў расце незадаволенасць, асуджэнне. Некаторыя бурчаць: «Гэта ж трэба, каб у чалавека, былога паважанага першага сакратара абкама, у такой ступені развіўся прыватна-ўласніцкі інстынкт! Ганьбіць, здзекуецца са звання партыйнага работніка!»

А можа, я часам думаю, жыццё і павінна быць гэткім прыземленым, абсурдным?

**1 ліпеня.** Шматлюдны ўрачысты вечар у Вялікім тэатры оперы і балета БССР, прысвечаны 70-годдзю Петруся Броўкі. Прысутнічалі П. Машэраў, Ц. Кісялёў, А. Кузьмін, пісьменнікі — свае і шмат прыезджых, грамадскасць, аматары паэзіі П. Броўкі. Зачытваліся прывітальныя тэлеграмы ад Шолахава, Ляонава, Сіманава, Грыбачова і інш. Шмат выступоўцаў. Тапілі чалавека ў мёдзе. Адчувалася, што Пятру Усцінавічу было прыемна.

Юбіляру ўручылі ўзнагароду — ордэн Дружбы народаў. У яго «іканастасе» якраз гэтага ордэна не хапала. Уручаў Машэраў. Машэраў з Броўкам на «ты».

Быў багаты банкет у рэстаране «Журавінка».

У фае рэстарана, калі разыходзіліся, убачыў Яна Скрыгана. Ён у нейкім незвычайным белым капелюшы. Капялюш адмысловы, з шырокімі палямі, я міжволі загледзеўся. Ён гэта заўважыў і пажартаваў:

— Праўда, у гэтым капелюшы я выглядаю прынамсі на дзесяць гадоў маладзей?

— А колькі вам гадоў?

— У капелюшы ці без яго?

Ян Скрыган любіць здзівіць. Апошнім часам памяняў імя — Янку на Яна.

Дарэчы, я таксама справіў сабе касцюм. Надыбалі з Тамарай у ЦУМе. Тамара, праўда, адгаворвала мяне, не раіла — надта няпэўны колер: не то руды, не то сіні, не то зялёны. Нейкі рабы. А я такі колер люблю. Я называю яго балотным. Апрануў яго на Броўкаў юбілей, і нешта не ўпадабаў нам. за-

гадчыка Яўген Барысавіч. Пыхнуў цыгарэтай і прызнаў, што надта «легкомысленный». Выходзіць, што ў Тамары і ў майго начальніка блізкія густы.

**2 ліпеня.** З раніцы Броўка ўжо ў ЦК. Зазірнуў да мяне. «Ну, як?» Я адказаў, што ўсё прайшло, як трэба. «Па вышэйшым разрадзе». Асабліва задаволены юбіляр тым, што пра яго напісаў Бярозкін. Паказаў мне газету «Вячэрні Мінск» з артыкулам Бярозкіна «Сталасць — гэта не старасць». «Узрост — усяго толькі лічба», — згадзіўся я.

Бярозкін, я заўважыў, быў на вечары і на банкеце. Выйшаў, падпіўшы, на веранду, гаманіў з калегамі, курыў свой «Беламор», нешта даказваў.

Добра, калі ўсім добра.

**3 ліпеня.** Ля Вечнага агню стаяць піянеры, у тым ліку і дзяўчаткі, прыціснуўшы да грудзей аўтаматы. Адзначаецца Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Настрой — урачысты.

**5 ліпеня.** На радзіме Кузьмы Чорнага, у вёсцы Цімкавічы, адбыўся вечар, прысвечаны яго 75-годдзю.

А. Адамовіч нагадаў нядаўна дзённікавы запіс Чорнага: «Божа, дай мне напісаць мае раманы!»

Перачытваю знаёмыя рэчы. У прозе К. Чорнага жыццё — як яно ёсць — набывае найвышэйшую каштоўнасць, тут шмат паэзіі, якая пераадольвае абсурд чалавечага існавання і дае духоўную апору, гарманізуе свет.

**8 ліпеня.** Хто ні разу (як і К. Крапіва) не звяртаўся ў ЦК ні з аніякай просьбай — гэта Алесь Звонак. З яго крыху сухаватай паэзіяй я пазнаёміўся яшчэ ў студэнцкую пару. Гэта быў зборнік «Табе адной», які ўбачыў свет у 1957 годзе, пасля вяртання аўтара ў Мінск. Падабаюцца яго радкі:

Парві няўдачы першай чарнавік, —
Надзеі голуб зноў ляціць высока.

Падабаюцца і іншыя вершы, Алесь Звонак — бліскучы тэхнік. Яму ўласціва дасціпнасць і дакладнасць слова, лёгкасць радка, валоданне партрэтным штрыхом.

Алесь — гэта псеўданім паэта, завуць яго Пётр Барысавіч.

Вядома, і ў яго біяграфіі пры жаданні можна адшукаць пляміны. Калісьці ён жорстка спляжыў сваіх паплечнікаў, ужо арыштаваных У. Дубоўку, Я. Пушчу і А. Дудара, сказаўшы пра іх: «махровыя нацыянал-дэмакраты ад літаратуры» («Зьвязда», 1930, 24 верасня). Але даўно гэта было, з таго часу мы ўсё ж такі як-ніяк крыху паразумнелі.

Я быў у яго на дачы, на Лысай гары. «Знаходжуся ў заслужанай невядомасці», — нібы пахваліўся ён. Дасціпны чалавек. Выпілі па чарцы (Гарык Вольскі недзе дастаў). Расказаў пра пісьменніка Ямпольскага (на жаль, не ведаю), якога ўзялі ў маі 1941 года за тое, што ён, школьнік старэйшых класаў, з сябрамі-аднакласнікамі размаўляў пра літаратуру. У якасці рэчдоказу было захаванне партрэта Троцкага. У працэсе рэабілітацыі (пасля дванаццаці гадоў адсідкі) Ямпольскі запрасіў паказаць яму той самы партрэт. Гэта была выдраная са школьнага падручніка фотарэпрадукцыя — Луначарскі ў рэвалюцыйным фрэнчы і пенснэ.

Пра «сваю» Калыму расказвае неахвотна. Адно сказаў, уздыхнуўшы: «Калыма — гэта Асвенцім без печаў».

І агарод у яго дагледжаны — стараецца жонка Берта. Расце нават грузінскі тархун (наша назва — эстрагон).

Узіраючыся ў стыль А. Звонака, у яго паэтычную манеру і ўлічваючы тое, што ён жыве на Лысай гары («сведка ўсіх падзей», — як сказаў пра сябе, з

іншай нагоды, А. Куляшоў), мне падумалася, што, можа, ён аўтар вядомага «Сказа пра Лысую гару»). Напісаў яму на гэты конт ліст. А. Звонак адказаў мне таксама лістом. У якім адмаўляўся ад аўтарства: «…разумею Ваш намёк, але, на вялікі жаль, не я аўтар «Сказа пра Лысую гару», аб чым магу толькі шкадаваць». Не варта шкадаваць, Пётр Барысавіч, хоць я і згодзен з Вамі: «Сказу…» сапраўды нельга адмовіць у таленавітасці партрэтных вобразаў і характарыстык, але гэта ўсё ж такі нейкая зласлівая таленавітасць, якая ставіцца да чалавека залішне прадузята і аднабакова…

Тым не менш, «Сказ пра Лысую гару» належыць беларускай літаратуры і літаратурнай традыцыі — ён, думаецца, застанецца як сведчанне пра той час і пра таго «лысагорскага» чалавека. «Быў час, быў век, была эпоха…»

**10 ліпеня.** Забег задыханы Броўка. У Машэрава ён ужо быў, але далажыў і нам: «Выданне БелСЭ завершана. Дванаццаць вішнёвых тамоў!» Што ж, добры падарунак рэспубліцы. Як член ААН Беларусь павінна мець сваю нацыянальную энцыклапедыю (накшталт Брытанскай) і, вось, мае. У некаторых рэспубліках выйшлі яшчэ толькі першыя тамы, а ў некаторых толькі яшчэ створаны рэдакцыі.

Ёсць падставы, і не малыя, для радасці. Многае, асабліва біяграфічныя артыкулы, засмучае. Шмат пра што ў іх не гаворыцца, многае замоўчваецца, утойваецца, што вельмі прыкра. Як бы вось гэта вы можаце ведаць, а пра гэта ведаць не трэба, «не паложана». Сацыялістычны рэалізм.

**11 ліпеня.** На Уздзеншчыне, у Літвянскім сельскім Доме культуры, адбыўся вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння Пятра Глебкі. Ездзілі туды супрацоўнікі інстытута, які ён калісьці ўзначальваў. Неяк у Заслаўі я разгаварыўся з Р. П. Платонавым — намеснікам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі. Дасведчаны чалавек, па спецыяльнасці — гісторык. Зайшла чамусьці размова пра Глебку, пра тое, як ён у 1945-м, з дазволу Панамарэнкі, ездзіў у Германію па жонку, якая апынулася там сярод перамешчаных асоб…

Кажуць, Глебка любіў павучаць. Глебка многае любіў. Назіральны мастак Віктар Шматаў прыкмеціў нават, што ў Глебкі «каньячная губа». Пятро Фёдаравіч любіў жыццё, хараство якога яшчэ і ў тым, што яно доўжыцца, працягваецца.

Эдуард Марцінавіч Скобелеў быў з Глебкам у Нью-Йорку на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Цікава расказвае. Глебка прывёз адтуль чамадан эмігранцкіх выданняў.

75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Дубоўкі. Трагічны лёс. Саслалі, адарвалі ад літаратуры, да якой вярнуўся толькі пасля вызвалення, у сярэдзіне 50-х. Час быў упушчаны, літаратура стала ўжо іншай, змянілася пад уплывам мадэрнізму паэтыка. Колішні авангардыст Дубоўка, аўтар вельмі цікавых паэм — «камбайнаў», выглядае сёння вельмі традыцыйна.

**12 ліпеня.** Ужо год, як будуецца БАМ. Пра гэта шмат гавораць і пішуць. Шмат камсамольскага задору і рамантыкі. Будаўнікі жывуць у палатачных гарадках. З’явіўся свой фальклор:

Приезжай ко мне на БАМ,
Я тебе на рельсах дам.

**15 ліпеня.** На фестывалі савецкай драматургіі ў Чэхаславакіі адзначаны пастаноўкі п’ес А. Макаёнка «Зацюканы апостал» і «Трыбунал». Таленавіты Макаёнак. Талент у ім ажно іскрыцца. Сёння многія тэатры запальваюць перад яго п’есамі святло сваіх рамп. І добрую «капейчыну» мае на ашчаднай кніжцы, што надае яму дадатковую вагу.

**21 ліпеня.** Вярнуліся з «Атоліна». Там усё буяе.

Так яно і павінна было здарыцца. Мікуловіч нядаўна атрымаў заўвагу ад Машэрава за свой дачны «досціп». Працаваць — працуй, але да такіх «вынаходніцтваў» не «ўзнімайся». Але хто данёс гэта наверх?

**22 ліпеня.** Ліпень — вяршыня лета. Высока ходзіць сонца. Адтуль, з вышыні, атрымліваем мы і ўся зямля энергію яго промняў. Усё, здаецца, уціхамірваецца. Прырода набіраецца сілы, становіцца дрымотнай, спеліць ураджай. Ноччу чутно, як расце, наліваецца жыта.

Але, як сказаў адзін італьянскі пісьменнік, «няма міру пад алівамі». У гэтыя выхадныя быў з Тамарай у Плешчаніцах. Чуў пра трагічную навіну. Дырэктар торфапрадпрыемства Рагуцкі застрэліў сваю каханку, а потым з той жа стрэльбы забіў і сябе. Амаль як Хэмінгуэй, толькі з іншай прычыны. Хэмінгуэй быў ужо стары і стрэліў у старасці, а Рагуцкі ў росквіце ўзросту і сіл. Меў жонку, сям'ю, але вельмі ўпадаў за сваёй рудой прыгажуняй. Быццам дурманам якім апаіла чалавека. Я яе бачыў. Ён пару разоў выпадкова падвозіў мяне да Мінска. Ззаду сядзела яна. Сапраўды прыгожая, але нейкай як бы грубаватай прыгажосцю. Звярталі на сябе ўвагу яе спелыя грудзі, пульхныя вусны, бляск вачэй і нейкая бессаромнасць. Модная, спушчаная на лоб рудая грыўка рабіла яе легкадумнай. Кончыкамі пальцаў яна ўвесь час папраўляла прычоску. Ведала, што ён кахае яе, і кахае, па-руску кажучы, «безумно».

Цяжка меркаваць, што там паміж імі ўжо адбылося, але, відаць, на нешта яна не згаджалася. А ён ад кахання, як кажуць, задыхаўся і млеў. Жыць без яе не мог. Сцервай была, няйнакш. Зрэшты, жанчына збольшага павінна быць сцервай. А як жа інакш? Гэта адпавядае яе прыродзе — да сэрца ліпнуць і ў кішэнь паглядаць.

Першым стрэлам, калі яна ўстала і пайшла ад яго, у спіну яе штурхнуў, нібыта, як расказваў Пеця (мой швагер), прыкідку зрабіў, другім — яна, ганарыстая, нават не азірнулася — у патыліцу пацэліў. Потым перазарадзіў стрэльбу, зняў з правай нагі чаравік, сунуў рулю ў рот і нагой, вялікім пальцам, націснуў на цынгель…

Тэма кахання — неабдымная і бясконцая. Тры чвэрці сусветнай літаратуры круцяцца вакол гэтай тэмы і засяроджаны на ёй. У рамане Чыгрынава «Плач перапёлкі» яна, гэтая лінія, адсутнічае, і гэта ўспрымаецца мною як недахоп. А вазьміце класіку: «Манон Ляско» абата Прэво, «Мадам Бавары» Флабэра, «Анна Карэніна» Л. Талстога. Пра каханне, калі грозныя і цёмныя жарсці бяруць у чалавеку верх, напісаў А. Купрын. Маю на ўвазе яго «Наталлю Давыдаўну». Цікавае, з новым падыходам, апавяданне Б. Сачанкі «Канапляны чад».

Мінулы раз у лазні нейкі чалавек, неміласэрна хвошчучы сябе бярозавым венікам, расказваў пра жанчыну, якая, ужо з безнадзейнай анкалогіяй, намагалася адрэзаць мужу пэніс. Была да такой ступені раўнівая.

Тая, плешчаніцкая прыгажуня, дарэчы, таксама пакінула пасля сябе мужаўдаўца. Ён, бедны, узяўшы чарку, прыходзіў да яе на магілу ды там, каля магілы, ад перажыванняў, кажуць, і памёр.

**24 ліпеня.** Сапраўдны мастак павінен адчуваць стыхійную глыбіню быцця. Быццё — гэта «затока ў бурах» (выраз Янкі Скрыгана), у бурах непадуладных чалавеку жарсцяў. Гэта, дарэчы, я калісьці вычытаў у апавяданнях Усевалада Іванова, якія ён напісаў у 20-я гады. Як і Янка Скрыган сваю «Затоку ў бурах».

**27 ліпеня.** Дзіўны анекдот пачуў учора — вось яго змест: «Незвычайнае нешта дзеецца ў свеце: немцы змагаюцца за мір (Вілі Брант), яўрэі ваююць

(з арабамі), рускія змагаюцца з п'янствам (толькі што выйшла на гэты конт грозная пастанова ЦК)».

**1 жніўня.** Чытаў у «ЛіМе» рэцэнзію В. Каваленкі на аповесць Б. Сачанкі «Не на той вуліцы». Здалося, што крытык вельмі суб'ектыўна (занадта!) інтэрпрэтуе гэты твор. Днямі прысутнічаў у СП на гутарцы з пісьменніцай з Люксембурга Розмары Кіфэр. Хтосьці спытаў, як у Люксембургу пісьменнікі ставяцца да крытыкі. Самы высокі і патрабавальны крытык, — адказала Розмары, — сам мастак, яго сумленне і творчая прынцыповасць.

**5 жніўня.** З Б. Сачанкам і А. Вярцінскім ездзілі на кніжную базу да Лапцёнка. Барыс Іванавіч крыўдуе на Віктара за лімаўскі артыкул. А. Вярцінскі, здаецца, нераўнадушны да японскай літаратуры. Як толькі ўбачыў кнігу выбранага Ікары Сайкаку, тут жа ўзяў. Мне таксама дастаўся экзэмпляр.

Барыс Іванавіч «кантралюе» букіністыку Мінска, ведае, у каго які рарытэт. Пакуль кнігам ад тых, хто іх здае, трапіць на паліцу для ўсіх, іх праглядае Барыс Іванавіч. Праўда, такі ён не адзін, але Барыс Іванавіч вельмі паважаны і ўплывовы. Галіна Іванаўна — галоўны спецыяліст букіністычнай кнігарні — гаворыць пра свайго кнігалюба з пашанай.

Набытае ён вельмі беражэ і сцеражэ.

Апошнім часам чытаю (набыў у Лапцёнка) забытага рускага савецкага пісьменніка Андрэя Платонава. Па стылі неверагодна арыгінальны: «без меня народ неполный»; «его уважали сельсоветы»; «волосы её пахли природой»; «она умела первая, не предупреждая, целовать людей»; «в большом зале учреждения стоял гул от умственной работы»; «прошлый год я достала кровельное железо, мне пришлось за это сделать аборт»; «коровы, и особенно быки, слишком впечатлительны, чтобы переносить железнодорожную езду»; «счастье всегда имеет большой размер, оно равняется всему социализму» і г. д. За гэтымі стылявымі дзівосамі стаяць нейкія буйныя зрухі і зломы ў светапоглядзе і светаўспрыманні. А. Платонаў, як я цяпер разумею, быў захоплены вырашэннем нейкіх анталагічных пытанняў быцця. Гэтым у свой час і ў розная меры былі заклапочаны нашы — Купала, Колас, Багдановіч, Бядуля, Гарэцкі, Чорны, але потым лінія перарвалася.

Неяк у Маскве я пазнаёміўся з літаратуразнаўцам Анатолем Абрамавым з Варонежа. Адтуль і Андрэй Платонаў. Многае з яго спадчыны (раманы, аповесці, п'есы), расказваў Абрамаў, не надрукавана і наўрад ці калі ўбачыць свет. Крытыкуе савецкую сістэму ад пачатку да канца.

**15 жніўня.** Паляцелі з Заранком і Іосіфам на Прыпяць. На адзін дзень. Тамара не пярэчыла.

У Гліннай Слабадзе наведалі бацькоў Міколы. Ніна Іванаўна ўсё такая ж гасцінная. Каб не рабіць ёй клопату, начавалі ў Мазыры, дзе была заказана гасцініца. У суботу быў цудоўны ўзыход сонца. Запомніліся пяшчотна-ружовыя аблокі, нібы напісаныя нейкім мастаком. Напрыклад, Шчаснай. Паехалі з мазырскімі знаёмымі на рыбалку. Палілі вогнішча, смажылі на патэльні рыбу (купілі ў рыбакоў). Загаралі, адчуваючы, што лета ўжо заканчваецца.

Навучыўся ездзіць на матацыкле «Ява».

Наступную ноч спаў у Заранка на сенавале. Люблю спаць, каб нада мною плавалі зоркі. Тады вельмі надзейны, даверлівы сон. Зоркі не здрадзяць.

Вярталіся дадому пад вечар на «Жыгулях». Няблага адпачылі.

**18 жніўня.** Заходзіў Шамякін. Пагаварылі. Скардзіцца на непрыяцеляў. Нейкія «тры Б.» Гаворыць пра іх, крыху картавячы. Цікуюць за ім, ставяць палкі ў колы. Але хто гэтыя «тры Б.», не сказаў. «Калі-небудзь іншым разам…»

Іван Пятровіч шмат працуе. Пры гэтым начамі, і ў асноўным над сучаснай тэмай. Пра паслабленне ўвагі да твораў аб падзеях сучаснасці гаварыў у выступленні на сходзе рэспубліканскага партыйнага актыву ў чэрвені гэтага года. «Думаю, — казаў ён, — асноўная прычына ў саміх творах. Відаць, мала сярод раманаў, аповесцей, п’ес, паэм ды фільмаў аб нашых днях і нашых сучасніках такіх, якія адказвалі б на тыя пытанні, якія хвалююць сёння грамадства. Няўмела і нясмела мы пішам пра сённяшняе жыццё…»

«Няўмела і нясмела…» Цалкам згодзен. Узяць хаця б тое плешчаніцкае здарэнне. Жарсці не на жарт! А дзе пра такое прачытаеш у нашай літаратуры? Усё прыгладжана, ураўнаважана, даведзена да «прыстойнасці». На жаль, і шамякінская «Міхаліна» не дае на гэта поўнага адказу.

Пазнанне чалавека было і застаецца галоўным прадметам літаратуры. Больш таго, сёння цікавасць да чалавечых глыбінь асобы выходзіць у літаратуры, як і ва ўсім сучасным мастацтве, на першы план. Не варта — у інтарэсах гэтай праблемы — рэзка размяжоўваць літаратуру па тэмах і звязваць з гэтым мастацкія крытэрыі літаратурнай творчасці. Галоўнае — у чалавеку, у асэнсаванні рэчаіснасці з маральнага пункту гледжання, у выяўленні духоўнага патэнцыялу асобы, у імкненні прасачыць, як гэты патэнцыял раэлізуе сябе ў дзеянні на карысць грамадства.

Хтосьці, адчуваю, можа сказаць: «Гладка гаворыш. А вось узяў бы і напісаў!..» Не кожнаму дадзена напісаць…

**23—24 жніўня.** Разам з дзецьмі (няма на каго пакінуць) выязджалі на дачу. Крыху працавалі на ўчастку. Збіралі апошнія памідоры, капалі моркву.

Сын суседа Грышы Вячоркі — школьнік. Пэўна, рамантык. Ходзіць па наваколлі, адзін. Пройдзе нейкую адлегласць, спыніцца, стаіць, нібы ў нешта ўслухваецца. Ці не паэт будзе?

На дачы добра, але вечарам, калі ехаць дадому, дык не ўбіцца ў аўтобус.

**25 жніўня.** Заходзіў Г. — стары, з аспіранцкіх часоў знаёмы, супрацоўнік аднаго з інстытутаў Аддзялення грамадскіх навук Акадэміі навук. Казаў, што ў калектыве Інстытута літаратуры маральнае разлажэнне, былы дырэктар Барысенка п’е.

— Ну, дык а хто цяпер не п’е?

— Ты, брат, як кароль Лір, — паспачуваў Г. — Пакуль у ЦК — цябе паважаюць, з табой лічацца, цябе баяцца. А калі што…

Папраўдзе, я над гэтым не думаў.

**30 жніўня.** Вецер. Гнуцца дрэвы. Ляціць лісце. Як заўсёды напрыканцы жніўня, перад вераснем. Прырода будзе рыхтавацца да зімы.

**4 верасня.** Літаратурны вечар, прысвечаны 30-годдзю ўтварэння ДРВ. Выступалі І. Мележ, М. Танк, Я. Семяжон, А. Грачанікаў, Г. Кляўко, Е. Лось, В. Іпатава і інш. Госць з В’етнама гаварыў аб папулярнасці беларускіх кніг у сябе на радзіме. У нас з в’етнамскіх падрадкоўнікаў удала перакладае Я. Семяжон. Малайчына Язэп Ігнатавіч!

**6 верасня.** Было задажджыла. Цяпер дажджы прыпыніліся. Пацяплела. Хадзіў на Камароўку. Купіў некалькі пачаткаў спелай, як бурштын, кукурузы і два кілаграмы груш. Хутка мама якой-небудзь аказіяй прышле з Брэста сваіх. Грушы ў нас растуць вакол хаты свае — буйныя, жоўтыя, чырванабокія, сакавітыя. Пакуль што пакаштуем з базару.

**8 верасня.** Па абедзе ў двары СП сустрэў К. Кірэенку. Павіталіся. Я спытаў пра здароўе. Пытанне яму яўна не спадабалася, хоць спытаў я без задніх думак. Больш я ні пра што не пытаўся.

**16 верасня.** Пасля работы напаткаў пісьменніка І., які вярнуўся з Фінляндыі.

— У музеі амаль і не хадзіў, увесь час бегаў па туфлі для жонкі, — з пісьменніцкай наіўнасцю прызнаўся ён.

**20 верасня.** Цікавая тэма: Дастаеўскі і Беларусь. Ёсць у Іванаўскім раёне невялікая вёска Дастоева. Яе ў 1506 годзе атрымаў у вечнае карыстанне адважны воін пінскага князя Фёдара Яраславіча Даніла Іванавіч Ірцішч. Ад назвы вёскі і бярэ пачатак прозвішча Дастаеўскіх.

Вялікі рускі пісьменнік Ф. М. Дастаеўскі ганарыўся тым, што яго продкі паходзілі з Беларусі. Ён жыва цікавіўся гісторыяй нашага народа. У кнізе І. П. Шпадарука «Ф. М. Дастаеўскі і Беларусь», якая выйшла ў выдавецтве «Народная асвета», прыводзіцца рэдкі дакумент 1865 года, у якім пісьменнік адзначае ўласцівыя беларускаму народу глыбокую «веру ў сябе і свае сілы, якая дала магчымасць яму ўстаяць на працягу раду стагоддзяў».

Карыстаючыся багатым фактычным матэрыялам, аўтар кнігі расказвае аб асноўных момантах жыцця і творчасці пісьменніка, аб уплыве яго творчасці на беларускую літаратуру, папулярнасці яго твораў у рэспубліцы, знаёміць з мінулым і сучасным вёскі Дастоева.

**23 верасня**. Пахаванне Міхася Лынькова. Памёр на 76 годзе жыцця. Вельмі сардэчны чалавек. Мне ён здаваўся старым і стомленым. Стаміўся Міколка-паравоз. На пахаванні гучала любімая песня нябожчыка «Жураўлі» на словы Р. Гамзатава.

Удава Соф'я Захараўна не захацела, каб некралог быў падпісаны прозвішчамі Броўкі і Лужаніна. Старыя рахункі.

**2 кастрычніка**. Споўнілася 60 гадоў Сяргею Сяргеевічу Смірнову. Я асабліва запаважаў яго, калі разам ехалі ў Брэст. З захапленнем слухаў яго аповеды. Было гэта гэтай вясной.

Паслаў віншавальную тэлеграму.

**3 кастрычніка**. Сёння было б, каб жыў, 80 гадоў Сяргею Ясеніну. У 60-я гады, будучы яшчэ аспірантам, я наведаў вёску Канстанцінава, дзе ён нарадзіўся. Тыповая руская вёска, якіх шмат на Разаншчыне. Стаіць яна на высокім беразе Акі на некалькі кіламетраў. Звычайная вуліца, дамы, дрэвы… Знаёмства з роднымі паэтавымі мясцінамі дапамагае глыбей зразумець яго творчасць.

Хата, дзе прайшло яго дзяцінства. «…З вуліцы выглядала яна вельмі прыгожай. Налічнікі, карніз і свяцёлка дзівосна выразаны і падфарбаваны белай фарбай. Жалезная страха, вадасцёкавыя трубы і абабітыя дошкамі вуглы надавалі ёй святочны выгляд», — так пісала аб роднай хаце сястра паэта Кацярына Аляксандраўна. Хата даўно згарэла. Але перад намі — дакладны адпаведнік ранейшай.

У Канстанцінаве адкрылі мемарыяльны музей паэта, і ўсё там зараз так, як было пры жыцці юнага Сяргея. Нават вуліца каля яго дома не заасфальтавана. Каля веснічак акуратна стаіць таполя, якую пасадзіў Сяргей Ясенін у адзін з апошніх прыездаў дадому. У садзе захавана невялікая хацінка, куды перабралася маці паэта пасля пажару.

«У кожнага паэта, — сцвярджаў Ясенін, маючы на ўвазе перш за ўсё, відаць, сябе самога, — ёсць свой агульны тон фарбаў, свой куфэрак слоў і вобразаў». Ясенінскі «куфэрак» — адзін з самых багатых. Уплыў Ясеніна на беларускую паэзію вельмі значны, асабліва ў 20—30-я гады ды і пазней таксама. Сёння паэта актыўна перакладаюць на беларускую мову, і гэта вельмі добра. Лепшыя пераклады — А. Куляшова і Р. Барадуліна. Вось узор барадулінскага майстэрства:

Шаганэ ты мая, Шаганэ!
Ці таму, што на поўначы доля,
Я гатоў расказаць табе поле,
Як ад поўні святлей збажыне.
Шаганэ ты мая, Шаганэ…

Мне здаецца, выдатна.

**8 кастрычніка**. У вёсцы Празарокі Глыбоцкага раёна адбылося адкрыццё помніка Ігнату Буйніцкаму. Аўтар — Іван Міско, які ўмее дамагчыся падабенства.

Паціху ўсё ж такі абстаўляемся помнікамі.

**9 кастрычніка.** Створана група па падрыхтоўцы даклада П. М. Машэрава на чарговым пленуме, уключылі і мяне. Кіраўнік — Ю. П. Смірноў. У прыёмнай групу з усмешкай агледзеў другі сакратар ЦК Аксёнаў: «Интеллектуалы?» — у яго голасе я адчуў нешта накшталт насмешкі. Потым быў інструктаж у таго, хто меўся выступаць з гэтым самым дакладам, — Пятра Міронавіча:

— Трэба, таварышы, зыходзіць з таго, што краіна бярэ новыя эканамічныя і духоўныя рубяжы. Рэспубліка наша, таварышы, індустрыяльна-аграрная.

Закурыў цыгарэту, пстрыкнуўшы запальнічкай, раскурыў, дыхнуў блакітным дымам.

— Таварышы! Адышло ў мінулае слова пастух. Цяпер гэта аператар па выкарыстанні пашаў. Вось так! Якія магчымасці ствараюцца дасягнутымі поспехамі? І як да многага яны абавязваюць! І ў гэтай частцы трэба бачыць недапрацоўкі. Яны ёсць. Пад цяперашняе пагалоўе не хапае кармоў. Спачатку трэба вырашыць кармавую праблему. Толькі пры наяўнасці кармавой базы можна разгортваць будаўніцтва жывёлагадоўчых комплексаў. Нас падвялі вучоныя, якія арыентавалі на бязгноевае ўтрыманне жывёлы. Беларускім землям патрэбен гной.

— Гной у кароўніку дае цяпло! — заклапочана азваўся намеснік загадчыка сельскагаспадарчага аддзела Сакалоў.

— Вот-вот. А мы захапляемся бязгноевым утрыманнем жывёлы!

— Свіней, — зноў падаў той голас.

Пётр Міронавіч не з тых, хто церпіць, калі яго перабіваюць.

— Нам у Беларусіі свінагадоўлю трэба менш за ўсё развіваць. Бязгноевае ўтрыманне ў Беларусіі шкоднае! — рэзка сказаў ён.

Гаварыў Пётр Міронавіч шмат, выказваў нават нешта «крамольнае»:

— Чалавек ёсць чалавек. Мы кажам, што праца — гэта добра. Так, але гледзячы якая праца! На Захадзе любая работа дае пражытачны мінімум. У ЗША чатыры працэнты беспрацоўных. Гэта — нармальна, беспрацоўе здымае многія праблемы.

Нібы спахапіўшыся, сказаў:

— Сёння, таварышы, мы адчуваем якаснае абнаўленне ўсіх сфер нашага жыцця. Гэта — важна. Праз увесь даклад павінна прайсці думка пра якасць. Якасць — гэта высокая культура.

Усе пытанні — з пазіцый бачання перспектывы: а што наперадзе. Дарам прадбачання валодаў Ленін і ніколі ў гэтым не памыляўся. Энгельс у тым-сім перабольшваў, але чытаецца ён, як раман. Давайце пафантазіруем і мы.

**10—16 кастрычніка**. Працавалі ў Заслаўі ў той самай саўмінаўскай рэзідэнцыі. Работа вялася дружна. Некалькі разоў наязджаў Пётр Міронавіч. У панядзелак 13 кастрычніка ён прыехаў пад уражаннем ад убачанага па тэлевізары (трансляцыя з Масквы) вечара, прысвечанага 80-годдзю з дня нара-

джэння С. Ясеніна. Распрануўся, павесіў на вешалку лёгкае асенняе паліто на футравай падкладцы. Пачаў не пра даклад, а пра Ясеніна. Гаварыў, як звычайна, па-руску:

— Я уловил, написано Есениным немало, создана музыка на его стихи, но сами стихи куда выше, чем музыка, куда музыкальнее. В стихах Есенина особая искренность, такой деликатный, нежный, хрупкий есенинский лиризм. Читали стихи два чтеца. Мне понравился второй чтец. Старался показать Есенина, а не себя, и я ему благодарен. Я хотел больше стихов. Однако, конечно, хороша и музыка Свиридова. Свиридов создает свою музыку…

Гэта я запісаў даслоўна і, жадаючы штосьці дадаць, сказаў, што Ясенін — постаць складаная. Сказаў і пашкадаваў. Пётр Міронавіч зрабіў паўзу, не надта прыхільна зірнуў у мой бок і адвярнуўся. Відаць, сапсаваў я яму песню. Ён любіць маналог, а я міжвольна паспрабаваў ператварыць яго ў дыялог. Я адчуў, што парушыў нейкую нябачную дэмаркацыйную лінію, якая аддзяляла мяне ад яго асобы. Да шэфа далучыўся і Юрый Пятровіч і таксама паглядзеў на мяне з дакорам і асуджэннем. Ну, але што зробіш…

— А цяпер, таварышы, пра даклад, — Пётр Міронавіч вярнуўся да асноўнай тэмы. — Не забыць справаздачную частку. Патрэбен аналіз. Аграрная сфера…

«Аграрная сфера» — галоўны канёк Пятра Міронавіча.

— Будуюцца выдатныя сельскагаспадарчыя комплексы: свінаводчыя, малочныя, па адкорме бычкоў. На жаль, часта забываюцца пытанні экалогіі, зямля заплывае адыходамі, знішчаецца прырода. У нас ёсць сур'ёзны прагрэс у эканоміцы, чаго нельга сказаць пра свядомасць людзей. Надта шкодзіць нам безгаспадарчасць.

«Правільна, талкова разважае», — падумаў я, успомніўшы чамусьці казахстанскую цаліну, калі быў там у другой палавіне 50-х гадоў. Колькі пшаніцы загінула там, зімуючы пад адкрытым небам пад дажджом і снегам! На наступны год далёка навокал чуўся бражны водар.

На інструктажы прысутнічаў А. Т. Кузьмін. Увесь час маўчаў. Рабалепствуе перад П. М. А што зробіш? Першы ёсць першы.

**16 кастрычніка**. Пётр Міронавіч даў «адмашку» — даклад у асноўным ухваліў.

Калі Пётр Міронавіч скончыў і закурыў, нечакана азваўся калега М.:

— Харошая мысля, нездарма кажуць, прыходзіць апасля. У мяне такая мысля саспела. А чаму, калі на праблему глядзець комплексна, не зрабіць так: падзяліць адкормачны комплекс на тры ўчасткі. Першы — адкорм бычкоў. Другі — бройлерныя курачкі. І трэці — свінячы.

Кормім бычкоў, а гной з-пад іх аддаем курам, ад кур — свінням. Атрымліваецца экалагічна закальцаваны цыкл, ну, і адпаведна — эканомія.

Гэта было так нечакана па вынаходлівасці, што на пачатку ніхто нават не засмяяўся.

— Гэта нейкае перпетуум мобіле, — здзівіўся Ходас.

Тады патроху пачалі смяяцца і нарэшце ажно зайшліся ад смеху. Смяяўся, круцячы галавой, і Пётр Міронавіч.

У 30-я гады хацелі пшаніцу прышчапіць да пырніка, каб не трэба было сеяць, каб расла, як і пырнік. Прапанова М. — з таго ж шэрагу.

Напісаў ліст маме ў Брэст, павіншаваў з днём нараджэння.

**17 кастрычніка**. Пачала работу Дэкада кнігі ПНР у Беларусі. Быў на выстаўцы. Сустрэў Бярозкіна. Не ведаю, які ў яго быў настрой, але ён прапанаваў: «Давай, таварыш Гніламёдаў, сходзім у «Журавінку». Я ажно зніякавеў:

«У рэстаран? У рабочы час?» Аднак дзень хіліўся ўжо да вечара і рабочы час заканчваўся, а Рыгор Саламонавіч бясконца цікавы чалавек. Я ўздыхнуў і даў згоду, тым болей, што ў кішэні з паўсотні рублёў было. Ніколі б не дазволіў, каб за мяне плаціў Бярозкін.

«Журавінка» сустрэла гасцінна, селі за свабодны столік, зрабілі даволі сціплы заказ: дзвесце грамаў гарэлкі і мясную салату. Зайшла чамусьці гаворка пра Глебку. Можа таму, што і ён не супраць быў час ад часу завітаць у рэстаран. Бярозкін пахваліўся, што з Глебкам (відаць, яшчэ да вайны) выпілі бочку гарэлкі. Глебку хваліў, а на Крапіву скардзіцца. Аднёс у «Полымя» артыкул пра паэму Я. Купалы «На Куццю», а Кірэенка даў на водзыў Кандрату Кандратавічу, і той параіў устрымацца, не друкаваць. Пры савецкай уладзе гэтая купалаўская рэч — «невыязная», калі і друкавалася, дык толькі адзін раз, недзе на пачатку 20-х. Знаходзіцца ў «спецсхове».

Каб падняць субяседніку настрой, я прыгадаў, як быў усцешаны сябар Крапівы Броўка, калі прачытаў у «Вячэрнім Мінску» артыкул пра сябе «Сталасць — гэта не старасць», як хваліўся: «Сам Бярозкін пра мяне напісаў! Бярозкін!» Чуў на свае вушы.

— Сапраўды, я даўно пра яго не пісаў, — пагадзіўся Рыгор Саламонавіч, — яшчэ з канца 50-х, калі ён не прыняў мой артыкул пра яго ў кніжцы «Паэзія праўды». Вельмі быў незадаволены, дык я перастаў яго чапаць.

Я прыгадаў, як ездзіў у Брэст у кампаніі Сяргея Сяргеевіча Смірнова і колькі дзіўнага, незвычайнага расказаў ён пра чалавечыя лёсы ў вайну. Пра некаторыя збіраецца напісаць.

— Хай бы пра мой напісаў, — уздыхнуў мой візаві. — Ён умее пісаць.

— Дык вас трэба звесці!

Бярозкін амаль не есць, затое часта курыць, зацята смаліць свой «Беламор». Раптам згадвае:

— У святлоўскай «Гренаде», памятаеце, ёсць радкі:

Смычками страданий
На скрипках времен…

— Памятаю.

— А ці ведаеце, што гэта за радкі? Што ў іх?

— Радкі прыгожыя, — сказаў я, а што імі хацеў сказаць паэт — гэтага я, па праўдзе, не ведаў.

— Гэта гісторыя яўрэйскага народа.

Я, прызнацца, быў здзіўлены.

— Дык вось і маё жыццё такое… — Ён памаўчаў. — Арыштавалі мяне перад вайною. Я быў на той час малады, але ўжо вядомы крытык. Разам з Піменам Панчанкам і Уладзімірам Кандраценем у 1938 годзе ездзіў на ўсесаюзныя курсы маладых пісьменнікаў у Маскву. Цікавая была паездка. Нам чыталі лекцыі, наладжвалі сустрэчы. Сустракаліся з Ісакам Бабелем, Аляксеем Талстым, Фадзеевым, Усеваладам Івановым, літаратуразнаўцамі Леанідам Цімафеевым і Барысам Сучковым, былі ў майстэрні Пятра Канчалоўскага, у тэатрах, у МХАТе, на выстаўках. Засталося шмат уражанняў, асабліва ад сустрэчы з Бабелем, ад якога я ўпершыню пачуў, што пісьменнік павінен быць паўнацэнным мужчынаю. Каб яго сексуальная энергія перайшла на творчасць, сублімiравалася ў ёй. Інакш творчасць будзе бляклай і слабой. Пры гэтым Бабель спасылаўся на Горкага і Талстога. З Горкім Бабель сустракаўся, і той сам яму пра гэта казаў.

— А самі вы, Рыгор Саламонавіч, што на гэты конт думаеце?

— Я мяркую, што ўсё ж такі эмацыянальная прырода творчасці шырэй. Абапіраецца яна не толькі на сексуальную адоранасць творцы, але і на іншыя складнікі. Вы ж вось пішаце, дык паназірайце за сабой.

Узялі яшчэ па чарцы.

— Але ж мы ўхіліліся ад вашага аповеда, — напомніў я. Рыгор Саламонавіч закурыў.

— Усяго не раскажаш. Гісторыя доўгая. Хіба што некаторыя моманты. Арыштавалі ў 1940-м, калі з групай пісьменнікаў вяртаўся з Беластока, дзе мы сустракаліся з пісьменнікамі-пачаткоўцамі і чытачамі. Арыштавалі на пад'ездзе да Мінска, у поездзе. Апранулі на мяне шынель і па пероне вялі ў шынялі. Магчыма, каб не відаць было, што вядуць арыштаванага, што вядуцца арышты. Але людзі азіраліся, шынель быў замалы. Трапіў на «валадарку», і пачаліся допыты. Следчыя мяняліся адзін за другім, а я сядзеў на адным месцы, не ўстаючы з табурэткі. Спаць не давалі. Канвеерная сістэма. Пра ўсё, здаецца, спыталі, усе пытанні вычарпалі, але следчаму пакідаць паддопытнага ў спакоі нельга, і зноў усё пачынаецца спачатку. Потым крыху адчапіліся, пакінулі ў камеры, перавялі ў Пішчалаўскі замак. Мне страшэнна балелі зубы, але на гэта ніхто не звяртаў увагі. Затое прынеслі з турэмнай бібліятэкі кнігу — «Пархоменка» Усевалада Іванова, таго самага, з якім у Маскве на курсах сустракаліся. Раман слабы, непраўдзівы. Потым, дарэчы, Усевалад Іваноў каяўся, што, здрадзіўшы сумленню, напісаў яго.

Рыгор Саламонавіч жартуе: «Вольгу Бяргольц таксама дапытвалі: «Вы были в связи с Авербахом?» — «Только в половой», — адказала паддопытная. Вядома, гэта не той жарт, з якога можна смяяцца.

— У першыя дні вайны нас, зэкаў, калонай пагналі на ўсход. Клалі ніцма да зямлі, прыстрэльвалі. Траплялі пад бамбёжку, і аднойчы мне ўдалося ўцячы. Падаўся на фронт. Прайшоў ад Сталінграда да Берліна. У сорак чацвёртым трапіла да мяне беларуская газета, даведаўся пра смерць Кузьмы Чорнага. Ведаеце, так шкада яго стала.

Перамогу святкаваў у Берліне. З Берліна паслаў допіс у «ЛіМ» — развагі пра паэзію. І вось якая штука атрымалася: мой матэрыял прачыталі не толькі тыя, каму я адрасаваўся, але і ў КДБ. Гэта я зразумеў, калі заўважыў за сабою хвост — двух у дыяганалевых плашчах і юхтовых ботах. Зразумеў і адразу пайшоў да стаматолага, каб вырваць хворыя зубы. У турме надта цяжка з хворымі зубамі, ніхто не дапаможа.

Арыштавалі і пасадзілі ў Маабіцкую турму. Апынуўся я ў адной камеры з лётчыкам-эсэсаўцам. Праз дзень-другі сталі размаўляць, разгаварыліся. Я па-нямецку ведаю. Расказаў пра адзін эпізод са свайго ваеннага жыцця, які меў адносіны да авіяцыі. Было гэта на Варонежскім фронце, на перадавой. Мы тады з вінтовак лупілі па нямецкіх самалётах, якія часам над намі лёталі. Збіць самалёт з вінтоўкі цяжка, практычна немагчыма, і нам забаранілі псаваць патроны. І ведаеце, што адказаў немец?

— Дарэмна, — сказаў ён. — Куля трапляе ў крыло, і на плоскасці вырастае кветка. Машыну адпраўляюць у рамонт, нашываюць лату, папраўляюць крыло. Гэта займае пэўны час. Машына выходзіць са строю.

— Шкода відавочная, — згадзіўся я.

— А наша камандаванне забараняла.

Мяне інтрыгавала, што ў лёсе Рыгора Саламонавіча было далей.

— Выйдземце на свежае паветра, — прапанаваў ён, і мы разлічыліся з афіцыянтам.

Выйшлі на бераг Свіслачы.

— Потым, пасля берлінскага Маабіта зноў быў Пішчалаўскі замак і зноў прынеслі, падалі ў акенца раман Усевалада Іванова «Пархоменка». Проста містыка нейкая!

Далей былі лагеры. Гэта — цяжкія старонкі майго жыцця. Вы не ўяўляеце, што гэта такое — жыццё за калючым дротам. Знясільваючая праца, жорсткасць начальнікаў, блатнякі… Дарэчы, пра гэта мог бы расказаць Сталяроў.

— Супрацоўнік бюро па прапагандзе літаратуры?

— Ён самы. Разам «маталі» тэрмін. Ён умеў «ціснуць» блатнякам раманы. «Анну Карэніну» пераказваў, і «Графа Монтэ-Крыста». Былі яшчэ ў нашай брыгадзе Барыс Сучкоў і Гумілёў Леў Мікалаевіч. З імі было цікава. Барыс добры ўчотчык быў, умеў вынікова закрыць нарад, а Леў Мікалаевіч кнігі свае сачыняў. Алоўка і паперы не давалі, дык ён у галаве, напамяць сачыняў.

— А хто ж на вас данос зрабіў? — спытаў нарэшце я.

— Айзік.

— Кучар?

— Ён.

Ідучы берагам Свіслачы, заўважылі ў вадзе нейкага вусатага звярка. Плыў да берага, смешна натапырыўшы вусы. Выдра, ці што? Рыгор Саламонавіч зноў закурыў, зацягнуўся папяросай.

— Цяжка табе там, у тваім ЦК, — паспачуваў ён, — кідай, ідзі куды ў газету ці часопіс. Ты ж маеш фах на руках, няблага пішаш пра літаратуру…

— Я пра гэта думаю.

Праз сквер дайшлі да праспекта і развіталіся.

Ноччу доўга не мог заснуць. Выйшаў на балкон. Неба. Зоры. Кажуць, што зорнае неба — гэта і ёсць самы вялікі цуд на свеце, што і нарадзіцца варта толькі дзеля таго, каб назіраць, цешыцца, здзіўляцца зорнаму небу, Месяцу, Сонцу. Гэта вызваляе ад пошлай аднастайнасці жыцця, адорвае пачуццём свабоды, адчуваннем паўнаты і інтэнсіўнасці ўражанняў і перажыванняў, пазбаўляе ад эгаізму і фанатызму.

**18 кастрычніка**. У «Мастацкай літаратуры» выйшла двухтомная «Анталогія ўкраінскай савецкай паэзіі» на беларускай мове. Алесь Траяноўскі просіць у гэтай сувязі напісаць артыкул для «Звязды». Няма жадання за што-небудзь брацца, але, відаць, давядзецца. Даўно ўжо нічога не друкаваў. Мусіць, згодна прымаўкі: «Салавей у клетцы не спявае». Затое цешыць чужы поспех. Выйшла выбранае Рыгора Барадуліна — «Свята пчалы». Добрую прыдумаў назву! Багатая атрымалася кніга, сардэчная.

Пад полазам белым,
з'інелай падковай,
Галінкай азяблаю
крохне —
хрусь,
Як яблык, крамянае і хрупаткое
Слова марознае: «Беларусь».

Хто яшчэ так скажа, як Барадулін?!

**20 кастрычніка**. 70-годдзе з дня нараджэння П. Броўкі адзначае Масква. Вечар у Калоннай зале Дома Саюзаў. Здаецца, ніхто з беларускіх паэтаў такога гонару не меў. Толькі вось выдзелілі для мерапрыемства «цяжкі» дзень — панядзелак.

**21 кастрычніка**. Хадзіў на спектакль «Брама неўміручасці» па п'есе Крапівы. Здзівіў рэжысёрскі «давесак»: над сцэнай, пад столлю бушуе і раве на ўвесь тэатр малпа. Што гэта абазначае, што сімвалізуе, — невядома. Наш час?

Эпоху? Ці чалавечую структуру ўвогуле, у якой слаба ладзяць паміж сабой свядомае і бессвядомае, «кара» і «падкорка»?

**23 кастрычніка**. Паляцелі ў вырай гракі. Пацішэла.

Скардзіцца на нездароўе Мележ.

**31 кастрычніка**. Даклад М. Лобана на аб'яднаным пасяджэнні секцый прозы і крытыкі «Проза маладых — майстэрства, тэндэнцыі». У Саюзе пісьменнікаў, паводле маіх назіранняў, ідзе змена пакаленняў, але на плённым развіцці літаратуры, у прыватнасці прозы, гэта амаль не адбіваецца. Проза маладых, трэба прызнаць, надта кволая, як і іх жыццёвы вопыт. Па сутнасці, няма цікавых дэбютаў і няма чаго чытаць. Бракуе сур'ёзных абагульненняў. Марцэлеў сказаў, што ў маладых «адчуваецца недахоп сацыяльнай напоўненасці». Гэта традыцыйнае патрабаванне артадаксальнай крытыкі. Але ж няма сацыяльнага без глыбіні звышсацыяльнага, метафізічнага, калі хочаце. Пра гэта варта было б сказаць маладым, але не скажаш, бо забаронена. Старыя дапамагаюць маладым, а маладыя калі-небудзь абавязкова скажуць: «Саступіце нам дарогу! Вы нам святло засціце, вам на той свет пара!»

«Прыходзіць час, калі трэба адкласці іголку, каб маглі пачаць шыць іншыя». Не ведаю, чыя гэта прымаўка, які народ яе стварыў, але яна правільная.

**3 лістапада.** Дзень нараджэння Якуба Коласа. Класік. Бацька нацыі. Дакладней, адзін з бацькоў.

Дачуўся, што аднаму з цеплаходаў Дунайскага параходства прысвоена найменне — «Якуб Колас».

У Інстытуце літаратуры выдаецца збор твораў у 14-ці тамах. Шкада аднак, што многія творы сапсаваныя цэнзурай, няаўтарскімі праўкамі і ў такім пакалечаным выглядзе і выдаюцца.

Ужо разы са тры наведаў коласаўскія мясціны — Мікалаеўшчыну, Альбуць, Высокі Бераг, Свержанскую граду і інш. Апошні раз у Мікалаеўшчыне былі з Данілам Канстанцінавічам. Заязджалі ў Стоўбцы. У нядзелю там базар. А я аматар завітаць на базар, на местачковы, паслухаць гаману, людскую разнагалосіцу. Прайшліся з Данілам Канстанцінавічам паміж радамі. Я пачуў, як адзін мешчанчук пытаўся ў другога:

— Ну, як кідаешся?

— Трапячуся, — адказаў той, частуючы сябра папяросай. — А ты як?

— Таксама. Трапячуся.

Гэта значыць — яны павіталіся. У Якуба Коласа такой формы людской гаворкі, здаецца, няма. Даніла Канстанцінавіч пацвердзіў:

— Няма.

А цікава. Нешта ў гэтым ёсць.

**5 лістапада.** У магазінах, асабліва ў прадуктовых, паўсюль чэргі. Заранок кажа, што тых, хто стаіць у чэргах, называюць стоікамі. Але не ўсюды дрэнна, у многіх калгасах і саўгасах рэспублікі справы ідуць няблага, як, напрыклад, у Верцялішках на Гродзеншчыне. У газетах друкуюцца матэрыялы: «Маладзеюць Верцялішкі». Шмат што, на маю думку, залежыць ад старшыні, ад яго чалавечых якасцей, таленту і магчымасцей.

**8 лістапада**. Памёр Ісак Ісакавіч Любан — славуты кампазітар, аўтар песні «Бывайце здаровы». Словы — Адама Русака, мелодыя — яўрэйская. Першым яе заспяваў Л. Уцёсаў. Палюбілася і прыжылася на Беларусі, ды і не толькі на Беларусі. Л. Уцёсаў спалучыў джаз з народнасцю. Вялікі артыст.

**12 лістапада.** У Саюзе пісьменнікаў Беларусі адбылася дыскусія «Паэт — пакаленне — час». З дакладам выступіў Алег Лойка. Адзначыў, што развіццё сучаснай беларускай паэзіі адбываецца па шляху большай праўдзівасці, шчы-

расці,ператытасці і аўтабіяграфізму. Унутранае аблічча яе лірычнага героя праступае ўсё больш выразна — у сацыяльна-філасофскім і маральна-этычным сэнсе. Абуджаюцца эстэтычныя пошукі, імкненне да наватарства, цікавасць да мастацкай шматколернасці слова. Паэзія ўсё часцей паглыбляецца ў індывідуальнае, уласнае, аўтабіяграфічнае. Схільнасць нешта абвяшчаць, да чагосьці заклікаць, прамаўляць саступае месца роздуму, рэфлексіі.

Чуў нядаўна ад рэдактара «Полымя» Кірэенкі, і гэта гучала як скарга, нараканне, што немагчыма сёння падабраць нізку новых добрых вершаў аб партыі, аб камуністах.

Я лічу, што на маладых не трэба крыўдаваць, не трэба іх залішне вучыць. Мэта кожнага пакалення — яно само. Кожнае пакаленне мае свой уласны ўнікальны досвед, свае патрэбы, жаданні, прэтэнзіі, дамаганні, урэшце новыя формы жыцця.

У перапынку, у кулуарных размовах Пімен Панчанка, страсаючы попел з цыгарэты, якую курыў, быў катэгарычны:

— Малады той, хто яшчэ не ілжэ.

Меў на ўвазе сябе? Залішняя катэгарычнасць заўсёды далёкая ад праўды.

**14 лістапада**. Вечар у СП, прысвечаны 100-годдзю Альберта Паўловіча (1875—1951). Аўтар папулярных гумарыстычных апавяданняў, жартоўных сцэнак, гумарэсак, анекдотаў, баек, лірычных вершаў. Сёння пра яго мала хто памятае. Чуў пераказ некаторых гумарэсак А. Паўловіча ад У. Караткевіча. Ведае!

**16 лістапада.** Сустракалі групу замежных пісьменнікаў — удзельнікаў Міжнароднага сімпозіума на тэму: «Гістарычны вопыт Другой сусветнай вайны і адказнасць пісьменніка за лёс свайго народа і чалавецтва ва ўмовах разрадкі міжнароднай напружанасці». Былі (хоць і не самыя знакамітыя) і немцы, і чэхі, і палякі, і французы, і масквічы, — і ўсе пагадзіліся, што тэма Вялікай Айчыннай вайны так і не стала гісторыяй. Гэтая думка гучала ў выступленнях многіх удзельнікаў сімпозіума — як нашых, так і замежных.

Ваенная тэма, на маю думку, эвалюцыяніруе ў плане паглыблення пасціжэння псіхалагічных і маральна-этычных канфліктаў, праламляючыся ў адчуваннях успрымаючага суб'екта, расце цікавасць да праўдзівых фактаў і дакументаў, да сімволікі і прытчавасці, фальклорных традыцый.

На агульным фоне рэзка выдзяляецца кніга А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі…» — пра людзей, якія прайшлі праз смерць.

**17 лістапада.** Тэатр імя Маякоўскага ў Маскве стварыў пастаноўку па аповесці В. Быкава «Трэцяя ракета». Рэжысёр — Я. Лазараў. Гэта стала вядома і ў нас. Калега В. К. з суседняга аддзела незадаволены. У час абедзеннага перапынку ў скверыку ён пачаў казаць: «Чаму гэта ўсё Быкаў ды Быкаў, як бы апроч яго нікога ў нас няма?» — «Ёсць», — згадзіўся я. — «Дык выходзіць, што дрэнна працуе Міністэрства культуры і ваш аддзел?» Я зразумеў, што тут што-небудзь даказваць не выпадае, але растлумачыў, што «Трэцяя ракета» — твор вельмі сцэнічны.

В. К., відаць, ведае, адкуль дзьме вецер. Работа нашага аддзела задавальняе далёка не ўсіх. Культура — справа тонкая, тут не надта загадаеш. Гэта яшчэ Ленін сказаў.

**18 лістапада.** З тыдзень ужо як атрымалі ліст ажно з Урала, з Іжэўска, ад нейкага Фокіна Варфаламея, удзельніка грамадзянскай вайны ў Сібіры ў 1918—1920 гадах. Піша пра другога ўдзельніка грамадзянскай вайны — Уладзіміра Азіна, з якім ён быццам бы служыў у 28-й дывізіі і якога ён абвяшчае здраднікам, спасылаючыся на тое, што добра ведае ўсё як было.

У першым томе БелСЭ пра героя грамадзянскай вайны Уладзіміра Азіна — «жалезнага начдзіва» — змешчаны артыкул, а нейкі Фокін піша абы-што, нясе нейкую «адсябяціну» на падставе ўласных уражанняў і ўспамінаў. Даслаў ён свой ліст нам, таму што Азін — беларус, з сям'і «портного» Віцебскай вобласці.

Пераслаў ліст у акадэмію дырэктару інстытута Петрыкаву. Праз пару дзён прынеслі адказ, які мяне вельмі здзівіў. У ім гаварылася, што Інстытут гісторыі нічога пэўнага на ліст т. Фокіна адказаць не можа, паколькі няма дакументаў. Няма дакументаў? Але ж пра «жалезнага начдзіва» У. Азіна выйшла ўжо некалькі кніжак!

Што адказаць Фокіну?

**19 лістапада.** На зямлі, усё роўна як спачывае, снег. Але яшчэ не зіма, а толькі зазімак.

Адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе Янка Скрыган. Сімпатычны чалавек і пісьменнік, сябар Паўлюка Шукайлы, у маладосці перахварэў на футурызм. Быў рэпрэсіраваны, доўгі час жыў у высылцы. Трымае ў кішэні сцізорык, прымацаваны тонкай вяровачкай да пояса. Люблю чытаць яго «Беглыя запісы», якія ён друкуе ў «ЛіМе». Вось адзін з такіх запісаў:

«Успамінаю, як у нас гаварылі. Блакіт — гэта колер тонкі, лёгкі, з ласкаю для вока: блакітнае неба. А калі жанчына купляла хустку, то казала: «Купіла галубовую хустку». Гэта ўжо колер грубейшы, гусцейшы, больш празаічны.

Калі ткалі кросны, то ніколі не гаварылі, як у слоўніку: чаўнок. Гаварылі чоўнік. «Гэта ж мужчыны зрабілі новы чоўнік, дык цяжкавата ходзіць яшчэ».

А калі куплялі гаршкі на рынку, дык спрабавалі моц, стукаючы па іх костачкамі пальцаў. Калі гаршчок (ці міска, ці макацёр, ці гладыш, ці злівак) быў пабіты, гэта пазнавалі па глухім голасе. На такі гаршчок казалі, што ён трупціць. Здаецца, што іначай і сказаць нельга, але цяпер у любой пасуднай краме гавораць іначай: не звініць.

У слове «трупціць» было знаццё справы, прырода самой рэчы, вобраз, мадэль».

Здароўя Вам і доўгіх год жыцця, дарагі Іван Аляксеевіч.

**20 лістапада.** Варфаламею Фокіну адказаў праз Іжэўскі абкам партыі (там, аказваецца, яго ведаюць). Папрасіў сказаць, што яго ліст перададзены гісторыкам. Хай не турбуецца.

**22 лістапада**. «ЛіМ» друкуе ўрывак з рамана В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына» пад назвай «Тастамент». Мне падабаецца проза В. Адамчыка, асабліва ў яго апавяданнях («Кароль Нябожа» і інш.).

Сёння чуюцца галасы, што жанр рамана-эпапеі састарэў, што пісьменніку ў паказе жыцця трэба канцэнтравацца на адной асобе. Падобныя выказванні здаюцца мне празмерна катэгарычнымі.

**24 лістапада.** Паведамленне з Берна, дзе жыў Томас Ман: знойдзены і маюць быць выдадзеныя (калі дазволяць нашчадкі) яго дзённікі 1933—1955 гадоў. Вось бы пачытаць! Люблю гэтага пісьменніка, як і Р. Бярозкін. Т. Ман пайшоў, мне здаецца, далей за Дастаеўскага, абмежаванага ўсё ж такі расійскай праблематыкай, расійскім (рускім) менталітэтам.

**26 лістапада.** Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Парадак дня:

1. Падрыхтоўка да XXV з'езда КПСС і XXVIII з'езда Кампартыі Беларусі і зацвярджэнне даты склікання рэспубліканскага з'езда пісьменнікаў.

2. Абмеркаванне праблемы майстэрства пад дэвізам: «Час, пісьменнік, майстэрства».

З дакладам па першым пытанні выступіў І. Шамякін. Не ставала, на маю думку, канкрэтыкі.

З'езд дамовіліся праводзіць у першай палове мая наступнага года. Васіль Хомчанка задаў пытанне, калі будзе скончана будаўніцтва Дома пісьменніка. Ніхто гэтага дакладна не ведае.

Па другім пытанні слухалі М. Арочку (паэзія) і В. Каваленку (проза). М. Арочка адзначыў «працэс эпізацыі паэзіі», «настроенай на цвярозы роздум аб свеце». Хваліў «Варшаўскі шлях» А. Куляшова з яго «далёкасяжнай аб'ёмнасцю сэнсу», ганіў паэму М. Лужаніна «Як нараджаўся новы свет» за «раскіданасць і бесхрыбетнасць». У дакладзе знайшлі водгук і ацэнку многія паэмы і вершы. Сярод іншых быў згаданы верш П. Панчанкі «Творчасць»:

Іду, як заўсёды, у купалаўскі сад,
Падняўшы каўнер і насунуўшы кепку,
А ў садзе шуміць залаты лістапад…
Шапчу я: Іван Дамінікавіч, кепска…

Працуем, а нас не чытаюць амаль,
Жартуем, а людзям чамусьці не смешна…

Паэт — істота чуйная. Сапраўды, уражанне такое, што наступіла новая эпоха. Людзі жывуць іншымі, больш меркантыльнымі, клопатамі. Карыслівы інтарэс — не радасны. Сумна.

Я застаўся пры думцы, што паэзія — гэта перш за ўсё характар у яго эмацыянальным і маральным выяўленні. Паэзія павінна быць інтымнай, асабовай, экзістэнцыяльнай, як гавораць на Захадзе.

Востра прагучаў змястоўны даклад В. Каваленкі, які кваліфікавана крануў творчасць многіх празаікаў розных пакаленняў, імкнучыся давесці, што сапраўднае жыццё складаней, чым тое, якое адлюстравана ў нашых творах.

Выказваліся і самі празаікі, але не надта цікава.

П. Дзюбайла ў сваім грунтоўным выступе аналізаваў новую аповесць Б. Сачанкі «Не на той вуліцы». У аповесці выведзены адмоўны тып пісьменніка-графамана Парасюка і станоўчы герой — герой-апавядальнік Калінка, якія на самай справе, паводле думкі П. К., родзічы, адзін і другі — прыстасаванцы.

Трэба будзе сказаць Барысу Іванавічу, каб не прымаў блізка да сэрца, а то ён уражлівы.

Відавочна, узрастае роля дакументальнага пачатку ў развіцці літаратуры. Я над гэтым шмат думаю. Мастацкая літаратура многае бярэ ў дакументалістыкі. Дастаеўскі знаходзіў у факце «глыбіню, якой няма ў Шэкспіра… Бо не толькі каб стварыць і пісаць мастацкія рэчы, але і каб толькі прыкмеціць факт, патрэбен таксама ў сваім родзе мастак». Некаторыя — магчыма, часткова ў сувязі з гэтай думкай Дастаеўскага, лічаць, што «сучасны» Шэкспір (г. зн. мастак яго маштабу) магчымы толькі на дакументальнай аснове. Не, думаецца, эстэтычная аснова сучаснай літаратуры ўсё ж такі шырэй, яна ўключае багаты свет уяўлення, здольны многае праясніць у самой рэчаіснасці. Будучы Шэспір абавязкова выкарыстае і гэтыя паэтычныя магчымасці.

Нейкі маладзён, але смелы (ці нахабны?) хлапчына падышоў да Брыля: «Вось я хацеў бы пісаць, як вы. Вось што за дзень убачыў, пра тое і напісаў. Скажыце, як гэта зрабіць?» — «Звычайная справа, — адказаў Іван Антонавіч, — няма нічога прасцей. Кладу перад сабой чысты аркуш, бяру пяро ці аловак і пішу». Яго суразмоўца нічога не адказаў, толькі ўздыхнуў.

**29 лістапада.** Быў у Атоліне. Чырванеюць на снезе сцябліны маліны. Цішыня.

Адчынілі прадуктовы магазінчык з гарэлкай, але, кажуць, сочаць, хто колькі бярэ.

**3 снежня.** У знакамітай вёсцы Жупраны Ашмянскага раёна на магіле Ф. Багушэвіча адкрыты помнік. Скульптар, здаецца, З. Азгур. Мне здаецца, што ў яго беларускіх работах заўсёды прысутнічае яўрэйская тэма, гучаць тыя «скрипки времён», пра якія разважаў Барозкін.

**5 снежня**. Іосіф Скурко працуе ў міжнароднай маладзёжнай установе «Спутник». Мае службовую машыну — «Волгу». Працуе з замежнай моладдзю, з якой умее знайсці агульную мову. Пару дзён назад прапанаваў паехаць на Мядзельшчыну да дзядзькі Хведара — у Сваткі. Разам з намі едзе Рыгор Барадулін, якога Іосіф (мы, сябры, завем яго Юзікам) дужа паважае і любіць, лічыць сваім настаўнікам.

Выехалі ў пятніцу вечарам, пасля рабочага дня. Дарога — доўгая. Ехалі праз лес і ўваліліся ў прымерзлую і прыцярушаную снегам лясную калдобіну, ды такую глыбокую, што вада хлынула ў салон. Ледзь адчынілі дзверцы і выбіраліся па пояс у ледзяным крошыве. Вымаклі капітальна.

— Ну, усё! Запаленне лёгкіх забяспечана! — запанікаваў паэт.

Сталі ламаць ніжнія галіны дрэў і кідаць пад колы. Эфект — нулявы, прабуксоўваюць. Давялося пайсці наперад, пашукаць нейкага трактара. Цёмна, неба завалаклі хмары, але дарогу, прысыпаную сняжком, відаць. Прайшоўшы кіламетры з тры, адчуў пах нейкага варыва, а потым заўважыў і агеньчык. Гэта быў калгасны кароўнік, гатавалася ежа скаціне. Ля агню сядзеў дзяцюк гадоў трыццаці, падкладваў у агонь дровы. Аказалася, што ён і ёсць трактарыст. Болей таго: брат майго добрага знаёмага па Акадэміі навук Анатоля Шастаковіча. Хутка паразумеліся, ён завёў трактар, пасадзіў мяне побач, і мы паехалі на месца здарэння. «Волга» — лёгкая, і трактар выцягнуў яе, як кажуць, умомант, як пушынку, а праз гадзіну-паўтары мы былі ўжо ў Сватках у дзядзькі Хведара, які сустрэў нас вельмі гасцінна. Асабліва калі даведаўся, што з намі Рыгор Барадулін. Народ ведае сваіх паэтаў!

Памыўшы рукі, паселі за стол, накрыты ўвішнай гаспадыняй, узрадаванай прыездам Юзіка. Была і чарка. Гаспадар падаў прыклад — прыгожа выхіліў кілішак у рот. «Крэпкая, зараза!» — пахваліў гарэлку Юзік, спажыўшы свой кілішак. Пад канец выпілі журавінавага квасу.

Назаўтра дзядзька Хведар закалоў кабанчыка, які ўжо з раніцы падаваў трывожны голас, рохкаў, чуючы, відаць, нешта нядобрае. Калоў сусед, які па-майстэрску валодаў «швайкай». Смалілі, як усюды цяпер, паяльнай лямпай. Тут вызначыўся Рыгор Іванавіч. Навучаны дзядзькам Хведарам, жвава вадзіў лямпай па свінячым азадку.

Частаваліся свежынай. Асабліва смачнай паказалася пячонка з цыбуляй.

Прабылі ў Сватках амаль увесь дзень. Дадому выправіліся толькі вечарам.

**10 снежня**. Начальству ўсё больш падабаецца выступаць з артыкуламі. Не даць рады! Толькі аднаму закончыш «матэрыял», як ужо нясуць «заказ» (хутчэй — загад) ад другога — пішы! Ды яшчэ патрабуюць нейкай асаблівай якасці. Кожны хоча паказаць, што ён сучасны і разумны. Відаць, цяпер такая партыйная мода, новы стыль. Адзін з сакратароў — дык той нават крыўду выказаў: «Себе вы вот как пишете, а мне не хотите…»

Трэба і сабе штосьці напісаць. Дзеля заробку. Зарплата невялікая, 220 руб. Ганарар якраз дарэчы.

**13 снежня.** Семінар дзіцячых пісьменнікаў у Каралішчавічах. Адкрыў Максім Танк уступным словам «Камуністычнае выхаванне дзяцей і моладзі і задачы беларускіх пісьменнікаў».

Выступалі І. Чыгрынаў, А. Вярцінскі, Г. Бураўкін і ў тым ліку я. Сказаў, што лёс кнігі цяжка прадказаць, часам кніга мяняе свайго адрасата. «Рабінзон Круза» Даніэля Дэфо ствараўся для дарослых, а стаў любімай кнігай дзяцей, а, скажам, «Аліса ў краіне цудаў» пісалася Льюісам Кэралам для сваёй маленькай пляменніцы Алісы, а цяпер кнігу чытаюць дарослыя.

**15 снежня.** Панядзелак. Прачнуўся з раніцы, і ад адной думкі, што трэба ісці на работу, скіс, пагоршыўся настрой. Аднак спадзяюся, што калісьці усё ж такі атрымаю «вольную».

Выпісваю думку з ліста А. Чэхава нейкаму Леонтьеву-Щеглову (трэба даведацца, хто гэта):

«Не надо брезговать жизнью, какова бы она ни была».

Які аднак разумны Чэхаў! Таму яго і хочацца чытаць.

**20 снежня**. У лазні пачуў анекдот, хаця той лысаваты чалавек, які расказваў, запэўніваў, што гэта праўдзівае здарэнне. Муж з жонкай пасварыліся і некалькі дзён не размаўлялі. А калі ўжо трэба пільна высветліць тое ці іншае, пісалі адзін да аднаго запіскі. Аднойчы вечарам жонка знаходзіць запіску ад мужа:

«Разбудзі мяне заўтра у 6 гадзін раніцы».

Назаўтра муж прачнуўся і з жахам заўважыў, што ўжо 9 гадзін. Праклінаючы ўсё на свеце, зрываецца з ложка і раптам бачыць на коўдры паперку:

«Уставай, ужо шэсць!»

У гэтым анекдоце ёсць нешта вельмі беларускае, але не магу даўмецца, што.

Цікава ўсё ж такі пабыць у лазні, «у густой пары» (як казаў Кузьма Чорны), у асяроддзі звычайных дзядзькоў. Свой дух!

**26 снежня**. Дзень нараджэння адзначалі сціпла. Сціпла — гэта па-мойму. Быў Лёня. Тамара напякла пірагоў з капустай. Пірагі пячы ўмее, нездарма ў яе прозвішча па бацьку — Каравай. Кажу: «Хай бы ты не мяняла, а пакінула сваё».

**27 снежня**. У. Калеснік прыслаў, з аўтографамі сааўтараў, кнігу «Я з вогненнай вёскі…» Калі кніга друкавалася ў часопісе «Маладосць», Уладзімір Андрэевіч прапанаваў мне ўгадаць, якія старонкі (раздзелы) рыхтаваў ён. Я не змог ні ўгадаць, ні вызначыць па стылі. Цяжка ж вызначыць — гэта маналогі-ўспаміны людзей, людзей у стане афекту. Кіламетры плёнкі!

Нехта казаў, што ў Калесніка не скла̀ліся адносіны з Адамовічам. Столькі ездзілі разам і — не скла̀ліся?

**30 снежня**. Немагчыма прагназаваць літаратурны працэс. Літаратура мудрэй за самога пісьменніка. Цяжка прадказаць, як яна будзе развівацца. Пакуль што, прынамсі, гэта нікому не ўдавалася. У творчасці шмат таямніц. Амерыканскі пісьменнік і філосаф XIX ст. Эмерсон, рамантык па складзе душы, сцвярджаў, што «ў кожным закладзены зародак генія». Вось як!

***Працяг будзе.***

S



Алесь ЖЫГУНОЎ

# МЕЛОДЫІ ВОСЕНІ

## БАЦЬКОЎСКАЯ КАСА

Яшчэ ў лугах зялёная раса
І раніцою вецер коціць хвалі.
Яшчэ звініць васьмёрачка каса,
Якую з бацькам рупна выбіралі.

Ну проста нейкі цуд, а не каса!
Кладу пракос шырокі адмыслова.
…На вочы раптам набяжыць сляза —
І пазразаю купіны кратовыя.

* * *

Я восень прывітаю, як сястру.
Мы аднаго, я думаю, узросту.
Мне з ёй цікава, хораша і проста.
Я восень прывітаю, як сястру

Любімую — падобныя мы з ёй.
Як нечакана думкі памудрэлі!
Хаця гады мае і пастарэлі,
Душа праменіць радасны настрой.

Выходжу на кастрычніцкі прасцяг —
Нямею ад святла і прыгажосці.

---

***Жыгуноў Аляксандр Міхайлавіч*** *нарадзіўся 27 лютага 1954 года ў вёсцы Тройца Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1976). Настаўнічаў на Глыбоччыне, працаваў на раённым радыё, у газеце «Шлях перамогі». Цяпер — загадчык аграпрамысловага аддзела раённай газеты «Веснік Глыбоччыны».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Матчына вышыванка» (1984), «Мая Тройца» (1993), «Пагавары са мной пра восень» (2004), «Ля цяпельца зары» (2009). Піша вершы для дзяцей.*

Нібы ў пару вярнуўся маладосці, —
Ну столькі ў маёй восені жыцця!

* * *

*Алегу*

Да сябра еду на Ушаччыну.
У хаце сцішанай старой
Душу ён лечыць мовай матчынай,
Жывой крынічнаю вадой.

Адзін на цэлую ваколіцу,
Там, дзе юнацтва адгуло,
Ён раніцою сонцу моліцца,
Каб над азёрамі ўзышло.

Радкі складае ён душэўныя
Пра ушачаначку адну.
Сабе прызнаюся: напэўна, я
Зайздрошчу крышачку яму, —

Ён не прадаў нікому спадчыну,
Ён свой у вёсачцы пустой.
Да сябра еду на Ушаччыну,
Там адагрэюся душой.

* * *

Мелодыі шчымлівага напеву
Мне чуюцца у восенькай пары.
Усё-такі балюча, мусіць, дрэву
Скідаць свае лісты на дол сыры.

Лістоты шлейф цямнее пад нагамі.
Каго ўсхвалюе сёння прыгажосць?
Я думаю, што нешта і між намі
Падобнае — між мной і дрэвам — ёсць.

З зямлёю сувязь крэўную трымаю.
Як дрэва — лісце, вершы я губляю.

## ЧЫТАЮ ПАЭЗІЮ

У вершах пафаснасці шмат,
Таму і навяваюць стому.
О Божа, як бязмежна рад
Вятрам, што прыляцелі з дому.

Гасцей з далёкай стараны
На ганку шчыра прывітаў я.

Дыхнулі водарам яны
Такім забытым — разнатраўя.

Слязінка радасці — з вачэй,
Вятры напомнілі аб леце.
І дыхаць стала мне лягчэй
У нелірычным гэтым свеце.

* * *

Чапляюцца аблокі за слупы
І адплываюць у няблізкі вырай.
А восень пасылае дождж сляпы,
І ён ідзе — пяшчотны, цёплы, шчыры.

Дзівосны прывітаю гэты дождж
Як развітанне маладога лета.
Бягу, нібы ў маленстве, басаНож
Я па зямлі, што памяццю сагрэта.

Нібыта ўсё наперадзе яшчэ:
І маладосць, і радасць, і каханне.
Любімая з валошкамі вачэй
Таксама недзе марыць пра спатканне.

* * *

Мелодыі восені — сумныя ноты.
А хочацца сонца, цяпла і пяшчоты
І, можа, адной выпадковай сустрэчы,
Каб плашч незнаёмцы накінуць на плечы,
І з ёю блукаць у лугах да світання,
І Блока чытаць, і хмялець ад кахання.

Ах, гора-рамантык, сумуеш чаго ты?
Мелодыі восені — звонкія ноты.
Надарыцца дзень выпадковай сустрэчы —
Ты плашч незнаёмцы накінеш на плечы,
З ёй будзеш блукаць у лугах да світання,
І Блока чытаць і хмялець ад кахання.

І хопіць цяпла, і святла, і пяшчоты.
Мелодыі восені — дзіўныя ноты.

## БЕЛЫЯ ДНІ

Кропля скацілася на падаконнік
І пакацілася — не затрымаць...
Дождж адышоў, і абшарамі сёння
Ціха, нясмела ступае зіма.

Ты узнімі свае дзіўныя веі,
Разам сустрэнем прыход чысціні.
Хутка наўкола закружаць завеі,
І завітаюць к нам белыя дні.

Белыя дні і лагодныя ночы,
Дзе анікогачкі не існуе,
Дзе так загадкава свецяцца вочы,
Мілыя-мілыя вочы твае.

* * *

Чаканне снегу, як чаканне дня,
Калі ўначы замучыла бяссонніца.
І вось імчыцца снегавая конніца,
І рэй свой пачынае чысціня.

Стаміўшыся ад восеньскай тугі,
Мы подыху зімы, як дзеці, рады.
І клічуць нас, і вабяць далягляды,
Прыбраныя ў бялюткія снягі.

Таму, зусім забыўшыся на ўзрост
(Душы, як птушцы, хочацца прастору),
Спяшаемся да казачнага бору
Па чысціні і нерушы — наўпрост.

Сняжынкі, як слязінкі, зіхацяць.
З падзякай, з асалодай прымем стому.
А вечарам мы вернемся дадому.
І радасці у сэрцы — не суняць.

а

Камал АБДУЛА

# ДАЛІНА ЧАРАЎНІКОЎ*

Раман

## Раздзел XI

...Тут, у гэтым горадзе, што размясціўся крыху бліжэй да Бога, чым многія іншыя гарады, зараз давядзецца яму развітацца з армейскімі таварышамі, з любімым Шахам, які выхоўваў яго з малых гадоў, і з белабародым візірам Машдалі, якому ён быў абавязаны да скону. Так, ён пойдзе да візіра Машдалі. Калі патрэбна будзе, расплачацца перад ім наўзрыд. Са шкадаваннем і горыччу папросіць у яго прабачэння, «я раб твой навекі, ты ж быў для мяне як бацька», скажа. Скажа, што любіць яго — свайго прыёмыша — болей, чым сына свайго... І даверыць святло вачэй сваіх, прыёмыша свайго, візіру Машдалі. Стане ўпрошваць яго, каб той перадаў ягоную ніжэйшую просьбу Шаху, сам жа ён не асмеліцца звярнуцца адразу да Яго міласці. Толькі б не разгубіцца, не збаяцца пад неўразумелым паглядам візіра Машдалі, паспрабаваць супакоіць гэты яго цяжкі дапытлівы позірк, разгледзець, разгадаць, што крыецца ў яго вачах, а потым...

Потым вернецца ён на гэту ціхую, брукаваную, вузкую, як птушыная шыя, вулачку, што бяжыць уверх, падымаецца над домам, у якім ён жыве, і невядома, дзе заканчваецца. А там... Ён спачатку давядзе да шаленства прыгажуню Пярнісу, якая з трапяткім сэрцам чакае ад яго радасных вестак. «Не, не адпусцілі. Кажуць, прыйшоў з войскам — і вярнуцца павінен з ім. Наперадзе іншыя паходы...» Як успрыме гэту вестку прыгажуня Пярніса, і якую яшчэ гульню ён задумае — аднаму Богу вядома. Ён раскрые праўду толькі пасля таго, як яна добра памучаецца, пакрыўджаная, накрычыцца на яго, пасля таго, як ён удосталь нацешыцца з яе адчаю. Але якую праўду ён збіраецца ёй паведаміць? У чым заключаецца гэта праўда, ён і сам не ведаў. Можа, гэта праўда спачывае ў глыбіні, поўных здзіўлення, неспакойных вачэй візіра Машдалі, ці гэта праўда хаваецца ў яго асцярожных словах: «Гляну, што можна зрабіць, нават не ведаю, як асмелюся паведаміць гэту навіну Яго вялікасці», а можа, праўда заключаецца ў рашэнні Шаха, рашэнні, якога той яшчэ не прыняў?! Але, дзе ж праўда?! Ясным было толькі адно — і, магчыма, гэта і было праўдай — ён ужо сам усё рашыў для сябе, і разам з войскам вяртацца не будзе. Ці не ў гэтым на самай справе заключалася праўда? Калі праўда не ў яго асабістым рашэнні, дык тады ў чым жа яшчэ?!

З хваляваннем у сэрцы Мамедкулі пачаў абдумваць вынікі свайго намеру. Як усё-такі распарадзіцца Яго вялікасць з гэтай просьбай?! Змрочныя думкі

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 9, 2011 г.

раздзіралі яго. Ён прыпомніў грозны загад Шаха, які Яго вялікасць аднойчы прадыктаваў свайму пісару: «Пішы, Мірза Садрадзін, пішы. Напішы, што ўсяго за дзве гадзіны ўзялі гэты вялікі горад і ўсіх непакорных тут паставілі на калені. Але, хай ведае ўсё войска, жыхары горада — нашы браты і сёстры па веры. Яны збіліся са шляху, і мы далі ім урок. Цяпер яны возьмуцца за розум, гэта наша краіна, і яны — свой для нас народ, так што не можа быць і гутаркі пра грабежніцтва і беззаконне. Калі будзе хто займацца грабежніцтвам, калі на некага паскардзяцца, хай гэты воін ці самі воіны, не дачакаўшыся таго, што я скажу, самі адправяцца ў распараджэнне ката Мамедкулі, ён ведае, што з імі рабіць, ён пакарае іх». Гэтак Шах дыктаваў Мірзе Садрадзіну, які не адрываў вачэй ад пяра, і дадаў яшчэ нешта: «А цяпер вось што напішы! Калі хто намерыцца застацца, прыжыцца ў гэтым скароным горадзе, без усякіх сумненняў: увесь яго род, усе яго нашчадкі панясуць вялікія страты.

Таму што тут нават паветра, якім мы дыхаем, згінаецца ў тры пагібелі. І паветра, і камяні, і вада, і хлеб, і нават малое зерне — усё-ўсё, што зазнала паражэнне, ужо вылегчана. Толькі таму, хто ні ў што не ставіць мяне і нашу перамогу, можа прыйсці ў галаву такая думка».

* * *

Вестка пра тое, што Мамедкулі звярнуўся да Шаха з такой страшнай просьбай, разышлася быццам па паветры, з вуха ў вуха, з хаты ў хату, дзясятнік расказаў дзясятніку, сотнік — сотніку. Усе вяльможы, усе ўплывовыя асобы, начальнікі атрадаў замерлі ў чаканні: як жа, якім чынам пакарае Шах свайго любімага ката і ці пакарае ўвогуле?! А раптам кат Мамедкулі ўсё ж здзейсніць сваю дзёрзкую мару і застанецца ў гэтым горадзе, не вернецца назад разам з войскам, раптам Шах заплюшчыць вочы на яго нечаканую і дзіўную выхадку... кожны вытлумачваў гэту падзею па-свойму.

Аб тым, якое рашэнне прыняў Шах, на працягу некалькіх дзён ніхто нічога не паведамляў Мамедкулі. Бедны кат затаіўся ў трывожным няведанні. Вядома ж, ён здзейсніў ракавую памылку, але выправіць яе ўжо нельга было. Ён падумаў: «У войску Шаха ёсць чалавек мне на замену — Шахвярэн... Дасць Бог, Шах змілуецца, адпусціць мяне. Спадзяюся на цябе, мой Божа!» Тое, што было ў Мамедкулі ў галаве, міжволі зрывалася і з яго языка. У яго быў памочнік, стары раб, з якім ён часта раіўся, дзяліўся сумненнямі, раскрываў душу. Гэты верны стары раб, кожны раз размаўляючы з Мамедкулі, ківаючы чорнай галавой, паўтараў апошнія яго словы, кожны раз «было не было, трэба спадзявацца на Бога», паўтараў, а потым замаўкаў. І кожны раз з цьмяных, пранізаных страхам вачэй старога нязменна скочвалася сляза, ён шкадаваў Мамедкулі, прыкіпеў да яго сэрцам, акрамя Мамедкулі не было ў яго ва ўсім свеце з даўняе пары ніводнай роднай душы.

Упершыню, даведаўшыся аб чым вядзецца гутарка, стары надоўга змоўк, шмат часу прайшло, пакуль ён, нарэшце, расціснуўшы перасохлыя вусны, прамовіў: «Дай Бог, каб усё абышлося». Але сказаў гэта так сумна, што сэрца ў Мамедкулі зайшлося, і з таго часу ён зарокся не гаварыць аб гэтым ні з кім увогуле. Што ж тут зробіш, хіба ў яго ёсць выйсце, акрамя таго як сядзець і чакаць рашэння, якое прыме Шах? Няма...

Візір Машдалі, выбраўшы момант, давёў да Шаха ніжэйшую просьбу ката Мамедкулі, і так пашкадаваў аб гэтым, што нават не мог прыпомніць, ці адчуваў калі-небудзь раней падобнае пачуццё. Пасля доўгі час дакараў сябе за гэта, каяўся. Яго словы мелі страшны вынік, здавалася, быццам вочы Яго

міласці вырвуцца з арбіт, паляцяць і, як пчолы, уджаляць вочы візіра. Лоб Шаха перасякалі глыбокія маршчыны. Гэта быў нечаканы для яго ўдар. І ад каго — ад яго слугі, ката Мамедкулі, да якога ён, сам таго не хочучы, з цягам часу прыкіпеў душой. Гэтыя абставіны ўдзесяцярылі гнеў і ярасць Шаха. Голас яго раптоўна асіп:

— Так... Рана ці позна гэты кат павінен быў выявіць сваё кепскае паходжанне, і ён зрабіў гэта. Шкада, вельмі шкада... значыць, служэнне нам ён лічыць ніжэй за сваю годнасць. На што і на каго спадзяецца гэты дзёрзкі выскачка, можа, ты ведаеш, візір?! Ты не можаш не ведаць, хіба не тваім чалавекам быў гэты бязродны, ты не забыўся, як пасадзіў яго на нашу шыю. Павесіць яго трэба было яшчэ тады, павесіць, а што зрабілі мы? Узялі яго на службу, чалавекам зрабілі. А ён нам так аддзякаваў... Што ж здарылася, як такое магло стацца? Калі ў паходзе збягае кат, калі ўсе пабягуць, хто куды пажадае, чаго ж нам тады чакаць?! Калі ўсё так, навошта я вам патрэбен? Ну, што міргаеш, маўчы, маўчы, будзе лепш, калі ты ўвогуле праглынеш свой язык, хіба ў цябе ёсць што сказаць?! Хіба я гавару няпраўду, візір? Няўжо ты думаеш, што я забыўся гісторыю яго жыцця?! Хіба не ты з асалодай расказваў казкі пра яго геройства ў маладосці, пра тое, як ён хаваўся ў гарах?! Ён жа сваю маці... адправіў на той свет, ці не так?! Чым жа ён аддзякуе мне за маю дабрыню?! Эх... ведаеш, хто ва ўсім вінаваты? Вядома ж, я. Ты закапаўся ў сваё маўчанне, як мыш у крупы. А што табе яшчэ застаецца?! Так, я вінаваты, я адзін ва ўсім вінаваты.

— Не гавары так, святло маіх вачэй, не гавары, рану за ранай наносіш ты мне проста ў сэрца, ды буду я ахвярай тваёй. Што мне адказаць табе, табе, хто для мяне стаіць нараўне з самім Богам? Адкуль было мне, беднаму, ведаць, што ён будзе такім нядобранадзейным, што ён — сабачае насенне, ускормленае малаком сучкі, але я павінен быў ведаць. Не, віна цалкам мая, і я гатовы буду панесці любое пакаранне, ды буду я тваёй ахвярай. Ісціну ты сказаў, ён, гэты бязродны нягоднік, нахабнік, збіўся з дарогі. І як жа гэта я за такога прасіў цябе! — Візір Машдалі адчуў, як халодны пот на яго спіне сцякае да самых пят. Глянуўшы краем вока на візіра, Шах не стаў яго больш слухаць, гнеўна працягваў:

— І гэты акаянны здраднік, бунтар яшчэ просіць за сына Шахвярдзі, ці не так. Ён яшчэ мае нахабства ўказваць мне, што рабіць, каго браць на службу да сябе… Што ж, візір! Я не жадаю больш губляць свой час на яго. Так… Трэба прыпадаць яму ўрок. І гэты ўрок будзе навукай усім астатнім. Падыдзі бліжэй, навастры свае вушы, слухай уважліва.

На гэтых словах ці не завалакла вочы Шаха непраглядная зімняя ноч? — завалакла… Вочы Шаха застылі ад холаду, замерзлі яго бяздонныя вочы. І тое, што цяпер Шах гаварыў візіру Машдалі, злятала з яго вуснаў, яно вылівалася проста з яго зрэнак…

* * *

У той жа дзень вечарам, вяртаючыся ў свой асабняк з шахскага палаца, візір Машдалі заходзіўся ад таго, што сціснула ў грудзях, яму не хапала паветра, але адначасова ён адчуваў і страх, і нясмелую радасць. Ён ратаваўся ад гневу Шаха — гэтаму, вядома ж, быў бязмерна рады, за што і ўзносіў хвалу Богу. Але візір Машдалі памятаў таксама і тое, што хутка Мамедкулі, як і звычайна, прыйдзе да яго даведацца, ці няма адказу ад Шаха на яго просьбу. Ён ціха прыходзіў кожны дзень і ціха сыходзіў, сёння таксама абавязкова прый-

дзе. Увайшоўшы ў дом, візір на ўсякі выпадак паклікаў фарраша і загадаў яму, каб той сёння вечарам нікога не пускаў у двор, асабліва тых, хто хоча бачыць яго, каб гаварыў, што ў візіра моцна баліць галава, жар, што ён прастудзіўся, мусіць, і збіраецца легчы ў ложак. Затым, падумаўшы, візір дадаў: «Учарашнія слугі зараз адпачываюць, дык ты іх падымі, хай будзе сёння паболей прыслугі ў доме і ў двары, а дзверы і вокны зачыніце зараз жа».

Аддаўшы распараджэнні, візір Машдалі накіраваўся ў адзін з самых аддаленых пакояў, увайшоўшы ў пакой, ён нешяк дзіўна ўздыхнуў, і адначасова з гэтым сіплым уздыхам у яго вырваўся з памяці забыты ўспамін, падобны да ўзору старых дываноў, і ўстаў перад вачамі, быццам наяве. Памахваючы рукой, быццам сляпы, што рассейвае вакол сябе дым, ён прагнаў гэты няпрошаны ўспамін, сам разаслаў для сябе пасцель і акунуўся ў яе цяпло, не распранаючыся. Накрыўся шарсцяной коўдрай так, што нават макушкі было не відаць. Няўжо ён сказаў праўду фаррашу? Толькі цяпер ён адчуў, што і на самай справе ў яго жар, яго стала злёгку калаціць. Але гэтыя дрыжыкі маглі быць выкліканы хваляваннем, якое ён адчуў, пачуўшы рашэнне Шаха. Ліхаманка хвалямі то адводзіла яго памяць да нядаўняга ўспаміну, то, пужліва адштурхоўваючы яго, прыводзіла зноў у мяккую пасцель, пад шарсцяную коўдру.

* * *

Вось што прыпомніў ён, як у час трызнення. Аднойчы нукер далажыў візіру, той ужо збіраўся легчы спаць, што нейкі чалавек стаіць ля дзвярэй і дабіваецца сустрэчы з ім, намерваючыся пагаварыць аб нечым вельмі важным.

— Ён даволі малады, ага, увесь абраслы, з вялікай барадой, вочы ледзь бачны з-пад доўгіх валасоў, нечым падобны да збеглага ці нават разбойніка. Ніяк не адчапіцца ад яго, клянецца, быццам ты ведаеш яго.

— Хто ён, як яго завуць? — Візір запытаў машынальна, не ўдумваючыся ў словы слугі.

— Гэтага не ведаю, ага, ён не сказаў. Даведацца?

— Не, прывядзі яго сюды, паглядзім, чаго ён хоча. Хто б ён ні быў, раз звярнуўся да нас, значыць, у гэтым была неабходнасць. Прывядзі, хай сам раскажа.

Услед за нукерам у пакой візіра Машдалі ўвайшоў статны, дужы малады мужчына, яго доўгія валасы і барада былі якраз як у дэрвішаў. Візіру ён нікога не нагадваў, хаця той уважліва агледзеў яго.

— Хто ты, чым займаешся? З якога ты роду? — пацікавіўся візір Машдалі.

— Ты ведаў майго бацьку-нябожчыка, ага. Мой бацька быў сарванам у караване Шаха.

Візір Машдалі толькі хацеў сказаць «Назаві імя твайго бацькі», як раптам штосьці паплыло ў яго вачах: фігура панурага, валасатага маладога мужчыны, які стаяў перад ім, быццам раздваілася, і ён імгненна пазнаў у тым цені, што аддзяліўся, друга свайго дзяцінства і маладосці сарвана Гадзіргулу. Гадзіргулу быў усё тым жа — рослым, дужым, з ласкавым выразам твару, — якім ён і запомніўся Машдалі. Ён ціха стаў збоку і глядзеў на Машдалі даверлівым, пільным, крыху пакрыўджаным і сумным позіркам. Прайшло імгненне ці нават вечнасць… Візір Машдалі з ныючым сумам у сэрцы ўтаропіўся ласкавым позіркам у свайго далёкага сябра, нарэшце яны развіталіся вачамі, і цень сарвана Гадзіргулу падаўся ў бок свайго сына, лёг на яго, растварыўся ў ім.

Візір Машдалі на адным дыханні не запытаў, а сказаў упэўнена:

— Мамедкулі, гэта ты?!

— Так, я.

— Цяпер я пазнаў цябе. Што прымусіла цябе прыйсці ў такі позні час?

— Прыйшоў, каб прыпасці да тваіх ног. Хачу жыць, не хаваючыся, як дзікі звер. Здаюся. Не склаўся мой лёс. Але ўсё было не так, як прыпісваюць пагалоскі…

— Што ж прыпісваюць табе, Мамедкулі? Падыдзі бліжэй, прысядзь. З ежы, пітва бяры ўсё, чаго душа жадае.

— Не, дзякуй. Не хочацца нічога. Выслухай мяне, даволі будзе і гэтага. Выслухай і рашы — вінаваты я ці не, ты скажы… Табе давяраю маё жыццё.

Візір Машдалі, вядома ж, чуў аб тым, што Мамедкулі падаўся на ўцёкі. Але не ўяўляў сабе нават у агульных рысах, як і чаму такое магло атрымацца. Нямала плётак і чутак ахутвала жыццё бегляка, праўда пра тое, што здарылася з ім, была заблытана так, што нават не ўяўлялася магчымым ухапіцца хоць за якую-небудзь яе нітачку. Стаўшы бегляком, Мамедкулі доўгі час не падаваў аб сабе ніякіх звестак, так і балбаталі пра яго, што каму ў галаву прыйдзе. Але адна справа, калі пра яго гаварылі іншыя, а тое, што ён сам загаварыў — зусім іншая рэч. Калі Мамедкулі, нічога не ўтойваючы, расказаў праўду аб сабе, візір не мог адарваць вачэй ад юнака, якога ведаў з дзяцінства, цяпер перад ім сядзеў чалавек, які выглядаў куды старэйшым за свой узрост. Ад гісторыі гэтага няшчаснага юнака валасы ўсталі дыбам у Машдалі.

Мамедкулі, без сумнення, гаварыў усё, як ёсць, шчыра дзяліўся сваімі думкамі, гаварыў, апусціўшы галаву, няспешна, без усякага бачнага хвалявання. А візір Машдалі цярпліва слухаў яго. Гісторыя ж заключалася ў наступным. Бацька Мамедкулі, сарван Гадзіргулу, вярнуўшыся аднойчы з доўгага паходу з караванам на радзіму, у той жа дзень вечарам у сваім доме быў забіты разбойнікамі. Добрым ён быў чалавекам, ціхім, жыццё яго працякала ў вандроўках па розных землях. Заблытаная, цёмная аказалася гэта справа. Шапталі людзі, што яго забойства проста прыпісалі разбойнікам. Па іншых звестках, праваднікі каравана, з якімі Гадзіргулу разам ішоў з самой Аравіі, пакваплiся на яго грошы і тавары і, прабраўшыся ў дом, забілі яго. Аднак крыху раней ён, адчуўшы нядобрае, паспеў вывесці тады яшчэ малалетняга сына Мамедкулі праз заднія дзверы ў двор. Забойцы, распраравіўшыся з Гадзіргулу, потым быццам бы падвергі нябачным катаванням яго жонку, патрабуючы ад яе ўказаць месца, дзе схавана золата, але ім не ўдалося дабіцца свайго. Яна аказалася хітрэйшай і сумела падмануць іх. Вырваўшыся з рук разбойнікаў, жанчына збегла да суседзяў, у дом купца Забулы, стрыечнага брата мужа. Праляталі гады, але чуткі пра гэта зладзейства прадаўжалі па-ранейшаму бударажыць людзей. Як тыя пчолы, што лятуць на кветкі, чуткі гэтыя, нарэшце, даляцелі і да вушэй Мамедкулі, калі ён ужо быў падлеткам. Тады ж яму і адкрылася тайна таго, чаму загінуў яго бацька. Выявілася, што гісторыя пра рабаванне і забойства Гадзіргулу пагоншчыкамі каравана, а таксама іншыя падобныя байкі — усё гэта хлусня чыстай вады, пустая балбатня. Праўда заключалася ў тым, што забойства мужа падстроіла яго ўласная жонка, згаварыўшыся з тым самым сваяком Гадзіргулу, аднавокім купцом Забулой. Ды і як было не падрыхтаваць для няшчаснага пастку… Уступіўшы ў прылюбадзейства, са страхам чакалі палюбоўнікі яго вяртання дадому, баючыся таго, што вестка аб іх распусце, а гэта яшчэ ў адсутнасць Гадзіргулу выйшла наверх, дойдзе і да яго. Баяліся яны не марна. Родныя, суседзі прыкмецілі іх частыя сустрэчы, тое, як яны прабіраліся тайком з аднаго двара ў другі, і сталі небеспадстаўна падазраваць парачку.

Нарэшце і да Мамедкулі, у той час падлетка ўжо, дайшлі гэтыя плёткі. З той пары ў яго з галавы не выходзіла здрада маці. Ён доўга цярпеў, у думках

прыкідваў усё, і вось аднойчы перад сном звярнуўся да маці, якая ў іншым пакоі ўжо збіралася легчы спаць, сказаў нязвыкла хрыплым голасам: «Піць хочацца, прынясі мне вады». Калі жанчына ўзяла ў рукі збан і выйшла ў двор, Мамедкулі тайком пайшоў услед за ёй, падкраўся да яе ззаду якраз ля каладзежа. Маці, якая стаяла да яго спінай, у апошні момант, адчуўшы нечую прысутнасць, павярнула галаву, і, убачыўшы нечакана сына, які з'явіўся невядома адкуль, схамянулася ад перапалоху. «Мамедкулі, гэта ты?» — чамусьці разгублена запытала яна, але яе пытанне растварылася ў начным паветры. Яна яшчэ раз уважліва паглядзела ў яго цвёрды, як камень, твар, і, усё зразумеўшы, задумалася на імгненне, больш нічога не сказала. Толькі асуджана, са смуткам паспела шапнуць: «Ла іляха ілялах… Няма іншага Бажаства, акрамя Бога адзінага…» У тое ж імгненне адным рэзкім ударам Мамедкулі штурхнуў яе ў калодзеж. Не выдаўшы ні гуку, яна знікла з вачэй… Адразу ж, не марудзячы, не думаючы аб тым, што нядаўна здзейсніў, Мамедкулі знайшоў схаваныя бур'яном маленькія патайныя дзверы, якія вялі з іх двара ў суседні, і дзверы, хоць і з цяжкасцю, але бясшумна адчыніліся. У тую цёплую летнюю ноч Забула бесклапотна спаў, рассцяліўшы пасцель ля самай сажалкі ў садзе, яго адрывісты храп быў чуцен здалёк, палохаючы пужлівыя кусты руж, што выстраіліся ўздоўж агароджы. Мамедкулі з усяе сілы па самую рукаятку ўсадзіў кінжал проста ў яго сэрца. Перад тым, як душа Забулы накіравалася з тленнага цела ўвысь, прабіраючыся праз вочы, ён са здзіўленнем шырока расплюшчыў іх, убачыў над сабой цёмны твар Мамедкулі, глыбока, булькаючы крывёй, уздыхнуў, як ні намагаўся, збіраючы рэшткі сілы, прыпадняць галаву не змог, у ім хапіла жыцця толькі на тое, каб усміхнуцца. Нават смерць не сцёрла гэту апошнюю ўсмешку на яго вуснах.

* * *

Прайшло шмат дзён пасля тых крывавых падзей. Ці было што чуваць за гэты час пра Мамедкулі? Не, не было… ён пусціўся на ўцёкі, сышоў у горы, згубіўся, схаваўся ад усіх, асобныя гады яго жыцця праляцелі хутка, а нейкія цягнуліся марудна, лёс бегляка састарыў яго. І вось цяпер ён сядзіць перад ім. Што патрэбна ад шахскага візіра гэтаму гаротніку?

— …Не хачу больш хавацца, хачу паступіць на службу да Шаха, заступіся за мяне перад Яго вялікасцю, дзеля майго бацькі, ён цябе паслухае. — Гэтымі поўнымі мальбы словамі Мамедкулі закончыў свой нялёгкі расказ, на імгненне падняў галаву і, зірнуўшы ў здзіўлены твар візіра, зноў апусціў яе, змоўк.

Узнікла насцярожаная цішыня. Візір Машдалі, паразважаўшы пасля расказа юнака, нарэшце, ачуўся ад дум і запытаў у яго:

— Ты гаворыш аб службе ў Шаха, але якую службу ты маеш на ўвазе?

Ад яго адказу валасы зашавяліліся на галаве ў візіра. Мамедкулі сказаў:

— Я стаў бы катам, ага.

Вымавіўшы гэту фразу на адным дыханні, ён нарэшце адчуў палёгку а тое, што Мамедкулі сказаў потым, прызначалася больш яму самому:

— Я стаміўся бадзяцца, ад блуднага жыцця ў гарах, надакучыла… Днём і ноччу… Мне не даюць спакою цені. І ад гэтых крыважэрных ценяў мне няма ратунку, нават у пякельнай начной цемры яны мазоляць вочы, не даюць спакою душы… малю цябе аб заступніцтве, ты быў дабрадзеем і сябрам майго бацькі, дзяліў з ім хлеб. Бог ведае, а цяпер ведаеш і ты, няма на мне віны за мае справы… Клянуся, чысты я і перад Богам, і перад Шахам, і перад людзь-

мі. Хіба мог я адплаціць чорнай няўдзячнасцю бацьку майму, кармільцу? Кожную ноч ён сніўся мне. «Дзіця маё, хіба ты не сын мне, як ты можаш спакойна спаць начамі? Калі забойцы твайго бацькі кладуцца ў яго пасцель, топчуць яго годнасць, апаганьваюць яго памяць, як ты церпіш усё гэта, сынок Мамедкулі?» — пытаўся дух бацькі ў мяне. А пасля таго… ён не сніцца мне больш, ні аб чым больш не пытаецца. Мусіць, знайшоў спакой.

Сэрца візіра Машдалі памякчэла. Праводзячы хлопца, ён паабяцаў яму, што як толькі надарыцца выпадак, закіне слоўца за яго Шаху. «Можа, што-небудзь ды атрымаецца?» — запалыя вочы Мамедкулі заблішчалі. «Прыйсці мне па адказ праз два дні?» — запытаў, і, пачуўшы: «Прыходзь», — ён з надзеяй у сэрцы, узносячы малітву Богу за дабрабыт візіра, выйшаў з яго дома.

* * *

Шмат пазней, калі візір Машдалі змог сваімі вачамі ўбачыць работу Мамедкулі, ён спачатку быў уражаны яго стараннасцю і руплівасцю. Але здзіўленне візіра знікла пасля таго, як да яго вушэй даляцелі словы старога нявольніка — памочніка Мамедкулі. Вось што сказаў стары, падручны ката: «Тое, з якой стараннасцю і пылам карае гэты чалавек вінаватых і не вінаватых, адсякае галовы, душыць дзяцей, дазваляе яму забыцца пра свае пакуты, а ён зведаў страшэнныя пакуты, нялёгка вытрымаць такое. І вось ён вядзе гульню з жыццём і смерцю, карае, катуе людзей, разганяючы цемру сваёй адзіноты, спароджанай гэтымі пакутамі, жадаючы пазбавіцца ад гора, калі ад такога можна пазбавіцца…»

Стары нявольнік быў чалавекам бывалым, пачуўшы гэтыя яго словы, візір Машдалі прыкусіў палец і падумаў: «Мусіць, у гэтым ёсць нейкая ісціна».

## Раздзел XII

«…Госпадзі! Бог мой мілы, памажы… Памажы, каб усё на гэтым свеце прадаўжала свой шлях па прызначаным рэчышчы — рэкі, як і заўжды, цяклі зверху ўніз, дрэвы, травы, кветкі цягнуліся да сонца, дажджы падалі з неба на зямлю, а не наадварот, цені, спадарожнікі святла, рухаліся следам за людзьмі, у кахання былі тысячы імёнаў і назваў, жыццё папярэднічала смерці, і ні адна жывая душа не збілася з таго шляху, што вядзе ад пачатку да канца…

О Госпадзі, памажы, каб хвіліны, гадзіны і дні не гублялі сваёй раўнамернай хады, не аспрэчвалі першынства паміж сабой, не ўстройвалі таўханіну, а, наадварот, акуратна і цярпліва рухаліся ўслед адно за адным…»

Паглядваючы на вуліцу праз акно з пакоя для гасцей на другім паверсе дома Караванбашы, чараўнік Сайях мармытаў сабе пад нос вірд і ўсялякі раз пераконваў сябе ў тым, што ход часу не парушалі пакуль ніякія змены і катастрофы. Што хвіліны і гадзіны змяняюцца суразмерна няспешным поступам вартавых, што з аголенымі мячамі ў руках крочаць узад-уперад перад палацам Шаха. Нічога нідзе не адбывалася. І неба ўсё ніяк не афарбоўвалася ў той самы колер, якога чакае чараўнік Сайях і які так неабходны яму. Калі б яго самога запыталі, што гэта за колер, на які толькі глянуўшы, ты можаш прыступіць да вядзьмарства? — ён бы не змог толкам адказаць. Ён адчуе патрэбны колер нутром. Сэрца падкажа яму — вось яно, прыйшло доўгачаканае імгненне, гадзіны і хвіліны зліліся разам, час узрушыла навальніца, і на небе адбілася

танальная палітра гэтай буры, увесь небасхіл ахоплены гэтым… як бы тут сказаць… Ён і сам не ведаў, якімі словамі можна перадаць гэты колер… Не ведаў, як адважылася неба запаліцца гэтымі неймавернымі фарбамі, як магло такое здарыцца…

* * *

Часам чаканне бывае лепшым за тое, чаго чакаеш… Ночы ў чаканні — ночы доўгія, ночы салодкія… у адну з такіх начэй Хаджа Ібрагім ага і чараўнік Сайях сядзелі насупраць адзін аднаго, твар у твар, скрыжаваўшы ногі і абапёршыся локцямі на мяккія падушачкі. Сядзелі на яркім рознакаляровым дыване ў пакоі, дзе размясціўся чараўнік. Хаджа Ібрагім ага нават дыхаў з асцярожнасцю, баючыся разладзіць думкі мага, і таго, што іх размова можа абарвацца. А размова гэта была для Хаджы страшэнна цікавай.

— …Ты ведаеш праўду. Пасля пагібелі Ак дэрвіша яго вучні скончылі жыццё самагубствам. Так, гэтае самагубства звязана са смерцю нашага Устада, яго пагібель нанесла смяротную рану нашым сэрцам. Самагубства вучняў збянтэжыла членаў Вялікага Саюза Духавенства, яны захацелі выявіць сапраўдную прычыну таго, чаму маладыя людзі вырашылі паквітацца з жыццём. Сейід Сары пажадаў убачыць мяне, і мяне прывялі да яго. Гэта быў ужо не той уплывовы, агнядышны член Вялікага Саюза Духавенства Сейід Сары, які, выпучыўшы грудзі, некалі супрацьстаяў Ак дэрвішу, перада мной сядзеў паніклы, нямоглы, з мітуслівымі неспакойнымі вочкамі раб Божы, на маршчыністым твары якога выступалі буйныя кроплі поту. Я стараўся праясніць яму ўсё, што было незразумелым. А ён з настырнасцю ў голасе вось пра што запытаўся ў мяне:

— Чаму ж ты не пайшоў услед за Настаўнікам і сваімі таварышамі? Не замахнуўся на сваю душу?

— Мая душа не належыць мне. Душу дае Тварэц, ён і забірае яе.

— Мне падабаецца твой адказ. Я звязваю з табой пэўныя спадзяванні. Трэба, каб ты адмовіўся ад Ак дэрвіша перад Вялікім Саюзам. Зробіш?

— Я адмоўлюся ад яго вучэння. Яшчэ што?

— Ты павінен адмовіцца і ад таго, што быў яго вучнем…

І тады я прамаўчаў.

— Чаго ты маўчыш? — Мітуслівыя вочы Сейіда Сары ніяк не маглі засяродзіцца на маім твары.

* * *

У першую ж ноч пасля таго, як я пакінуў краіну Чэрхі-фелек, мне прысніўся сон. Прыснілася, быццам белае адзенне аднаго з дваццаці трох вучняў, што кінуліся з абрыву дзеля помсты, перад тым як упасці на зямлю, ператварыліся ў крылы, і ён, імкліва падняўшыся ўвысь, аказаўся проста перада мной, там, дзе я затаіўся. Ён быў адным сярод тых, каго я па-сапраўднаму любіў, ён быў маім сябрам. І Ак дэрвіш заўсёды з асаблівай цеплынёй ставіўся да нас абодвух. Гэты чалавек так сказаў мне ў сне:

— Тое, што ты не паляцеў разам з намі, безумоўна, мае нейкі сэнс. І табе таксама вядома, што на самай справе Ак дэрвіш памёр толькі целам, а не душой. Цяпер яго душа зноў нарадзілася, нарадзілася ў іншым целе і ў іншым месцы. Сэрца яго ўжо б’ецца. Прыслухайся, ты распазнаеш біццё гэтага сэрца.

Тут я раптам зразумеў, што з самага пачатку майго сна ў небе над галавой так і грукоча — «тах… тах-тах…», і шум гэты ніяк не сунімаецца. А ён прадоўжыў:

— Ты павінен шукаць яго і знайсці…

— Але як і дзе? — здзівіўся я.

— Заклінаю цябе духам святой Рабіі. Ты будзеш ісці дзень за днём, куды ногі цябе павядуць. І кожную ноч табе будуць сніцца дзіўныя, незвычайныя сны. Гэтыя сны накіруюць цябе з вёскі ў вёску, з аднаго горада ў другі, з дзяржавы ў дзяржаву. Але надыдзе ноч, калі табе нічога не прысніцца. Гэта і будзе азначаць, што ты дабраўся да патрэбнага месца, прачнуўшыся раніцай, ты ўбачыш Устада побач з сабой.

— Убачу Ак дэрвіша?

— Так, іменна яго!

— Але як я даведаюся, што гэта ён? Якім чынам адбудзецца наша сустрэча?

— Калі ты, прачнуўшыся, убачыш яго побач, ён скажа табе: «Міласці просім…», а ты падхопіш і прадоўжыш словамі: «З добрасцю…»

— Міласці просім.. з добрасцю?... — паўтарыў я, а мой сябра прашаптаў:

— Пара, мне, пара адыходзіць. А то яны вось-вось упадуць на дно прорвы… Ты, вядома ж, зробіш усё, як я сказаў. Але ведай, важна, каб ты ведаў — ён сам хоча, каб усё адбылося іменна так.

Сказаўшы гэта, любімы мой сябра ў апошні раз паглядзеў на мяне, яго белае адзенне зноў напоўнілася ветрам, і ён паляцеў каменем, як забітая птушка, уздоўж абрывістага схілу ўніз, уніз… І знік…

Ледзь дачакаўшыся раніцы, я яшчэ да світання, абапіраючыся аб посах, у адной кашулі пакінуў той ненавісны горад. Я ішоў туды, куды вялі мяне ногі. І, сапраўды, гэта падарожжа цягнулася доўга-доўга…

* * *

Тут чараўнік Сайях зрабіў перадышку і на некаторы час акунуўся ў цёмныя нетры сваіх думак. Хаджа Ібрагім ага не адважыўся нават пікнуць, ён таксама маўчаў. Нарэшце, абрываючы пакутлівую паўзу, Хаджа, пасмялеўшы, усё-такі ціха запытаў:

— І ці знайшоў яго?

Чараўнік адказаў коратка, рашучым голасам:

— Вядома ж, знайшоў…

— Мусіць, ты нямала нацярпеўся на гэтым шляху?..

— За тое, што застаўся ў жывых, нямала выпрабаванняў выпала на маю долю. Але я быў поўны рашучасці выканаць абяцанне. Я ўсё роўна знайшоў бы яго, чаго б мне гэта ні каштавала. Я павінен быў папрасіць у яго прабачэння за мой грэх. Нягледзячы на тое, што ў час маёй апошняй размовы з Сейідам Сары, той сказаў мне наступныя словы: «Ведай, на табе няма ніякай віны. Ты проста не вытрымаў таго, як вера наша ўвайшла ў тваё сэрца і акрыліла на гэта здзяйсненне. Не мучай сябе, калі хто і вінаваты, дык гэта вандроўнік, што назваў сябе Ак дэрвішам. Гэта ён зачараваў сваіх вучняў любоўнымі чарамі. Ён нават не тутэйшы, род яго паходзіць з так званай Нябачнай гары…

— Што за Нябачная гара, чаму адтуль? — не хаваючы цікаўнасці, запытаў я.

Сейід Сары маўчаў. Здавалася, ён не мог вырашыць, адкрываць мне гэту тайну ці не. Вочы яго зноў забегалі, ён з вялікай цяжкасцю адолеў сумненні, і паступова позірк яго зацвярдзеў, і ён загаварыў:

— Далёка-далёка адсюль ёсць адзін вельмі дзіўны край. У нейкі момант ён то знікае з людскіх вачэй, то зноў з’яўляецца пасля. Ніхто не можа растлумачыць, як здараецца, што такая вялікая краіна, гарады, дарогі, сцежкі, вёскі, знікаюць з поля зроку. І, з’явіўшыся зноў, праз пяць, дзесяць ці нават пяцьдзясят гадоў, прадаўжае жыць сваім звычайным жыццём, так, быццам нічога і не адбывалася. Жыхары тых мясцін самі не ведаюць, калі і як іх край знікае, дзе ён хаваецца, на небе ці на зямлі, і ў які момант паказваецца зноў. Паблізу ад іх сталіцы, побач з дарогай, што вядзе ў горы, знаходзіцца цясніна, а на другім баку дарогі размясцілася гара. Але на самай справе ніхто не ведае і таго, ёсць там гара ці не, таму што і гары нідзе не відаць. Тыя смельчакі, што рызыкуюць узабрацца па схіле гэтай гары на яе вяршыню, быццам бы ступаюць у пустаце. Унізе ля гары ёсць даліна, якую называюць Далінай Чараўнікоў. Ведзьмакі з усіх канцоў свету сабраліся там. І стварылі кола… Паміж сабой яны яго называюць Колам Цемры, і ўсе свае вядзьмарскія чары накіроўваюць на тое, каб прывесці цемру ў свет людзей. Калі кола замкнецца, магчыма, яны змогуць завяршыць задуманае. А пакуль што ў гэтага кола не хапае аднаго невялікага звяна… Уся магічная моц на зямлі сканцэнтравана ў той даліне. — Ён памарудзіў: — А цяпер паслухай уважліва, што я скажу:

— Ды гаварыце, я слухаю, — з нецярпеннем сказаў я, і Сейід Сары сумна прадоўжыў:

— Ак дэрвіш вярнуўся да сваіх вытокаў, да самага пачатку. Цяпер ён перасяліўся ў іншае цела і вярнуўся да нас. Зноўку з’явіўся на свет, быццам нованароджанае дзіця. Хіба ты не пазнаеш стук яго сэрца?

Сейід Сары замоўк і, навастрыўшы вушы, пачаў круціць галавой, імкнучыся ўлавіць гукі, якія былі чуваць толькі яму аднаму. Ва ўсякім разе, я нічога не пачуў.

— Вядома ж, ён перарадзіўся. Ён і з’яўляецца тым звяном, якога не хапае ў Коле Цемры ў Даліне Чараўнікоў. Калі гэта звяно замкне кола, мы прапалі. Увесь свет пяройдзе пад уладу магаў. На зямлі будзе ўладарыць Цемра, усталюецца апраметнае пекла.

— Як гэта здарыцца, ага? — узрушаны яго расказам, прамармытаў я.

— Вельмі проста. У сваёй кнізе «Гісторыя і падрабязнасці цудаў» Шэйх Асрары Імангятцерміш піша, што апошнім цудам стала з’яўленне Карана, які любімы нам Прарок прыняў ад Алаха і падарыў усяму чалавецтву. Пасля гэтага няма больш месца для цудаў на зямлі. Калі ж усе сілы зла, аб’яднаўшыся, здолеюць сцерці з памяці людзей Каран, гэта і будзе апошнім цудам, пасля гэтага надыдзе канец свету, чорная плёнка ахутае ўсё навокал. Але ж менавіта Ак дэрвіш параконваў усіх нас: іменна таму што ў пачатку было Слова, то і ў канцы было Слова. Усё, кола замкнулася. І ніхто не адчуў гэтага… на гэтым месцы я набраўся смеласці абарваць яго гаворку:

— Што азначае, ага, твой выраз «у канцы было слова»? Ад Ак дэрвіша я падобнага выразу ніколі не чуў. Мы ж яшчэ на дайшлі да канца…

Сейід Сары з невыказнай журбой паглядзеў на мяне. Твар яго прыняў падзіцячы прасветлены выраз, вочы супакоіліся, позірк спыніўся ў адной кропцы — на маім твары, і так, гледзячы на мяне ва ўпор, ён адказаў:

— Ведаеш, мы проста пра гэта не даведаліся, ніхто не даведаўся… Ак дэрвіш не сцярпеў і сказаў аб гэтым услых…

* * *

Хаджа Ібрагім ага са здзіўленнем, раскрыўшы рот, слухаў чараўніка Сайяха, ў галаве ў яго зарадзілася пытанне, і ён задаў яго, калі Сайях замоўк, каб перавесці дыханне. І пытанне гэта ператварылася ў некалькі пытанняў адразу:

— Прабач, але калі, як ты гаварыў… Не, дакладней, як гаварыў Сейід Сары, наш край, жыхары наша краю то бачны вокам, то — не, як такое можа адбывацца? Я да сівых валасоў жыў у гэтых краях, але ні разу не адчуў гэтага. І ніхто нічога такога не заўважаў. Значыць, бываюць часіны, калі мы нябачныя для ўсіх, хто нас акружае? Але куды мы знікаем? І чаму самі не адчуваем гэтага?

Напачатку Сейід Сары не ведаў, што адказаць Хаджы Ібрагім агу. Аднак Хаджа і не настойваў асабліва на гэтым, глянуўшы на Сайяха, які паціскаў плячамі, падумаў: «Э…, адкуль яму ведаць, гэта ж словы Сейіда Сары, а не яго словы». Але чараўнік Сайях усё ж не збіраўся адмоўчвацца, паразважыўшы, ён сказаў так:

— Па-першае, адкуль мы, ты і я, ведаем, гаварыў ён аб вашым краі ці яго словы адносяцца да іншай зямлі. Па-другое, а раптам і зараз людзей з гэтых мясцін, і нас з табой уключна, таксама ніхто не бачыць?! Па-трэцяе, можа быць, той нябачны край знаходзіцца ў ваколіцах Нябачнай гары… можа, цяпер якраз надышоў час, калі яго не відаць?!

* * *

…Хоць Хаджа Ібрагім ага і расказваў кожны вечар Караванбашы аб тым, чым займаўся на працягу дня чараўнік Сайях, гаспадар не вельмі ўдаваўся ў падрабязнасці таго, пра што яны гаварылі паміж сабой, аб чым і аб кім яны гутарылі. Хаджа Ібрагім ага заўсёды адчуваў патрэбу паўдзельнічаць у вучэбнай гутарцы і пагэтаму зараз думаў толькі аб тым, як бы было добра, калі б чараўнік затрымаўся ў гэтым доме найдаўжэй. Цікава, ці адшукаў ён свайго настаўніка ў Даліне Чараўнікоў, а можа, знайшоў іншага замест яго!? Бачыў ці не ён, Хаджа Ібрагім ага, гэтага чалавека, калі спускаўся ў даліну!? Яшчэ цікавей, што сталася з душой таго чалавека, у цела якога ўсялілася душа Ак дэрвіша, куды яна падзелася?! Ці пазнаў Ак дэрвіш свайго даўняга вучня, чараўніка Сайяха?! Цяпер Ібрагім ага разумеў значэнне імені чараўніка. Ён стаў вандроўнікам — Сайяхам, каб знайсці Ак дэрвіша. І калі ўсё сапраўды так, дык тады…

* * *

Так праляцела яшчэ некалькі дзён. Але аднойчы раніцай, калі Хаджа Ібрагім ага, трымаючы ў руках паднос са сняданнем, увайшоў у пакой чараўніка, ён убачыў, што Сайях ужо ўстаў з пасцелі, апрануўся і цяпер, абапёршыся аб падаконнік, уважліва пазірае ўверх, на неба. Хаджа паставіў паднос на дыван, наблізіўся да Сайяха, і, улавіўшы накірунак яго позірку, таксама стаў глядзець у той бок. Аднак нічога асаблівага ён не ўбачыў, неба па-ранейшаму было зацягнута чорнымі хмарамі, і тым не менш, чараўнік Сайях знаходзіўся ў незвычайным напружанні. Ён быццам бы і не заўважаў з’яўлення Хаджы.

— Хай раніца твая будзе добрай. Што здарылася, ці да дабра ўсё? — асцярожна запытаў Хаджа Ібрагім ага.

— Ды дабра ўсё, безумоўна, ды будзе добрай і твая раніца. Сёння ж вечарам, калі на тое будзе воля Алаха, мы здзейснім задуманае. Колер неба падыходзіць. Перадай свайму гаспадару, што яму трэба вярнуцца дадому, ледзь толькі сцямнее.

Адчуваючы пачуцці і радасці, і суму адначасова, Хаджа Ібрагім ага спусціўся ўніз, прайшоў ва ўнутраныя пакоі і знайшоў Караванбашы, які толькі

што сеў снедаць. Пачуўшы навіну, той зрабіў выгляд, быццам нічога не здарылася, але Хаджа Ібрагім заўважыў, што ў глыбіні яго вачэй імгненна мільгануў нейкі цёмны цень і тут жа прапаў.

— Я вярнуся ў час. Скажы яму, не, нічога не гавары. Вечарам сам яму скажу. Ты ж будзь прадбачлівым. Зрабі так, каб нікога з нукераў у доме не было. Нас трое ў гэтай справе — ён, ты і я, больш нікога. А ёй — Караванбашы паказаў галавой на жаночую палову дома, — перадай, хай і яна, і дзіця кладуцца раней і не ўстаюць да таго часу, пакуль я да іх не прыйду. Няхай ні ў якім разе не падымаюцца наверх. А зараз мне трэба ісці на прыём да Шаха, ужо спазняюся крыху, прыйдзецца нешта прыдумаць у сваё апраўданне.

Караванбашы, нават не дакрануўшыся да снядання, падняўся з-за стала, паправіў складкі адзення і, не гаворачы ні слова, ускінуў на плечы накідку, больш ні разу не зірнуўшы ў бок Хаджы Ібрагім агі, выйшаў з дома, нукеры падвялі яго бедуінскага каня, і ён ускочыў у сядло. Звычайна ён вельмі марудна выязджаў са двара, але на гэты раз ударыў каня бізуном так, што той з перапалоху галопам пусціўся ў бок варот, стрымгалоў вылецеў на вуліцу, хутка завярнуў за вугал і панёсся кар'ерам па дарозе, праз імгненне іржанне яго чулася ўжо здаля, з боку Саду з кярызамі.

* * *

Хаджа Ібрагім ага не адводзіў позірку ад варот да таго часу, пакуль Караванбашы на сваім скакуне не вылецеў са двара і не знік з вачэй. «У мяне ёсць час, пакуль не сцямнее», — падумалася яму. Безумоўна, пра многае яшчэ хацелася б даведацца ад чараўніка Сайяха, але аб чым сур'ёзным яшчэ можна спытаць да вечара? Да таго вечара, калі здзейсніцца задуманае, і дух бацькі Караванбашы, ката Мамедкулі, паўстане перад імі. Хаджа Ібрагім ага свята верыў у тое, што ў чараўніка хопіць цудадзейнай сілы для гэтага. Зразумела, што ўсю размову з ім ён запіша пасля. Нядрэнна было б, запісаўшы іх гутарку насталігам[1], змясціць гэты рукапіс у той маленькай бібліятэцы рукапісных кніг, якую ён збіраў з асаблівай дбайнасцю ў розных гарадах, краінах і куточках свету. Заўтра чараўнік Сайях пойдзе, мусіць, назаўсёды, да сябе, у даліну, і калі яшчэ Хаджа Ібрагім ага ўбачыць такога добравыхаванага і вучонага мужа?!

Хаджа Ібрагім ага гэтак жа, як і кожную раніцу, даў некалькі прывычных даручэнняў нукерам, і зрабіў усё так, каб, калі сцямнее, у доме не засталося ніводной душы; затым прайшоў ва ўнутраныя пакоі, знайшоў там жонку гаспадара, пашаптаўся з ёй, пасля гэтага падняўся на другі паверх, дзе быў выдзелены пакой чараўніку, наблізіўся да дзвярэй і ціха пастукаў. Знутры пачуўся голас Сайяха:

— Уваходзь.

Хаджа Ібрагім ага прачыніў дзверы роўна настолькі, каб самому праціснуцца ўнутр. Убачыўшы пусты посуд на падносе, ён зразумеў, што Сайях паснедаў ужо і выпіў чаю, а цяпер сядзіць на куце і чытае вірд.

— Я не патурбаваў цябе? — ласкавым і пачцівым тонам запытаў Хаджа Ібрагім ага.

— Не, ніколькі, — адклікнуўся чараўнік Сайях. Заўважыўшы, што Хаджа Ібрагім ага замарудзіўся, — не ведае, сесці яму ці стаяць як стаяў, ён рукой

---

[1] Насталіг — від почырку ў арабскім пісьме.

паказаў яму на месца, дзе можна прысесці. — Прысаджвайся, калі ў цябе няма іншай, больш важнай справы, сядай, ды і час пройдзе хутчэй, да вечара яшчэ далёка…

Хаджа Ібрагім ага ўзяў з пасцелі пару падушачак, адну з іх працягнуў Сайяху, а другую кінуў на падлогу недалёка ад яго, каб самому аблакаціцца на яе, і сеў, скрыжаваўшы ногі.

— Ці жадаеце чаго? — абапёршыся на падушачку, запытаў Хаджа, — шарбету, фруктаў?..

— Не, дзякую, паеў, папіў, пакуль хопіць, — усміхнуўся Сайях.

Узнікла няёмкая паўза. І Хаджа Абрагім ага рашыўся яе парушыць:

— Я перадаў майму гаспадару твае словы. Ён сказаў, што прыедзе дадому, як толькі сцямнее.

— Добра… Сёння з Божай помаччу закончым гэту справу, я ўжо стаў абузай для вас, загасціўся…

— Ды не, не, пра што гэта ты? Не гавары так. Адносіны з табой дарага каштуюць!

Зноў узнікла тая ж няёмкая цішыня. Быццам Хаджа Ібрагім ага ператварыўся ў маленькае, разгубленае дзіця, якое не ведае, як і аб чым весці гутарку. А ўсё ж для сябе вырашыў, што задасць-такі без усялякіх цырымоній пытанне, якое не дае яму спакою. Хвост тайны ўжо быў у яго ў руках, і цяпер ён, з надзеяй, што ўбачыць усю тайну цалкам, трапятаў, як асінавы ліст. І ён запытаў:

— Богам прашу, хто ж прыняў душу Ак дэрвіша ў сваю плоць?

Чараўнік Сайях чакаў такога пытання ад Хаджы Ібрагім агі, ён злёгку ўсміхнуўся, і маршчынкі на яго твары разышліся ў лад усмешцы:

— А сам не здагадваешся?..

Хаджа хацеў спачатку адказаць «не, не здагадваюся», але ў апошні момант зацiснуў свае паспешлівыя вусны і не даў словам вылецець з рота. Вочы ў яго звузіліся, як у чалавека, які раптам нешта прыпомніў. Ён тут жа заўважыў у вачах чараўніка малады, знаёмы яму твар, які з пяшчотай глядзеў на яго. Так, вядома ж, ён павінен быў здагадацца… Гэта быў той малады чараўнік, з якім ён сустрэўся ў даліне, хто па-сяброўску прывітаў яго і прывёз да Сайяха. Безумоўна, гэта ён. Ніхто, акрамя яго, не мог быць тым чалавекам. І па меры таго, як мацнела яго ўпэўненасць, Хаджа Ібрагім ага пакрысе супакоіўся, ад шчаслівай усмешкі, якая міжволі з’явілася ў яго на твары, ён нават пачырванеў:

— Здаецца, здагадаўся… — голас чараўніка Сайяха, які з цікавасцю назіраў за ім, ішоў здалёк, быццам даносіўся з самой Даліны Чараўнікоў.

— Так, здагадаўся, — стомлена адказаў Хаджа Ібрагім ага.

— Ён назваў мне імя нашай сустрэчы… Было яшчэ цёмна навокал. Але цемра пачала пакрыху напаўняцца святлом. У тую ноч я ўпершыню за доўгі час не бачыў сноў. Упершыню за гады, калі блукаў па гарадах і весях, мне нічога не снілася. Гэта ноч аказалася той самай ноччу, пра якую мне гаварыў мой любімы друг, пакутнік. Расплюшчыўшы вочы, я ўбачыў нейчы твар над сваёй галавой. Ці то чалавек, ці то дух паглядзеў на мяне і ласкава сказаў: «Міласці просім». Я здзівіўся, завараожаны яго меладычным голасам, я нават запамятаваў імя нашай сустрэчы. Потым голас прапаў, але яго сумнае трымценне ўсё яшчэ гучала ў маіх вушах. «Міласці просім», — паўтарыў ён. Затым, убачыўшы, што я не выдаю ні гуку, ён ціха дадаў: «З міласэрнасцю да цябе». Безумоўна, я яшчэ раз пераканаўся ў тым, што перада мной калі не цела, дык, дакладна, душа Ак дэрвіша.

* * *

Седзячы на сваім звычным месцы, Ак дэрвіш раптоўна змяніўся ў твары, ужо каторы раз ён зноў павярнуў галаву і пачаў углядацца паверх Даліны Чараўнікоў у імглу, што клубілася вакол Нябачнай гары. Што ён шукаў у гэтай снежнай буры — пра гэта, акрамя яго самога, ніхто не ведаў і ведаць не мог. У яго вачах гарэла нястомнае чаканне. Яго апаноўвалі змрочныя думкі, і ён, як ні стараўся, не мог пазбавіцца ад іх.

Бліжэй да вечара жыхары даліны разышліся па сваіх месцах. Мінулы дзень быў падобны на ўсе астатнія, ужо пражытыя дні. Усё тое ж — цёплае дыханне вясны, радасны птушыны спеў і яму ў такт трапятанне яблыневых дрэў, крывыя ствалы вінаграда, што тырчаць і тут, і там, здзіўленыя вочкі кветак граната, і сам плод, які сваім цяжарам сагнуў галінку амаль да зямлі… там, за межамі даліны, кожнае з гэтых дзівосаў прыроды ведала свой час, кветкі і плады не маглі бачыць адно аднаго, а тут… часовыя вымярэнні змяшаліся. Безумоўна, на ўсёй зямлі не знайсці падобнага месца. Само існаванне такога куточка прыроды, бясспрэчна, з’яўлялася цудам. Тутэйшыя жыхары, якія акунуліся ў матэрыю гэтага цуду, знаходзіліся ў стане напружанага чакання. Яны пастаянна прыслухоўваліся да сябе, чакалі, што схаваны ўнутры голас раптам загаворыць і паведаміць ім нейкую важную вестку. Кожны з чараўнікоў знаходзіўся ў палоне свайго ўнутранага голасу. Але пакуль што гэтыя галасы гаварылі толькі аб адным: пацярпі, пачакай, прыйдзе час, не спяшайся, пачакай, пачакай… І сэрцы іх біліся ў такт гэтым словам.

Ак дэрвіш адчуў на твары подых вячэрняй прахалоды, пачынала цямнець. Бледнымі асколкамі высыпалі рэдкія зоркі. Хіба гэтыя зоркі не намёк на тое, што з адваротнага боку чорнай заслоны, што насоўвалася на даліну, ззяе яркае святло?... Вядома ж, намёк. Зоркі прарывалі гэту заслону, дзе толькі маглі. Дапытлівыя позіркі чараўнікоў былі скіраваны то ў бок адной, то ў бок другой зоркі…

* * *

— …Бог паказаў нам святло, абазначыў яго межы і прыставіў да яго вартавых. Гэтай мяжой, вядома ж, з’яўляецца сама цемра. Менавіта цемра стаіць на варце ля межаў святла. Зірніце на неба ноччу. Уважліва паглядзіце. Шлях да святла, які прабіваецца скрозь дзіркі, пад назвай «зоркі», і ёсць шлях, што вядзе да Бога. І спачатку гэты шлях пралягае скрозь цемру. Так, шлях цемры з’яўляецца дарогай, якая вядзе да Бога. Я сказаў сваё слова.

— Гэта шлях Сатаны.

— Гэта шлях Бога! Вартавыя цемры ахоўваюць дарогу да святла.

«Не разумеюць… Ніяк не хочуць зразумець. Яны не разумеюць таямніцу цемры. Не разумеюць, што толькі цемра можа прывесці чалавека да святла. Бог мой любімы, ці варта ім тлумачыць такія простыя ісціны? — Ак дэрвіш адчуў, што пачынае паціху стамляцца. — Няхай будзе, што будзе, яны хочуць маю галаву, яны яе атрымаюць. Хіба не гэта было маёй самай запаветнай марай ужо доўгія гады?! Яны стараюцца дзеля цела, а не дзеля душы. Няхай. Я стаміўся. Вельмі стаміўся. Бог мой любімы, няма ў мяне іншай просьбы да цябе, акрамя як… злучыцца з табой, растварыцца ў табе… А зараз мне так дрэнна… Потым, потым ты калі-небудзь зноў адправіш мяне на гэту зямлю, я ведаю, адправіш…»

— Твой шлях — шлях Сатаны. А ты яго паслядоўнік! Ты пасланнік Цемры. Яшчэ пасмеў… бессаромнік, называцца Ак дэрвішам. А некалі ж ты стаяў ля вытокаў шляху, які вядзе да Бога…

«Не, нельга дапусціць таго, каб яны апраўдалі мяне, пашкадавалі. Тады яператваруся ў аднаго з іх. Не! Ні за што! Смерць, толькі фетва[1] аб смерці!!!» Ак дэрвіш без усякай надзеі зрабіў апошняе намаганне дзеля таго, каб памерці:

— Наш сусвет таму і бачны з іншых вымярэнняў, што ён знаходзіцца ўнутры цемры, а не ўнутры святла. Святло належыць цемры. А цемра не належыць святлу. Цемра была першапачаткова. Святло выйшла з яе.

— Багазневажанне!!! Лухта!

— Гэты чалавек не верыць у святло, гэта значыць у ісціну… Скажы, скажы, што гэтыя словы ідуць не ад сэрца, ты неабдумана іх кінуў. Гавары «Божа, упасі…»

— У чым жа тая ісціна, якую ведаеш ты? — голас Ак дэрвіша ўварваўся як гром з яснага неба ў спляценне крыкаў і злосці, адрасуючы сябе перш за ўсё таму, хто загаварыў аб ісціне.

З велічнай прастатой, якая самога Сейіда Сары прыводзіла ў захапленне, той, прывёўшы ў рух свой цень, які падаў на сцяну, папраўляючы на плячах джубе[2], выйшаў наперад, глыбока ўздыхнуў і адказаў на пытанне Ак дэрвіша так:

— Бясспрэчна, ісціна ў тым, што зараз ты і я стаім тут адзін насупраць другога, чуем адзін аднаго. А калі захочацца, можам нават дакрануцца адзін да аднаго…

— Дакрануцца да цела можна. Але па-іншаму — ніяк не атрымаецца! Не! Ісціна не ў тым, пра што ты гаворыш. Безумоўна, не ў тым! Усё зводзіцца да таго, што нашы душы, кожная ў сваім сусвеце, ненавідзяць адна адну.

— Нашы душы — у нашых целах, яны знаходзяцца не дзе-небудзь, а ўнутры нашых цел. Толькі пасля таго, як мы паміраем, наша душа пакідае наша цела. Калі я жывы, гэта азначае, што мой дух не можа знаходзіцца нідзе, акрамя майго цела.

— Не! І яшчэ раз не… нашы душы вельмі далёка ад нас. І там, удалечыні, яны з'яўляюцца нашымі ценямі. Я хачу прывесці гэты цень на зямлю. І тут, на зямлі, злучыць душу з целам, — у галаве ў Ак дэрвіша пранеслася: «Зноў я збіўся са смяротнага шляху. Ну і няхай! Але я павінен гэта сказаць!» — і ён прадоўжыў: — Месца душы тут! Ты ведаеш, без душы няма чым дыхаць. Калі б я змог вярнуць сюды нашы душы… зямля б ачысцілася і ўсё, што дыхае, і свет займеў бы новую сілу. Страціўшы душу, наш свет знясіліўся. Іншыя цывілізацыі захавалі сваю душу і зараз змагаюцца з намі, а мы пакуль што гэтага не разумеем. Толькі з дапамогай душаў мы зможам вытрымаць гэтую барацьбу…

— Замоўкні! Больш ні слова!!!

— Стойце! Вуснамі гэтага чалавека гаворыць зло. У яго ўсяліўся сатана, — Сейід Сары, узняўшы руку, абвясціў апошнія словы абвінавачвання і, злёгку матнуўшы галавой, прагнаў ад сябе прывід аднаго даўняга здарэння. Гэты міраж указваў на першыя ўсходы разладу паміж імі. У тыя далёкія часы яны не маглі адзін без аднаго, дружба іх зарадзілася яшчэ задоўга да таго дня, калі Манучэхр Ібн Садык, іх агульны настаўнік, зрабіў адкрыццё аб «змястоўнасці імгнення». І хіба не гэта «змястоўнае імгненне» раз'яднала двух маладых людзей, якія любілі адзін аднаго ўсім сэрцам. Несумненна, тэорыя раз'яднала і, крок за крокам, прывяла да цяперашняй смяротнай варожасці.

[1] Фетва — рашэнне па якім-небудзь юрыдычным пытанні.

[2]Джубе — манція.

Ак дэрвіш сабраў рэшткі сіл у сваім змучаным катаваннямі целе, яны ўмацавалі яго стомленае сэрца, і ён змог вымавіць:

— Той, хто ўмее бачыць толькі святло, не можа ацаніць яго па-сапраўднаму. Ты гаворыш няшчыра… У мяне… больш… няма слоў.

* * *

Акунуўшыся ў зорнае ззянне, упершыню ў жыцці Ак дэрвіш разгубіўся. Самасць яго знікла. Ён растварыўся, прапаў, ператварыўся, стаў часцінкай святла. Цьмяным успамінам аб тым, што было яго вачамі, ён пашукаў шлях, але не змог нічога знайсці. Часцінкі святла не мелі сваёй дарогі. Выявілася, што цяпер твая дарога і ёсць той струмень святла, якім напоўнена ўсё і паўсюль, вядома, калі гэта можна назваць дарогай. І Сейід Сары, і іншыя знакамітыя і саноўныя члены Вялікага Саюза Духавенства, іх твары, вочы, рукі, ногі, цела кожнага з іх растварыліся ў цемры, якая вітала пасярод зорак. А дарогі не было. Усё навокал было заліта святлом.

Чараўнік Сайях нічым не выдаваў свайго хвалявання з-за таго, што іх гутарка цягнулася так доўга. А Хаджу Ібрагім агу мучыла думка аб адным: а раптам чараўнік стоміцца ад яго роспытаў, і ў таго не застанецца сіл выклікаць дух вылюдка-бацькі Караванбашы, калі надыдзе ноч…

— А што мы называем зоркай? — чараўнік Сайях толькі-толькі пачаў натхняцца гутаркай, — хіба зорка — не адтуліна, не дарога для святла, якое, прабіваючыся праз цемру, даходзіць і да нас? Бясконцае святло знаходзіцца за прадзіраўленай цемрай. Ак дэрвіш гаварыў, што такое зорка. Па сутнасці, зорка не з'яўляецца святлом, зорка — гэта частка цемры сярод праяў святла. А кім з'яўляецца сатана? Хіба сатана не анёл, які, акрамя любімага Бога, не прызнае нікога і нічога, нават насуперак волі самога Бога. Яшчэ святы Рабійе заўважыў, што ў яго ў сэрцы ёсць вялікая любоў да Бога.

«Што такое зоркі?» — пытаўся Сейід Сары. І Ак дэрвіш адказваў так: «Зоркі — гэта часцінкі бясконцага святла, якое даходзіць да нас і якое мы, смяротныя, не можам спасцігнуць розумам. Сёння яны ледзь утрымліваюць цяжкі купал цемры. Прыйдзе дзень, калі гэтыя часцінкі не змогуць больш трымаць неймаверны цяжар цемры. Настане дзень, калі цемра спусціцца на зямлю, быццам непазбыўнае гора, і тады ўсе мы будзем, як пух, задаўлены ёй. Вось што гаварыў Ак дэрвіш, хіба ў яго словах ёсць нешта заганнае?

Збіты з толку Хаджа Ібрагім ага толькі раскрыў рот, прагна жадаючы яшчэ нешта запытаць. Але нецярплівы Сайях не даў яму задаць яго пытанне.

— Ты хочаш запытаць, чаму ж тады Сейід Сары стараўся з усяе сілы?! Сейід Сары разам з Ак дэрвішам адзін час былі мюрыдамі Устада Манучэхра Ібн Садыка. Пазней іх дарогі разышліся. Сейід Сары ўмеў захоўваць сакрэты. І ён ніколі сваіх сакрэтаў не раскрываў. Вось чаму ён быў бязлітасным да тых, хто выдаваў тайну некаторых важнейшых момантаў вучэння. Ак дэрвіш... тое, што ён адчуваў, перажываў нутром, было ў яго на языку. Ён не захоўваў тайны часу адасаблення, наадварот, з вялікай радасцю дзяліўся з намі тым, аб чым вёў гутаркі з... Богам. Пагэтаму многія недалюблівалі яго. А ці ведаеш ты, кім з'яўляецца Ак дэрвіш?

— Кім? — Хаджа Ібрагім ага шэптам паўтарыў пытанне чараўніка Сайяха.

— Ак дэрвіш — той са смяротных, з кім Бог дзяліўся сваімі тайнамі, Ібрагім ага. Толькі ён з'яўляецца сардэчным павераным Бога. Аднак яго

адкрыццё аб спосабе смерці, якое ён зрабіў перад тым, як памерці, каштуе многага... А Сейід Сары змог стаць толькі прыбліжаным Бога, Сейід Сары не ўдастоіўся гонару прамых зносін з Богам. Быць тым, з кім Бог дзеліцца сваімі тайнамі, азначае цалкам ажыццявіць сваё зямное існаванне ў апошні момант перад тым, як дасягнуць Бога і растварыцца ў ім. Цяпер разумееш, кім быў Ак дэрвіш?!

— Разумею, Госпадзі, разумею... Здаецца, я стаміў цябе крыху, перавядзі дух, хутка надыдзе вечар, можа, хочаш адпачыць? Ці нешта з’есці?.. — каб памяняць тэму размовы прапанаваў Хаджа Ібрагім ага, напалоханы пачутым.

— Не, дзякуй, — чараўнік Сайях глыбока ўздыхнуў і павярнуўся да Ібрагім агі. — Не стаміўся я зусім. А тое, што я табе сказаў, ты і сам хацеў ад мяне пачуць, хіба не так?!

— Так, так, як ты даведаўся? — прастадушна здзівіўся Хаджа Ібрагім ага.

— Па тваіх вачах... Наперадзе апошняя ноч, якую мы правядзём разам. Ты спяшаўся, пытаў вачамі, я ж адказваў табе маімі вуснамі. А ці ведаеш ты хоць нешта аб любові паміж вокам і языком? — Вочы чараўніка Сайяха насмешліва звузіліся і сталі амаль нябачнымі.

* * *

З кожным словам, з кожным новым паваротам гутаркі яшчэ хутчэй набліжаўся вечар. Усё, што знаходзілася па той бок акна, паступова хавалася ў цемру.

Караванбашы пакуль яшчэ не было, але зусім хутка ён абавязкова павінен быў з’явіцца, і цяпер, пра што б ні гаварылі гэтыя двое, кожны з нецярплівасцю чакаў прыходу Караванбашы і паціху ўваходзіў у зусім іншы стан. Калі Караванбашы на змярканні заехаў у двор, ля лесвіцы ў дом яго сустрэў толькі Хаджа Ібрагім ага. Усё было так, як яны дамовіліся з раніцы: нукеры пайшлі адпачываць у свой домік, у другім канцы двара паказаліся вартаўнікі. Яны зачынілі цяжкія вароты за Караванбашы і тут жа зніклі, больш не паказваліся на вочы. Унутры дома панавала цішыня, жонка і сын гаспадара ўжо даўно пайшлі ва ўнутраныя пакоі і ляглі спаць...

— Хочаш нешта з’есці, ды прыбуду я тваёй ахвярай? — ціха запытаў Хаджа Ібрагім ага ў гаспадара.

— Не, не хачу, я не галодны, — Караванбашы ўвайшоў у дом, прайшоў у пакой на правую палову, скрыжаваў ногі, сеў у куце на сваім звыклым месцы, сабраўшы раскіданыя паўсюль падушачкі, расклаў іх побач з сабой, каб аблакаціцца, калі захоча, і, нарэшце, звярнуўся да Хаджы Ібрагім агі.

— Ну, што новага, Ібрагім ага, у вас усё гатова? Як чакаў я надыходу вечара, каб ты толькі ведаў! Як марудна цягнуўся дзень, як доўга не надыходзіў гэты вечар... О Божа, на двары быццам бы і не зіма, не прыходзіў вечар, і ўсё тут. А што вы рабілі?

— Нічога, ды пяройдзе боль твой да мяне, гутарылі аб тым-сім, наш час хутка ляцеў. Што скажаш, пайсці прывесці яго? А то ты змучыўся ўвесь.

— Ідзі... — Караванбашы асуджана апусціў няшчасную сваю галаву на грудзі, задумаўся.

Хоць бы на гэты раз Бог пачуў яго, хоць бы здзейснілася тое, што ён задумаў, чаго б гэта яму ні каштавала. Усё сваё жыццё ён жадаў гэтай сустрэчы. Спатканне з бацькам, які качаваў з аднаго яго сна ў другі, глядзеў на сына, быццам глуханямы, і не адводзіў вачэй, павінна было змяніць усё яго астатняе жыццё. Шмат пра што патрэбна запытаць у яго, нямала раскрыць для сябе

тайнаў, адным словам, будзе мноства «чаму» і «дзеля чаго». Але самае галоўнае «чаму» не звязана з тым, чаму бацька кінуў яго пад апеку старой бабулі і сышоў, прапаў... Ніколі ён не дазволіў бы сабе толькі дзеля гэтага патрывожыць дух свайго бацькі. Яму хацелася прымірыць яго, даць яму спачынак, бо колькі ўжо гадоў дух яго няшчаснага брата і дух бацькі мучаюцца як неприкаяныя. Ён спадзяваўся: пасля гэтай сустрэчы блізкія яму душы знойдуць спакой на тым свеце, абавязкова знойдуць...

Хаджа Ібрагім ага, а следам чараўнік Сайях, трымаючы ў руках нейкі вузел, непрыкметна ўвайшлі ў пакой.

— Добры вам вечар. Ці гатовы, ага? — запытаў чараўнік Сайях.

— Добры і вам... Так, гатовы... — Караванбашы прыўстаў. — Кажы, каму дзе сесці, скажы сам. Можа...

— Не, сядзі, сядзі, дзе сядзіш. У цябе прыдатнае месца, не мітусіся. А ты, Ібрагім ага, праходзь, уладкоўвайся за спінай Караванбашы. Я ж застануся тут, перад вамі. Ад вас патрабуецца толькі адно — захоўваць цішыню. Вы не павінны выдаваць ні гуку. Я падам вам знак, калі патрэбна будзе... Але, пакуль не падам знак... толькі цішыня... цішыня... У доме, у двары нікога няма?

Хаджа Ібрагім ага завервыў яго, што ні ў двары, ні ў доме няма нікога, хто змог бы ім перашкодзіць. Пасля гэтага чараўнік Сайях, павёўшы рукой, запрасіў іх сесці. Караванбашы сеў на сваё месца, а Хаджа Ібрагім ага — ззаду яго. Чараўнік перайшоў на супрацьлеглы бок пакоя і стаў да іх тварам. Пасярэдзіне стаяў маленькі столік, а на ім падсвечнік са свечкай. Сайях наблізіўся да століка, высек агонь крэсівам, запаліў свечку і вярнуўся назад. Свечка загарэлася роўным, быццам па вертыкалі праведзеным, агнём. Чараўнік Сайях моўчкі доўга глядзеў на свечку, уважліва назіраючы за полымем, а яно быццам бы застыла. Двое ў другім куце пакоя, злiўшыся з прыцемкамі, пачалі ўпадаць у ціхае забыццё. З вялікай увагай і хваляваннем, не толькі вачамі, але і ўсёй сваёй істотай, яны сачылі за кожным рухам Сайяха, баючыся пры гэтым нават уздыхнуць. У пакоі запанавала мёртвая цішыня.

Чараўнік Сайях развязаў вузел, які прынёс з сабой, дастаў адтуль седжадэ[1] і кінуў яго на падлогу, потым, скрыжаваўшы ногі, усеўся на яго, і паклаў рукі на свае калені крыж-накрыж.

«Што ён збіраецца рабіць? Калі і гэты, як усе астатнія да яго, устане зараз і пачне кружыцца па пакоі, пішы прапала. Нічога не выйдзе, ніхто не з’явіцца... Адчуваю гэта. Не прыйдзе. Калі б захацеў, то прыйшоў бы ў той раз, калі неба было яснае і поўна зорак над галавой. А як стараўся той астролаг, прытанцоўваў, відавочна, не здарыцца нічога. Але калі і зараз усё сарвецца, значыць, на тое воля Божая. Знак з неба. Больш і не варта нават спрабаваць. З гэтым усё скончана. Што было, то было... Пушчаную стралу нельга вярнуць назад да цецівы. Значыць, лёс такі. Але як бы там ні было я адпомшчу за сваіх...» — разважаючы так, Караванбашы заўважыў, што чараўнік Сайях, паранейшаму седзячы, цяпер абхапіў рукамі галаву і, хістаючыся ўзад-уперад, мармыча вірд. Ён мармытаў так ціха, так адасоблена, быццам бы гэта і не ён, амаль нічога нельга было разабраць. Прыйшлося поўнасцю засяродзіцца, каб хоць нешта пачуць і зразумець. Але варта было слыху ўлавіць нейкае адно яго слова, то другое, што ішло ўслед за гэтым, тут жа некуды прападала, раставала ў паветры. Здалося, што спачаку чараўнік задаў пытанне самому сабе і сам жа адказаў на яго:

— Па якім шляху пойдзеш?

[1] Седжадэ — малітвенны дыванок.

— Не ведаю.

— Значыць, ёсць шмат шляхоў, па якіх можна ісці...

Ён зноў хістануўся на месцы, памаўчаў крыху і зноў задаў сабе пытанне і сам жа адказаў на яго:

— У які колер нам акунуцца?

— Не ведаю.

— Значыць, усе колеры змяшаліся адзін з адным, і розніцы няма...

Зноў замоўк. Пахістаўся з боку на бок. Затым прадоўжыў свае пытанні і адказы:

— Каму ты выцер слёзы на гэтым свеце?

— Нікому.

— Значыць, на гэтым свеце слёзы не праліваліся...

Але цяпер ён не замоўк.

Ён павысіў тон свайго голасу, павысіў настолькі, што яго маглі пачуць ён сам, Караванбашы і Хаджа Ібрагім ага, услед за апошнім вымаўленым словам ён як быццам рушыў у падарожжа па няроўнай камяністай дарозе. Яго голас часам пераходзіў у рыданне, а рыданні ператвараліся ў закляцці:

— Стойце, апусціце рукі. Выходзьце са сваіх ценяў. Калі нават імгненне назад вы не думалі пра наступнае імгненне, усё роўна прадаўжайце спадзявацца, звязвайце ўсе свае надзеі з вячэрнімі прыцемкамі, не, з вячэрняй міласэрнасцю. Але ты... калі ты паляціш, адчуваючы горкі прысмак ад таго, што твой учарашні дзень вярнуўся да цябе сёння, паляціш, выцягнуўшыся целам у адзін, а схіленай галавой у другі бок, тады не забудзь... Запомні назаўжды... Прыйдзі, не трапляючы на вочы...

Апошнюю фразу Сайях вымавіў па-асобаму, аддзяліўшы ад іншых, быццам песню, запеў. І прадоўжыў у той жа манеры:

— ...прыйдзі, каб пазбавіліся мы ад напасці разважаць пра дрыжачае нікчэмнае цела. Ты не можаш стаць таварышам водарасцям з дна марскога... Дык навошта ж гаварыць? Потым — хай будзе, што будзе. Мы, нарэшце, павінны ведаць... не, зразумець... не, не, павінны ўсвядоміць, што ў сухіх целах не бывае душы...

Тут ён зноў перавёў дыханне, і, ледзь не рыдаючы, тым жа чыстым звонкім голасам сказаў:

— Я выплакаў усе вочы, не будзь упартым, прыйдзі.

І праўда, пры гэтых словах у яго на вачах навярнуліся слёзы. Тыльным краем рукі ён размазаў іх па ўсім твары і прадоўжыў:

— ...І гэта зімняя ноч, якая цябе не саграе, ва ўсёй красе выходзіць знутры гэтых блытаных неразборлівых слоў, з рознакаляровых фарбаў. Выходзіць, калі гэта ёй па сіле, калі не — застаецца глядзець на сябе здалёку, і не можа ласкава абвеяць сваім мяккім дыханнем цудоўны твой твар. І цень твой б’ецца, трапечацца, нешта шэпча, толькі сэрца тваё чуе гэты шэпт, аказваецца, гэта цень твой шэпча аб сваёй любові да сябе...

Сайях зноў перавёў дыханне, робячы невялікі перапынак. Цяпер у яго голасе была чутна выразная мальба:

— Дзеля смерці тваёй, не будзь упартым, прыйдзі.

Цела чараўніка, які распачаў усё гэта дзейства, мармычучы сабе пад нос і хістаючыся, раптам замерла і выпрамілася. Ён і сам не зразумеў, адкуль гэты зачараваны голас з’явіўся ў яго, з самых глыбіняў сэрца, ці ажно з завоблачных вышынь выйшаў ён і ўсяліўся ў яго плоць? Быццам жамчужыны, адно за другім пакаціліся, паліліся словы з яго вуснаў, ён выгаворваў іх нараспеў, не ведаючы, як яны апынуліся на языку, вымаўляў іх з захапленнем:

— Прыйдзі, не трапляючы на вочы, плачу я, не будзь упартым, прыйдзі, дзеля смерці тваёй, не лянуйся, прыйдзі... прыйдзі... прыйдзі... прыйдзі...

Караванбашы і Хаджа Ібрагім ага знямелі, яны сядзелі як акамянелыя. Раптам два словы, якія выкрыкнуў чараўнік Сайях, паляцелі праз увесь пакой і, палятаўшы кругом, упіліся проста ў вушы Караванбашы:

— Ён з’явіўся!..

* * *

«Ён з’явіўся»...

Гэтыя словы былі пасланы Караванбашы чараўніком Сайяхам, які, схіліўшы галаву на грудзі, цяжка дыхаючы, з хваляваннем, усё выразней чуў, як б’ецца яго сэрца. Прыняўшы гэта пасланне чараўніка, Караванбашы адчуў, як стыне кроў у яго жылах. Раптам яму ў вочы кінулася свечка на століку. Полымя яе ажыло, цяпер яно трывожна мітусілася то ўніз, то ўверх... Ад полымя цягнуўся лёгкі дым, ад чаго пакой напоўніўся нечым, падобным да туману. Караванбашы не мог паверыць сваім вачам. Але і не паверыць было нельга. Пакой імгненна змяніўся, гэта ўжо быў не той, знаёмы да драбніц, пакой, змяніліся і колер, і паветра, і яго памеры. Але не толькі кроў застыла ў яго жылах. У гэтае імгненне і маленькі сын Караванбашы, які салодка спаў у сваёй пасцелі, убачыў сон, што быў пасланы толькі для яго. Хлопчык усміхнуўся ў сне мілай усмешкай маці, якая заснула побач з ім, засланіўшы чарнатой сваіх густых валасоў белую падушку, потым з гэтай усмешкай перамяшаўся колер яго дзіцячай, цёплай крыві, якая таксама застыла ўнутры яго...

Чараўнік Сайях, сэрцам улавіўшы разгубленасць Караванбашы, яшчэ раз паслаў у яго бок тыя ж два словы:

— Ён з’явіўся...

І стомлена дадаў:

— ...Цяпер пытай, што хочаш. Ён адкажа табе.

Хаджа Ібрагім ага, увесь калоцячыся, асцярожна штурхнуўшы локцем Караваншабы, шапнуў яму:

— Ды буду я тваёй ахвярай, ачуйся. Чуеш, ён з’явіўся...

Караванбашы нарэшце ўзяў сябе ў рукі, «дзякуй Богу, няўжо здзейснілася мая мара? Ды паможа мне мой Бог — падумаў, марудна павярнуўшы галаву ў бок туманнай шэрай пустаты ў сярэдзіне пакоя, запытаў перарывістым голасам, у якім чулася мальба:

— Ты тут, ага? Ты з’явіўся? Калі ты тут, падай які-небудзь знак...

Тут здарылася цуда. Ледзь Караванбашы вымавіў гэтыя словы, яму адазваўся бурклівы і бязлітасны, як медны стук, голас, які, рассякаючы туманную цішыню пакоя, уварваўся ў вушы ўсіх трох:

— З’явіўся — не з’явіўся... з’явіўся — не з’явіўся... Што ты за шэльма такая. З’явіўся... не з’явіўся...

Ці то ад радасці, ці то ад страху сэрца Караванбашы ледзь не вырвалася з грудзей:

— Так яно і ёсць, ты тут. Слава табе, Госпадзі. Ты тут. Нарэшце здзейснілася мара мая.

Сказаўшы гэта, ён міжволі захацеў устаць са свайго месца і пайсці на голас, быццам хацеў дакрануцца да яго, але, заўважыўшы здалёк суровы знак рукі чараўніка Сайяха, замёр, прыўстаўшы. Затым, знясілены, зноў апусціўся на дыван.

Хаджа Ібрагім ага па-свойму ўспрыняў знак чараўніка і, паёрзаўшы па дыване, стаў адсоўвацца далей, пакуль спіна яго не ўпёрлася ў халодную сцяну.

— …Хвала табе, Госпадзі! — усклікнуў Караванбашы, ледзь стрымліваючы слёзы! — Ты тут, мой ага. Гэта ты, безумоўна, ты. Ты б усё роўна прыйшоў рана ці позна. Рана ці позна мы сустрэліся б з табой. У маіх снах ты якраз такім і паўставаў, жорсткім, фанабэрыстым… Ці помніш ты, ага, якім пакінуў мяне, сляпым, бездапаможным? Ведаеш, з той пары, як я пасталеў і пачаў усведамляць, што і да чаго, не было ні дня, ні ночы, каб я не гараваў, галосячы «вах, мой бацька, вах, мой брат». Ці ведаеш ты пра гэта?.. Чаму маўчыш? Ага… Ты тут?

Голас Духа на гэты раз крыху памарудзіў з адказам. Было незразумела, хоча голас яму адказаць ці не. Але праз некаторы час Дух рашыўся-такі на адказ. І адказ яго быў нечаканым. Дух загаварыў голасам адзін да аднаго з інтанацыямі голасу Караванбашы:

— З той пары, як я пасталеў… пачаў разумець… Каб ты заўсёды прабываў у горы, у смутку… Толькі паглядзіце на яго!

А Караванбашы з трапяткою душой яшчэ раз пераканаўся ў тым, як ён сумуе па бацьку. І прыйшла да яго думка, а раптам ага не пазнаў яго ці яшчэ што… Бо каб ён пазнаў яго, не стаў бы гаварыць з ім такім абразлівым тонам, не праявіў бы халоднага раўнадушша. Пагэтаму ён усхвалявана сказаў:

— О Госпадзі, Божа мой! Як ты сказаў, як ты сказаў? Чаму ты гаворыш так, ага? Ты не пазнаў мяне? Алахвярдзі я, Алахвярдзі, ага, твой сын…

На гэты раз голас Духа стаў зусім раўнадушным і вялым:

— Сляпымі былі, сляпымі і засталіся… Бязмозглы ты чалавек, якая мне справа да таго, хто ты. Які я ўчыніў грэх, што ты патурбаваў мяне? Скажы на міласць, балван гэтакі, навошта паклікаў мяне сюды?! «Не было і ночы, каб я не гараваў…» Ды хай бы і былі! Якая мне розніца?! Ты паглядзі на яго! На колер яго твару паглядзі! Бледны, як снег, ці ведаеш гэта?

Голас Духа ішоў цяпер не толькі з сярэдзіны пакоя. Голас гэты цяпер чуўся з усіх яго куткоў. Ён быў скрыпучым, шэрым. У адным куце гучаў шэптам, у другім — крычаў, у трэцім — гыркаў, як раз'юшаны звер, але якім бы ён ні быў, у любым месцы пакоя, у любой сваёй праяве ён заставаўся абыякавым. Вось што ўразіла ўсіх прысутных. І Караванбашы, і Хаджа Ібрагім ага былі зусім збянтэжаны.

## Раздзел XIII

У апошні час, дзе б ні знаходзіўся Шах, каму б ні зазіраў у твар, ён пастаянна чытаў адно і тое ж нямое пытанне, якое не толькі амаль не замоўчвалася, але ўсё больш жорстка праяўляла сябе.

Гэтыя нямыя, запытальныя позіркі неслі цяжар смутку і тугі па новых паходах, і, здаецца, гэта ноша паціху станавілася невыноснай. Імкненне падданых да новай вайны, іх неўгамонная цяга да налётаў і грабяжоў кожны Божы дзень, нават не дзень, а гадзіну, ажывалі перад вачамі Шаха ў звернутых да яго тварах і позірках. І тады Шах станавіўся змрочным, упадаў у доўгі і глыбокі роздум, узважваў для сябе ўсё, нудна абдумваючы, як лепш насыціць гэту цягу. Нябачны, неадчувальны паток нёс яго кудысьці; ён быў кропляй, а ўсё яго акружэнне — лавінай, якая непрыкметна, але ўпарта пракладвала сабе жаданы шлях.

Неясна было — кропля стварыла паток ці паток стварыў кроплю?!

І ў адзін з тых дзён, які не быў падобны да папярэдніх, пасля доўгіх разважанняў Яго вялікасць адчуў, што больш не можа трываць холад у гэтых нямых, насупленых позірках, якія падштурхоўвалі яго да новых заваёваў, ён адчуў, што яго пачынае адольваць пачуццё дзіўнай віны, не вытрымаў і сказаў: «Хай будзе! Дзень, здаецца, даволі спрыяльны, я вырашыў, хай барабаншчыкі б'юць у барабаны ў знак вайны, і сцяганосцы прымацуюць паходны сцяг у тугдан перад палацам!»

Як толькі вестка аб рашэнні Шаха разышлася па сталіцы, адразу ж ва ўсім горадзе запанавала вяселле. На суровых тварах нукераў і наібаў, у воінаў шаха з'явіліся ўсмешкі, пачаў раставаць лёд у іх сэрцах, военаначальнікі, як мядзведзі пасля доўгай зімняй спячкі, раптам замітусіліся, ажылі і падрыхтаваліся выконваць загады Шаха перад паходам.

На далёкай ускраіне дзяржавы знаходзіўся прыгожы горад, які даўно ўжо не хацеў падпарадкоўвацца волі Шаха. Хоць горад быў і не такім ужо вялікім, яго жыхары паводзілі сябе дзёрзка і фанабэрыста. Шах вырашыў, і накірунак яго рукі ўказваў у іх бок. Жыхары ўзбунтаванага горада павінны былі быць пакаранымі, горад павінен адказаць за сваю непакорлівасць. Ужо колькі разоў там зачынялі жалезныя вароты перад самым носам пасланнікаў Шаха, а гараджане, стоячы на крапасной сцяне, брыдка лаяліся на гэтых паважаных людзей. Яны і ў адрас самаго Шаха кідалі непрыстойныя словы, быццам чорныя камяні, ляцелі яны са сцяны зверху ўніз. Цяпер, пачуўшы аб рашэнні Шаха, салдаты, якія былі накіраваны пакараць узбунтаваны горад, сталі зараней паводзіць сябе як пераможцы. Кожны з жыхароў сталіцы, узносячы малітвы аб даўгалецці Шаха, глядзеў на гэтых воінаў, як на герояў, якія вярнуліся з паходу. Купцы, зборшыкі падаткаў, і тыя, хто займаўся купляй-продажам зямлі і дамоў, употай паціраючы рукі, ужо прадчувалі наперад шматпрыбытковыя дні, таму што мелі намер услед за войскам, не марудзячы, увайсці ў пацярпелы паражэнне горад.

* * *

Вечарам кат Мамедкулі адправіў пасыльнага да свайго пасынка, дзясятніка Шахвярэна, каб запрасіць яго да сябе. Ён хацеў расказаць яму пра паход, пра тое, куды і за чым накіроўваецца войска, у чым прычына і мэты вайны, у які тэрмін збіраецца Шах завяршыць ваенныя дзеянні… З другога боку, ён ужо даўно не бачыўся з пасынкам. Пасля павышэння са звычайнага радавога — у дзясятнікі ў Шахвярэна было шмат клопатаў, ён амаль не паказваўся на вочы, поўнасцю аддаваўся службе, кожны дзень знаходзіўся разам са сваім атрадам. Звычайна нават ноччу заставаўся ў распалажэнні войскаў і спаў пад адным дахам з салдатамі.

Чакаючы прыходу пасынка, Мамедкулі заставіў стол купленымі раніцай на базары фруктамі, ласункамі, звараным, а потым абсмажаным гарохам. Шахвярэн вельмі любіў смажаны гарох, і калі ён увайшоў у свой вялікі, але нязграбны з выгляду двор, адразу ж адчуў знаёмы і смачны пах злёгку падгарэлага гароху. Ад успамінаў аб праведзеных у гэтым двары дзіцячых гадах у яго раптам балюча сціснулася сэрца, ён зразумеў, як моцна сумаваў па айчыму. Безумоўна, ён не вельмі добра робіць, пакідаючы Мамедкулі аднаго, калі той паціху пачаў старэць, і няма з кім яму дзяліць свае гора і радасці, калі яму няма чым заняць сябе, акрамя сваёй работы — адзін ён у сваім доме і стары яго слуга, больш няма нікога побач. Часам, тыднямі — не тое каб наведаць, забывае нават даведацца пра яго справы. А між тым Мамедкулі быў для яго

не проста айчымам, ён змалку замяніў яму бацьку, прыкіпеў сэрцам, ды так, што іншыя нават да свайго дзіцяці так не прыкіпаюць. У адказ на ўсё гэта няправільна робіць Шахвярэн, не выконвае свой сыноўні абавязак належным чынам.

Было ўсяго два гады Шахвярэну з роду Шахвердзілэр, калі Мамедкулі па загадзе Шаха адправіў яго бацьку на той свет. А ў дадатак, уся яго радня, уся яго блізкая і далёкая радня да сёмага калена, акрамя яго, малалетняга дзіцяці, усе па чарзе спазналі ўдары рукі ката Мамедкулі і былі сцёрты ў попел. Таму што яны здрадзілі Шаху, адкачаваўшы, перайшлі рэчку на мяжы ў землі, варожыя яму, і захацелі атабарыцца там. Ад чаго яны збягалі, што іх чакала наперадзе — некаторыя з іх здагадваліся. Многія ж не разумелі, што ўцякаць ад Шаха стрымгалоў можна толькі ў адным накірунку — і накірунак гэты вёў на той свет, у пекла… Здраднікі былі пакараныя, іх цёплая з клубамі пару кроў сцякала да вузкага арыка на месцы пакарання і змешвалася з мутнай вадой. Пакінулі ў жывых толькі гэтае малалетняе дзіця. Яшчэ не астыўшы ад гневу, Шах зрабіў знак пальцам, і яго адкінулі ў бок, як непатрэбны сучок.

Шах, бледны з палаючымі вачамі, звярнуўся да Мамедкулі: «Столькі пралілося крыві, хопіць, я аддаю яго табе, ты адзін, і ён адзін. Вырасці яго добрым падданым, як ты».

Мамедкулі ўзяў малога да сябе ў дом, пагаварыўшы з суседзямі, знайшоў няньку для яго, яна прыйшла і стала даглядаць дзіця днём і ноччу. Так міналі месяцы і гады, Мамедкулі выгадаваў пасынка. У дасягнуўшага паўналецця юнака ў сэрцы жыла толькі адна любоў — бязмежная любоў і бясконцая вернасць Шаху і Мамедкулі. Мамедкулі назваў яго Шахвярэнам[1] і паступова настолькі прыкіпеў да беднага дзіцяці, што яму здавалася, быццам Шахвярэн не пасынак яму зусім, а свой, родны сын.

* * *

Цяпер яны, скрыжаваўшы ногі, сядзелі на падлозе за нізкім круглым столікам. Мамедкулі пачаў размову здалёк, і, нарэшце, закрануў галоўнае, запытаў у Шахвярэна:

— Шахвярэн, сынок, пра што гавораць салдаты перад паходам? Ці няма сярод воінаў тых, каму не па нутру будучы паход?

Шахвярэн узняў галаву, з некаторым здзіўленнем паглядзеў у твар Мамедкулі і адказаў так:

— Паход і ёсць паход, ага, адзін з тых, што армія здзяйсняла і раней, нічога тут новага няма. Даўно ўжо ўсе мараць аб сапраўдных бітвах. Ёсць сярод салдат нават такія, хто, як і я, непамерна рады таму, што ўпершыню адпраўляецца ваяваць. Не, безумоўна, усе задаволены. Ды прадоўжыць Усявышні жыццё нашаму Шаху…

— Амінь, амінь. Ды пачуе цябе Бог…

Мамедкулі спадылба акінуў позіркам пасынка, які, не выбіраючы сярод смажаных падгарэлыя гарошыны, проста браў іх жменямі з блюда і са смакам клаў у рот, па тым, як юнак паводзіць сябе, зразумеў, што той адчувае шчырую радасць ад будучага похода. «Ён адпраўляецца ў першы свой вайсковы паход, які ж ён малады, кроў у яго кіпіць, ён убачыць новых людзей, новыя мясціны, а колькі ворагаў упадуць да яго ног, з дазволу Бога, і будуць маліць аб літасці… Хто ведае, што ў яго напісана на родзе, можа, шчасце яго

[1] Шахвярэн — дар Шаха.

зусім у іншых краях, і там ён знойдзе свой лёс, а потым пакіне і мяне, сыдзе з гэтых мясцін…»

З такімі думкамі Мамедкулі глядзеў на гарачага, але пачцівага малайца, які сядзеў перад ім, і не мог адарваць ад яго вачэй, водзячы імі навокал, зноў і зноў спыняў позірк на гэтым родным твары. «Вусы ў яго будуць чорныя-чорныя, а вочы — агатавыя, яго рыжыя валасы падобныя да восеньскага лугу. Аднаму Богу вядома — колькі ў мяне ў сэрцы любові да цябе, акрамя любові да цябе, няма ў маім сэрцы іншай любові, адзіны мой, жыццё маё, душа мая, мілы, дарагі мой…»

З задавальненнем паядаючы гарох, Шахвярэн адчуваў на сваім твары ўважлівы позірк айчыма, але не падаваў выгляду, каб не засмуціць таго праяўленнем сваіх пачуццяў. Мамедкулі быў таямнічай асобай, і калі гэта яго таямнічасць прымушала ўсіх ставіцца да яго насцярожана, яго пасынак Шахвярэн, якога ён выгадаваў, песцячы і ласкаючы дзень за днём, цяпер, стаўшы сотнікам, з годнасцю носіць на рамяні кінжал са срэбнай рукаяткай і добра ведае, што хаваецца за гэтай таямнічасцю, а чаго там няма… Ён сапраўды нядрэнна ведаў свайго айчыма і таму стараўся не перашкаджаць яму вось так, спадцішка, глядзець на сябе. Шахвярэн, у сваю чаргу, разважаў так: «Ага, ага… мой ага, мой дабрадзей, хто яшчэ ў мяне на гэтым свеце ёсць, акрамя цябе, і нават калі знойдзецца нехта, не патрэбен ён будзе мне тысячу гадоў, не патрэбны мне ні багацце, ні чыны, толькі б не стаць няўдзячным у адносінах да цябе, толькі б вярнуць свой доўг, не можа быць у мяне іншай патаемнай мары чым мара — не памерці да пары, а даглядаць цябе, калі ты састарэеш, узяць усе твае клопаты на сябе, бацька мой, дабрадзей мой, што замяніў мне бацьку, адзіны мой любімы чалавек…»

Калі б хто паглядзеў зараз на іх збоку, ён бы нічога не зразумеў з таго, як, седзячы моўчкі, твар у твар, адзін з гэтых двух употай, непрыкметна назірае за другім, і як той, другі, адчуваючы гэта, не падае выгляду. Ён бы не змог пранікнуць у скрыты сэнс іх маўклівай гутаркі. Толькі яны самі, Мамедкулі і Шахвярэн, толькі гэтыя двое ў такім вялікім свеце маглі, прыкіпеўшы сэрцамі адзін да аднаго, раскрыць адзін другому сваё патаемнае так, як яны рабілі гэта зараз — непрыкметна для астатніх, і цудоўна разумеючы адзін аднаго. Не мог чалавек любіць чалавека так, як гэтыя двое любілі адзін аднаго і як звязаны былі душой. У час апошняй сустрэчы перад паходам паміж імі ўсё было іменна так, а не інакш.

## Раздзел XIV

Караванбашы замёр, забыўся на ўсё, што адбываецца навокал, з засмучаным выглядам задумаўся. Вядома ж, ён зусім не гэтага чакаў. Ён і ўявіць сабе не мог, наколькі бязлітасным будзе да яго Дух роднага бацькі. Хаджа Ібрагім ага таксама сядзеў нерухома, баючыся нават пашавяліцца. Калі б справа залежала ад яго, ён бы пакончыў з гэтым зараз жа. Хопіць! Чуеш, ага, дастаткова! Трэба закончыць усё гэта. Раз і назаўсёды пра гэта трэба забыць. Чараўнік Сайях — не Ак дэрвіш, Дух, якога ён выклікаў, здольны толькі на такое. Трэба было паклікаць таго маладога чараўніка, але адкуль ведаць Ібрагім азе, што перад ім у яго абліччы стаіць сам знакаміты Ак дэрвіш. Мусіць, мара Караванбашы, якая ўжо колькі гадоў не давала яму спакою, каменем вісела на яго сэрцы, падточваючы ўсе сілы, кане ў Лету. Толькі б усё скончылася. А то Караванбашы счарнее ад гора…

Дрыжачае полымя свечкі ўсё яшчэ дымілася, і гэты слабы дымок прадаўжаў засцілаць увесь пакой. Чараўнік Сайях як сядзеў, апусціўшы галаву на грудзі, скрыжаваўшы ногі, склаўшы рукі на каленях, так і прадаўжаў сядзець, але перастаў хістацца. Ён нічога не ведаў аб тым, што адбываецца, у тым ліку і аб гэтай кароткай, нечаканай размове, улучыўшы момант, чараўнік увайшоў у прастору часу адасаблення. І зараз не было ніякай магчымасці выцягнуць яго адтуль, вярнуць назад у пакой.

Пасля некаторага роздуму, Караванбашы ўсё ж рашыў паспрабаваць і заваяваць у Духа прыхільнасць да сябе, хоць неяк улагодзіць яго:

— Ды буду я ахвярай майму дабрадзею, — Караванбашы павярнуўся тварам да пустаты, — ну і чаму ты такі злосны? У чым жа я правініўся, што давяло цябе да шаленства?

Дух быццам бы чакаў гэтага пытання, тут жа, дражнячы яго, пераймаючы яго голас, адказаў:

— У чым я правініўся. У чым мая віна… Ты вінаваты. Чаму не даеш мне спакою? Хто ты такі, што табе патрэбна ад мяне, навошта ты выклікаў мяне? Ён, бачыце, Алахвярдзі! Ого! Ну, і што з таго? «У чым мая віна?» — памаўчаўшы, Дух дадаў да сказанага яшчэ адно дзіўнае слова: — Дуронік…

Як жа страпянуўся Караванбашы, пачуўшы гэта незразумелае на першы погляд слова, у яго заіскрыліся вочы, радасна забілася сэрца. Павярнуўшыся да Хаджы Ібрагім агі, кінуў на яго шчаслівы позірк. Ён раскрыў рот, і словы, быццам выштурхоўваючы адно другое, пасыпаліся ў яго з языка:

— Хай Бог адорыць мяне смерцю ля тваіх ног. Гэта ты, ага, вядома ж, гэта ты. Ды буду я ахвярай нават пылінкі той зямлі, на якую ты ступаў, ага. Гэта я. Дуронік… — Ён зноў звярнуўся да Хаджы Ібрагім агі. — Памятаю з дзяцінства, ён так мяне называў, часам і бабуля так мяне называла, пераймаючы яго.

Караванбашы цалкам уверыўся ў тым, што Дух у пакоі з’яўляецца Духам яго бацькі Мамедкулі, і гэты Дух, несумненна, пазнаў яго. «Дуронік». Больш відавочнага доказу не магло і быць.

Караванбашы зноў пачаў размову, набіраючыся цярпення:

— Чаму ты размаўляеш са мной так сярдзіта? Калі б ты ведаў, гэта туга па табе, туга па маім браце прывяла мяне да такога вартага жалю стану, калі б ты толькі ведаў… Ага, ваш няшчасны лёс кожны Божы дзень і да гэтай пары даводзіць мяне да знямогі, прыгнятае мяне… калі б ты ведаў…

Раптоўна нахлынуўшыя рыданні абарвалі размову Караванбашы. Жорсткі камяк у горле не даваў больш яму гаварыць. Ён зноў змоўк. І Дух не парушаў узнікшую цішыню. Усё ж такі здолеўшы ўзяць сябе ў рукі, Караванбашы адкашляўся, прачысціў горла і прадоўжыў ужо больш спакойна. Цяпер ён перайшоў на шэпт, стараючыся гаварыць цвёрда і выразна:

— Дазволь абрадаваць цябе, ага. Я валодаю немалой маёмасцю. У мяне вялікія караваны. Пабачыў многія краіны, даводзілася прывозіць нечувана каштоўныя рэдкасці… — голас Караванбашы стаў цішэйшы за шэпт, жудасным холадам павеяла ад яго, — я адзін з прыбліжаных Шаха. Многія мяне баяцца. А ён вельмі любіць мяне. Часта раіцца са мной. Цяпер, каб ты ведаў, не той Шах, які правіў пры табе, а яго сын. Але гэта нічога не мяняе. Ён таксама адказвае за грахі свайго бацькі. Той Шах, якога ты ведаў, захварэў, захварэў яшчурам, ад гэтага і памёр дзесяць гадоў таму. А шкада, як бы там ні было, ён лёгка адкупіўся. Я рыхтаваў яму іншую долю…

Чамусьці Караванбашы не захацеў больш прадаўжаць гэтую тэму, адчайна агледзеўся па баках і ад шэпату перайшоў на звычайны свой тон:

— Але і ты, і мой старэйшы брат пастаянна сніцеся мне па начах, сумленнем клянуся, павер мне. Вы хапаеце мяне за горла і душыце мяне. Я ж у дзяцінстве нават толкам твараў вашых не бачыў, а вы ўсё ніяк не пакінеце мае сны, вандруеце з аднаго сна ў другі… Ведаеш, што вы гаворыце мне? Не ведаеш! «Помста, помста!», паўтараеце вы, ага, то шэптам, то пераходзячы на крык, якраз як ты цяпер. Вы ж чаго ад мяне хочаце?

Рукі і ногі Караванбашы аслабелі. Адзін з двух цвікоў, што тырчалі ў яго сэрцы, ён з вялікай цяжкасцю выцягнуў, і цяпер з раны сачылася цёплая кроў. На гэты раз голас Духа пачуўся з боку свечкі, і голас гэты гучаў з яшчэ большым смуткам. Здавалася, пужлівыя хістанні полымя выдавалі яго тугу. Дух сказаў:

— Толькі паглядзіце на яго! Дурань ты такі, якая мне справа да таго, хто табе сніцца, а хто не сніцца… Нам няма ніякай справы да нечых сноў. Вы бачыце… ён не можа заснуць. Хіба я гаварыў табе аб помсце? Ніколі!!! Калі не можаш заснуць, як чалавек, не спі. Дуронік…

Голас Духа ўпершыню задрыжаў. Але пасля імгненных хістанняў ён прадоўжыў ужо ўпэўнена:

— Сам я таксама не мог заснуць. Але на тое была свая прычына. Ведаеш, чаму я не мог спаць? Не ведаеш. Адкуль табе ведаць?! Дуронік… Ведаеш, на чыё жыццё я ўпершыню замахнуўся, хто стаў маёй самай першай ахвярай з тых, каго я адправіў на той свет? Не ведаеш? Раз сам мяне паклікаў, слухай цяпер. Гэта была жанчына. Я спіхнуў яе ў калодзеж. Яна памерла без шуму…

Словы Духа настолькі зачапілі Караванбашы, што ён ледзь выціснуў з сябе:

— Кім яна была?

Дух быццам бы не пачуў яго:

— Так… Пасля гэтай жанчыны ўсё і пакацілася, як па пісаным… Стала намнога лягчэй. Нават задавальненне атрымліваў, па загадзе Шаха пасылаючы аднаго за другім на той свет. Усе яны, вядома ж, адпраўляліся ў пекла. Ну, задаволены? Дуронік… — Голас Духа станавіўся пакрыху раднейшым яму, пачаў здавацца амаль дамашнім. — Хіба плёткі яшчэ не дайшлі да тваіх вушэй? Хто? Ці жывы яшчэ візір Машдалі?

Задаўшы апошняе пытанне, Дух замаўчаў. Але Караванбашы зразумеў, што на гэты раз Дух чакае адказу ад яго. Караванбашы жаласна сказаў:

— Ага, ага, прашу цябе, не гавары так, ды буду я тваёй ахвярай, не гавары так, малю цябе! Дрэнна мне. У чым мая віна, ага, скажы хоць, чым я правініўся перад табой? Жывы яшчэ візір Машдалі, жывы. Але ж ледзь гаворыць, ледзь дыхае. Ходзіць з напругаю, падае, калі не падтрымліваць яго з усіх бакоў.

А чаму ты аб ім пытаешся, ага? Кім была там жанчына, пра якую ты гаварыў?

Караванбашы ўжо загадзя адчуў жах у адказе на сваё пытанне, нават моцна заплюшчыў вочы. І тое, пра што ён пачуў, і на самай справе было кашмарам:

— Візір Машдалі быў сябрам юнацтва майго бацькі і апякаў мяне. Гэта ён закрыў ад людскіх вачэй забойства маёй маці, калі я здаўся ўладам. Я ж быў бегляком. Ты запытаў аб тым, кім была тая жанчына, ведай, яна — мая родная маці. Калі б не візір Машдалі, яшчэ тады ў гарах мяне забілі б. Што вылупіў вочы? Ты ўсё такі ж, як у дзяцінстве. Смешны… Хочаш яшчэ нешта скажу табе? Ведаеш, каго я адправіў на той свет у апошні раз, расказаць? Пэўна, не ведаеш… З высокай скалы…

— Не, пастой. Пачакай крыху, май міласэрнасць. Пачакай. Пастой. Не спяшайся… — Караванбашы зарыдаў.

Ім падалося, быццам Дух страпянуўся, а, можа, ён перавёў дыханне?! На спіне ў Караванбашы выступіў халодны пот. Хаджа Ібрагім ага ў разгубленасці ўвесь дрыжаў. Яму хацелася ўстаць і збегчы адсюль, знікнуць, але ён, вядома ж, не мог гэтага зрабіць, нават пад пагрозай смерці ён бы не дазволіў сабе пакінуць Караванбашы аднаго.

Горад за сценамі дома ляжаў у цемры, толькі там і тут у вокнах яшчэ гарэлі агеньчыкі свечак, якія напаміналі гуллівыя зоркі. Як ні старалася цемра прабрацца ў шырокае, але зачыненае акно на другім паверсе дома Караванбашы — у яе нічога не атрымлівалася. Слабое святло свечкі, быццам апошні самаадданы воін разбітай арміі, стаяў на варце яго жылля. Здавалася, пакой стаў намнога большым, і дым, рассцілаючыся па ім, імкнуўся знайсці хоць якую-небудзь шчыліну, каб выбрацца на двор. Гаворка паміж Караванбашы і Духам толькі-толькі пачынала наладжвацца. І ўсё ж Караванбашы яшчэ сумняваўся — можна поўнасцю даверыцца яму, адкрыць усе свае тайны ці не. Ён схапіўся за галаву аберуч, усе жахлівыя словы, пачутыя ім толькі што, змяшаліся ў яго галаве. Словы, быццам вярблюды ў караване, то цягнуліся ланцугом адзін за адным, то, замітусіўшыся, стараліся абагнаць тых, хто спераду, і тады, разладжваўся іх рад, яны штурхаліся, брыкаліся, наносілі адзін аднаму моцныя, жорсткія ўдары. Сапраўды, словы ў сказе якраз як вярблюды ў караване.

Што яму цяпер рабіць?

Хаджа Ібрагім ага, ціхенька таргануўшы ззаду за палу кафтана Караванбашы, шапнуў:

— Ды пяройдзе боль твой да мяне, далібог, гэта нейкі звар’яцелы Дух. Ото-ото, гэты Дух нейкі нездаровы. Што скажаш, святло маіх вачэй, давай прагонім яго ды з плеч далоў. Якая ад яго карысць? Вярзе нейкую бязглуздзіцу…

Караванбашы рэзка павёў плячамі і, павярнуўшыся да яго ў цемры, паглядзеў з дакорам. Цемра паміж імі на адно імгненне, толькі на адно імгненне азарылася святлом яго вогненнага позірку. Затым Караванбашы адвярнуўся, святло ў яго вачах патухла, і зноў у пакоі запанавала цемра, узвысіўшыся перашкодай для святла свечкі. Караванбашы пашукаў вачамі месца, адкуль у апошні раз даносіўся голас Духа, месца побач з падсвечнікам, пачакаў, што ж яшчэ скажа Дух.

— Рана ці позна ты б усё роўна пачуў аб гэтым, — як ні ў чым не бывала прадоўжыў Дух. — Калі б не я, нехта іншы паведаміў бы табе аб гэтым. Гэта я, я і ніхто іншы, адправіў яе на той свет, скінуў уніз з вяршыні гары. Яна хацела ўзляцець, але не змагла, як жа без крылаў паляціш? Яна каменем упала на дно цясніны, здрыганулася і засталася ляжаць нерухома.

Цяпер Караванбашы загаварыў ціхім, умольным тонам, быццам звяртаўся да самога сябе:

— Не… Не…

Але з’едлівы Дух быццам не чуў яго:

— Гэта апошняе маё забойства. Апошняя смяротная кара… Мая родная маці была першай, каго я пазбавіў жыцця, твая маці — апошняй. А ты лапочаш, што аслеп ад слёз, што я снюся табе кожную ноч. А твая маці не сніцца табе?! Эх ты, Duронік…

Караванбашы адгукнуўся ўсё тым жа ціхім голасам, быццам гаварыў сам сабе:

— Ага, я ж памру ад гора. Не гавары так, ага. Пашкадуй мяне… — ён зноў павярнуў галаву да Хаджы Ібрагім агі, — што ён гаворыць, ты што-небудзь разумееш?! Можа, ён не мой бацька ўвогуле?! О, Божа, Божа, хто ж ён такі?

Хаджа Ібрагім ага не сцярпеў больш, не баючыся нічога, устаў са свайго месца, рукі ў яго былі моцна прыціснуты да грудзей, быццам хацеў суняць страх у сэрцы, асцярожна ідучы ўздоўж сцяны, ён наблізіўся да чараўніка Сайяха. Той сядзеў усё гэтак жа абыякава, толькі прыадкрыў заплюшчаныя свае вочы і са здзіўленнем паглядзеў на яго, быццам «што, што табе трэба?» хацеў спытаць.

Хаджа Ібрагім ага ўпаў на калені перад ім і з мальбой спытаў:

— Малю Богам, скажы, хто ён такі? Чый ён дух?

З-пад паўпрыкрытых вейкамі зрэнак чараўніка бліснула здзіўленне:

— Гэта Дух бацькі Караванбашы, чым жа яшчэ ён можа быць Духам?! На гэты конт няма сумненняў. Гэта дух ката Мамедкулі.

— Ты ўпэўнены?

— Вядома ж, упэўнены. А што?

Хаджа Ібрагім ага ўважліва вывучаў твар чараўніка, намагаючыся зазірнуць у яго вочы, якія зноў заплюшчваліся, яму хацелася пераканацца — праўду гаворыць гэты чалавек, ці не, затым, нічога больш не сказаўшы, гэтак жа, як і прыйшоў, вярнуўся на сваё месца, сеў, скрыжаваўшы ногі.

Затым нахіліўся ў бок Караванбашы і прашаптаў:

— Гэта ён, святло маіх вачэй. Твой ага. Мужайся. Цярпі. А што рабіць?

Дух на гэты раз надаў свайму голасу крыху пяшчоты:

— Якім жа відным мужчынам ты стаў... Я памятаю цябе зусім малюпасенькім...

Бабуля спявала табе калыханку: спі, засні, спі, засні... калі не заснеш, калі не заснеш салодкім сном, не перастанеш крычаць, прыйдзе дамавік і цябе забярэ. Цябе... Эх, ты, Дуронік... — Голас Духа абмяк. — Гэта я, твой ага, хто ж яшчэ? Твой ага я. Я твой няшчасны ага...

Караванбашы ледзь не абамлеў ад апошніх слоў Духа, некаторыя малюнкі з дзяцінства, туманныя, з невыразнымі абрысамі, ажылі перад ім, пачуліся далёкія, знаёмыя галасы: «...прыйдзе... дамавік... цябе... забярэ...»

— Пазней, калі падрос ужо, нічога я так не баяўся, як гэтага дамавіка, — цяжкая туга прыціснула Караванбашы. — Дамавік... колькі ні распытваў бабулю, да сваёй смерці яна так і не сказала мне — хто гэты дамавік, дзе ён жыве і калі прыйдзе... Усё ныла «помста», «помста»... Чуеш, ага? Ты проста бязлітасна жартуеш са мной?! Скажы, скажы, што ты гаворыш няпраўду...

Дух з горыччу адказваў:

— Мы, духі, не здольныя гаварыць няпраўду. Нават калі захачу, усё роўна не змагу салгаць.

Яго голас зноў стаў дзёрзкім:

— Ну, даволі. Калі табе больш няма чаго сказаць, я пайду. Эх ты, Дуронік... Табе ж болш няма чаго казаць?

Караванбашы пачаў упрошваць Духа:

— Пастой, пачакай трохі. Малю цябе, не спяшайся. Скажы, раскажы мне, ці бачыў ты там майго брата, які захлынуўся ў сваёй маладой крыві?..

Дух разгневаўся:

— Не ведаю, аб чым ты... Разумееш, не ведаю. Там забываюцца на ўсё, што здарылася тут. Наша памяць прачынаецца толькі тады, калі мы вяртаемся сюды. Так, я і на яго забыўся. Так лепш. Часам мне здаецца, што там усе мае

сыны. І бацьку свайго не ведаю. Там усе адзін аднаму бацькі... І ён не ведае мяне. Мне пара сыходзіць. Пустое... Усё марна. Балбатня да дабра не давядзе. Больш не трывож мяне. Не кліч сюды, чуеш?!

Голас Духа задрыжаў, стаў перарывістым, ён загаварыў раптам невыразна, пераходзячы з крыку на шэпт, нічога нельга было разабраць у гэтай мешаніне гукаў, аднак хутка голас гэты зноў набыў сэнс і стройнасць, Дух працягваў:

— ... Ведаеш, чаму пралілася кроў твайго брата? Не ведаеш... Яны зрабілі гэта з-за цябе. З-за цябе. Ты з'явіўся на свет. Пасля гэтага я ў тым доме, у тым горадзе, ля таго ачага захацеў застацца з тваёй маці, але тым самым я наклікаў на сябе грэх, парушыў загад Шаха. Я павінен быў вярнуцца разам з войскам, але не вярнуўся. Вось у чым была мая віна. Маці твая таксама стала заложніцай гэтай віны, ведай...

Караванбашы са здзіўленнем запытаў:

— Ты гаворыш, яны спагналі злосць, вас пакаралі з-за мяне, так?

Дух тут жа ўпэўнена пацвердзіў:

— Так, з-за цябе! Яны помсцілі і мне, і яму за тое, што ты з'явіўся на свет. Я прыйшоў у горад, дзе жыла твая маці, з войскам, і з войскам павінен быў вярнуцца назад, але... не вярнуўся. Пакахаў тваю маці, разумееш? Парушыў загад Шаха. А гэта вялікі грэх, вялікая правіннасць! Загад Шаха быў даведзены да войска ў кожным куточку горада. Загад абвяшчаў: «Усе, хто выйшаў у дарогу разам са мной і з маім войскам і дайшоў да гэтых мясцін, павінны вярнуцца са мной у сталіцу, ніхто не мае права не паслухацца! У таго, хто мае намер застацца і абжыцца ў гэтым пераможаным горадзе, будзе знішчаны ўвесь род, таму што і паветра тутэйшае, і вада, і зямля, і камяні, і нават хлеб, словам, усё, што зведала паражэнне, вылегчана...» Такім быў загад. Шахвярэна з адсечанай галавой, у чувале аднойчы ноччу кінулі ля майго парога... Цёмнай была тая ноч. На небе — ні зоркі, зніклі кудысьці, здавалася, ці не было ўвогуле ніколі, напаўзабытым, далёкім сном здаваліся яны...

* * *

...Хмара засланіла сабой светлатвары месяц, і на невялікі дворык прыгажуні Пярнісы апусціўся злавесны цень. Мамедкулі ляжаў у пасцелі, адна рука ў яго заблыталася ва ўзлахмачаных валасах прыгажуні Пярнісы, якая салодкім сном спала побач з ім, а другая... раптам ён пачуў жалезны стук конскіх падкоў на бруку. Ля самых яго варотаў гэты жудасны стук раптам абарваўся, і ўсё навокал агарнула цішыня. Аблакаціўшыся аб падушку, Мамедкулі прыпадняўся, і хіба не ёкнула ў яго сэрца?.. ёкнула, і ён не толькі на слых, але і вачамі стараўся ўлавіць гэты гук, але, як і раней, стаяла цішыня, і тады насцярожанае сэрца яго пачало шалёна калаціцца. Білася сэрца яго, білася... Хацела выскачыць з грудзей... Раптам з вуліцы пачуўся голас. Нехта гаварыў так ціха, каб толькі ён змог пачуць яго. Нехта, узняўшыся па лесвіцы, шэптам кінуў у расчыненае акно: «Здраднік Мамедкулі, здраднік Мамедкулі, на, трымай узнагароду за злачынства. Вось табе адказ. На, трымай...» Потым, калі яшчэ не змоўклі галасы перад варотамі, нешта з глухім грукатам ударылася аб зямлю. І адразу ж, мерна стукаючы падковамі, коннікі павярнулі і паімчаліся туды, адкуль з'явіліся да яго. Сціх грукат капытоў, аддаліліся галасы, і больш нічога не было чуваць.

Мамедкулі застыў у той жа паставе, не мог нават паварушыцца, яго цела быццам скаваў мароз, ён стаяў як статуй. Баяўся нават дыхаць, думаў — уздыхне, і Пярніса прачнецца. Нельга было зараз ні ўздыхнуць, ні павару-

шыцца, выдаць хоць які-небудзь гук, нельга было ніяк... У гэтага адрэзку часу была свая тайна, і тайна гэта была страшная. Шмат хвілін праляцела вось так, у аняменні... І вось, калі цішыня ператварылася ўжо ў гучны, аглушальны віск, нехта, быццам штурхануўшы, разбудзіў Пярнісу, маўляў, чаго ты спіш, адкрый вочы, зірні, даведайся, чаму мужчына, што ляжыць побач, прыпадняўся і застыў як камень, чаму яго цела, твар, вочы раптам састарыліся ў адно імгненне?! Тут Мамедкулі зірнуў на прыгажуню Пярнісу і, убачыўшы разгубленасць у яе вачах, пасмялеў, павольна падняўся з ложка, пачаў апранацца, таксама няспешна. Жанчына скурчылася ад страху і пралепятала:

— Што здарылася, ты куды?!

Мамедкулі не стаў ёй адказваць, толькі яшчэ раз дзіўна паглядзеў на яе. Ужо калі Мамедкулі пачаў спускацца па лесвіцы ўніз, да варот, лёгкая ўсмешка з далёкага мінулага шызым голубам апусцілася на яго вусны. І адразу ж знікла тайна гэтага адрэзку часу. Мамедкулі зразумеў, што адбылося. Зразумеў, што знаходзіцца ў чувале, які з глухім стукам упаў на зямлю. З той жа, падобнай да голуба ўсмешкай на вуснах, ён зрушыў засаўку на дзвярах, прыадчыніў вароты і выйшаў на ціхую бязлюдную вуліцу, там ён заўважыў вялікую чорную торбу, якая валялася на бруку. Калі Мамедкулі падхапіў торбу і пацягнуў яе ў двор, за ёй пацягнуўся чорны масляністы след...

Ад гэтага следу ішоў зусім не чужы, а такі знаёмы пах... Якім родным быў гэты пах... вусны яго сціснуліся, упершыню ў жахлівым сваім жыцці ён адчуваў моцную слабасць у каленях, ногі задрыжалі, быццам вежы ў час землятрусу, проста на двары ён упаў на калені побач з торбай, сціснуў абедзвюма рукамі твар, і толькі два словы змаглі вырвацца з яго сэрца і ўпасці на язык, падобна нечалавечаму выццю: «Вах, Шахвярэн...»

* * *

Разам са сваім памочнікам, старым слугой, Мамедкулі аднёс астанкі Шахвярэна ў зялёную даліну за горадам, дзе ля падножжа высокіх, стромкіх скал, удалечыні ад людской мітусні гарэзліва струменіўся невялічкі ручай, тут яны выкапалі магілу і пахавалі яго. Засыпаючы зямлёй астанкі свайго любімага сына, Мамедкулі адчуваў, быццам хавае самога сябе, быццам гэта ён лёг тут у магілу і самога сябе закапаў. Нейкі іншы Мамедкулі вырваўся з яго цела наверх і, задыхаючыся, схаваўся ў магільнай цемры. А бывалы стары слуга, ціха седзячы збоку, утаропіўся паглядам у заімшэлыя скалы, ён ніяк не мог прымусіць сябе паглядзець у твар Мамедкулі, увесь час адводзіў вочы. І ўсё-такі не ўтрымаўся, зірнуў: Мамедкулі прысеў на кукішкі ля свежай магілы, і на вуснах яго блукала мяккая, падобная да голуба, усмешка... Стары слуга абамлеў і, гучна сказаўшы «уратуй, о вялікі Алах», пачаў наўмысна кашляць, быццам бы чысціць горла, але колькі ён ні кашляў, тая ўсмешка, што голубам апусцілася на вусны Мамедкулі, заставалася ўсё там жа, не адлятала.

## Раздзел XV

Стаяла мёртвая цішыня. Яе парушыў сам Дух:

— Больш не пытайся ў мяне пра Шахвярэна. Чуеш, не пытайся... Ты ўсё ведаеш пра сябе, але ў маю душу ты не можаш заглянуць...

Хаджа Ібрагім ага зноў ціхенька штурхануў Караванбашы:

— Ды буду я тваёй ахвярай, пара заканчваць размову, ты не бачыш сябе збоку, на табе ж твару няма, святло маіх вачэй... Якая табе справа да гэтых бессэнсоўных размоў прыдуркаватага Духа?!

Караванбашы азірнуўся назад і так паглядзеў на вернага Ібрагім агу, што той імгненна прыкусіў язык. Затым ён сказаў:

— Ты не зразумееш... Выйдзі, прашу... Мне трэба пагаварыць з ім адзін на адзін.

Хаджа Ібрагім боязна сціснуўся.

— Святло маіх вачэй... — паспеў сказаць, але Караванбашы сярдзіта і нецярпліва абарваў яго:

— Я сказаў, і дастаткова! — Потым, падумаўшы, падавіў гнеў. — Прашу цябе, адыдзіся, я павінен сказаць яму нешта сам-насам.

Хаджа Ібрагім ага згадзіўся, але ўсё ж сказаў пакрыўджана:

— Добра, што ж тут зробіш?! Выйду, раз ты хочаш. Але я буду паблізу, святло маіх вачэй, далёка не пайду. Калі што... пакліч мяне.

Хаджа Ібрагім ага папоўз на каленях уздоўж сцяны і знік.

Караванбашы няспешна агледзеў увесь пакой. Падумаў: раз ён чуе голас Духа, можа, як-небудзь удасца ўбачыць і яго самога. Але, дзе ён? Не, і ценю не відаць...

На гэты раз Дух не стаў чакаць пытанняў, ён загаварыў сам:

— Ну, пра што ты хацеў запытаць, дык запытай жа. Бачу, ты валодаеш немалым багаццем, а слова тваё мае аўтарытэт нават у Шаха. Што ж яшчэ патрэбна табе? І дай мне пайсці.

Дух цяпер залежаў ад волі тых, хто выклікаў яго, дакладней, ад волі чараўніка. Толькі Сайях мог вярнуць яго ў сваё вымярэнне. Але Караванбашы не пачуў яго апошнюю просьбу, яго адольвалі свае думкі, ён думаў аб тым, што прыйшоў час сказаць усё, ён вырашыў і раптам на адным дыханні выдаў:

— Ведаеш, ага, я адпомшчу за вас абаіх.

Дух спачатку здзівіўся:

— Аб чым ты, хлопчык? Каму ты адпомсціш за нас?

Караванбашы нарэшце адчуў лёгкасць у душы, быццам другі цвік, шмат гадоў таму ўваткнуўшыся ў яго сэрца, уросшы ў яго, выйшаў наверх і растаў, як цукровы пясок.

— Сказаў тое, што сказаў, — упарта паўтарыў Караванбашы.

— Не, ты нешта цямніш. Растлумач, расталкуй сказанае. — Дух яўна не чакаў такога павароту ў іх размове.

Караванбашы сам не падазраваў аб тым, што, аказваецца, ён не марна жыў, чакаючы моманту, калі зможа пазбавіцца ад болю і мучэнняў, якія гадамі насіў у сэрцы, не верачы таму, што гэты момант калі-небудзь настане. Шчасце заключалася не ў тым, што зараз ён мог выказаць усё, што год за годам, месяц за месяцам, дзень за днём, гадзіна за гадзінай збіралася ў душы, выказаць таму, каму гэта і было прызначана, шчасце заключалася ў тым, што зараз Караванбашы глядзеў на сябе як бы збоку. Глядзеў і бачыў, як нейкі малады мужчына, скрыжаваўшы ногі, сядзіць, хвалюючыся, у знаёмым яму доме і голасам, які яму самому здаваўся чужым, нешта гаворыць, звярнуўшыся тварам да пустаты, і гаворыць так, быццам нехта чуе яго ў гэтым цемнаватым пакоі, пазбаўленым усіх прыкмет, ён пазнаваў гэтага мужчыну, і адначасова не пазнаваў, усё блытаў яго з кімсьці. Гэты малады мужчына нешта гаворыць, старанна стараецца нешта даказаць, але Караванбашы ўжо не чуў яго голасу, ды і не хацеў чуць, ён проста з любоўю сузіраў тое, што адкрывалася яму.

А словы бясстрашна ўступалі на нябачны ў тумане шлях і гучалі так:

— З самага дзяцінства, як толькі разабраўся, што і да чаго, я жыў пачуццём помсты, ведай. Начамі слова «помста» прыліпала да маіх вуснаў, з гэтым словам я засынаў, а пад раніцу яно, зляцеўшы з вуснаў, трапляла ў абдымкі наступнай ночы. Што скажаш пра гэта? Старая мая бабка кожны Божы дзень заклінала мяне матаць на вус гэта слова, і, паміраючы, калі ўжо не магла гаварыць, вачамі вымавіла: «Помста!..» А яшчэ вось што сказалі яе вочы: «А раптам ты забудзеш пра помсту, мілае маё дзіця, глядзі ж, не забудзь?..» Я хутка адказаў: не, не забуду, засні спакойна, не забуду. «Глядзі ж, калі забудзеш...» — заклінаў патухлы пагляд. І я пакляўся: «Калі забуду, хай дамавік забярэ мяне».

Напачатку я не забываў на гэта слова ад страху, слова, як слова, не больш таго... Сэнс яго адкрыўся мне пазней, і я не забываў яго гэтак жа, як не забываю дыхаць, есці хлеб, праганяць смагу вадой... А ты...

* * *

Тут Караванбашы на імгненне страціў усякую сувязь з рэальнасцю, забыўся на тое, хто ён і хто яго суразмоўца, навакольны свет перастаў для яго існаваць, ён заплюшчыў вочы, і, заключаны ва ўчэпістыя абдымкі ўспамінаў, згадаў гады дзяцінства, якія засталіся недзе далёка-далёка.

* * *

...Яго бабуля яшчэ жывая, але вось ужо колькі дзён яе нерухомае, высахлае, як асенняя галінка, цела, скурчылася, ляжыць на пасцелі, сілы поўнасцю пакінулі яе, яна цяжка дыхае, гаворыць з цяжкасцю, адны вочы, толькі вочы, увабраўшы ў сябе аднекуль пучок святла, блішчаць лютым агнём:

— Ад твайго бацькі застаўся збан золата... — аблізваючы сасмяглыя вусны, старая гаварыла з ім больш вачамі, чым языком, — я ўпершыню кажу аб гэтым. Слухай уважліва, не забудзь. Я гадавала цябе ў беднасці, надгаладзь, але золата гэта не зачапіла, да збана не дакранулася. Цяпер я павінна раскрыць табе гэты сакрэт. Смерць мая ўжо ля парога, з сабой у магілу я золата не панясу, а табе яно спатрэбіцца. У верхняй сценцы калодзежа ў двары... ёсць прыямак, збан у ім... ён зарос хмызняком, засыпаны сухім галлём, там гняздзяцца птушкі. Вось дзе золата твайго бацькі, Мамедкулі. А забойца твайго бацькі і брата...

Караванбашы бачыў праз успышкі зыркага святла на ісподку сваіх заплюшчаных вачэй, як той хлопчык, ледзь саўладаўшы са страхам, які скаваў яго душу і цела, напружаны ад хвалявання, не міргаючы, утаропіўся ў твар старой бабулі, дыханне якой амаль спынілася, і ўпрошваючы прашаптаў:

— Хто ён, хто іх забойца? Не памірай, бабуля, малю цябе, не памірай...

Старая ўсміхнулася вачамі, закашлялася:

— Уф, ох... дай перавесці дух. Не памру, не бойся. Не памру... Пакуль ты не паабяцаеш...

— Хто ён? Ты ж сама заўсёды гаварыла, пачакай, маўляў, прыйдзе час, скажу...

— Ведаю, дзіця маё, ведаю. І ты ведай. Твой бацька... служыў у арміі, якая заваявала наш горад... Катам быў. Давераным слугой... Шаха. Ён жыў у доме, суседнім з нашым. Яго акно выходзіла проста ў наш двор, цяпер гэта акно... няма больш таго акна, бацька твой замураваў яго, залажыў камянямі. Прыпадымі мяне, душна, о Божа... Госпадзі, памажы...

Дзіця, дзвюма рукамі абняўшы шыю старой, якая ляжала ў пасцелі на падлозе, прыпадняло яе галаву, потым, падтрымліваючы яе адной рукой, другой паправіла падушку ў галаве, толькі пасля гэтага яна задыхала раўней:

— Твая маці, мая дачка Пярніса... — праз сілу прадаўжала старая, — уф, Божа, як прыпомню, сэрца разрываецца, ах, ах, уф... закахалася яна ў ... твайго бацьку. Ён увесь час назіраў за ёй зверху, з акна, зусім галаву страціў... Пры месяцы... Яна, седзячы ля дзвярэй, таксама паглядала на яго, на сорам, на прыстойнасць... забыліся абое. Не тоячыся, чакалі... калі зойдзе месяц, калі цемра ўсё скрые... А я... бедная, у гэты час рабіла выгляд, што сплю. А што мне заставалася? Яна была маладой удавой-гаротніцай, як я магла ўтрымаць яе ад апантанага ёю быка?! Ведаеш, якую бязглудзіцу несла мне мая родная дачка? Эх... уф.

Старая ўздыхнула і замоўкла. Думы завялі яе далёка. Раптам быццам нешта штурханула яе, яна, здрыгануўшыся, прыпаднялася і села ў ложку, абапіраючыся на рукі. Яна сама была здзіўлена сваім гучным крыкам і тым, як гэты немы крык адолеў шлях з яе знясіленых грудзей да вуснаў, а адтуль вырваўся на белы свет:

— Пярніса, ты што, у пекле засела, нягодніца?! Няўжо развешваць бялізну так цяжка?! Ідзі дадому нарэшце, кладзіся спаць, адпачывай, ужо і ноч надыходзіць, ідзі, я засынаю ўжо. Дзяўчынка мая, Пярніса, паганка ты такая, бессаромніца...

Выкрыкнуўшы гэту незразумелую для хлопчыка фразу, старэнькая бабуля замоўкла, адкінула галаву назад, павалілася на коўдру і страціла прытомнасць.

* * *

Вочы Караванбашы былі заплюшчаны, з-пад апушчаных вейкаў цяклі слёзы, абмывалі салёнай вільгаццю твар, і праз бараду кропля за кропляй падалі на дыван.

...Старая ўрэшце зноў ачуняла, і, адшукаўшы вачамі ўнука, убачыла, што ён, схіліўшы галаву, сядзіць над ёй.

— Кожны раз, калі надыходзіла ноч, хмара засланяла сабой светлы месяц... Дай мне руку, дай... — моцна схапіўшы хлопчыка за руку, яна пасмешліва працягвала. — Увесь двор ахутвала цемра. Твая маці... Твая маці ўзбіралася па лесвіцы і ўлазіла ў пакой твайго бацькі на другім паверсе. Сплю я, ці не, на гэта яны, бессаромнікі, не звярталі ўвагі.

Хлопчык слухаў яе, але гэтыя словы ў яго ў адно вуха ўляталі, а з другога вылятаді, не затрымліваліся ў галаве. Аднаго толькі слова ён чакаў ад яе. Чакаў, калі старая назаве яму, нарэшце, імя забойцы бацькі і брата. Даведаўшыся пра гэта імя, ён укараніць яго ў сваю душу, а потым крок за крокам, дзень за днём будзе высочваць сваю ахвяру, і абавязкова адпомсціць.

Бабуля задыхалася ўсё больш і больш, вочы яе расшырыліся, яна так глядзела вакол сябе, быццам толькі што нарадзілася на гэты свет, марудна і выразна прамовіўшы апошнія свае словы, яна супакоілася і адышла:

— Твой вораг, дзіця, вельмі небяспечны і грозны. Табе гэта золата можа спатрэбіцца. Забойца твайго бацькі... не забудзь, дзіця маё, ні ў якім разе не забудзь, забойца твайго бацькі — сам Шах.

Яна адпусціла руку дзіцяці, уздыхнула і больш не змагла набраць паветра, яе шырока расплюшчаныя вочы застылі. Пасля гэтых слоў на твары хлопчыка,

які схіліўся да самых вуснаў бабулі, каб лепш было чуваць, адразу ўспыхнулі два вогненныя шары. Ён беражліва падняў руку старой, што саслізнула на падлогу і паклаў яе на плоскія старэчыя грудзі. Адышоўшы крыху назад, ён доўга ўглядаўся ў яе твар, потым хутка выйшаў з пакоя. Наперадзе яго чакаў немалы шлях. Знікаючы ў адным месцы і зноў з'яўляючыся ў іншым, ён, нарэшце, апынуўся ў пакоі, дзе зараз сядзеў Караванбашы, абвёў яго вачамі і ўбачыў... сябе. Калі ён сюды дабраўся, ён ужо не быў дзіцем, ён стаў самім Караванбашы, сустрэўшыся твар у твар, яны назаўсёды растварыліся адзін у другім.

Голас Духа адцягнуў Караванбашы ад яго дум:

— Чуеш мяне? — сказаў Дух. — Я вельмі стаміўся... І ты стаміўся. Цяпер табе многае вядома. Ці адлягло ад сэрца?

Караванбашы ў каторы раз ужо ўпарта паўтарыў тое, што ў яго накіпела:

— Я адпомшчу за вас. Думай, што хочаш, усё роўна адпомшчу. Адпомшчу, што б ты ні гаварыў.

У голасе Духа пачуўся лёгкі, з гаркотай смех:

— Каму адпомсціш, эх, Дуронік, каму? А яшчэ ты пастаянна «брат», «брат» паўтараеш, а ён жа не быў тваім родным братам, ведаеш аб гэтым?

Караванбашы не звярнуў увагі на гэтыя словы:

— Хіба ты не адпомсціў за свайго бацьку? Адпомсціў...

— Таму і загубіў сваё жыццё, — з сумнай усмешкай адказаў Дух. — Нельга пастаянна жыць з пачуццём помсты ў душы. Помста — гэта яд... Думаючы, што рыхтуеш яго для іншых, ты труціш сябе самога...

Караванбашы ўспомніліся чамусьці цяжкія залатыя манеты ў збане, пра якія яму расказала бабуля:

— Паміраючы, бабуля раскрыла мне тайну, дзе прыхаваны збан золата, сказала, што золата належала табе, бацька пакінуў, сказала. Твой вораг, дадала, моцны і магутны. Загадала ні ў якім разе не траціць грошы дарэмна. Сказала, ты зможаш, маўляў адпомсціць толькі з дапамогай гэтага золата...

Дух з нянавісцю шапнуў:

— Ах, пачвара...

— Што? Яна ж мяне выгадавала, ага, не забывай. Яна апраўдала твой давер. Нельга гаварыць пра яе так.

— Яна зусім не любіла мяне — голас Духа афарбаваўся ўваскрэсшымі ўспамінамі. — За ўсе тыя гады мы словам не абмовіліся з ёй. Яна заўсёды ненавідзела мяне. Але, відаць, была верным чалавекам...

— Ты, гаварыў, што гэта золата...

— Так, — Дух рашуча перабіў яго, — так, вядома ж, яно не тваё!

— А чыё ж? — Караванбашы шчыра здзівіўся.

— Гэта золата Шаха.

— Шаха???

Караванбашы замёр разгублены, галоўная мэта яго жыцця, як гурба снегу ля падножжа гары, схаваная ад прамянёў сонца аж да самай вясны, раставала проста на вачах. Ён толькі змог прамармытаць:

— Не, ага, не. Малю цябе, не гавары так. Шах жа мой закляты вораг...

— Вось што?.. — Голас Духа загучаў гучней. — «Мой вораг...» Але чаму? Ці...

— Так, ага, з-за вас з братам...

— Што ж ты такое гаворыш, нікчэмны раб?

— Так, ведаю, ведаю... Ты мне запярэчыш — не ён замучыў вас, а яго бацька... Але хіба дзеці не павінны адказваць за грахі сваіх бацькоў? Кроў за кроў, вока за вока — я адпомшчу. Не пакіну гэта так. Колькі начэй я кідаўся

ў сне, крычаў «брат»... Бедны мой брат, няшчасны... — Караванбашы закрыў далонямі вочы.

Звонку на вуліцы гэтак гучна завыў вецер, што слабы агеньчык свечкі ледзь не згас.

Тыльным бокам рукі Караванбашы старанна выцер слёзы, быццам сціраючы разам з імі цяжкія ўспаміны, і дадаў:

— Любыя твае пярэчанні, ага, не змогуць пахіснуць у маім сэрцы любоў да брата, ведай...

— Як жа ты адпомсціш, няшчасны? — перапыніўшы яго, з безвыходнасцю ў голасе запытаў Дух.

Караванбашы агледзеўся навокал, кінуў востры позірк у бок чараўніка Сайяха, які замёр з заплюшчанымі вачамі ў другім канцы пакоя. Пераканаўся ў тым, што тут, акрамя яго самога і чараўніка Сайяха, нікога няма, а чараўнік нібы страціў прытомнасць і не слухае, не чуе іх. І ўсё ж, не задаволіўшыся да канца ўсім гэтым, Караванбашы зноў абвёў кожны куточак пакоя насцярожаным паглядам, канчаткова пераканаўся ў тым, што яго словы пачуе толькі прышлы Дух, кашлянуў, збольшага прабіўшы горла, і ціхім, але даволі рашучым голасам выклаў усё:

— Ведаеш, ага, я адзін з тых, каму ён бязмежна давярае. Я першы яго купец. Усе заказы яго жонкі і дзяцей даручана выконваць мне... Атручу яго. Ён будзе паміраць доўга. Пакутлівай сабачай смерцю будзе паміраць. Ні адна жывая душа не даведаецца, хто прыклаў да гэтага руку. І што з таго, што ён Шах? Хай расплаціцца за грахі свайго бацькі.

Караванбашы замоўк і шаўковай хустачкай выцер халодны пот са свайго твару на шыі, шоўк імгненна стаў вільготным, ён кінуў хустачку на падушку:

— Што скажаш цяпер? — голасам, поўным спадзяванняў, чакаючы адабрэння, запытаў Караванбашы.

У голасе Духа адчуваўся бясконцы сум. На гэты раз ён гучаў, як дудка, што аплаквае мерцвяка:

— Памятаю цябе малюсенькім дзіцём. Ты быў такім мілым, калі смактаў маленькія белыя грудзі сваёй маці... Дуронік... Не рабі гэтага...

Караванбашы разгубіўся, ён не гатовы быў да такога адказу бацькі. Ціха і паспешліва ён прашаптаў:

— Ніхто не даведаецца... я падарую яму бясцэнную палку... У краіне гяўраў ёсць адзін горад, пабудаваны на вадзе, я прывёз яе адтуль...

Ён чамусьці расхваляваўся, абарваў сябе на паўслове, ускочыў:

— Пагляджу, ці не падслухоўвае нас гэты няшчасны?! — сказаў.

Падышоў да дзвярэй і, прыклаўшыся да іх вухам, «не, здаецца, ні душы» падумаў, затым раптоўна адчыніў дзверы і тут жа зачыніў, там сапраўды нікога не было, супакоіўшыся, Караванбашы вярнуўся туды, дзе сядзеў, і ўздыхнуў з палёгкай:

— Няма нікога. Цішыня. Падалося... Паслухай, ага, адкрыю тайну табе аднаму, палка ўнутры пустая, і там, унутры, змешчаны праўдагаваты шкляны сасуд увесь у дробных дзірках. Гэты сасуд запоўнены смяротным ядам. Кожны раз, калі ён будзе абапірацца на палку, яд будзе прасочвацца і трапляць яму на скуру. Толькі ўбачыў Шах гэту палку, адразу схапіў яе. Відаць, вельмі спадабалася яму. Так, гэта сапраўды цудоўная ручная работа, вачэй не адарваць. А яму палка патрэбна была. У дзяцінстве ў яго было шчаня, і аднойчы гэта шчаня ўпала ў напоўнены басейн, а ён кінуўся за ім і выцягнуў. Тады і пашкодзіў нагу, да гэтага часу кульгае. Бачыш, ага, я разумна ўсё разлічыў. Я абавязкова даб’юся свайго...

Дух, памаўчыўшы, сказаў:

— Навошта? Ты хоць задумаўся, навошта? Той Шах, яго бацька, мёртвы даўно, а сам ён — у чым яго віна? І яшчэ, адкуль ты ведаеш, што гэты ўчынак твой пойдзе мне на карысць? Ты не падумаў аб тым, што мне куды больш прыемна быць там, чым тут з вамі?! Вось ты збіраешся адпомсціць за мяне, а не запытаў, ці патрэбна мне гэта. Марна ты ўсё гэта задумаў, сынок...

Дух бездапаможна ўздыхнуў. А Караванбашы паспешліва запярэчыў:

— Не, не марна, — ён павысіў голас: — За ўсе нашы пакуты павінна наступіць адплата. На гэтым свеце свае рахункі. Можа, як ты гаворыш, «там» усе вы страцілі розум: забыліся на ўсё. Можа быць... Мы ж нічога не забываем. Яго віна вялікая, што ні кажы, вялікая.

— Казкі мне баіць будзеш... Усе грэшныя. Хто без граху? Думаеш, тое, што здарылася са мной, адбылося беспрычынна, проста так? Не. Хіба не пайшоў я насуперак слову і волі майго дабрадзея? Пайшоў. І здарылася тое, што здарылася. Я павінен быў быць пакараным, і мяне пакаралі. Задумайся...

— Добра, а як быць з маім братам?

— Зноў ён гаворыць «брат»... Быў грэх, сынок. Мой грэх, твой грэх, яго грэх, якая розніца — чый? Грэх быў. Не рабі гэтага...

Павевы голасу Духа Караванбашы адчуў на сваіх валасах, быццам бы ён ласкава гладзіў яго па галаве.

Караванбашы шапнуў:

— Ды буду я тваёй ахвярай, ага, благаславі мяне...

— Паслухай мяне, сынок, выслухай да канца. Ты абавязаны прадоўжыць наш род, і сам павінен жыць. Ведаеш... — у Духа міжволі прарвалася горкае прызнанне, — ты хоць разумееш, што жыццё — гэта цудоўная рэч? Выкінь з сэрца страшны агонь помсты, патушы яго, ды так, каб ад яе і попелу не засталося, кажаш, ты не абдзелены нічым, у цябе ўсё ёсць — багацце, сувязі, раскоша... А дзе твой спакой, сынок, спакой твой дзе? Няма, няма ў цябе спакою. Мне шкада цябе...

— Калі адмоўлюся ад задуманага, мне спакою не будзе ні на імгненне. Спакой пакіне мяне назаўсёды...

— Спадзяешся, што знойдзеш спакой, калі давядзеш гэтую справу да канца?

— Так...

— Няпраўда... Не па сіле табе некага пакараць, халоп, карае Бог. Толькі Бог падае кожнаму па справах яго. Не ўмешвайся, сынок, у промысел Божы.

Караванбашы маўчаў. Галава яго звесілася на грудзі. Толькі цяпер ён раптам зразумеў, якую цяжкую ношу ўзваліў на сябе... Ён задыхаўся. Адчуў, што прыйшоў час закончыць размову, таму што ён адзін ведаў гэта, справа зроблена, страла пакінула лук. Ён стомлена прызнаўся:

— Ведаеш, ага, я ж... я гэтую палку падараваў ужо Шаху. Позна. Каб ты ведаў, як ён радаваўся, атрымаўшы яе. Такая дзіўная палка...

— Дуронік, Дуронік... што ж ты нарабіў?! Хіба можна рабу Божаму падымаць руку на цень Бога на зямлі?

— Не, я зрабіў усё па справядлівасці.

Караванбашы ўвесь знясілеў, але прадаўжаў упарта настойваць на сваім.

Дух памаўчаў крыху, перавёў дыханне. Ён быццам бы разважаў аб нечым, а затым рашуча прадоўжыў:

— Ты не сын мне, калі зараз жа не пойдзеш і не кінешся ў ногі Шаху, не вымаліш сабе даравання. Раскажы ўсё сам, пралі горкія слёзы, калі прызнаешся, ён даруе... можа, даруе.

Караванбашы ўсміхнуўся:

— Позна, ага, позна...

На гэты раз Дух нешта неразборліва прамармытаў. Караванбашы з цяжкасцю змог разабраць яго словы. Дух гаварыў:

— Трапілася б мне ў рукі, сынок, гэта старая, і катаваў бы я разам са сваім чорным рабом яе так, што свет не бачыў. Расплавіў бы свінец і па кроплі ліў бы ёй у горла. А якія прыгожыя швы наклаў бы я іголкамі ёй на язык, які паўтараў табе «помста», «помста»... Вядзьмарка, пачвара...

Упершыню за ўвесь час размовы душу Караванбашы напоўніла радасць, пяшчотная, як матылёк:

— Ды буду я ахвярай словам тваім, ага, ты ж перажываеш за мяне? О, Божа, які ж я шчаслівы, калі б ты толькі ведаў, які я шчаслівы, ага?!

Дух маўчаў. Знадворку выразна чуўся посвіст мяцеліцы. Пяшчотны матылёк у душы Караванбашы ўспырхнуў спалохана і некуды паляцеў, змрочныя думкі зноў адолелі яго, ён сказаў:

— Выходзіць, ага, я марна пражыў жыццё, ганяючыся за прывідам помсты?! — словы Караванбашы змяшаліся са слязьмі, якіх ён нават не заўважаў.

— Што ты расплакаўся, як жанчына?.. — сурова адказаў Дух. — Уставай, адпраўляйся ў палац, табе трэба паспець да таго, як іншыя адкрыюць тайну палкі... Рабі, што я кажу.

— Не, не змагу, ага, няма сілы ў нагах. Нават з месца не магу ўстаць...

* * *

Раптам знадворку пачуўся шум, які прарваўся скрозь завыванне ветру. Нехта ламаўся ў вароты. Атрад шахскіх воінаў, чалавек дзесяць-пятнаццаць, агаліўшы мячы, стаялі на вуліцы, некаторыя з іх, схапіўшы ў рукі камяні, барабанілі па варотах з усяе сілы. Гэта былі адборныя воіны Шаха з яго асабістай аховы. Ад гэтага шуму прачнуліся нукеры, якія спалі ў прыбудове для слуг у канцы двара, і служанкі ў доме на верхнім паверсе, жонка і дзіця Караванбашы, агорнутыя трывогай, таксама ўсхапіліся з пасцелі. Усе перапалохаліся, і ніхто не ведаў, што рабіць. Нехта разгублена бегаў па двары, а нехта, баючыся, забіўся ў цёмны куток. Хаджа Ібрагім ага стрымгалоў уляцеў у пакой Караванбашы:

— Ды буду я тваёй ахвярай, святло маіх вачэй! — усхвалявана сказаў Хаджа Ібрагім ага. — Прыйшлі воіны Шаха, чуеш, зараз паламаюць вароты. Шах, кажуць, прызывае цябе неадкладна да сябе. Загадаў воінам, каб прывялі. А што здарылася — не кажуць, можа, табе нешта вядома?

Караванбашы сам не зразумеў, чаму сілы вярнуліся да яго. Ён ускочыў і рашуча сказаў:

— Салдаты, кажаш? Ідзі перадай ім, зараз выйду. Хай не шумяць больш, скажы — ён абмыецца і прыйдзе. Ідзі хутчэй...

Хаджа Ібрагім ага схіліў галаву і з трапяткой душой павінен быў падпарадкавацца. Ён выйшаў у двор, прыблізіўся да варот, якія трэсліся ад udараў салдат, і крыкнуў праз плот:

— Ідзе, ідзе. Пацярпіце крыху. Зараз абмыецца і прыйдзе.

Шум на вуліцы заціх. Воіны крыху супакоіліся.

Караванбашы прайшоў на сярэдзіну пакоя. Агледзеўся...

— Ага, ты можаш паказацца мне? — запытаў ён.

— Не, не магу... Нам не дадзена гэта, — з жалем адказаў Дух.

— Гэта мая апошняя сустрэча з табой, ага. У мяне адна просьба да цябе.

— Гавары...

— Я ўсё жыццё сумаваў па табе. Сваю маці, родную маці ні разу не ўспомніў. Толькі цябе, ага, і брата ўспамінаў. Цябе і яго... А вось цяпер... ведаеш, ага, я ўспомніў маці...

Караванбашы замаўчаў, у скрусе развёў рукамі, потым узняў іх да неба, з глыбіні яго душы пачуўся стогн:

— Раскажы пра маці, ага, прашу цябе, раскажы пра яе...

Чараўнік Сайях няспешна ўстаў з месца, дзе ён ужо даўно адчужана сядзеў і, не звяртаючы ўвагі на Караванбашы, мінуў яго і выскачыў вон.

## Раздзел XVI

Неўзабаве войска на чале з Шахам пакінула заваяваны горад, дзе не засталося і месца ад былой ганарлівасці, а няшчасны Мамедкулі аказаўся адзіным чалавекам з усяго войска, які, парушыўшы ўсе законы, не здрадзіў свайму ракаваму рашэнню і асеў тут. Ён ужо ажаніўся з прыгажуняй Пярнісай, і ў адзін з цудоўнейшых дзён у іх нарадзіўся сын, пасля доўгага роздуму Мамедкулі даў яму імя Алахвярдзі, але, гуляючы з ім і песцячы яго, ён называў яго Дуронікам.

У адну з доўгіх цёмных начэй, згубіўшы сон і спакой, Мамедкулі разбудзіў прыгажуню Пярнісу, якая, прыціснуўшыся да яго, спала салодкім сном, ціхенька штурхануў яе ў бок і, гладзячы яе шаўковыя валасы, «не бойся, уставай», сказаў, «ужо час...» Прыгажуня Пярніса спачатку нічога не зразумела, рашыла, што прачнуўся малы і просіць грудзей, потым успомніла: гэтай ноччу яна паклала спаць малога разам са сваёй маці. Нічога не пытаючыся, моўчкі ўстала з пасцелі, і ён, і яна ні разу не зірнуўшы адзін на аднаго, пачалі няспешна апранацца. Апрануўшыся, прыгажуня Пярніса пакорліва застыла перад Мамедкулі. Мамедкулі паглядзеў на жонку зачараваным позіркам. У вачах яго яскрава быў бачны глыбокі смутак, з глыбіні сэрца ў яго вырваўся горкі ўздых, потым ён, апусціўшы галаву, рушыў наперад і шапнуў «пайшлі». Удваіх — спераду Мамедкулі, а за ім — прыгажуня Пярніса — яны спусціліся ў двор, ціхенька, каб нікога не разбудзіць, адчынілі вароты і зноў — спераду Мамедкулі, а за ім — прыгажуня Пярніса выйшлі з варот і выправіліся ў дарогу. Ішлі-ішлі і прыйшлі ў знаёмую скалістую мясцовасць непадалёку ад горада, падняліся на вяршыню гары. Унізе ляжала глыбокая цясніна, крынічка працякала ля ног, вада з гэтай крынічкі гулліва ўючыся, як змяя, знайшоўшы зручнае месца, кідалася адсюль уніз, быццам засумаваўшая каханая ў шырокія страсныя абдымкі. А потым, пакружыўшы вакол свежай магілы ў глыбіні цясніны, пабегла далей па вядомым толькі ёй адной шляху.

Знайшоўшы зручнае месца, абое апусціліся на зямлю, але селі яны, прыхінуўшыся спінамі адно да аднаго. Іх спіны так шчыльна прыціснуліся, што гледзячы збоку, магло падацца, што гэта не два целы, а адно. Гэта нерухомае адзінае цела, моцна заціснуўшы ўнутры дзве трапяткія, дрыжачыя душы, нікуды не хацела іх адпускаць. Прыгажуня Пярніса, працягнуўшы руку, сарвала самую доўгую травінку паблізу і, засунуўшы яе ў рот, пачала грызці яе кончык. Доўга сядзелі яны моўчкі, прыслухоўваючыся як журчыць вада, «ды паможа Бог» сказаў Мамедкулі і ўстаў. Услед за ім, страціўшая апору Пярніса, паўтарыўшы «ды паможа Бог», абаперлася

рукамі аб зямлю, паднялася і выпрамілася ва ўвесь рост, але цяпер не павярнулася ў бок Мамедкулі, стаяла спінай да яго, толькі яшчэ мацней сціснула зубамі травінку, горкі яе смак пранікаў у язык, рот і мозг, але яна ўсё прадаўжала яе жаваць. Мамедкулі не стаў больш марудзіць, глыбока ўздыхнуўшы, ён адной рукой схапіў за талію Пярнісу, а другой — абедзве яе нагі, узняў высока над галавой маладое і ўжо адзінокае цела жанчыны... У гэта імгненне ён чамусьці зірнуў угору і ўбачыў, што па ўсім небе рассыпаны бліскучыя крупінкі солі, названыя зоркамі, і зоркі гэтыя, дзе — чародкамі, дзе — выстраіўшыся ў рад, а дзе — у адзіночку, запоўнілі нябесны небасхіл. Заўтра, мусіць, будзе горача, падумаў ён, а яшчэ падумаў, як прачнецца раніцай малы, прывязаны да згорбленай спіны бабулі і, махаючы ручкай з пялёнак, пачне крычаць без стомы, неўгамонна. А старая ж, чуючы толькі тое, што ёй выгадна, будзе прыкідвацца глухой, не звяртаючы ніякай увагі на крыкі малога, напаўголаса напеўна забубніць: «Спі, спі, малыш, спі, мілы, засні, хай прыйдуць да цябе салодкія сны, толькі ўпадзе на зямлю цень гаргача — ды дываны рассцялілі ў гэтым ценю, а я раскажу табе казку аб кожнай начной зорцы, што затаілася ў гэтым ценю. А не будзешь спаць, ... «дамавік прыйдзе і цябе забярэ...»

Дзіўна, але малы заціхне пад гукі гэтага скрыпучага голасу, паступова стоміцца, і надыдзе другое ранне, не падобнае ні на адно іншае, што былі раней... «А ў чым яе віна?.. няма ніякай віны на гэтай няшчаснай, ну і што з таго, што яна стала прычынай усіх яго цяперашніх бедаў, знойдзецца нямала іншых павінных у яго няшчасцях, можа, адмовіцца ад свайго намеру...» — падумаў Мамедкулі і хацеў апусціць прыгажуню Пярнісу зноў на зямлю... зноў можна будзе гладзіць яе шаўковыя валасы сваімі мазолістымі пальцамі, і яна, уся дрыжачая, зноў прыцiснецца да яго, і хай яны прыйшлі сюда паасобку, як чужыя, але цяпер вернуцца як адзінае цэлае. Раптам ён адчуў, што яго ўзнятыя рукі сціскаюць пустату... каго ж яму паставіць зноў на зямлю?! Прыгажуня Пярніса знікла... Імгненне таму, магчыма, ён і трымаў яе ў руках, але цяпер у іх не было нічога і, як два аголеныя мячы, яны мецілі ў неба, хіба не пагражалі гэтыя рукі зоркам?.. Пагражалі... Прапала, паляцела прыгажуня Пярніса, не выдаўшы ні адзінага гуку, ні аб чым не прасіла, не маліла, не наракала... Згінула... Але тады — куды? Куды знікла гэта няшчасная раба Божая?! Навошта, чаму пустыя рукі Мамедкулі ўзняты да неба, калі гэта ён працягнуў іх да зораў?! Ён захацеў апусціць іх, але не змог. У вачах яго ажыло яшчэ нешта такое, аб чым зусім не хацелася ўспамінаць. Пасля таго, як спіхнуў сваю маці ў калодзеж, ён адчуваючы разгубленасць і жах, забег у двор купца Забулы, які спаў пад гарагаджам, і ўваткнуў кінжал проста яму пад сэрца, у гэты час на вусны Забулы, быццам маленькая райская птушка, села ўсмешка. Так ён і памёр з усмешкай на вуснах. Мамедкулі зноў падзівіўся, чаму той прыняў смерць вось так, усміхаючыся, і чаму яго, Мамедкулі, акамянелыя рукі, як двое крылаў, як два аголеных мячы намеціліся ўвысь, у бок неба?!

Мамедкулі нейкім чынам адарваў пагляд ад сваіх акамянелых рук, і зноў зірнуў ў бок зорак, якія загадкава міргалі яму. Паглядзеў і ўбачыў, што яны быццам бы састарэлі, скурчыліся, патускнелі і паступова пачалі сцякаць за гарызонт. Быццам цюлевая заслона прыхоўвала іх. Раніца надыходзіла ціха і непрыкметна. А куды падзелася жанчына, дзе яна, што з ёй сталася?.. Мамедкулі, у якога ўздрыгвалі плечы ад бязгучных рыданняў, праз сілу глытаючы слёзы, хіба не здзіўляўся гэтаму?.. Здзіўляўся...

## Раздзел XVII

Караванбашы стаяў пасярэдзіне пакоя, яго рукі ўсё гэтак жа былі працягнуты да неба, праз колькі часу ён, нарэшце, апрытомнеў і вярнуўся на ранейшае месца. Сеў, скрыжаваўшы ногі, і не стаў больш шукаць Духа ні на слых, ні зрокам, толькі ціха сказаў:

— Ведаеш, ага, смерць — добрая рэч, калі не адчуваеш яе прыбліжэння... Начамі ў час падарожжаў, гайдаючыся на вярблюдзе, не раз я спрабаваў уявіць сабе яе, але не атрымлівалася...

Дух адазваўся:

— Сынок, табе нельга заставацца тут. Я ведаю, што цябе чакае. Яшчэ не позна, бяжы, ратуйся. Бяжы, куды вочы глядзяць, бяжы.

Узрушаны Хаджа Ібрагім ага ўжо без усякага дазволу ўварваўся ў пакой:

— Святло маіх вачэй, я пайшоў, сказаў салдатам, што ты хутка прыйдзеш, але ж гэта такі нецярплівы народ... Кажуць, калі не з'явішся, паломяць дзверы і ўсіх пасякуць шаблямі — разам з жанчынамі і дзецьмі. Кажуць, Шах разгневаўся на цябе. Ты, кажуць... хацеў атруціць яго...

— Выйдзі да іх яшчэ раз, малі, прасі, скажы, што іду. Я не збягу. Хіба ёсць мне куды бегчы? Ідзі... Не, пачакай! — Караванбашы перавёў дыханне. — Паклапаціся аб маім адзіным сыне, я выратаваў цябе ад смерці, не забудзь пра гэта.

— Святло маіх вачэй, хіба на такое можна забыцца?! — з вачэй Хаджы Ібрагім агі пакаціліся слёзы. — Ніколі...

Сам жа ён падумаў: «Як жа дакладна падмеціў чараўнік Сайях па дарозе ў Дзюзангах, што мая любоў — зусім іншая любоў. Як мне жыць, калі з ім нешта здарыцца?»

Дух падаў свой сумны голас:

— Пачвара, ах ты пачвара!.. Дабілася свайго, адпомсціла мне...

Караванбашы не стаў звяртаць увагі на гэты голас. Схапіў за руку Хаджы Ібрагім агу, молячы яго, сказаў так:

— Слухай, Ібрагім ага, прыйшоў мой канец, а ты застаешся, ты ведаеш усе мае тайны, ведаеш, дзе схавана золата... Бяры яго, рабі, што хочаш, толькі пра сына, пра сына паклапаціся... Ну ідзі ж, ідзі, здаецца, зноў пачалі буяніць.

Хаджа Ібрагім ага раптам усім целам прытуліўся да Караванбашы, тут жа адскочыў, зарыдаў і, рыдаючы, выбег з пакоя.

З вуліцы цяпер даносіліся яшчэ больш раз'юшаныя галасы і пагрозы. У вароты ўжо не стукалі, гэта нельга было назваць стукам, іх пачалі ламаць.

Адзін з воінаў, падняўшы з зямлі важкі камень, з усяе сілы кінуў яго ў двор, у бок дома. Пераляцеўшы цераз плот, камень упаў проста пад ногі Ібрагім агі, які якраз выбег на вуліцу і, задыхаючыся ад хвалявання, наблізіўся да варот. Прашаптаўшы «Божа, уратуй», ён, звяртаючыся да салдат, гучна крыкнуў:

— Пачакайце яшчэ, малю вас! Пачакайце крышку! Ідзе...

Прачнуўшыся, жанчына і дзіця стаялі ля самых дзвярэй. Маленькі сын Караванбашы ўвесь дрыжаў ад страху і моцна трымаўся за падол маці. Разгубленая маці, адной рукой абняўшы дзіця, прыціснула яго да жывата, а другой старалася падабраць растрапаныя валасы пад хустку.

Яшчэ не зусім развіднела, у паветры кружыліся рэдкія сняжынкі, можа, гэтыя сняжынкі былі часткай выпаўшага з вечара снегу, што, быццам пушыстае футра, пакрываў вяршаліны вялізных гарагачаў, якія раслі ўздоўж плота.

Сняжынкі бесклапотна лёталі ў двары і былі падобныя да бязважкіх часцінак святла, што пранізвалі марознае змрочнае паветра.

Чараўнік Сайях выйшаў у двор, у руках у яго быў дыванок для намаза і нейкі вузел. Раптам у доме насцеж адчынілася запёртае наглуха акно пакоя на другім паверсе, таго, дзе ён пакінуў Караванбашы сам-насам з Духам, яно якраз выходзіла ў двор. У акне паказаўся Караванбашы і закрычаў у бок варот, якія ўжо ледзь вытрымлівалі націск шахскіх салдат:

— Алах Акбар! Сказаў жа, што іду! Няўжо вы не можаце чакаць?! Іду!

Удары сціхлі. Але салдаты і не думалі супакойвацца, над плотам паказалася папаха. Здавалася, адзін з іх намерыўся пералезці праз плот. Ён дзікім позіркам агледзеў двор і напачатку нікога не заўважыў, таму што нукеры, ахопленыя страхам, затаіліся ў доме для слуг і не выдавалі ні духу. Адзін Хаджа Ібрагім ага стаяў ля варот. А яшчэ маці са сваім дзіцем прыціснуліся да дзвярэй дома, непадалёку ад іх замёр чараўнік Сайях, салдат уважліва, з прагнасцю агледзеў усіх. Больш нікога не было.

Караванбашы са стукам зачыніў акно і накіраваўся да выхаду, але, затрымаўшыся на імгненне, зноў звярнуўся да пустаты:

— Я адыходжу, ага, — сказаў. — Гаворыш, што там я не пазнаю ні цябе, ні майго брата, так?

— Так... прашаптаў Дух.

— Ты яшчэ тут?

— Так!

Полымя свечкі ў падсвечніку на століку ў цэнтры пакоя, уздрыгваючы, патухла, хвалямі разыходзілася вакол, хоць і невялікае, але ўсё ж цяпло.

— Выходзіць, мы з табой больш ніколі не ўбачымся. Як распарадзіцца лёс, хто яго ведае. Пачакай, не пакідай мяне аднаго.

Хоць адказ Духа і прымусіў застыць кроў у яго жылах, Караванбашы нічым не выдаў, што ўзрушаны. А адказ быў такім:

— Слухай мяне! Вазьмі той кінжал, што вісіць на сцяне! Не бойся, і хай не дрыжыць у цябе рука. Гэта вельмі лёгка. Не аддавай сябе Шаху на суд і расправу, табе ўчыняць вялікія пакуты. Усадзі нож пад сэрца так, быццам вяртаеш на месца нейкую рэч...

Караванбашы быццам бы чакаў гэтых слоў, не раздумваючы, хутка схапіў кінжал, што вісеў ззаду на сцяне. Пакруціўшы яго ў руках, ён як заварожаны, улавіў позіркам бляск клінка, гэты халодны бляск асляпіў яго, моцна зажмурыўшы вочы, Караванбашы дакладным ударам уваткнуў востры канец кінжала ў грудзі. Кінжал па рукаятку ўвайшоў у яго плоць, раскроіўшы сэрца надвое. Дзве кроплі крыві з рассечанай плоці накіраваліся ўверх знутры, прайшлі праз горла і, дасягнуўшы вуснаў, застылі там. Апошняе яго слова змяшалася з гэтымі кроплямі, пакінуўшы нежывое цела:

— Бывай, ага...

Караванбашы ўжо не пачуў адказу Духа:

— Бывай, сынок! — прашаптаў Дух.

* * *

Калі салдаты ўварваліся праз зламаныя вароты ў двор, Хаджа Ібрагім ага, як ні стараўся адбегчы ў бок, у яго гэта не атрымлівалася, і першы свой гнеў салдаты абрушылі на яго, збілі з ног і растапталі ў попел. Мёртвыя вочы Хаджы, чыё цела было ўшчэнт знявечана, ды так, што яго нельга было пазнаць, здзіўлена сачылі за салдатамі, якія білі яго нагамі, тапталіся на яго

вываленых кішках. Рот у яго сутаргава разяўляўся і закрываўся, але дыханне ўжо адляцела ў марозную вечнасць.

Тое, што салдаты заняліся Ібрагім агой, чараўнік Сайях выкарыстаў па-свойму. Ён вырваў дзіця з рук маці, якая бездапаможна, молячы вачыма, азіралася па баках, паімчаўся ў другі куток двара, рассцяліў дыванок, прызначаны для правядзення намаза, на зямлю, дастаў з вузельчыка чырвоную папаху і надзеў на галаву, разгубленае дзіця, якое за ўвесь час не выдала ні гуку, схаваў пад сваю шырокую накідку, і разам з малым увайшоў у свой час адасаблення, вызваліўшыся ад усяго на свеце, забыўшыся на ўсё і ўсіх. Ён моцна прыціснуў галаву дзіцяці да сваіх грудзей, рот яго знаходзіўся ля самага сэрца Сайяха, у выпадку, калі б той закрычаў, біццё сэрца чараўніка павяло б гэты крык далёка-далёка адсюль, зрабіла б нячутным...

Салдаты на імгненне замерлі і ўтаропіліся на статнага, з рэдкімі валасамі на твары дэрвіша, які, седзячы ў баку, мерна разгойдваўся ўзад-уперад і, не звяртаючы ніякай увагі на ўсё, што адбываецца навокал, мармытаў вірд, салдаты абышлі яго і, як горны сель, рынуліся да дома, пабеглі за жанчынай, якая з шалёным крыкам паспрабавала выратавацца. Адзін з лучнікаў, стаўшы на адно калена, выпусціў ёй услед стралу, і тая дагнала яе, вастрыё стралы мякка ўвайшло ў яе спіну і выйшла вонкі з грудзей. Жанчына ўпала ніцма, як вадаспад, рассыпаліся валасы з-пад яе хусткі, зялёныя вочы закаціліся, імгненне — і яна ўжо нічога не адчувала... салдаты ўварваліся ў дом, разбегліся па пакоях і знайшлі ў адным з іх распластанае на падлозе цела Караванбашы... танюткай нітачкай струменіўся дымок ад дагарэўшай свечкі на стале... Агаліўшы востры меч, старэйшы з воінаў адным махам адсек яму галаву і апусціў у торбу, затым беражліва сцягнуў яе краі. Цяпер ён кіне гэты трафей да ног Шаха. Пасля таго, як яны ўдосталь наглуміліся над абезгалоўленым целам, нехта з салдат раптам нешта ўспомніў і пачаў азірацца вакол:

— А куды падзелася дзіця? У яго ж быў сын... шукайце!

Рассыпаўшыся ва ўсе бакі, крок за крокам яны зноў абшарылі вялізны дом Караванбашы, увайшлі ў двор і пядзя за пядзяй абшукалі домік для слуг, «калі яго схавалі вы, знішчым усіх», паабяцалі нукерам, але дзіця знікла, быццам скрозь зямлю праваліласяці ўзнеслася на неба, якое сваім шчодрым, белым, як малако, снегамператварыла наваколле ў белы-прыбелы свет. І таго дэрвіша больш ніхто не бачыў. Ён таксама знік са двара, прапаў.

* * *

У тое ранне пайшоў буйны зярністы снег. Нельга было як след разгледзець ні дамоў, ні дарогі, ні дрэў, ні людзей. Чараўнік Сайях, схапіўшы ў ахапку дзіця, уцякаў з горада, не пераводзячы дух. Вочы ў яго былі заплюшчаны, але ён ні разу не аступіўся, не спатыкнуўся, быццам вось ужо тысячу гадоў хадзіў па гэтых месцах.

Ён сам здзівіўся таму, як ідзе. Ён ішоў не роўна, а кругамі. Прыпомніў сваё дзяцінства ў краіне Чэрхі-фелек, у родных мясцінах, ці што?! Нікім не заўважаны, ён такім чынам па Кярызнай дарозе дабраўся да гарадскіх варот. Задыхаўся так, што сэрца ледзь не выскачыла з грудзей. Тонкія рукі дзіцяці моцна абвіліся вакол шыі Сайяха, ды і сам ён так моцна прыціснуўся да яго, што цела Сайяха амаль анямела. Як яму ўдалося несці на руках такое даволі вялікае дзіця, адкуль узяліся сілы для гэтага — ён не смеў нават думаць, баяўся, што, калі задумаецца, сілы пакінуць яго. Гарадскія вароты толькі-толькі адчыніліся. Стомленыя падарожнікі, якія прынеслі з сабой ледзяное дыханне

сцюжы з Дзюзангаха, правялі халодную ноч перад зачыненымі варотамі, усё яшчэ сонныя, не спяшаючыся, яны ўваходзілі ў горад.

Чараўнік Сайях, нізка схіліўшы галаву, мінуў у варотах ахоўніка, які падазрона агледзеў яго, пазбягаючы глядзець у твары сустрэчных, выйшаў з горада і ступіў на дарогу ў Дзюзангах, не аглядаючыся, з былой хуткасцю і тым жа спосабам — кругамі, пачаў рухацца наперад па гэтым шляху. Думаючы сам сабе, што, калі салдаты, рана ці позна, адумаюцца, яны, вядома ж, пачнуць праследаваць яго. Так ён адолеў даволі вялікую адлегласць, сілы чараўніка былі на зыходзе, ён спыніўся, перавёў дыханне, хацеў апусціць дзіця на зямлю, але хлопчык прыліп да яго як смала, немагчыма было адарваць. Сціскаючы дзіця ў абдымках, чараўнік Сайях азірнуўся. І горад, і гарадскія вароты патаналі ў марыве бязмежнай белізны. Але і сам ён, калі б хто глядзеў на яго збоку, таксама ператварыўся ў белы-прыбелы туманны міраж, яго нельга было заўважыць.

Хутка гэтыя абедзве, непрыкметныя для вока аднаго і другога туманнасці яшчэ больш аддаліліся. І Чараўнік Сайях зноў азірнуўся на горад, але больш не ўбачыў яго, не было ніякага горада, горад знік.

Ён моцна зажмурыўся, а потым прыадкрыў заінелыя вейкі, яшчэ раз паглядзеў у той бок, успомніў словы Сейіда Сары, якія мудрэц абвясціў шмат гадоў таму, і канчаткова пераканаўся ў тым, што вось зараз, у гэтае імгненне, няма на зямлі гэтага горада, нават снег, які выпаў і ператварыў яго ў агромністую белую гару.

Мароз пачаў абпальваць твар. Захутаўшыся ў свой, ледзь прыкметны цень на замерзлай халоднай зямлі, сціскаючы ў абдымках дзіця, чараўнік Сайях павярнуўся спінай да горада-прывіда і прадоўжыў свой шлях.

## Раздзел XVIII

Мяцеліца, люта бушуючы за Далінай Чараўнікоў, вакол Нябачнай гары, не магла дабрацца да самой даліны. Дарога, якая пралягала ля падножжа гары, уся была засыпана снегам, гэтую чыстую белую прастору не парушалі ніякія чужыя сляды і знакі. Быццам увесь свет быў закручаны ў пакрывала.

А ў Даліне Чараўнікоў стаяла веснавая пара, пара цвіцення і птушынага шчэбету, кветачка пераклікалася з кветачкай, салавей — з салаўём. Чараўнікі групамі, размаўляючы паміж сабой, прагульваліся як звычайна, адны — уздоўж даліны, а другія, зрабіўшы круг, сядзелі вакол куста ружаў на зялёным лузе. Толькі аднаго Ак дэрвіша ахапіла трывога, яго думкі блукамі далёка ад гэтых блаславёных мясцін, яго слых улоўліваў стук сэрца, якое білася ў такт стомленаму дыханню. Ак дэрвіш ведаў, чыё гэта сэрца, перад яго вачамі ажыў вобраз Сайяха, і больш не адпускаў яго. Ён убачыў і дзіця на яго руках, убачыў і горад, захутаны ў белы туман, які прапаў; душа яго не сцярпела, ён рушыў па сцежцы, якая вяла з цясніны да верхняй дарогі, павольна наблізіўся да самага яе пачатку. Далей ён не адважыўся рухацца наперад ні на крок. Калі б ён выйшаў на дарогу, з другога вымярэння адкрылася б шчыліна ў даліну, адтуліна, велічынёй з адлегласць, якую ён прайшоў бы па гэтай дарозе. Праз гэту шчыліну буры і непагадзь зямныя ўварваліся б на межы іх раю. Некалі чараўнікі ўсе разам з вялікай цяжкасцю закрылі за Сайяхам дзірку памерам з яго самога. Ак дэрвішу, вядома ж, заставалася толькі чакаць. Біццё сэрца і цяжкое дыханне Сайяха былі чутны ўжо зусім блізка. Тут Ак дэрвіш адчуў раптоўна, як яго мозг запоўнілі яшчэ нейкія гукі і галасы з іншых вымярэнняў,

з іншага жыцця, гэтыя гукі і галасы змяшаліся адно з адным, а ў яго памяці ажыў даўно, начыста забыты ўспамін.

Сапраўды, усё, што заканчваецца, і ўсё бясконцае складаецца з аднаго імгнення. І гэта імгненне ўтрымлівае ў сабе і мінулае, і будучае.

Так гаварыў яго Настаўнік, белабароды шэйх Манучэхр ібн Садык, а перад ім сядзелі побач два яго маладыя мюрыды, два неразлучныя, любячыя адзін другога вучні і моцна трымаліся за рукі.

— Гэтага імгнення для мяне не існуе, таму што ў гэтага імгнення яшчэ няма назвы, імя, — горача пярэчыў той з маладых мюрыдаў, якога звалі Сейід Сары.

— Ёсць у гэтага імгнення назва ці не, не мае значэння, я бачу яго ў глыбіні сваёй душы. А гэта, — прамовіў ён, — Ак дэрвіш.

Шэйх усміхнуўся:

— Яно ўжо мае назву! Імя яму — паўната. Поўнае імгненне — гэта сучаснасць, якая ўвабрала ў сябе і мінулае, і будучае... Мёртвых і жывых, народжаных і ненароджаных...

Гладзячы сваю доўгую белую бараду, Шэйх Манучэхр, прыжмурыўшыся, з ласкавым сумам, быццам бы з невядома якой далечыні, глядзеў на гэтых дваіх...

* * *

Ак дэрвіш асцярожна прыняў са знясіленых рук чараўніка Сайяха дзіця, якое знайшло прытулак у сне, і, уважліва паглядаючы сабе пад ногі, старанна сочачы за тым, куды ён ступае, стаў спускацца ўніз па зялёнай сцежцы ў вечназялёную даліну. За ім меленькімі крокамі ледзь паспяваў Хаджа Мір Гасан ага Сайях — чараўнік Сайях, пераносячы апошнія сілы са сваіх дрыжачых каленяў на знясіленыя ступні, страсаючы з вопраткі снег, які пачаў ужо раставаць.

***Пераклад з азербайджанскай***
***Людмілы ГЛІНСКАЙ.***

**S**



Ганад ЧАРКАЗЯН

## ХАДА

Хістаецца перада мной мой цень,
Жыццё маё бяжыць услед за ім,
Цячэ дыханнем,
Краскамі цвіце
І з ветрам раствараецца, як дым.
Прыпынкаў стала менш і больш трывог,
І ноша на плячах усё цяжэй,
І ўсё цямней далёкі бляск надзей,
І ўсё далей бацькоўскі мой парог.
А вынік, ён адзіны, як здавён,
Каб зараз нават выйграў і мільён,
Ды, нават калі б выйграў цэлых пяць,
Растане ўсё, калі пачне світаць.
Хто вінаваты,
Што цямнее ў хмарах дзень
І што сумленне знікла у людзей?
І мне цяпер падумаць самы час…
Завалы на шляху,

---

*__Чарказян Ганад Бадрыевіч__ нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001), «Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей «Казкі дзеда Ганада» (1996), «Пумпур у калясцы» (2004).*

А трэба йсці.
Шчабеча ўнучка —
Ёй яшчэ расці,
Знайсці сваю дарогу у жыцці.
Хада яднае у дарозе нас.

Наіўны, дакараю сам сябе:
Растраціў я багацці ўсе свае,
Мой лёс цяпер вяроўкі з мяне ўе.
І вось адзін спыняюся ў журбе…
Стаміўся я,
Няўтульна мне даўно
У часе і ў бясчассі заадно.
Дзе слёзы маці?
Колькі выплакана іх!..
Лаўлю іх след у кроплях дажджавых.
Ну што за спадарожнікі ў мяне —
Нявер’е, страх,
Ну а бывае — гнеў.
Не простыя іспыты ўсе мае,
Але хада ахвоты надае.

## МАЯ ТРЫВОГА

Сніцца мне голас маленства,
Быццам з яго я збег.
Ніці адтуль мае ткуцца
Праз горы, і холад, і снег.

Цвёрдасць каменняў армянскіх
Гордым не шкодзіць зусім,
Сум і лагоду Севана
Чую я ў сэрцы сваім.

Край беларускі суцешыць
Лёгкай як пух баразной,
Самай лагоднаю птушкай,
Самай зялёнай вясной.

Людзі збіраюць каменні,
Тыя, што час раскідаў,
Там, дзе ступала надзея,
Там, дзе блукала бяда.

Ціснуць каменныя слёзы
Сэрцы людскія здаўна,
Там, дзе прайшоўся Чарнобыль,
Там, дзе блукала вайна.

Час прабягае, мінае,
Нават сівеюць лясы.
Свет, закрываючы вочы,
Часта не бачыць красы.

Ажно захліствае душы,
Коціцца пошасці вал.
Падаюць дрэвы і людзі —
Страшны лёса-павал…

Крочыць хадой зухаватай
Усюдыісны прагрэс.
Гінуць і рэкі, і лес,
Толькі няма вінаватых…

Што ты мне скажаш, Мінск?
Што ты мне скажаш, Няміга?
Зноў я чытаю вас,
Як старажытную кнігу.

Блізкая сэрцу зямля,
Боль свой лячу тваім болем.
Некалі лёс паяднаў
Долю маю
З тваёй доляй.

Вось і шаную цябе,
Песняй сваёй абдымаю.
Хто разумее мяне, —
Іншай зямлі я не маю…

## ПЛАЧ ПА БАБУЛІ

Бабуля мая!
Праз слёзы
Бачу твой сумны твар.
Клічаш мяне ты штоночы
З далёкай сібірскай
Тайгі.
Бабуля!
Цябе тады не зразумелі,
Калі ты ў ліхую хвіліну
Дачку сваю родную раптам
Рукой адштурхнула сваёй.
Ты ведала, што не будзе
Ніколі дарогі зваротнай…
Бабуля!
Я чую твой плач адчайны,

І сёння яшчэ гучыць ён,
Ірве перапонкі ў вушах,
Праз горкія слёзы матулі
Вяртаецца зноў да мяне.
Матуля плакала ціха,
Нібыта баялася плачу,
А плач, ён і сам баяўся,
Бо шнырыў побач данос.
Бабуля!
Цякуць твае слёзы,
Ліюцца слязьмі маімі.
Яны, як сібірскія рэкі,
Халодныя і ледзяныя.
Іх нават сібірскай хусцінай
Не вытраш —
Такі гэта лёс…

## БЕЛАРУСЬ ВАСІЛЬКОВАЯ

Птушкай ляціш, добрай весткаю,
Вішняй па шыбе скрабеш.
Ах ты, нявестка, нявестухна,
Вечная слава табе!

Неба тваё васільковае,
Яснае, нібы шоўк.
Свіслач — нібы падкова,
Тут сваё шчасце знайшоў.

Не паўтарыць непаўторнае,
Што не прысніцца і ў сне.
Вось ты, лясіста-азёрная,
Зноў сустракаеш мяне.

## ДЗЕ ЦЯЧЭ БЯРЭЗІНА

Лёгкая Бярэзіна,
І чайкі
За ракой крыляюць наўздагон.
Кажуць, тут забыў
Свае пальчаткі,
Нават плакаў тут Напалеон.
Плакаў і схіляўся ў смутку
Сам я
Над сівой задумлівай ракой.
Рассякае лес яна,
Як шабля,
Даўнасці халоднаю рукой.

Зноў яна мне назвай мільгане,
Бусел над страхою заклякоча…
Мудрасць не ў далёкай даўніне,
А ў прыроды з чалавекам згодзе…

## ДАРОГА НА УШАЧЫ

Веснавы пагодны дзень,
Загайдала нас дарога,
Сам сабе матор гудзе,
Нам не кажучы нічога.

Рассцілае свой кілім
Дзьмухаўцовы поплаў дзесьці.
— Ну, здаецца, уцяклі
З пекла горада нарэшце, —

Блісне позіркам Рыгор, —
Бачыш мілую карцінку:
Побач Броўкі родны двор,
Далей — Быкава хацінка…

Партызанскія бары…
З мужнасцю самой знаёмся…
Тут бяду прарваў «Прарыў»,
Ды і мы, відаць, прарвёмся.

Вось ён, ціхі родны дом.
Як святла навокал многа!..
Кажа сябра:
— Адпачнём!
Адпачне ад нас дарога…

Дарагі бацькоўскі дом…
Я адчуў ласкава сёння:
Клямка дыхае цяплом
Цёплых матчыных далоняў.

Сонца саграване дол,
Смачна пахне бор смалою.
У адзежы новай дом,
А знутры — цяпло былое…

## У ДУМКАХ…

У думках збіраю, кладу на далонь
Тваё чаканне, слёзы, надзею.
Твайго цярпення барвовы агонь
Восеньскім лісцем запальвае дзень мой.

Так развітаўся з бярозаю клён.
Цябе няма — і душа сірацее.
У сумным холадзе восеньскіх дзён
Нябачным агнём яшчэ грэе надзея.

Свечкай здалёк будзе твар твой свяціць,
Будзе адсвечваць зямля ўся трывогай.
Забыў чалавек, куды яму йсці.
Можа, напомніць, падкажа дарога…

## ВЯРТАЮЧЫСЯ ДАМОЎ

Як толькі дамоў вяртаюся,
Баюся за тых, хто чакае мяне:
За ўнучку, што ручкай махае ў акне,
За дочку, што прынца шукае свайго.
Пакінуў надзею я ў дні ўчарашнім
І страты таксама — у дні ўчарашнім…
Пражыць і не страціць — нібы і не жыць.
Хто гэта не знае, таму і кажу.
Салодкасць свая ёсць у першым спатканні,
У першым чаканні, у першым расстанні,
Таму і шапчу я: «Людзі, не плачце!
Дарога далёкая суджана нам,
І сёння нам спраў неадкладных хапае,
І хопіць на заўтра,
Дык трэба ісці…»

## МАЛЕНСТВА

Дзень добры табе, маленства!
Памяць вяртае зноў
Даўняй пары бесклапотнасць,
Сполахі навальніц.
Пяты твае, як маланкі,
Недзе мільгаюць
З-пад хмар.
Як ты праз час імчышся
І не баішся яго!
Ты ў свае гульні гуляеш,
Нават не чула пра страты,
Але наіўна верыш,
Што журавель у небе —
Продка твайго душа…
Яна адлятае дзесьці
І прылятае зноў.
Добрага ранку, маленства!
Выраю ўслед глядзіш ты,

Ручкай наіўна махаеш:
А раптам яго прыпыніш,
Лятучае шчасце сваё?
Аб гэтым і старасць марыць
Пад цяжкаю ношай гадоў.

## НА ДАРОГУ ЎНУЧЦЫ

Як горы, пытанні бясконца,
Капрызы і слёзы наўзрыд…
Унучка любімая горца,
Да сэрца ты шмат не бяры.

Пайшоў караван. Стала сумна,
Ды сняцца салодкія сны.
Унучка, цярпі, будзь разумнай,
Не бойся спакусаў зямных.

Не спіш, устаеш ты да сонца,
Заве цябе ў горы вярста.
Унучка любімая горца,
З дзяцінства хутчэй вырастай.

Дні хутка імчацца, як коні,
І быстрая рэчка цячэ.
Ты сон свой найлепшы дагоніш,
А плыць нам далёка яшчэ.

Не выслізнуць з рук тваіх вёслы,
Ты добраму слову павер,
Твой човен у новыя вёсны
Пад ветразем белым плыве!..

## ПРЫМІРЭННЕ

Чалавек — уласнай долі раб,
Ды прачнуўся ён ад сну зямнога.
Высах ён,
Здарожыўся,
Аслаб…
Доўгі шлях быў да сябе самога
І… да Бога.

Ён пакінуў некалі айчыну
І прыплыў да берага чужога.
Але знішчыць веру немагчыма,
Дзякуй Богу.

Мы стаім каля старой сцяны.
Пазірае крыж звысоку строга.
Б’юць трывожна над зямлёй званы —
Трэба дазваніцца ім да Бога.

Мы блукалі, нам хапала мук.
Дзеці мы, а іх не судзяць строга…
Толькі, хто пакаяўся, таму
Дараванне суджана ад Бога.

## ТАМ, ЗА ГАРОЙ…

Там, за гарой, гара,
Крочаць пад неба горы,
Там, за марамі, мора,
І мне ўжо туды пара…

А тут і дні, і думкі бягуць
Адной і той жа дарогай,
А я ўсё надзею дагнаць не магу,
Якая мне абяцала так многа…

Хто музыкай роднай свой дзень пачынаў,
Марай сваёй не збег за аблокі.
А новай струной заспявае вясна,
Мы вернемся зноў туды, да вытокаў…

Там, за гарой, гара,
Крочаць пад неба горы,
Там, за марамі, мора,
І мне ўжо туды пара…

***Пераклад з курдскай***
***Казіміра КАМЕЙШЫ.***

Васіль ШУР

# ОНІМЫ ЯК АЛЮЗІЙНЫ КАМПАНЕНТ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ

Алюзія (ад лац. allusio — жарт, намёк) як мастацкі прыём нярэдка ўжываецца ў літаратуры. Яна выкарыстоўваецца для стварэння пэўнага культурна-гістарычнага каларыту шляхам суаднясення з'явы, факта рэчаіснасці, якія апісваюцца ў творы, з вядомым чытачу тапонімам, антрапонімам, хранонімам, айконімам, астронімам, гідронімам, заонімам, тэонімам, урбанонімам альбо прэцэдэнтам (знакавай) сітуацыяй. Класіфікуючы анамастычныя алюзіі, даследчыкі выдзяляюць іх наступныя віды: айканімічныя, антрапанімічныя, гідранімічныя, заанімічныя, тэанімічныя, урбананімічныя, хрананімічныя і інш. [1, с. 55].

Пад прэцэдэнтным тэкстам маецца на ўвазе першасны тэкст, тая семіятычная прастора, з якой запазычаны алюзійны элемент, у нашым выпадку онім. Фактычна любы тэкст успрымае ўздзеянне іншых прэцэдэнтных тэкстаў, чым пацвярджаецца вядомы тэзіс М. Бахціна аб так званай «дыялагічнасці», уласцівай любому новаму тэксту, асабліва напісаным пісьменнікамі, якія працуюць у блізкіх, роднасных жанрах. У новым творы ўжываннем ужо вядомага оніма спрашчаецца знаёмства з задуманым мастаком літаратурным персанажам, аб'ектам, які будзе ў цэнтры ўвагі чытача.

Прыём літаратурнай алюзіі, калі ў якасці новых онімаў выкарыстоўваюцца імёны і прозвішчы, тапонімы з раней апублікаваных твораў або онімы вядомых у соцыуме асоб, — адзін з эфектыўных у сучаснай беларускай літаратуры. У мовазнаўстве алюзію разглядаюць таксама і як стылістычны прыём, які можна кваліфікаваць як семіятычна складаны аб'ект, «як знак, што мае план выражэння і зместу». Алюзійны антрапонім, напрыклад, з'яўляецца разнавіднасцю алюзіі і ўяўляе сабой тэкставы знак, які адрозніваецца ад звычайных тым, што ён здольны ўскладняць яго структуру дзякуючы магчымасці сумяшчаць, спалучаць у адным азначэнні два, з іх адно семантычнае азначэнне належыць іншай семіятычнай прасторы.

Такая алюзійная адзінка атрымлівае актуалізацыю ў тэксце: па-за тэкстам існуе прэцэдэнтнае імя, якое ўяўляе сабой спасылку, прадмет для складання слоўнікавага артыкула [2, с. 7]. Такім чынам, алюзійны онім мае выразна акрэсленую семантычную напоўненасць, якая паўтараецца і актуалізуецца ў новым творы. Пераважна на алюзіях па задуме пісьменнікаў ствараюцца шматлікія мянушкі, надзвычай насычаны імі таксама пародыі, якія звычайна ўяўляюць інтэртэкст (тэкст, які матывуецца іншым, раней створаным тэкстам. — **В. Ш.**), дзе пісьменнік шырока ўжывае самыя разнастайныя цытаты і ўкрапленні з прэцэдэнтнага парадыраванага тэксту. А ў якасці алюзійных элементаў найчасцей выкарыстоўваюцца:

а) онімы літаратурных персанажаў з папярэдніх твораў аўтара ці іншых пісьменнікаў, або фальклорных твораў;

б) ключавыя словы, у тым ліку і онімы, калі яны ў новым (вертыкальным — **В. Ш.**) кантэксце выконваюць такую ж тэкстаўтваральную функцыю;

в) цытаты (даслоўныя і трансфармаваныя) з папярэдняга тэксту і інш.;

г) словы-сімвалы.

Алюзійнасць кантэксту, як вядома, грунтуецца на міжтэкставай кампетэнцыі чытача: у яго памяці захоўваюцца фрагменты з твораў, прачытаных раней, а «эфектыўнасць супастаўлення ўсіх рэлевантных, у тым ліку і экстралінгвістычных значэнняў, залежыць ад агульнай і літаратурна-лінгвістычнай эрудыцыі чытача, ад яго ўмення знайсці патрэбную інфармацыю». Пры адсутнасці пазнавання «другога голасу» алюзійнасць (намёк, жарт і інш.) можа аказацца незразумелай або зразумелай толькі часткова, павярхоўна [3, с. 65]. А ідэйная вартасць онімаў-алюзій для ўсяго твора перш за ўсё ў тым, што іх сэнс, як звярнуў на гэта ўвагу А. Рогалеў, раскрываецца не пры аналізе сюжэтных ліній, учынкаў і рэплік персанажаў, а пры суадноснасці канкрэтнага вобраза і яго імя з вобразамі і імёнамі іншых твораў, а таксама з улікам мастацкай канцэпцыі, абумоўленай ідэйна-эстэтычнымі перакананнямі пісьменніка [4, с. 71].

Алюзійнае выкарыстанне онімаў у тэкстаўтварэнні, актыўнае ўздзеянне іх на ўяўленне, эмоцыі, падсвядомасць чытача пры дапамозе самых розных анамастычных, тэматычных, вобразных, гукавых асацыяцый уяўляе сабой спецыфічны тып мастацкай семантыкі слова, які ў наш час набывае павышаную ўвагу і паглыбленае вывучэнне.

Самай тыповай алюзіяй у анамастыцы з'яўляецца перанясенне імёнаў з раней апублікаваных твораў у новыя: вяртанне да аднайменнай, вядомай ужо чытачу анамастычнай намінацыі пры абмалёўцы новых літаратурных тыпаў, характараў спрашчае аўтару задачу ў лаканічнай характарыстыцы новага літаратурнага героя. Арыгінальнасць гэтага прыёму і ў тым, што новы персанаж з ужо вядомым і звыклым для чытача іменем як бы становіцца пераемнікам лепшых (горшых) якасцей свайго папярэдніка, асабліва гэта выразна і наглядна праяўляецца тады, калі пісьменнік «селіць» новы персанаж у падобныя нечым абставіны. Фактычна літаратурнай алюзіяй можа быць любы онім, які быў выкарыстаны ў мастацкім тэксце і з'яўляецца цытатай з рэальнага анамастыкону. Параўнаем, напрыклад, імёны, якія даваліся ў царкве нованароджанаму з улікам датаў царкоўнага календара тыпу *Пятро, Васіль, Іван* і інш., у якіх фактычна ўтрымліваецца намёк на вядомых з царкоўнага календара хрысціянскіх святых, антычных персанажаў: нованароджаны нібыта павінен быць паслядоўнікам, пераемнікам добрых спраў біблейскіх *Пятра*, *Івана* і г. д.

Так, у даваеннай дзіцячай літаратуры імя *Міколка* з аповесці М. Лынькова «Міколка-паравоз» стала сімвалам рамантычнага гераізму, услаўленнем лепшых якасцей маладога пакалення. *Міколка* і цяпер любімы герой беларускай дзетвары. У апавяданні «Васількі», прысвечаным падзеям Вялікай Айчыннай вайны, галоўны персанаж таксама надзелены імем *Міколка*. М. Лынькова да глыбіні душы ўразіў рэальны ўчынак — подзвіг хлопчыка *Сашы* са Жлобіна, які за здзекі з родных, ахвяруючы сабою, узарваў штабны аўтобус з фашыстамі. Пісьменнік, аб'ядноўваючы гераічнае мінулае і сучаснае, надзяліўшы новы персанаж вядомым і гераічным імем — *Міколка*, пераконвае, што вайна з фашызмам больш жорсткая і крывавая, чым усе папярэднія. Дакладнымі штрыхамі — традыцыйнымі словамі (у тым ліку і ўласнымі імёнамі. — **В. Ш.**) паказана глыбіня і высакароднасць душы *Міколкі*, у якую так нечакана ўвайшлі бязмежная любоў да родных і блізкіх і такая ж вялікая па сіле нянавісць да ворагаў [5, с. 24].

Міхась Лынькоў, улічваючы значны асацыятыўны патэнцыял у мастацкай літаратуры імя *Мікола* праз алюзію са свайго папярэдняга твора (аповесці 30-х гадоў), што быў асабліва прыхільна ўспрыняты чытачом, палічыў мэтазгодным у мастацкіх мэтах змяніць рэальнае імя хлопчыка *Сашы*, які помсціў фашыстам за смерць мамы і сястры. Шляхам выразнага мастацкага намёку ў апавяданні «*Васількі*», назва якога, дарэчы, таксама ўспрымаецца такім чынам, стварыў трагічна-гераічны вобраз юнага змагара з фашызмам, які стаў сімвалам соцень, тысяч беларускіх хлопчыкаў-падлеткаў, трагічна загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Магчыма, М. Лынькоў улічваў і тое, што імёны *Мікола*, *Міколка* асабліва часта ўжываюцца на Беларусі — як сярод праваслаўных, так і каталікоў.

Святы ж *Мікалай* у хрысціян — апякун, заступнік, абаронца дзяцей. Прынамсі, у творах Я. Коласа імя *Мікола* таксама даволі частае: замацавана за 30 літаратурнымі персанажамі [6, с. 389]. Апрача таго, этымалагічны сэнс гэтага оніма (*Мікола*, *Мікалай*) узыходзіць да выразу «той, хто перамагае». І сапраўды, *Міколы*, *Міколкі* ў творах М. Лынькова перамагаюць маральна ці непасрэдна ў тых сітуацыях, у якіх паводле сюжэта іх «пасяляе» пісьменнік. Гэта імя таксама частае ў беларускім фальклоры, напрыклад, у прыказках, дзе такія онімы — носьбіты нацыянальна-культурнага кампанента значэння слова, яны дапамагаюць выявіць нацыянальны характар беларусаў, іх пэўныя этнапсіхалагічныя характарыстыкі, што і пацвярджаецца апісаннямі ўчынкаў абодвух *Міколкаў* М. Лынькова.

Такім чынам, гэты алюзійны антрапонім у апавяданні «Васількі» з’яўляецца сублімаваным знакам, які, апроч назыўной функцыі, валодае імпліцытнай інфармацыяй, асацыятыўна звязанай з аповесцю «Міколка-паравоз», а таксама з культурна-гістарычным вопытам чытача і аўтара. Ён уяўляецца таксама інварыянтам культуры, які добра знаёмы не толькі пісьменніку, а і чытачу, што аднолькавым чынам актуалізуецца ў іх уяўленні, свядомасці.

У Я. Коласа самыя разнастайныя алюзіі бачацца праз загалоўкі асобных твораў, сістэму ўласных імёнаў і прозвішчаў персанажаў і адпаведных ім імёнаў прататыпаў, праз некаторыя тапанімічныя назвы, якія часткова трансфармаваны дзеля спецыяльных мастацка-эстэтычных задач, праз назвы раздзелаў, цытаты з твораў класічнай літаратуры і асобных фальклорных твораў і інш. Складаныя алюзійныя сувязі калі-нікалі можна выявіць і ў іншых пісьменнікаў, якія ўспрынялі ў сваёй творчасці ўздзеянне мастацкага таленту Я. Коласа.

Алюзійна значны загаловак самага значнага празаічнага твора «*На ростанях*», які сугучны фразеалагізму *на ростанях* — пра стан сумненняў, хістанняў, нерашучасці перад выбарам чаго-небудзь. І гэта назва сапраўды цесна звязана з галоўным вобразам трылогіі, з яе тэмай, з адлюстраваннем тых складаных шляхоў, якімі ішла народная інтэлігенцыя ў пошуках праўды і сэнсу жыцця. Пра гэта ж гаварыў і сам пісьменнік у артыкуле «Роднаму краю і народу»: «Зараз я прадаўжаю працаваць над аповесцю «На ростанях». Гэта працяг маіх аповесцей аб дарэвалюцыйным жыцці сялянства і вясковай інтэлігенцыі Палесся — «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся». Напісана ўжо 7 раздзелаў. Я хачу правесці майго галоўнага героя, настаўніка Лабановіча, праз цяжкія жыццёвыя выпрабаванні і паказаць, як ён стаў актыўным будаўніком новага ладу, сапраўдным савецкім чалавекам» [К-с, XII, с. 38]. Назва-загаловак «На ростанях» падабалася Я. Коласу. Вядомы яго раннія вершы «На раздарожжы» («*Пры шляху шырокім*»), «На ростанках» («*Ты скажы мне, цьма глухая*»), «На ростані» («*Апошні разочак з-за хмар вадзяністых*». У 1902 г. ён распачаў працу над вялікім па задуме празаічным творам на рускай мове «Один из сотни», фрагменты з якога ў перапрацаваным варыянце выкарыстаны ў аповесці «У палескай глушы», а першы варыянт аповесці «На ростанях» надрукаваны пад загалоўкам «Верхань» (1949 г.). Аб прыхільнасці народнага песняра да назвы «На ростанях» сведчаць і ягоныя пісьмы, адрасаваныя Т. Замоцінай (695) і С. Гарадзецкаму (698). У перапісцы з імі Якуб Колас паведамляў: *«Сдал в печать свою трилогию «На ростанях». Это название хочу сохранить в русском переводе... Такое слово есть в словаре Ушакова с оговоркой, что «на росстанях» — областное слово. Пусть это название остается и в переводе на русский язык — по крайней мере, буду настаивать на этом»* [К-с, XIV, с. 167].

Па задуме пісьменніка, у загалоўку-алюзіі ў канцэнтраваным выглядзе адлюстраваны пошукі шляхоў беларускай вясковай інтэлігенцыі, частка якой, гаворачы словамі Я. Коласа, «штучна адарваная ад жывых крыніц жыцця асталася вернай казённым прынцыпам, часткаю, не бачачы прасветліны, апускалася на дно і зацягвалася балотам. Болей жа дзейная і жывая частка яе імкнулася зліцца з гэтымі крыніцамі і вобмацкам шукала дарог, каб пазнаць «корань рэчаў». Такія

загалоўкі аказалі ўплыў на іншых пісьменнікаў. Так, Алена Васілевіч у 1947 г. апублікавала невялікую аповесць «У прасторах жыцця», у назве якой алюзійная пераклічка з добра вядомай аповесцю класіка. Таленавіты ж паэт і даследчык літаратуры Уладзімір Жылка напісаў верш «На ростані», які даў назву ягонай кнізе, большасць твораў якой адлюстравалі ваганні і душэўны стан беларускай нацыянальнай эліты пачатку XX ст., калі «маладасведчаныя радыкалы, падахвочаныя палітыканамі, спрабавалі схапіцца «*ў рожкі са старымі*» [7, с. 256].

У самым значным вершаваным творы Я. Коласа — паэме-энцыклапедыі «Новая зямля» загаловак таксама мае абагульнена-філасофскі характар і дапаўняе алюзійна ўскладнены змест вобразаў. Гэтай назвай-сімвалам, як лічыць Ж. Шаладонава, паэт засяроджваў увагу на незвычайна новым, паліфанічным змесце і вобразе зямлі, якую ён узводзіў у ранг неперaходнага агульначалавечага ідэалу і атаясамліваў з вечнымі сакральнымі каштоўнасцямі жыцця. Яе вобразны свет паліфанічны, міфалагічна ўскладнёны і сімвалічна зашыфраваны, як «мнагалучнае, мнагавобразнае і выключнае, поўнае загадак і таямніц быццё, адбіткам якога з'яўляецца «Новая зямля» [8, с. 5]. А такія даследчыкі, як У. Гніламёдаў, У. Конан, Дз. Бугаёў, лічаць, што сімвалічную назву «Новая зямля» Я. Колас алюзійна запазычыў з «Бібліі» — «з апакаліптычнага прароцтва аб райскай новай зямлі» [9, с. 13].

Заўсёды алюзійнымі з'яўляюцца онімы, запазычаныя з біблейскіх сюжэтаў, разнастайных фальклорных твораў. У выбары такіх онімаў-алюзій выразна праяўляецца майстэрства пісьменніка, яго інтэлект, дасведчанасць, грамадзянская пазіцыя, прыхаваны падтэкст, мастакоўскае адчуванне амаль няўлоўных нюансаў у словах. Такімі, напрыклад, канатацыйна ўзбагачанымі ў творах Я. Коласа наступныя онімы-мянушкі:

*Чарнамор* — мянушка Петруся Ігнатовіча — селяніна-злодзея з апавядання «Стары канакрад»: *Гэта быў мужык гадоў пад пяцьдзесят, нізкага росту, прысадзісты. Што асабліва кідалася ў вочы пры першым з ім знаёмстве — гэта барада і маленькія хітрыя вочы з-пад густых броў. За бараду яго празвалі ў нас Чарнаморам* [К-с, V, с. 7]. Замацаванне мянушкі за канакрадам адбылося ў выніку метафарычнага пераносу ўласнай назвы *Чарнамор* — персанаж з вершаванага твора А. Пушкіна «Казка пра памёрлую царэўну і сем багатыроў» на пакаранага турэмным зняволеннем злодзея, які вылучаўся па камеры спецыфічнай барадой. У выніку, апісанне партрэта і незвычайная мянушка алюзійна ствараюць лаканічна-выразнае ўяўленне пра экзатычнага канакрада.

*Кашчэй* — іранічная мянушка панямонскага ўрадніка з аповесці «На ростанях», які разганяў настаўніцкі сход: *...гэтыя весткі пачуў я зураднікавага дому, таго сівага даўжэразнага Кашчэя, што першы кінуўся на наш пратакол у часе налёту прыстава са стражнікамі* [К-с, IX, с. 534]. Пра тое, што онім *Кашчэй* — мянушка, ускосна сведчыць іншы кантэкст, у якім упамінаецца дачка ўрадніка *Аксана*, якая там названа «Кашчэевай», а прыметнік-азначэнне ўзяты ў двукоссе: *У пакоі за сталом сядзелі нейкі чыноўнік родам з Панямоні па прозвішчу Булах, маці Базыля, нізенькая і тоўстая, як кадушка, дзве сястры Смалянскія і «Кашчэева» дачка Аксана* [К-с, IX, с. 600]. Мянушка за ўраднікам замацавалася ў выніку аналогіі — умелай метафары: манера паводзін і знешні выгляд урадніка выяўлялі алюзійнае падабенства з міфалагічным *Кашчэем*. Ва ўсходнеславянскіх казках *Кашчэй* — кашчавы і злы стары, які валодае тайнай даўгавечнасці і незлічоным багаццем, таму яго называлі *Кашчэем бессмяротным*. У народных гаворках *Кашчэй* — гэта і вельмі худы чалавек. Персанаж Я. Коласа таксама валодае тайнамі аб правядзенні настаўніцкага сходу, ён сівы, даўжэразны і злы. Адпаведнасць мянушкі вобразу літаратурнага персанажа можна кваліфікаваць як адзін з важнейшых сродкаў у стварэнні ўяўлення пра літаратурны тып. Гэта праз алюзію ўмела выкарыстана народным пясняром.

*Мамай* — мянушка селяніна, дбайнага гаспадара з апавядання «Крывавы вір». *На возеры ў чайцы сядзеў ужо каваль, па мянушцы Мамай* [К-с, V, с. 76].

Я. Колас не тлумачыць паходжанне гэтага оніма, аднак шырокі кантэкст дае падставу меркаваць, што такую мянушку сяляне маглі даць чалавеку жорсткаму, нядобразычліваму: *Хоць і Мамай не вялікае шчасце, але ўсё ж такі лепш, чым кабета* [К-с, V, с. 77]. На нашу думку, мянушка *Мамай* замацавалася за персанажам у выніку пераносу рэальнай уласнай назвы сумна вядомага на Русі татарскага хана *Мамая* на селяніна, які меў сквапны, неспагадлівы характар. Магчыма, і знешнім выглядам каваль нагадваў татарына (у тэксце адказу на гэта няма. — **В. Ш.**). У беларускай мове онім *Мамай* уваходзіць таксама ў склад фразеалагізмаў *«Як Мамай прайшоў», «Мамаева пабоішча».* Апошні выраз, напрыклад, мае значэнне «бойка, спрэчка, беспарадак, разгром»: у 1380 г. на Кулікавым полі былі разбіты войскі татарскага хана Мамая [10, с. 82]. Такую ж уласную назву *Мамай, Мамай-каваль* мае яшчэ і персанаж апавядання «Туды, на Нёман!» Магчыма, паміж гэтымі двума антрапонімамі існуе нейкая заканамернасць, пэўная сувязь, бо ў творах гаворка вядзецца пра падзеі на Куршчыне ў гады Грамадзянскай вайны. Тады Я. Колас сам жыў у тых мясцінах, ведаў многіх мясцовых жыхароў. Магчыма, што прататыпам у абодвух выпадках быў адзін і той жа чалавек, якому за нейкія якасці вяскоўцы і далі мянушку *Мамай*, а пісьменнік праз алюзію выкарыстаў яе для ідэнтыфікацыі аж двух персанажаў. Увогуле намінацыя розных асоб адной і той жа мянушкай, якая можа ажыццяўляцца на падставе розных асацыяцый, іншы раз няўлоўных і зразумелых толькі тым, хто даў такое імя, адбываецца нярэдка. С. Бут-Гусаім, якая лічыць, што ў такіх выпадках стварэнне онімаў тлумачыцца не асацыятыўнымі, а хутчэй за ўсё аперцэптыўнымі адносінамі: чалавек з нейкімі заганамі не выклікае *асацыяцый*, а напамінае, нагадвае што- ці каго-небудзь. Памяць — гэта заўсёды зварот у мінулае, сувязь з папярэднім вопытам. Такія мянушкі маюць не асацыятыўны, а рэмінісцэнтны характар [11, с. 65].

*Максім Грэк* — іранічная мянушка Максіма Гарошкі, сына вясковага фельчара з аповесці «У палескай глушы». Сам *Максім Грэк* — рэальная асоба. Пісьменнік, публіцыст (1480—1556 г.), ён нарадзіўся ў Грэцыі, быў запрошаны вялікім князем *Васіліем III* у Расію з асветніцкімі мэтамі для перакладу царкоўных кніг і інш. Коласаў жа персанаж зусім іншы: *Максім Гарошка вучыўся ва ўсіх школах Пінска, але ні аднае не скончыў, а з апошняе, з духоўнага вучылішча, проста ўцёк. Цяпер ён сядзіць на бацькавай шыі. Уцёк жа ён з тае прычыны, што ў гэтых школах не вучаць нічому такому, што адпавядала б яго шырокай натуры, якая знайшла здавальненне ў гарэлцы, картах і іншых забаўках вясковага лабатраса* [К-с, IX, с. 28—29]... *Ён (Лабановіч. —* **В. Ш.***) схіліў галаву штосьць думаў. Потым раптоўна павярнуўся да Максіма. — Максім Грэк! Вып'ем, брат!* [К-с, IX, с. 137]. Відаць, такая мянушка за маладым Гарошкам замацавалася ў выніку процілеглай па сутнасці жартоўна-іранічнай аналогіі, якую правёў Андрэй Лабановіч, звязваючы прыгоды вясковага распусніка-лабатраса і пераезд у Расію з асветніцкімі мэтамі вядомага грэчаскага перакладчыка і пісьменніка. Сам жа *Максім Гарошка* любіў называць сябе *Юзафам Прыгожым* — біблейскім героем. Магчыма, падставай да пераносу гучнага наймення вучонага і багаслова і замацавання яго за маладым палешуком было і падабенства онімаў. Параўнаем: *Максім Гарошка і Максім Грэк*. Неадпаведнасць мянушкі паводзінам яе носьбіта — гэта своеасаблівы спосаб актуалізацыі праз выразную алюзію канатацыйнага зместу гэтага оніма, свайго роду аўтарскі прыём.

Мастацкая алюзія — выразны сродак, якім праз онім падкрэсліваецца тыповая рыса характару літаратурнага персанажа. Так, імя *Сашка* (у дачыненні да Аляксандра Керанскага — буржуазнага палітычнага і дзяржаўнага дзеяча. — **В. Ш.**) у вершаваных радках Я. Коласа гучыць як іранічны, абразлівы здзек: *У Зімнім палацы збянтэжанасць, страх. Крах, немінучы іх крах. Збег правадыр, Навокал іх — вір; Зумкаюць кулі У страшным адсвеце... Міністры, пішэце лісты да бабулі! Яны ж не здаюцца — адцягваюць час — Цяжка ім вымавіць «пас!» Іх правадыр не згодзен на мір, Ён на свабодзе і сілы збірае, Ды песня старая,*

*Сашка не ў модзе!* [паэма «На шляхах волі»]. У гэтым кантэксце *Сашка… правадыр — алюзія,* здзеклівы іранічны намёк на нерэальную прэтэнзію замацаваць за сабою вярхоўную ўладу ў краіне. Гэты прыём заснаваны на парушэнні ўзуальнай спалучальнасці оніма і агульнага назоўніка *Сашка — правадыр,* якія ў рэальнасці не могуць існаваць, бо *Сашкам* у народзе традыцыйна называюць хлапчука, а не дзяржаўнага дзеяча. Параўнаем: магчымы натуральны варыянт: *Аляксандр — правадыр.* У сусветнай гісторыі такая формула стала свайго роду шаблонам, усталяваным стэрэатыпам: *Аляксандр Македонскі, Аляксандр Неўскі, Аляксандр Сувораў, Аляксандр Пушкін, Аляксандр Дзюма…*

Як спецыфічны аўтарскі прыём, уласцівы стылю Якуба Коласа, для перадачы своеасаблівай павагі, пачцівасці, пашаны да носьбіта імя, неабходна разглядаць ужыванне ў ім уласных імёнаў-звароткаў у клічнай форме. Іх выкарыстанне, асабліва ў вершаваных радках, прыўносіць у кантэкст атмасферу ўрачыстасці, узнёсласці, рытарычнасці. У вершы-прысвячэні «П. В. Саевічу» Я. Колас да звароткa *мой Платоне* выкарыстоўвае яшчэ тры звароткі, ствараючы з іх спецыфічны сінанімічны рад для перадачы своеасаблівай павагі да тагачаснага міністра асветы БССР (1948 г.), з якім разам лячыўся ў бальніцы: *Не спяшайся, мой Платоне, Уляцець з бальніцы. Мы ж тут, браце, не ў палоне, Больш займай жывіцы... Яшчэ хопіць, мой саколю, Пасяджэнняў, сходаў. Як выходзіць, калі хрыпу Поўная каністра, Не заглушыць, брат, іх скрыпу Цыркуляр міністра* [К-с, II, с. 448]. Кожны з названых звароткаў утрымлівае і канатацыйны падтэкст: імя *Платон* — яшчэ з часоў антычнасці ўспрымаецца паказчыкам мудрасці, розуму; тут *Платон* — імя-алюзія на старажытнага грэчаскага філосафа Платона; *сокал* — у фальклоры сімвал мужнасці, высакароднасці, а маўленні метафары арнітанімічнага зместу з’яўляюцца адным з моцных экспрэсіўных сродкаў і характарызуюцца яркай вобразнасцю і канатацыйнай насычанасцю; *браце* — традыцыйна шчыры зварот у беларусаў і ўкраінцаў да блізкага чалавека. Агульныя і ўласныя назоўнікі-звароткі (тры з іх у форме клічнага склону) у пасланні ўтвараюць своеасаблівую ампліфікацыю сінонімаў, калі кожны наступны зваротак узмацняе добразычлівае пажаданне паэта міністру, каб той хутчэй выздараўліваў. Звароткі ў такім кантэксце выступаюць як эмацыйна маркіраваныя кампаненты, адлюстроўваючы стан чалавека. Гэтак дасягаецца максімальна поўная перадача эмацыйнай сутнасці паэтычнага звароту да субяседніка. Інтэнсіфікатарамі ўзнёсласці, экспрэсіі з’яўляюцца: 1) прыём ампліфікацыі; 2) ужыванне звароткаў у клічнай форме; 3) ужыванне слоў «высокага» стылю, слоў-сімвалаў.

Адрозніваюць у лінгвістыцы тэкстаўтваральныя і фрагментарныя алюзіі. Гэта значыць, што алюзія можа выяўляцца праз вялікі кантэкст, у некаторых творах алюзійнымі выступаюць толькі асобныя яго фрагменты — загалоўкі, эпіграфы, цытаты, онімы, іх разнавіднасці, а ў звязным кантэксце — склады і нават гукі. Сусветная мастацкая літаратура мае працяглую і ўстойлівую традыцыю звароту да фальклорных, біблейскіх, антычных сюжэтаў, пабудаваных такім чынам. Так, Ева Лявонава на падставе аналізу рамана Уладзіміра Караткевіча «*Хрыстос прызямліўся ў Гародні*» на фоне сусветнай літаратурнай традыцыі прасочвае падрабязна алюзіі на вобраз *Хрыста.* Робіцца гэта праз найскладанейшую мастацкую палітру, насычаную цытатамі, эпіграфамі, вядомымі ў гісторыі імёнамі, рэмінісцэнцыямі, што адсылаюць чытача да біблейскіх і іншых сюжэтаў розных эпох і народаў і падвышаюць агульны філасофска-этычны і эстэтычны патэнцыял рамана, вымагаючы ад чытача інтэнсіфікацыі яго асацыятыўных здольнасцей і магчымасцей. Параўнайце, напрыклад, загалоўкі раздзелаў: *«Падзенне агнявога змея», «Голад, і пошасць, і мор», «Суд», «Анафема», «Сысце ў пекла», «Ключы пекла і смерці», «Кат», «Дно пекла», «Галгофа Замкавай гары»* і інш., эпіграфы да кожнага з іх з біблейскіх і антычных тэктаў, твораў класічнай літаратуры, хронік, легенд і інш. тыпу *«Маці божая па муках хадзіла, Па цямніцах, па пекле блукала»* («Песня баркалабаўскіх старцаў»); *«І вялікі жах апанаваў усю царкву»*

(«Дзеянні», гл. 5, ст. 2); *«Не капай другому ямы — сам уваліішся ў ню»* (Ф. Скарына); *«І ўбачыў я новае неба і новую зямлю, бо ранейшае неба і ранейшая зямля зніклі»* («Апакаліпсіс», гл. 21, ст. 1), імёны і прозвішчы беларускіх сялян, шляхціцаў, біблейскіх персанажаў, апосталаў: *Лявон Конаўка, Грынь Балвановіч, Юрась Братчык, Мірон Жарнакрут, Якуб Шалфейчык, Данель Кадушкевіч, Мацей, Іуда, Фама, Саваоф, Лотр, Саламон, Ян, Філіп, Андрэй* і інш.; імёны рэальных гістарычных асоб: *Святаполк Акаянны, Воўчы Хвост, Міхал Агінскі, Дантэ, Пій V, Фармоза І, Стафан VII, Ян Гус, Геранім Пражскі* і інш. Біблейская канстанта ў гэтым рамане, як пераконвае даследчыца, з'яўляецца стрыжнявой; алюзіі і рэмінісцэнцыі выяўляюцца праз загаловак твора ў цэлым, праз назвы паасобных раздзелаў, эпіграфы, сістэму імёнаў літаратурных персанажаў, большасць з якіх, галоўных і эпізадычных, маюць біблейскіх прататыпаў, праз падзейны сюжэтны ланцуг, у якім амаль кожнае звяно «рыфмуецца» з біблейскім сюжэтам, нават праз стылістыку рамана [12, с. 126]. Вобразам *Хрыста*, іншымі імёнамі-сімваламі і вобразамі, выкарыстанымі і перанесенымі з сусветнай «Кнігі кніг», У. Караткевіч праз біблейскую сімволіку, аналогіі, алюзіі, рэмінісцэнцыі надаў гэтаму раману абагульнена-філасофскі сэнс, а яго героі, улічваючы жанравыя ўмоўнасці і намёкі, «перапісваюць» агульнавядомыя лёсы евангельскіх персанажаў, напаўняюць іх кананізаваныя характарыстыкі зразумелымі і блізкімі простаму народу чалавечым сэнсам, пакутамі, надзеямі і расчараваннямі [13, с. 174].

Некаторыя алюзіі ў мастацкіх творах выяўляюцца толькі ў выніку глыбокага і скрупулёзнага аналізу той эпохі, пра якую вядзецца размова. Так, В. Рагойша пры спробе новага прачытання паэмы Максіма Танка «Люцыян Таполя» выяўляе алюзію ў вобразах *Сямашкі* — створанага фантазіяй паэта біскупа, які гнеўна асуджаў *Таполю* за маляваныя ім партрэты святых, якія нагадвалі мясцовых (смаргонскіх і вілейскіх) сялян, і рэальнага біскупа-епіскапа, які па загадзе цара Мікалая І правёў у Беларусі, далучанай у канцы XVIII ст. да Расійскай імперыі, скасаванне царкоўнай уніі (1839 г.). Такі намёк, на думку гэтага даследчыка, у творы ўгадваецца толькі тады, калі падрыхтаваны чытач будзе ведаць, што М. Танк сродкамі спецыфічнага паэтычнага іншамаўлення выяўляў не толькі сваё разуменне сутнасці мастацтва ўвогуле, але і перадаваў сваё стаўленне да рэлігіі, а таксама да тэорыі і практыкі «мастацтва дзеля мастацтва». Развіваючы думку пра алюзійнасць, якая выяўляецца ў вобразе *Сямашкі*, неабходна мець на ўвазе, што рэальны біскуп *Сямашка* быў галоўным ворагам уніяцкай царквы, да якой на той час належала звыш 80 працэнтаў беларускага насельніцтва (у асноўным ніжэйшыя яго слаі), у адрозненне ад праваслаўя і каталіцтва яно карысталася ў багаслужбе беларускай мовай, а ў царкоўным жывапісе, архітэктуры выкарыстоўваліся нацыянальныя атрыбуты (арнамент, вышыўка, ткацтва і г. д.). Што ж да выяў святых, якіх маляваў Танкаў *Таполя*, то менавіта уніяцкае мастацтва, як падкрэслівае В. Рагойша, было ў гэтым сэнсе найбольш нацыянальным. Якраз яно дапускала наяўнасць мясцовых асаблівасцей, чаго ні ў якім разе не дазваляла, напрыклад, тагачаснае артадаксальнае праваслаўе. Ствараючы, у процівагу *Люцыяну Таполю*, рэзка адмоўны вобраз біскупа *Сямашкі*, паэт з дапамогай празрыстай алюзіі выступаў супраць мастацтва безнацыянальнага, касмапалітычнага, супраць дэнацыяналізацыі, а ў канчатковым выніку — супраць дэбеларусізацыі [14, с. 169]. Такім чынам, прамая алюзія (*Сямашка* — створаны М. Танкам персанаж з паэмы — антыпод мастака *Люцыяна Таполі* і *Сямашка* — рэальны біскуп-епіскап на Беларусі ў пачатку XX ст.) дапамагае адэкватна ўспрымаць складаны тэкставы матэрыял, а дасведчаны чытач з дапамогай намёку М. Танка ўспрымае ўздзеянне раней атрыманай (пераважна гістарычнай) інфармацыі, чым пацвярджаецца вядомы тэзіс М. Бахціна пра так званую «дыялагічнасць», якая ўласціва любому тэксту, асабліва насычанаму алюзіямі.

Калі пісьменнік адлюстроўвае рэальныя падзеі, якія адбываліся ў канкрэтным рэгіёне, павялічвае алюзійнасць шырокі кантэкст, насычаны тыповымі для

пэўнай мясцовасці онімамі. Так, у рамане «Вецер у соснах» Іван Навуменка ў адным з эпізодаў разважае пра першыя спробы асушэння палескіх балот пад кіраўніцтвам генерала Жылінскага. Дасведчаны чытач у паселішчы *Гарбылі* пазнае сучасныя *Калінкавічы* (звярніце ўвагу на апелятывы, ад якіх утвораны пісьменнікам айконімы, аналогію, якую выкарыстаў мастак: *горб → Гарбылі*; *калена → Каленкавічы → Калінкавічы*). Вось канкрэтная падказка: *Найбольш пашанцавала Гарбылям, размешчанай сярод саснякоў вёсачцы. З Палескай чыгункай якраз у Гарбылях скрыжавалася другая, якая вяла з пшанічнай Украіны ў багатую лесам Беларусь.*

Алюзійна значымымі і пазнавальнымі з'яўляюцца і іншыя онімы, выкарыстаныя ў гэтым рамане. Не аднойчы даследчыкі творчасці І. Навуменкі паказвалі, як ён, прадаўжаючы творча развіваць коласаўскія традыцыі, шырока ўводзіў у тэксты поруч з гістарычнай асновай і рэгіянальныя анамастычныя кампаненты, створаныя на падставе мастацкіх алюзій. Так, канкрэтныя месцы дзеяння ў (*Азяркі, Бацькавічы, Вербічы, Грамы, Журавічы, Піляцічы* і інш.), імёны і прозвішчы літаратурных герояў (*Бондар, Драгун, Дрозд, Міця Птах, Іван Любік, Мазурэнка* і інш.) значна ўзмацняюць рэгіянальны каларыт рамана. А названыя онімы як вызначальныя алюзійныя кампаненты, створаныя пісьменнікам па вядомых для Мазырскага Палесся анамастычных мадэлях, у спалучэнні і апісанні з іншымі сюжэтнымі «сігналамі», пры дапамозе якіх чытач ідэнтыфікуе, пазнае пэўную тэрыторыю, час, соцыум, з'яўляюцца дамінантамі кантэксту: такія тапанімічныя і антрапанімічныя адзінкі паўстаюць арганічнай і натуральнай часткай мясцовай анамастыкі, яны тыповыя для мясцін, дзе прайшла маладосць І. Навуменкі, апаленая вайной. У разнастайных фрагментах мастацкіх замалёвак *Журавічаў* (*Юравічаў*), *Бацькавічаў* (*Васілевічаў* — адкуль родам І. Навуменка), *Грамоў* (*ст. Нахаў*) і інш. угадваюцца намёкі на рэальныя тапанімічныя адзінкі, дзе, як сведчаць даследчыкі творчасці пісьменніка, сапраўды адбываліся падзеі, па-мастацку асэнсаваныя і апісаныя ў яго раманах. Элементамі алюзій выступаюць не толькі словаўтваральныя анамастычныя кампаненты прозвішчаў, айконімаў, а і тыповае мастацкае апісанне рэальных аб'ектаў у рэгіёне.

У аповесці В. Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» алюзіяй наадварот успрымаюцца шматлікія онімы ў тым ліку і ўвесь фантасмагарычны соцыум жыхароў палескага калгаса «*Верны шлях*». Пісьменнік знаёміць нас з грузінам *Гогам*, які мае мянушку *Сталін*. У творы таксама ёсць *Янка Каганец*, які па аналогіі з вядомым дзяржаўным кіраўніком сталінскіх часоў стаў *Лазарам Кагановічам*, а цыган-кааператар за знешняе падабенства — спецыфічную бараду і чупрыну на галаве, фінансавыя маніпуляцыі — атрымаў мянушку *Карл Маркс*, і ў новых, перабудовачных умовах узначальвае *ЦК* — цыганскі кааператыў. У аповесці прысутнічаюць таксама алюзійна створаныя пісьменнікам *Лаўрэнцій Берыя* і нават біблейская *Дзева Марыя* — дзябёлая калгасная даярка, якая без шлюбу ўмудрылася нарадзіць шасцёра дзяцей. Пісьменнік праз онімы канкрэтных гістарычных і біблейскіх асоб, што выкарыстаны як мянушкі, змог, карыстаючыся намёкамі і сарказмам, іранічна падкрэсліць гратэскава-камічны падтэкст рэалій нашай недалёкай рэчаіснасці, дзе ў выніку ўмоўнасцей аповесці ў «вернашляхаўскім свеце» разам сабраны «дастойныя экспанаты і індывідуумы эпохі сацыяльных міфаў і казак»: людзі жывуць чужым розумам, з чужымі імёнамі... Як прысуд «*Вернаму шляху*» гучыць у творы прытча пра дванаццаць дзікоў, якія загінулі ў меліярацыйнай канаве. Лічбавая сімволіка выразная: «дванаццаць апосталаў» прынялі смерць за людскія грахі. Біблейскія і іншыя рэмінісцэнцыі з'явіліся ў выніку пошукаў А. Касько адвечных каштоўнасцей, якія выпрацаваў шматвяковы вопыт народнага жыцця [15, с. 55].

Алюзійна выразным паўстае вобраз *Бандароўны* ў аднайменнай паэме Янкі Купалы. Паэт творча падышоў да глыбокага асэнсавання вобраза народнай гераіні, узяўшы сюжэт са шматлікіх песень-балад пра гордую *Бандароўну* — дачку

слаўнага *Бандарэнкі* з мястэчка *Берасцечка*, што пад *Канёвам* на *Дняпры*. У запісах песнь і балад пра яе, зробленых Я. Чачотам, М. Федароўскім, П. Шэйнам, Е. Раманавым і інш., узвышана паведамляецца пра высокія маральныя якасці прыгажуні з народа і кантрасна намаляваны ганебныя ўчынкі разбэшчанага і амаральнага старосты пана *Патоцкага* або пана *Канёўскага*, «*з Канёва родам*», «*што ўчыніў такую крыўду ні пра што дзяўчыне*»: гвалтам змусіў яе выйсці за яго замуж, а пасля, нацешыўшыся, забіў ахвяру і двурушна, з вялікімі, але няшчырымі шанаваннямі пахаваў яе.

Поспех Янкі Купалы, як адзначыла В. Ляшчынская — даследчыца мовы гэтага класіка, найперш у тым, што ў творы выявіліся і атрымалі далейшае развіццё не толькі высокія філасофска-эстэтычныя якасці ягонай паэзіі, а і яго наватарства, дзе з вялікім майстэрствам у сюжэтных калізіях выкарыстоўваецца як мастацкі сродак алюзійнасць, створаная ўяўленнямі пра рэаліі з народных балад, пашыраных ва Украіне, Беларусі і часткова Польшчы і Літве, а таксама выяўляецца выдатная рыфма-меладычная арганізацыя паэтычнага тэксту, узбагачаная традыцыямі народнага гуказапісу і вершатворчасці [16, с. 44].

Часам мастакі слова ў вершаваных творах, ствараючы выразную алюзію, выкарыстоўваюць ампліфікацыю ў спалучэнні з гукавой алітэрацыяй і іншымі мастацкімі сродкамі: *Гінуць Гітлер, Гімлер, Герынг, Гебельс, Гес, Шле за іх літанне папа да нябес* (Я. Колас «На міжнародныя тэмы»). Канатацыйныя прырашчэнні, якія ўзнікаюць у выніку нагнятання онімаў і паўтораў *Гі, Ге* ў іх, узмацняюць саркастычны намёк на тое, што гукам [Г] пачынаюцца шматлікія словы, у тым ліку і названыя прозвішчы, якія выклікаюць у соцыуме (грамадстве) самыя адмоўныя асацыяцыі: *гад, гора, гніда, гной, ганьба, галеча* і г. д. Такія гукавыя паўторы ў свядомым наборы прозвішчаў, апроч усяго, аб'ядноўваюць вершаваныя радкі, падкрэсліваючы іх адзінства і выступаюць не толькі як узмацняльнікі рытму, а і як адзін са сродкаў адмоўнай экспрэсіі. Прадуманы набор онімаў са спецыфічнай «*гукавой абалонкай*» уласных імёнаў у мастацкім тэксце, як трапна заўважыў В. Калінкін, з'яўляецца істотным фактарам, якім павышаецца алюзійнасць, сэнсавы і эмацыйны змест не толькі самога оніма, а і твора ў цэлым [17, с. 296]. Гукавая анафара ў гэтых радках — актуалізатар алюзіі, выразны атрыбут рытма-інтанацыйнай кампаноўкі верша, дзе дамінантная роля належыць онімам. У падобных кантэкстах гукі, іх спалучэнні могуць ствараць разнастайныя алюзіі, сэнсавыя ўяўленні, выяўляць сувязь з іншымі словамі, блізкімі па гучанні, семантыцы, марфемнай будове і інш.

Інакш кажучы, уяўленні-алюзіі падпарадкоўваюцца вызначальнаму для любога тэксту паўтору, прычым гэта тычыцца, як заўважана лінгвістамі (І. Арнольд, А. Равуцкі), не толькі блізкіх у нейкіх характарыстыках гукаў і іх спалучэнняў, што дае падставы гаварыць аб стылістычным выкарыстанні фанетычнай паранамазіі. У выніку элементы гукапісу ў спалучэнні з іншымі мастацкімі прыёмамі, напрыклад, з сінтаксічнымі паўторамі, ампліфікацыяй, з рытма-меладычнай арганізацыяй мастацкага тэксту і інш. успрымаюцца не столькі лакальнай, колькі агульнатэкставай з'явай, выяўляючы комплекснае «сумеснае дзеянне» розных сродкаў вобразнасці, якое кваліфікуецца як паэтычная канвергенцыя.

Онімы-алюзіі — неад'емны тэкставы кампанент пародый — сатырычных або гумарыстычных твораў, што высмейваюць пэўны твор або стыль пісьменніка. Парадысты разам з іншымі моўнымі адзінкамі ўмела абыгрываюць унутраную форму ўласных найменняў. Тэкст пародыі — гэта інтэртэкст, насычаны прамымі і трансфармаванымі цытатамі і ўкрапленнямі з парадыраванага твора. Літаратурная пародыя, на думку А. Урбана, — дыялог з папярэднімі культурнымі набыткамі, жанрам, які прызваны, з аднаго боку, заяўляць аб сувязі з аб'ектам, што парадыруецца, а з другога боку, акцэнтуючы пэўныя яго якасці і ўласцівасці, выказваць уласнае меркаванне, сваю думку пра гэты аб'ект у мастацкім творы [18, с. 23]. Як трапна заўважыў Л. Вуліс, «пародыя падобна тым раслінам, якім ствалы іншых раслін замяняюць ежу» [19, с. 14].

Аўтары пародый карыстаюцца моўнымі ці іншымі сродкамі тых аўтараў, якія крытыкуюцца. Так, Г. Юрчанка, які пасляхова асвоіў гэты цікавы і арыгінальны жанр сатыры і гумару, падрыхтаваў некалькі кніг пародый, у якіх можна знайсці ўдалыя прыклады ажыўлення канатацыйных значэнняў ва ўласных імёнах. Напрыклад, у пародыі «Выбар жонкі» (на апавяданні Барыса Пятровіча) у ліку прэтэндэнтак на жонку галоўнага героя называюцца кляпальшчыца *Трактарына*, трамвайшчыца *Феўраліна*, прыбіральшчыца *Электрына*. Гэта сведчыць, што Г. Юрчанка з іроніяй ставіцца да выкарыстання Б. Пятровічам «модных» імёнаў, што былі ў асаблівай пашане ў людзей, якія страчвалі пачуццё нацыянальнай годнасці, захапляючыся антрапанімічнымі наватворамі 20—30-х гадоў XX ст. (*Трактарына*, *Электрына*), або да тых, хто імкнуўся перайначыць традыцыйныя беларускія ўласныя імёны на ўзор «звышмодных» (*Фяўроння* → *Феўраліна*), што прыводзіла да парадоксаў, бо ў народзе *Фяўроняй* часам з гумарам называюць свінню. Ды і апісанне трамвайшчыцы *Феўраліны* выклікае адпаведныя асацыяцыі: *«...была яна пульхнай і пакладзістай»*. Гэты онім выяўляе таксама сугучнасць і асацыятыўную сувязь з рускім дзеясловам *врать* — маніць, хлусіць, брахаць, а таксама з агульным назоўнікам *хеўра* — кампанія людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, агульнымі прыметамі.

Мода на імёны тыпу *Феўраліна*, мяркуе А. Супяранская, тлумачыцца таксама складаным узаемадзеяннем моўных і пазамоўных фактараў, якія ўплывалі на выбар онімаў. Эстэтызм 20—40-х гадоў XX ст., які ў нашым грамадстве быў заснаваны на адмаўленні імёнаў, што не былі падобныя на «модныя», ствараў перашкоды ў той перыяд у выбары і ўжыванні традыцыйных усходнеславянскіх імёнаў, што мелі ў сваёй структуры спалучэнні *пр, тр, пс, кс: Прося, Пятро, Аксення і інш.* [20, с. 42].

На думку В. Калінкіна, часам «гукавая абалонка ўласнага імя ў мастацкім тэксце з'яўляецца істотным фактарам, якім павышаецца сэнсавы і эмацыйны змест не толькі самога оніма, а і твора ў цэлым». Звычайна кананічныя імёны з гукам [ф] атрымліваюць негатыўную канатацыю [17, с. 281]. Гэтым спосабам калі-нікалі пісьменнікі фактычна рэалізоўваюць адну з тыповых асаблівасцей літаратурных онімаў, заўважаную Б. Унбегаўнам. Роля аўтарызаваных антрапонімаў у мастацкім творы надзвычай вялікая: такія адзінкі ў канве «канцэнтруюць на плошчы невялікага памеру даволі значную для мастака інфармацыю..., найбольш частым прыёмам, які выкарыстоўваецца ў літаратуры, з'яўляецца «свядомае выпячванне формы або значэння оніма літаратурнага героя» [21, с. 188].

Гэтая ідэя сродкамі сатыры ўмела абыгрываецца і рэалізуецца Г. Юрчанкам у названай пародыі. Праяўляецца ў такой замене і такая эстэтычная з'ява, як *набілізацыя* — акультурванне, імкненне замяніць нібыта не зусім прыгожае імя на больш прыдатнае, мілагучнае і эстэтычна выверанае, але эфект ад гэтага можа быць дыяметральна процілеглым. Набілізуючыя замены онімаў у пародыях — выдатны сродак стварэння камізму і гумару ў тэксце. Імёны-характарыстыкі выконваюць вызначальную функцыю — спрашчаюць і дапамагаюць Г. Юрчанку намаляваць сродкамі, уласцівымі для творчай манеры Б. Пятровіча, партрэты кляпальшчыцы, трамвайшчыцы і прыбіральшчыцы, якія ў чытача выклікаюць лагодны гумар. Экспрэсіўна-ацэначная роля такіх імёнаў у пародыі ўзмацняецца і тым, што названыя онімы не частыя ва ўжыванні. Яны выразна кантрастуюць на фоне звыклых натуральных беларускіх жаночых імёнаў, тыпу *Мар'я, Алена, Кацярына* і інш. Гэта і своеасаблівы аўтарскі прыём, заснаваны на незвычайным, нетыповым (для пэўнага асяродку) ужыванні онімаў, бо «змяшанне планаў сацыяльнай суаднесенасці імёнаў можа быць спецыяльна выкарастана ў літаратуры як мастацкі прыём» [20, с. 318]. А онімы звычайныя, частыя, тыповыя ў пэўным соцыуме ствараюць нейтральны фон, на якім імёны адметныя, тыя, што ўжываюцца рэдка, успрымаюцца як спецыфічны стылістычны сродак.

Онімы-алюзіі — неад’емны тэкстаўтваральны або фрагментальны кампанент мастацкага твора. Яны выкарыстоўваюцца для стварэння новага вертыкальнага кантэксту, у якім ужыванне ўжо вядомага оніма спрашчае азнаямленне чытача з задуманым мастаком слова новым літаратурным персанажам або аб’ектам, які будзе ў цэнтры ўвагі пісьменніка і чытача. Функцыя алюзійнага оніма ў вертыкальным кантэксце выяўляецца і залежыць ад таго, да якой разнавіднасці алюзійны антрапонім і айконім адносяцца: тэкстаўтваральнай або фрагментарнай. Онімы-алюзіі — гэта сублімаваныя тэкставыя кампаненты, якія садзейнічаюць фарміраванню ў чытача дадатковых сэнсавых асаблівасцей і канатацый шляхам актуалізацыі ў кантэксце асацыятыўных сувязей з папярэднімі кантэкстамі і дадатковай культурна-гістарычнай і іншай інфармацыяй. Выяўленне алюзій у тэкстах залежыць ад жыццёвага, культурнага і гістарычнага вопыту чытача, яго міжтэкставай дасведчанасці.

## Умоўныя скарачэнні:

1. К-с— Колас. Якуб Збор твораў: У 14 т. / Я. Колас. — Мінск: Маст. літ., 1973—1978.

## Літаратура:


1. Зелянко, С. В. Інтэртэкстуальнасць як асаблівасць сучаснага публіцыстычнага стылю / С. В. Зелянко // Беларуская мова і літаратура. — 2008. — № 10. — С. 54—57.

2. Соловьёва, М. А. Роль аллюзивного антропонима в создании вертикального контекста (на материале романов А. Мердок и их русских переводов). Автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата филологических наук / М. А. Соловьева. — Екатеринбург, 2004. — 22 с.

3. Карлова, М. А. Литературная пародия как интертекст / М. А. Карлова, В. В. Кузьмич // Веснік Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. — 2003. — № 8. — С. 64—72.

4. Рогалев, А.Ф. Ономастика художественных произведений: Пособие / А.Ф. Рогалеў // Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины. — Гомель, 2003. — 194 с.

5. Тычына, М. Пясняр рамантычнага парыву: Штрыхі да партрэта Міхася Лынькова / М. Тычына // Роднае слова. — 1999. — № 11. — С. 23—28.

6. Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа / Пад рэд. акадэміка М. В. Бірылы. — Мінск: Навука і тэхніка, 1990. — 638 с.

7. Рагуля, А. «Адвечны шлях! Калі ж, калі!...» / А. Рагуля // Полымя. — 2002. — № 11—12. — С. 238—261.

8. Шаладонава, Ж. С. Фарбы быту і быцця ў паэме Я. Коласа «Новая зямля» / Ж. С. Шаладонава. — Мінск: Бел. навука, 2001. — 104 с.

9. Бугаёў, Дз. Родны кут і вялікі свет / Дз. Бугаёў // Літ. і мастацтва. — 2002. — 22 лістап. — С. 12.

10. Лепешаў, І. Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І. Я. Лепешаў. — Мінск: Нар. асвета, 1981. — 160 с.

11. Бут-Гусаім, С. Ф. Характарыстычныя назвы чалавека ў беларускай мове С. Ф. Бут-Гусаім // Весн. Брэсц. ун-та. — 2001. — № 5. — С. 58—68.

12. Лявонава, Е. А. Алюзія на вобраз Хрыста ў рамане У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і сусветная літаратурная традыцыя / Е. А. Лявонава // Беларуская мова і літаратура. — 2001. — № 4.

13. Нямцу, А. Б. Новы Заповет и мировая литература / А. Б. Нямцу. — Черновцы, 1993. — 251 с.

14. Рагойша, В. Паэма Максіма Танка «Люцыян Таполя»: спроба новага прачытання / В. Рагойша // Міфалогія — Фальклор — Літаратура: праблемы паэтыкі. Вып. 2. Навуковы зборнік. — Мінск: БДУ, 2002 — 170 с.

15. Ханеня, С. І. Творчасць В. Казько на ўроках літаратуры ў XI класе/ С. І. Ханеня // Беларуская мова і літаратура. — 2003. — № 2. — С. 47—59.

16. Ляшчынская, В. Слова ў паэзіі Янкі Купалы / В. Ляшчынская; навук. рэд. А. І. Падлужны. — Мінск: Бел. навука, 2004. — 271 с.

17. Калинкин, В. М. Поэтика онима / В.М. Калинкин. — Донецк, 1999. — 350 с.

18. Урбан, А. В. В настоящем времени / А. В. Урбан. — Л.: Советский писатель, 1986. — 232 с.

19. Вулис, А. В. Литературные зеркала / А. В. Вулис. — М.: Советский писатель, 1991. — 148 с.

20. Суперанская, А. В. Общая теория имени собственного / А. В. Суперанская; отв. ред. А. Реформатский. — М.: Наука, 1973. — 366 с.

21. Унбегаун, Б. Русские фамилии: Пер. с англ. / Б. Унбегаун; общ. ред. Б. А. Успенского. — М.: Прогресс, 1989. — 389 с.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 21 снежня 2010 года.*

**Васіль Шур**
**«Онімы як алюзійны кампанент мастацкага тэксту»**

## Рэзюме

На шматлікіх прыкладах з беларускай літаратуры аўтар даследуе ўжыванне ў творах мастацкага прыёму алюзія (ад лац. allusio — жарт, намёк, што, безумоўна, узмацняе ўздзеянне мастацкага слова на чытача, разнастайвае вобразна-выяўленчыя сродкі прозы альбо паэзіі.

**Vasil Shur**
**«Onims as allusive component of a literary text»**

## Summary

An author of this article investigates the artistic way to reflect reality with the help of allusions (just kidding, a hint and others). He does it on numerous examples of the Belarusian literature. The conclusion of the researcher is that allusion in the works of writers increases the impact of artistic word to the reader and expands imaginative prose and poetry means.

Т

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# СВЯЦІ, ЗОРКА, СВЯЦІ



Максім Багдановіч.

***Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпускае кнігу лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алеся Марціновіча «Свяці, зорка, свяці», што працягвае цыкл выданняў пра славутых песняроў Бацькаўшчыны, пачатак якому быў пакладзены кнігай Уладзіміра Ліпскага «Янкаў вянок» пра Янку Купалу. Несумненна, што «Свяці, зорка, свяці», як і «Янкаў вянок», будзе запатрабавана выкладчыкамі беларускай літаратуры, а таксама стане добрым дапаможнікам у пазашкольнай рабоце. Прапануем асобныя раздзелы з гэтай кнігі.***

## Туды, куды душа імкнецца

Максіму даўно хацелася пабываць на Бацькаўшчыне. Ды ўсё ніяк не выпадала. Хоць гэта і зразумела. Калі вучышся ў гімназіі, не надта вольны распараджацца сваім часам. Тым не менш, чытаем ва ўспамінах ягонага бацькі Адама Ягоравіча, «яго цягнула ў Беларусь, дзе яму хацелася пазнаёміцца асабіста з беларускімі пісьменнікамі і дзеячамі па беларускім адраджэнні, якія, між іншым, у пісьмах абяцалі яго ўладкаваць у якой-небудзь сухой мясцовасці з сасновым лесам. Я, зразумела, нічога супраць гэтага не меў, і ён адправіўся ў Вільню ў палавіне чэрвеня (1911) адразу ж па выхадзе з гімназіі. Паездка працягвалася два месяцы з невялікім і ўзбагаціла яго жывыміназіраннямі роднага краю, пазнаёміла з яго жыхарамі і дзеячамі, увогуле паставіла сам-насам з жывой рэчаіснасцю, якую да гэтага часу ён ведаў па кнігах або расказах маіх сясцёр, яго цётак. Частку часу ён правёў у Вільні, жывучы на кватэры сакратара рэдакцыі «Нашай нівы», а затым на нейкім хутары ці то ў Вілейскім, ці то ў Ашмянскім павеце».

Сакратар «Нашай Нівы» — вядомы беларускі нацыянальны дзеяч, адраджэнец Вацлаў Ластоўскі. На жаль, доўгі час ягонае імя знаходзілася ў забыцці, бо Вацлаў Юсцінавіч быў беспадстаўна рэпрэсіраваны.

Гэтаксама доўга не ўдавалася ўстанавіць, дзе той хутар, які, па словах В. Ластоўскага, некалі знаходзіўся «ці то ў Вілейскім, ці то ў Ашмянскім павеце».

Так працягвалася, пакуль за высвятленне гэтага пытання не ўзяўся рупны даследчык беларускай мінуўшчыны Генадзь Каханоўскі. Ён, які абхадзіў родную

яму маладзечанскую зямлю ўздоўж і ўпоперак, і ўстанавіў, што гасцяваў паэт не дзе-небудзь, а на Маладзечаншчыне, непадалёку ад Краснага.

Раней гэта была вёска Краснае Сяло. Поруч знаходзіцца Ракуцёўшчына, у якой Максіма так ласкава прывецілі.

Дабірацца туды нескладана. Асабліва, калі ехаць з Маладзечна ці з Мінска. Проста трэба сысці на прыпынку Уша. У залежнасці з якога боку едзеш, неабходна павярнуць налева ці направа. Пасля гэтага трэба прайсці колькі соцень метраў. Пасля чаго і патрапіш у Ракуцёўшчыну.

Максім, калі дабіраўся сюды, ехаў з Вільні цягніком. Аб чым думалася яму падчас гэтай паездкі?

Дарога ж заўсёды абуджае думкі, пачуцці. Прымушае ўзважваць здзейсненае.

Дапамагае ўзірацца ў абрысы заўтрашняга.

А тут жа паездка незвычайная. На Радзіму. Туды, дзе гавораць людзі на такой простай, але гэткай мілагучнай мове. На той мове, што стала мовай яго шматлікіх твораў.

Каб лепей уявіць сабе, якія пачуцці авалодвалі Максімам у дарозе, еду спачатку ў Маладзечна. Балазе сёння гэта не складана. Электрычкі з Мінска дый у зваротным накірунку ходзяць рэгулярна. Па дарозе ў Маладзечна на прыпынку Уша спецыяльна не сышоў. Каб лепей адчуць перажыванні Максіма, калі ён дабіраўся сюды з Вільні.

Па прыбыцці электрычкі ў Маладзечна, на ёй жа і кіруюся ў зваротны шлях. Уяўляю сябе на месцы Максіма.

Беларускую гаворку ён пачуў ужо ў Вільні. Але горад ёсць горад. Там змяшаліся розныя гаворкі. Жадаецца ж пачуць чыстую, як вада крынічная. Такую, якая можа быць толькі на вёсцы. Дый хочацца хутчэй прайсціся вёскай. Выйсці за ваколіцу. Удыхнуць збалелымі грудзьмі свежага паветра, настоенага на лугавых красках. Прысесці на камені-валуне.

Як хораша думаецца, калі з’яўляецца адчуванне, што ты знаходзішся адзін на адзін на гэтай невялікай і неабсяжнай зямлі. Не, не адзін, бо так ірвецца душа спазнаць і чалавечае гора, і радасць людскую — няхай маленькую, ледзь прыкметную, але абавязкова адчуць.

З год назад ён напісаў верш, які так і назваў — «Мая душа»:

Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор,
Вартуе вольнасць птушак крыкі, —
Мая душа, як ястраб дзікі.

Мяняюцца за акном вагона краявіды. Узіраюся ў маладзенькія бярозкі, што гатовы гарэзліва перабегчы чыгуначнае палатно. У сасоннік, які стаіць ля дарогі, быццам у нейкай маўклівай варце… Яны павырасталі нядаўна, але вось за даляглядам праступаюць абрысы лесу. А потым пачынаюцца палеткі, на якіх каласіцца збажына.

Нешта падобнае бачыў і М. Багдановіч, радасна-тужліва, шчымліва-засяроджана перажываючы гэтыя хвіліны яднання з усім тым, чаму ёсць адна трапная і простая назва — роднае.

Родная зямля.

Родныя людзі.

Родная прырода.

Нарэшце, электрычка прыбліжаецца да Ушы.

Выходжу, паварочваю налева. Праходжу ля касцёла.

Неаднойчы даводзілася бываць мне ў Ракуцёўшчыне, а адчуванне такое, быццам наведаўся ўпершыню ў гэтую Максімаву вёсачку.

Так, Максімаву.

Пачынаючы з крынічкі. З той самай, якая па-ранейшаму бруіцца сярод алешніку і вербалозу. Яна памятае Максіма. Ён любіў каля яе адпачываць. Гледзячы

на бруісты струменьчык, яму так хораша думалася. Радавала сэрца някідкае хараство прыроды.

Ніцыя вербы, што схіляліся нібы ў нізкім паклоне маці-зямлі.

Пах кропу, які прыносіў лёгкі ветрык з вузкіх сялянскіх палосак.

Шчабятанне птушак.

Гэта ўсё тое, чаго не ставала яму ў далечыні ад родных мясцін, аб якіх ён заўсёды марыў, спакутаваны хваробай. Збалелы душой. Пазбаўлены магчымасці гаварыць на мове, што так любіў і на якой пісаў.

Падчас майго наведвання ў Ракуцёўшчыну дзень выдаўся нейкі млява-спякотны. У паветры стаяла цяжкая павалока. Дыхалася цяжка. Бы прадчуванне навальніцы, але на небе ні хмурынкі. Яно чыстае, без канца і краю, як тая вялізная чаша, што можа ў сябе ўмясціць усё. Так і хочацца спачыць дзе-небудзь у цяньку. Але лес адступіў далёка ад Ракуцёўшчыны. Недзе за нябачным даляглядам яго маўклівыя шаты.

У ваколіцах, гэткае ж самае, як і каля крынічкі, кустоўе альхоўніку. Ды яшчэ дрэвы, што цягнуцца ўгору, да сонца. Максімаў сад…

Магчыма, назва гэтая і крыху загучная, як на цяперашні час. Але гэта сад, пасаджаны рупнымі рукамі людзей, якія любяць творчасць песняра.

Гісторыя саду такая.

Летам 1978 года было вырашана ўстанавіць на высокім пагорку помнік, які б нагадваў аб знаходжанні ў тутэйшых мясцінах М. Багдановіча. Так і з’явіліся два вялізныя камяні. Адзін з іх — высокі, завостраны ўверсе. Ён быццам нагадвае сабой вялізную свечку. Гэта своеасаблівы сімвал неўміручасці паэта і ягонай творчасці. Другі валун — пакаты. На ім выбіты радкі аднаго з вершаў М. Багдановіча:

Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Над гэтымі неўміручымі радкамі кароткі, лаканічны надпіс: «У в. Ракуцёўшчыне ў 1911 годзе жыў і працаваў вядомы беларускі паэт Максім Багдановіч».

Тады ж з’явілася і задумка пасадзіць тут, на пагорку, мемарыяльны паэтаў сад. Пачатак яе ажыццяўленню быў пакладзены 24 красавіка 1981 года, калі беларускія пісьменнікі, якія прыехалі ў Ракуцёўшчыну, пасадзілі семдзесят дрэўцаў. Па колькасці гадоў, што мінулі з часу знаходжання М. Багдановіча ў гэтай вёсцы.

## «Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!»

Паехаць у Ракуцёўшчыну Максіму прапанавалі Антон і Іван Луцкевічы. Таксама супрацоўнікі «Нашай нівы». Там у фальварку жыў іхні дзядзька Вацлаў Лычкоўскі. Збяднелы шляхціц, але чалавек гасцінны. Браты запэўнілі Максіма, што яго ўспрымуць як свайго. Магчыма нават хтосьці і суправаджаў яго да Ракуцёўшчыны.

Наколькі Лычкоўскія гасцінныя, Максім адчуў адразу. І сам гаспадар, і ягоная сястра Ядвіся рабілі ўсё для таго, каб хворы паэт адчуваў сябе тут, як дома.

Сядзіба Лычкоўскіх знаходзілася на пагорку. Паблізу ад самой вёскі, што прытулілася ў нізіне. Вёска была невялікая. У ёй пражывала меней як сорак чалавек. Таму ўсе адзін аднаго ведалі. Сваім сярод вяскоўцаў хутка стаў і Максім.

Ён любіў прагуляцца па вёсцы, паблукаць у наваколлі. Сустрэўшы каго-небудзь, ласкава вітаўся: «Добры дзень». У адказ гучала «Дабрыдзень». Слова гэтае лёгкай хваляй пяшчоты адгуквалася ў Максімавай душы.

Тая хата, у якой некалі жыў Максім, не захавалася. Яна была перароблена ў 50-я гады яе новым гаспадаром. Таму ў даўжыню стала на два метры карацейшай. Была адзінаццаць метраў, стала дзевяць. Поруч з хатай у садзе стаяў яшчэ невя-

лікі дамок. У ім Максім таксама любіў жыць. Асабліва, калі хацелася пабыць у адзіноце.

Вакол хаты знаходзіліся розныя гаспадарчыя пабудовы. Вакол расло шмат дрэў. На жаль, захаваліся толькі тры клёны. Ды частка прысадаў.

У тое лета ў Лычкоўскіх Максім быў не адзіным госцем. З Мінска прыехала родная сястра Луцкевічаў Эмілія Шабуня. Ды не адна, а са сваёй двухгадовай дачкой Янінкай. Аднак месца ўсім ставала. У хаце было дзве святліцы, кухня і кладоўка. Святліцы раздзяляў калідор.

Палуднавалі дый вячэралі разам. За чаем заводзілі розныя размовы. Максім любіў пагаварыць пра паэзію. Але калі даведаўся, што Э. Шабуня захапляецца творамі рускага паэта Сямёна Надсана, рэзка крытыкаваў яго.

Гэта ў той час, калі моладзь вельмі любіла творчасць С. Надсана. Любіў яе і Янка Купала. Аднак М. Багдановіч і ў гэтым выпадку заставаўся М. Багдановічам. Шмат на што ён меў уласны погляд. І ніхто не мог яго пераканаць у адваротным.

У гэтым таксама праяўленне характару. Дарэчы, і жыццёвы шлях С. Надсана, як і ў М. Багдановіча, быў вельмі кароткі. Ён пражыў усяго 25 гадоў.

У 1991 годзе пачалося аднаўленне сядзібы Лычкоўскіх. Першым з'явіўся Дом арандатара. У ім створана музейная экспазіцыя. Заходзіш у гэтую хаціну — і цябе сустракае сам М. Багдановіч. Ягоны партрэт займае ў экспазіцыі асноўнае месца.

Паэт у дзевятнаццацігадовым узросце. У той перыяд, калі гасцяваў у Лычкоўскіх. Ёсць таксама фотаздымкі В. Ластоўскага, Луцкевічаў.

Інтэр'ер Дома арандатара ўзноўлены так, што, трапляючы ў яго, нібыта пераносішся на сто гадоў назад. Драўляны ложак, стол, іншая мэбля — такая, якой яна была ў пачатку ХХ стагоддзя. На стале кнігі французскіх аўтараў, якімі зачытваўся паэт: Поль Верлен, Гюстаў Флабэр, Шарль Бадлер. Кніга паэзіі «Вянок» самога М. Багдановіча — поруч з ягоным партрэтам.

Усё, як калісь, выглядае і ў Доме гаспадара. Подых таго незабыўнага часу адчуваецца ва ўзноўленых інтэр'ерах гасцёўні, кухні. У дзіцячым пакоі знаходзіцца калыска з лазы. Акурат такая, у якой спала маленькая Янінка. Максім любіў перад сном расказваць ёй казкі. Тут жа канапка, лялечная мэбля, палічка з кнігамі. А яшчэ — кашулька. Няйначай у такую апраналі Янінку.

Дый за ўсім іншым, што прадстаўлена ў экспазіцыі, адчуваецца тагачаснае жыццё. Асабліва ўдыхаеш даўняе паветра, калі наведваешся ў гумно. У ім размешчаны спаконвечныя сялянскія прылады — цапы, сярпы, прыстасаванне для апрацоўкі льну. Тут жа сані, воз. Ёсць і дзежкі, карабы для захоўвання зерня, пляцёнкі з лазы.

Жывучы ў Ракуцёўшчыне, М. Багдановіч усё гэта бачыў упершыню. Для яго вясковы побыт станавіўся сапраўдным адкрыццём Беларусі.

Не той Беларусі, пра якую ведаў па кнігах.

Гэта была Беларусь сялянская.

Гэты было жыццё народа.

Такое не забываецца. За такое нельга быць не ўдзячным. Таму і прызнаваўся ён у вершы «У вёсцы»:

Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!
Зноў з ціхай радасцю цябе чытаю я.
Хай шмат чаго ўжо з тых гадоў крыніца змыла
У памяці маёй…

## Прад высокаю красою

Яшчэ з урокаў рускай літаратуры добра вядома, што ў творчасці Аляксандра Пушкіна вельмі плённым быў той перыяд, калі ён восень 1830 года правёў у маёнтку свайго бацькі, што знаходзіўся ў вёсцы Болдзіна. Цяпер гэта Ніжагародская вобласць Расійскай Федэрацыі. За тры месяцы Пушкін напісаў каля

50 твораў. У тым ліку ў асноўным завяршыў свой раман у вершах «Яўгеній Анегін».Таму і з'явіўся выраз «Болдзінская восень».

Для Максіма свайго роду «Болдзінскай восенню» стала Ракуцёўшчына. Хоць не горшае і такое вызначэнне: «Ракуцёўшчынскае лета». Яшчэ В. Ластоўскі засведчыў, наколькі творча актыўна працаваў М. Багдановіч у гэты перыяд. У Ракуцёўшчыне ім былі напісаны цыклы вершаў «Старая Беларусь» і «Места». Там нарадзіліся паэмы «У вёсцы» і «Вераніка». Напісалася 16 вершаў і дзве паэмы.

Вацлаву Ластоўскаму нельга не верыць. Гэтыя звесткі ён пачуў з вуснаў самога М. Багдановіча. Вяртаўся ж Максім дамоў зноў праз Вільню. І зноў, як перад паездкай на Радзіму, у іх з В. Ластоўскім былі шчырыя, задушэўныя размовы. Максім не мог не выкарыстаць магчымасць, каб пачытаць яму свае новыя творы.

Хто ведае, што ў першую чаргу дэкламаваў М. Багдановіч. Сведчанняў пра гэта не засталося. Як і невядома, што найперш папрасіў яго прачытаць В. Ластоўскі. Пра гэта ў сваіх згадках ён таксама нічога не гаворыць. Толькі, думаецца, што Максіму захацелася хутчэй пазнаёміць яго з паэмамі «У вёсцы» і «Вераніка». Менавіта яны ў большай ступені нагадвалі яму пра тую часіну, якая яшчэ зусім нядаўна прынесла столькі радасці.

Гэтыя творы М. Багдановіч аб'яднаў у цыкл «Мадонны». У іх не толькі захапленне хараством прыроды, а і жаночай прыгажосцю. У паэме «У вёсцы» Максім прызнаваўся: «Мінулае сваё прыпамінаю я!» «Сваё мінулае» — гэта, безумоўна, Ракуцёўшчына:

Калісьці летняй рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Панураю чаргой
З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі — шэрыя, струхлеўшыя; як латы,
Віднеліся ў сцянах сляпыя вокны іх,
І аж чарнелася салома стрэх гнілых.

Малюнак вельмі непрыглядны. Але і такое даводзілася бачыць М. Багдановічу ў Ракуцёўшчыне. І раптам ён заўважыў дзяўчынку, якая, як дарослая, суцяшала хлопчыка, які плакаў. Быццам маці, суцяшала яго. Пасля ўсяго гэтага ўвесь акаляючы свет пачаў успрымацца Максімам інакш:

І, помню, я на міг пахарашэў душою.
А можа не краса была ў дзяўчынцы той, —
Дзяўчынцы ўпэцканай і хілай, і худой, —
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

Рафаэль, знакаміты італьянскі жывапісец і архітэктар, які жыў у XVI стагоддзі. Сусветную вядомасць яму прынеслі шмат якія творы. Але найбольш ён сцвердзіўся як майстра жаночага партрэта, пішучы сваіх мадоннаў. Дарэчы, ягоную славутую «Сіксцінскую мадонну» Максім, жывучы ў бацькоўскім доме, мог сузіраць штодня. Рэпрадукцыю гэтай карціны Адаму Ягоравічу падарыў М. Горкі. Былі рэпрадукцыі і твораў іншых мастакоў, паднесеныя ім у дарунак. Атрымліваецца, што і Аляксей Максімавіч спрычыніўся да выхавання ў Максіма высокага мастацкага густу.

Асабліва падабалася М. Багдановічу «Сікстінская мадонна». Хоць і іншыя творы Рафаэля выклікалі ў яго захапленне. Таму «ажыў … мадонн тварыцель, Рафаэль» і ў паэме «Вераніка». Як і ў паэме «У вёсцы», у гэтым творы паэт услаўляе жанчыну. Але ў ім не толькі ўражанні ад знаходжання ў Ракуцёўшчыне. Прысутнічае і тое, што ўвогуле запала ў сэрца. Тым самым з'яўляліся абагульненыя вобразы. У тым ліку і Веранікі. Адсюль і аўтарскае ўдакладненне: «Хай так дзяўчыну будзем зваць». Вераніка — зноў жа сімвал чысціні і жаночай прыгажосці. Не ў апошнюю чаргу чысціні і прыгажосці духоўнай:

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй
Натхнённай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было, —
Там запалілася святло.

Ракуцёўшчына стала для Максіма крыніцай натхнення. Ёй заўсёды было месца ў ягонай памяці. Да гэтай вёскі, што адкрыла яму па-сапраўднаму вясковую Беларусь, ён часта звяртаўся ў сваіх думках. Пабываўшы на Радзіме, М. Багдановіч па-сапраўднаму адчуў сябе беларусам. Зразумеў, што ён не проста паэт, а паэт беларускі. Пасля Ракуцёўшчыны Максіму хацелася і спачын свой знайсці на бацькоўскай зямлі. Пра гэта ягоны верш «***Даўно ўжо целам я хварэю…»

Даўно ўжо целам я хварэю,
    І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
    Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
    Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
    Сваёй нуды.
Калі ж у ім умру-загіну, —
    Не жалюсь я!
Не будзеш цяжкая ты сыну
    Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
    Там, пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
  Сабе спакой.

Гэты верш быў змешчаны ў «Нашай ніве» 26 студзеня 1912 года. Пісаўся ж ён тады, калі М. Багдановіч у думках чарговы раз далучаўся да «страніцы лепшай ў штодзённіку жыцця».

А цяпер яшчэ пра Вераніку. І не толькі пра яе.

## Максім ды Вераніка

Ёсць такая трава. Іван-ды-Мар'я называецца. Цвіце ў чэрвені—верасні. Кветкі ў яе ярка-жоўтыя. З чырвона-бурай трубкай і сіне-фіялетавымі прыкветкамі. Яе яшчэ братаўкай называюць. Таксама назва харошая, па-сапраўднаму беларуская. Але Іван-ды-Мар'я, як мне здаецца, усё ж лепей гучыць.

Паводле легенды, такая назва з'явілася невыпадкова. Жылі даўным-даўно на свеце юнак і дзяўчына. Яго Іванам звалі. Яе — Мар'яй. Яны вельмі моцна любілі адно аднаго. Ды знайшліся тыя, хто не дазволіў ім стаць мужам і жонкай. Тады яны ператварыліся ў кветку. Каб заўсёды быць разам. Таму і пачалі называць кветку гэтую Іван-ды-Мар'я.

Кветкі Максім-ды-Вераніка няма. А магла б быць. Дарэчы, у некаторых сем'ях, у якіх гадуюцца хлопчык і дзяўчынка, яны маюць імёны Максім і Вераніка. Найперш, калі ў гэтай сям'і ў каго-небудзь з бацькоў, а то і ў абодвух, філалагічная адукацыя. Ці яны цікавяцца літатурай, паэзіяй. Асабліва любяць творчасць М. Багдановіча. А то і пісьменнікамі з'яўляюцца. Як Віктар Шніп і Людміла Рублеўская. Сам ён паэт і празаік, а ягоная — жонка паэт, празаік, драматург. Сына назвалі Максімам. Дачку — Веранікай.

Няцяжка здагадацца, адкуль такое паважнае стаўленне да гэтых двух імёнаў. Канечне ж, Максім — гэта імя самога паэта. А Вераніка — гераіня вершаванага апавядання М. Багдановіча.

Вераніка згадваецца і ў вершы М. Багдановіча «***Ізноў пабачыў я сялібы…» Ён напісаны паэтам пазней, чым вершаванае апавяданне. Гэты верш натхніў вядомага беларускага кампазітара Ігара Лучанка на напісанне песні, якую ён так і назваў — «Вераніка». Знакамітай яна стала дзякуючы ансамблю «Песняры» і заснавальніку і нязменнаму кіраўніку гэтага праслаўленага калектыву цягам доўгіх гадоў Уладзіміру Мулявіну. На жаль, самога яго ўжо няма. А песня жыве:

Ізноў пабачыў я сялібы,
Дзе леты першыя прайшлі:
Там сцены мохам параслі,
Вясёлкай адлівалі шыбы.
Усё ў пылу. І стала мне
Так сумна, сумна ў цішыне.
Я ў сад пайшоў. Усё глуха, дзіка,
Усё травою зарасло.
Няма таго, што раньш было,
І толькі надпіс «Вераніка»,
На ліпе ўрэзаны ў кары,
Казаў вачам аб тэй пары.

Паэтызуючы гэтае дзявочае імя, М. Багдановіч меў на ўвазе пляменніцу Д. Дзябольскага — Вераніку Залатарову, якую пабачыў у ягонай сям'і. Вераніцы на той час было ўсяго два гады. Максім да яе мае бацькоўскія пачуцці. Ён вельмі любіў размаўляць з Веранічкай. Як і ўсе, называў яе Рона, Роначка. Сама ж Вераніка называла яго Махім.

«Махім» з задавальненнем прыносіў ёй розныя падарункі. Аднойчы ён прыйшоў з вялікім заалагічным атласам. Веранічка з цікавасцю разглядала ў ім выявы розных птушак і звяроў. Асабліва спадабалася птушка гага. Бадай, таму, што назву яе было лёгка запомніць і прамовіць.

Веранічка, як і іншыя дзеці ў яе ўзросце, часам капрызнічала. Часцей тады, калі яе ўкладвалі спаць. Веранічцы ж хацелася яшчэ пагуляць. Раніцой жа яна, наадварот, усхоплівалася першай. Гарэзнічала, перашкаджала іншым спаць. Бабуля неяк паскардзілася Максіму на паводзіны дзяўчынкі. А той узяў, дый напісаў спецыяльна для дзяўчынкі верш. Такі верш, у якім прысутнічае сама непаслухмяная Веранічка:

Слушай, Рона эту сказочку про «гагу»:
Мама просит, чтоб в кровать она легла;
«Гага» маме говорит: «Не лягу», —
Мама «гагу» «амке» отдала.
Если, Роночка, ты встанешь спозаранку
Или если спать не будешь по ночам, —
Позову я к вам большую «амку»,
Этой «амке» Роночку отдам.

У гэтым творы М. Багдановіч не толькі называе Веранічку так, як ласкава звярталіся ў сям'і. Ён называе дзяўчынку і «гагай». Разумее, што такі зварот ёй спадабаецца. Гага ж — любімая птушка Веранічкі. Безумоўна, дзяўчынцы было прыемна, што «Махім» параўноваў яе з гагай.

Прайшло шмат гадоў. Вераніку М. Багдановіч не забыў. Праўда, успрымаў яе ўжо іначай. Не як двухгадовую дзяўчынку. Ва ўяўленні паэта Вераніка ўспрымалася ўвасабленнем жаночай прыгажосці, чысціні. Паўставала сімвалам сапраўднага кахання:

Чым болі сходзіць дзён, начэй,
Тым імя мілае вышэй.

Так і нарадзіўся ў яго верш «***Ізноў пабачыў я сялібы...» Яго М. Багдановіч прапанаваў эпілогам да свайго вершаванага апавядання «Вераніка». Аднак верш гэты больш чым 50 гадоў друкаваўся самастойна. Толькі пры падрыхтоўцы Збору твораў М. Багдановіча ў двух тамах, якія выйшаў у 1968 годзе, аўтарская воля

была прынята пад увагу. У гэтым выданні верш «***Ізноў пабачыў я сялібы…» змешчаны як эпілог да «Веранікі».

Папулярнасць гэтага верша настолькі вялікая, што ён нават гучаў … у Арктыцы. Разам з іншымі творамі М. Багдановіча. Адбылося гэта, здавалася б, неверагоднае, дзякуючы паэту і перакладчыку Аркадзю Бараховічу. Аркадзь Якаўлевіч быў мужам стрыечнай пляменніцы М. Багдановіча Анастасіі Глебаўны. Яе маці Вера Гапановіч з'яўлялася Максімавай стрыечнай сястрой.

Аркадзь Бараховіч быў лектарам на агітцеплаходзе «Камсамолец». Гэтае судна і адправілася ў жніўні 1980 года да арктычных шырот. Аркадзь Якаўлевіч не ўстрымаўся і пачытаў экскурсантам творы М. Багдановіча, сваяком якога, няхай і далёкім, стаў дзякуючы сваёй жонцы.

Так і загучалі яны ўпершыню на 78˚паўночнай шыраты і 150˚усходняй даўгаты. Дый пасля гэтага А. Бараховіч чытаў іх неаднойчы. Балазе магчымасць такая з'явілася. Падарожнікі, як сведчыў Аркадзь Якаўлевіч, «па дарозе назад заселі ў ільдах і замест запланаваных 30 дзён правялі 42 дні». Але не шкадавалі.

Сапраўды ўжо: не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. Турысты маглі не толькі любавацца прыгажосцю Арктыкі. Адкрывалі яны для сябе і вабнасць творчасці М. Багдановіча. Жадаючых з'явілася шмат. Канечне, пры першым выступленні А. Бараховіча прысутнічалі далёка не ўсе.

Тыя, хто слухаў яго першым разам, падзяліліся з іншымі, што ёсць вельмі цікавы беларускі паэт.Таму Аркадзю Якаўлевічу давялося паўтараць свой расказ. У тым ліку і гісторыю, звязаную з «Веранікай».

Так і суседнічаюць сёння поруч гэтыя два імёны: Максім і Вераніка. І ў літаратуры, і ў жыцці. Праўда, сам паэт сцвярджаў, што Вераніка — «выдумка маёй галавы». Маўляў, таго, пра што расказваецца ў творы, у сапраўднасці не было.

Аднак менавіта такое дзявочае імя — Вераніка — і ў вершаваным апавяданні, і ў вершы з'явілася ўсё ж невыпадкова. Не было б Веранікі Залатаровай — не было б і Веранікі літаратурнай. І, зразумела, не нарадзілася б цудоўная песня.

На верш «***Ізноў пабачыў я сялібы…» І. Лучанок звярнуў увагу таксама невыпадкова. Па ягоным прызнанні, «яшчэ ў студэнцкія гады … захапіўся паэзіяй М. Багдановіча. Напісаў два рамансы на яго вершы. Яны, праўда, не захаваліся, але далі пачатак новым вакальным творам». Падштурхнулі і да напісання песні «Вераніка». Але мелодыя, якая цяпер гучыць, з'явілася не адразу. І. Лучанок стварыў некалькі варыянтаў музыкі. Пакуль не спыніўся на тым, што і стаў любімай у народзе песняй. І не толькі ў Беларусі, а і далёка за яе межамі.

Ігар Міхайлавіч прыгадвае: «Успамінаю паездку разам з «Песнярамі» ў Злучаныя Штаты Амерыкі. «Вераніка» гучала ў канцэртах і заўсёды яе вельмі ўважліва слухалі. Там жа, за акіянам, «Песняры» запісалі яе на пласцінку ў сумесным выкананні з амерыканскім ансамблем «Нью Крысці Міністрэлс». Наогул, бываючы за мяжой, я часта пераконваўся ў тым, што з паэзіяй Максіма Багдановіча, вялікага сына зямлі беларускай, знаёмы многія».

Такі шчаслівы лёс верша М. Багдановіча «***Ізноў пабачыў я сялібы…»

## Глыток віленскага паветра

Вершы, як вядома, пішуцца па-рознаму. Калі гэта творы лірычнага плана, то для паэта дастаткова нейкага ўнутранага імпульсу. Пасля яго надыходзіць быццам духоўнае азарэнне. Пасля гэтага і нараджаюцца шчырыя, пранікнёныя радкі. Іншая рэч, калі верш сюжэтны. Значыць, у ім расказваецца пра нешта такое, што як бы патрапляе пад дзеянне. Для таго, каб з'явілася жаданне яго напісаць, паэту неабходна сутыкнуцца з нейкім выпадкам, з'вай. Ці напаткаць пэўнага чалавека. А то і пачуць такую гісторыю, якая б усхвалявала яго.

Так, прынамсі, сталася з М. Багдановічам, калі ён пазнаёміўся з прыватнай калекцыяй Івана Луцкевіча. І. Луцкевіч — адзін з дзеячаў беларускага нацыя-

нальнага адраджэння, археолаг, этнограф. Удзельнічаў у стварэнні газеты «Наша ніва». Яго брат Антон Луцкевіч працаваў у «Нашай ніве». Гісторык, публіцыст, літаратурны крытык, ён таксама з'яўляўся беларускім палітычным і грамадскім дзеячам.

Максіму даўно хацелася пабываць у Вільні, куды ён прыехаў у чэрвені 1911 года. Канечне ж, адразу паспяшаўся ў рэдакцыю «Нашай нівы». Прыватная калекцыя І. Луцкевіча на той час знаходзілася пры рэдакцыі. Пазней на аснове гэтай калекцыі быў створаны Беларускі музей. Поўная назва яго такая: Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя І. І. Луцкевіча. Ён працаваў у 1921—1945 гадах. Пасля расфарміравання яго большасць матэрыялаў была перададзена ў Гісторыка-этнаграфічны музей Літвы і Цэнтральную бібліятэку Акадэміі навук Літвы. Невялічкая частка экспанатаў трапіла ў Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь і Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

Ужо ў 1911 годзе было сабрана шмат унікальных экспанатаў. Сярод іх — славутыя слуцкія паясы, пра якія М. Багдановіч чуў нямала. Таму і захацеў, каб яго пазнаёмілі з гэтымі паясамі. Дый з іншымі матэрыяламі. Свайго роду экскурсаводам стаў В. Ластоўскі.

Вацлаў Юсцінавіч успамінаў: «М. Багдановіч прыехаў у Вільню ўжо як актыўны і свядомы працаўнік беларускага (крыўскага) адраджэння, глыбей сягаючы думкай у будучыню нашага народу, чым мы, працаўнікі, згрупаваныя ў цэнтры. Гэтыя яго думкі былі галоўнай нашай тэмай нашых начных бясед».

Начных, бо М. Багдановіч разам з В. Ластоўскім начавалі ў рэдакцыі. Максім, хоць і сам шмат ужо ведаў з гісторыі беларускай мінуўшчыны, нямала даведаўся пра яе і ад В. Ластоўскага. Ягоны аповед вельмі ўсхваляваў Максіма. Днём жа некаторыя экспанаты, пра якія расказваў В. Ластоўскі, Максім змог пабачыць.

Асабліва ўразілі яго славутыя паясы. Паясы, якія ён убачыў, выраблялiся ў Слуцку ў 1758—1844 гадах. Мануфактуру шаўковых паясоў у гэтым горадзе заснаваў Міхал Казімір Радзівіл. Ён меў мянушку Рыбанька.

Гэтая мануфактура вядома яшчэ і як Слуцкая персіярня. Такая назва ўзнікла ад таго, што спачатку ў паясах пераймалі персідскія ўзоры. Рабілася гэта для таго, каб слуцкія паясы былі канкурэнтнымі з тымі, што выраблялiся ў Персіі. Персія — колішняя назва Ірана, якая ўжывалася ў Еўропе да 1935 года.

Персідскія паясы былі вельмі распаўсюджаны ў Беларусі і Польшчы. Але хутка слуцкія майстры маглі працаваць не горш, чым замежныя.

У гэтым М. Багдановіч пераканаўся, калі пазнаёміўся з паясамі з калекцыі І. Луцкевіча. Былі ў ёй, аднак, не толькі так званыя шаўкабітныя паясы. А і залатабітныя, срэбнабітныя. Яны Максіма на дзіва ўразілі. Ягонае сэрца ўсхвалявана забілася пасля таго, калі заўважыў у паясах і мясцовыя ўзоры — кветкі, расліны, што раслі на Беларусі.

Былі ў калекцыі І. Луцкевіча і рукапісныя кнігі. Тэкст і афармленне іх выконваліся ад рукі. На Беларусі яны з'явіліся ў XI стагоддзі і бытавалі да XIX. Меліся ў калекцыі і беларускія старадрукі. Так называюцца кнігі, выдадзеныя ў XVI—XVIII стагоддзях. Сабраў гэты шчыры руплівец на нацыянальнай ніве і шматлікія археалагічныя матэрыялы. Знаходзіліся ў калекцыі і творы народных разьбяроў. Была і старажытная зброя. Дый шмат што іншае было, што патрапляе пад вызначэнне старая Беларусь.

Па прыездзе ў Ракуцёўшчыну Максім з прыемнасцю ўспамінаў сваё знаходжанне ў Вільні. Хоць і правёў ён у гэтым горадзе, што з'яўляўся на той час свайго роду сталіцай беларускага адраджэння, нядоўга часу, многае яму запомнілася. Асабліва не адпускалі ад сябе ўражанні, пачэрпнутыя пры знаёмстве з калекцыяй І. Луцкевіча. Паступова ў яго з'явілася задума паэтычнага цыкла «Старая Беларусь». Напісаліся вершы «Летапісец», «Перапісчык», «Кніга», «Слуцкія ткачыхі», «Безнадзейнасць», «***Ціхі вечар, знікнула спакота...», «***Па ляду, у глухім бары». Гэты цыкл быў апублікаваны ў «Нашай ніве» 28 чэрвеня 1912 года.

## Скрозь смугу стагоддзяў

Эпіграфам да цыкла «Старая Беларусь» М. Багдановіч узяў радкі Янкі Купалы:

Усё прайшло, мінула.
Як і не было,
У капцах паснула.
Зеллем зарасло.

Мінулае, канечне, незваротнае. Ды тое, чаго не бывае ў жыцці, магчыма ў літаратуры. У дадзеным выпадку — у паэзіі. М. Багдановіч, будучы выдатным знаўцам нацыянальнай гісторыі, змог зірнуць скрозь смугу стагоддзяў. У напластаваннях іх ён убачыў тое, што не забываецца. Тое, што забываць грэшна. Ва ўсякім разе, калі хочаш адчуваць сябе чалавекам нацыянальна свядомым. У цыкле ж «Старая Беларусь» адчуваецца дыханне той Беларусі, якой яна была некалькі стагоддзяў таму.

Усё так праўдзіва, пераканаўча. Пачынаючы з першага верша цыкла — «Летапісец».

Летапісец — гэта складальнік летапісаў. Летапіс жа — пагадовы запіс гістарычных падзей у старажытныя часы. Летапісцам мог быць толькі чалавек для свайго часу вельмі адукаваны. Ён павінен быў добра ведаць тое, што адбывалася да яго. Гэта не магчыма без дакладнага ведання грамат, іншых дакументаў.

Слова грамата мае некалькі значэнняў. Найперш — гэта ўменне чытаць і пісаць. Граматай называюць і афіцыйны дакумент, якім узнагароджваюць за пэўныя дасягненні. Берасцяная грамата — тое, што ў старажытнасці пісалася на бяросце. Але раней граматамі называлі яшчэ і спецыяльныя лісты, пасланні. У іх утрымліваліся важныя звесткі.

З розных крыніц летапісец і збіраў тыя ці іншыя сведчанні, якія дазвалялі яму стварыць летапіс. Праца гэтая была вельмі карпатлівая. Але і на дзіва адказная. Каб займацца ёю, трэба было па сутнасці адасобіцца ад свету і людзей. Не на год, не на два. А на ўсё жыццё. Тыя, хто станавіўся летапісцам, свядома ішлі на гэта.

Каб лепш перадаць тое, што рабіў і чым жыў летапісец, гэты свой твор М. Багдановіч напісаў у выглядзе споведзі самога летапісца. Гэта дазволіла паэту дасягнуць яшчэ большай праўдзівасці і пераканаўчасці:

Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах,
Свой век канчаю я у манастырскіх мурах
І пільна літары летапіс другі ўжо год пішу:
Старанна літары малыя вываджу
І спісваю усё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.

Споведзь летапісца — гэта да ўсяго і споведзь чалавека сумленнага. Іначай і быць не магло. Той, хто браўся за гэтую справу, мусіў нічога не прапускаць. Пры ўмове, што яно стане важным сведчаннем не толькі для ягоных сучаснікаў. Для наступнікаў — яшчэ ў большай ступені. Таму і кіраваўся летапісец праўдай. І толькі праўдай:

І добрыя яго (маецца на ўвазе Магілёў — **А. М.**),
і кепскія дзяла
Апавядаю тут. Так рупная пчала
Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак,
І бачанаму мной — я годны веры сведак

Летапіс — гэта свайго роду і пасланне ў будучыню:

Хай тыя ведаюць, што з’явяцца па нас,
Ўсю праўду пра жыццё у наш і пройшлы час,
Пра войтаў, лаўнікоў, і райцаў, і паспольства,
Пра розных каралёў і бітвы, і пасольства,
Што тут чыніліся ў даўнія гады,

Што думалі, чаго жадалі мы тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, —
Хай ведаюць усе патомкі праз паперу!

Патлумачу, што азначае слова паспольства. У феадальных гарадах Беларусі так называлі менш заможных купцоў і раменнікаў. Згадка пра іх у вершы «Летапісец» — лішняе пацвярджэнне таму, што ў летапіс траплялі звесткі пра розныя слаі насельніцтва.

У манастырах працавалі і перапісчыкі. Тлумачыць значэнне гэтага слова няма неабходнасці. І так зразумела, што яны перапісвалі ўжо гатовыя тэксты.

«Перапісчык» — назваў М. Багдановіч і свой верш, што ідзе следам за «Летапісцам». Гэтым разам ужо непасрэдна сам паэт выступае ў ролі апавядальніка. Быццам назірае за працай перапісчыка. А той не толькі перапісвае тэкст, а і па-мастацку аздабляе яго.

Такое дакладнае пранікненне ў сутнасць працы перапісчыка, у тое, «што раньш было», па сіле толькі найвыдатнейшаму творцу. Таму для шмат каго першая сустрэча з вершам «Перапісчык» застаецца на ўсё ягонае жыццё:

На чыстым аркушы, прад вузенькім акном,
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Ўстаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі звяроў
І птах нявіданных, спляценнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь — даволі ёсць знароўкі —
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі,
І загалоўкі ўсе, — няма куды спяшыць!

У сваім захапленні гэтым творам прызнаваўся і народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль:

«Багдановіч прыйшоў да мяне перш за ўсё сваім «Перапісчыкам». І цяпер, перачытваючы гэты верш, амаль расчулена ўспамінаю тое хлапечае хваляванне, выкліканае, як сёння бачыцца, гранічна простым, але высока і — галоўнае — свежа-паэтычным словам.

Такія звычайныя рэчы — сонца, што свеціць у вузенькае акенца келлі, яснае неба, белыя аблокі, ластаўкі, што лунаюць кругамі… Адзін стомлены позірк туды, праз акенца, ад чыстага аркуша са шматфарбнымі застаўкамі і канцоўкамі, выведзенымі гусіным пяром натхнёнага рабацягі-манаха, адзін позірк — і я, не толькі колішні вясковы хлапчук, але ўжо і сталы, вопытны мужчына сённяшняга дня, я так многа бачу, мяне так непаўторна хвалюе музыка роднага слова, разумнае, яркае спалучэнне сівой мінуўшчыны з простым, звычайным, даўно-даўно вядомым, любімым, да шчымлівага болю прыгожым:

…а тут, каля акна,
Малінаўка пяе і стукае жаўна…»

«Музыкай роднага слова» прасякнуты і верш М. Багдановіча «Кніга». Гэтую даўнюю рукапісную кнігу Максім, верагодней за ўсё, патрымаў у руках, знаёмячыся з тымі выданнямі, што сабралі руплівцы на ніве беларускай даўнасці. У Вільні ўбачыў яе. У рэдакцыі газеты «Наша ніва». Захацелася бліжэй пазнаёміцца з гэтай кнігай:

Псалтыр, пакрытую няжорсткай бурай кожай,
Я ўзяў і срэбныя засцёжкі адамкнуў,
Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай,
І воску з ладанам прыемны пах адчуў.

Разглядаючы выданне, Максім заўважыў «няхітрую прыпіску»:

«…кнігу гэтую раб божы, дзяк Гапон,
Дзеля душы спісаў у месце Ваўкавыску
У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён».

Каб даведацца, калі гэтая кніга была напісана дзякам Гапонам, без матэматычнага падліку не абысціся.

«…Рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён» — гэта калі прытрымлівацца старарускага летазлічэння. Адлік гадоў тады вялі не ад Раства Хрыстова, як цяпер. За пачатак бралі не менш важную дату — стварэнне свету. Адбылося стварэнне свету за 5508 год да Раства Хрыстова. А цяпер ад 7108 аднімем 5508. Атрымліваецца, што згаданы Псалтыр (ён усё ж мужчынскага роду) быў перапісаны ў 1600 годзе.

Максім Багдановіч не хаваў свайго захаплення тым, што змог убачыць такую рэдкую кнігу:

Як вее свежасцю яе краса жывая!
Як радасна далей спяшыць душа мая!

Гэтай «красой жывой» напоўнены і ўвесь цыкл вершаў «Старая Беларусь». Ён «краса жывая» нашай мінуўшчыны. Жывая, бо М. Багдановіч далучыў гэтую даўніну да нас.

## «…Цвяток радзімы васілька»

Адзін з галоўных твораў у цыкле «Старая Беларусь» — верш «Слуцкія ткачыхі». Адначасова ён адзін з самых галоўных і ва ўсёй творчасці М. Багдановіча. У ім Я. Брыль таксама ўбачыў «цудоўнае спалучэнне мінуўшчыны з вечна жывым…»

Праўда, той, хто добра ведае гісторыю, можа заўважыць у гэтым вершы недакладнасць. Як на першы погляд, істотную. У творы гаворка ідзе аб прыгонных дзяўчатах-ткачыхах.

У сапраўднасці на пярсіярні паясы ткалі мужчыны. Бо гэта была вельмі цяжкая праца. Дый прыгоннымі яны ніколі не з’яўляліся. Іх бралі па найме. За сваю працу яны атрымлівалі грошы.

Сёй-то, каб «апраўдаць» М. Багдановіча, гатоў сцвярджаць, што пра гэта ён нічога не ведаў. Але ў падобным заступніцтве няма неабходнасці. Канечне ж, Максім ведаў, хто працаваў на шаўковай мануфактуры. Не мог не ведаць, бо, ён цудоўна знаў беларускую гісторыю.

На тое, каб мужчын замяніць дзяўчатамі, паэт пайшоў свядома. Зрабіў гэта дзеля ўзмацнення эмацыянальнага ўздзеяння твора. Для таго, каб яшчэ больш падкрэсліць, што сапраўднае мастацтва — гэта заўсёды хараство. Хараство ж немагчыма без чысціні. Нерушавасці. Увасабленнем такой чысціні і нерушавасці і з’яўляюцца ў вершы простыя беларускія дзяўчаты:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,

Халодным срэбрамззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора…
І тчэ, забыўшыся рука,
Заміж персідскага узора
Цвяток радзімы васілька.

У такой рэдакцыі, іначай кажучы, варыянце, верш «Слуцкія ткачыхі» быў не толькі надрукаваны ў «Нашай ніве», а і ўвайшоў у Максімаву кнігу «Вянок». Але паэт працягваў працаваць над гэтым творам. На дзіва патрабавальны да слова, ён не мог не адчуваць, што ў вершы ёсць радкі, якія лепей замяніць іншымі, больш дакладнымі: «зіяе неба з-за акна», «блішча збожжа ў ясна далі», «між гор ліючайся ракі»…

У выніку верш «Слуцкія ткачыхі» з’явіўся ў дапрацаваным выглядзе:

Ім не пабачыць роднай хаты,
Не ўчуць ім дзетак галасы.
Яны ў панскі двор узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Аб шчасці ўжо забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной шляхі ў поле,
Шуміць чарэмха ля акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна.
Там так вясёла і прыгожа:
Зіяюць срэбрам ручайкі,
І у зялёных хвалях збожжа
Закрасавалі васількі.
Там шчыры бор шуміць сурова…
Ты тчэш, бязвольная рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Абедзве рэдакцыі «Слуцкіх ткачых» маюць права на жыццё. Бо гэта класіка нашай літаратуры. А класіка — гэта тое, што складае гонар любой літаратуры.

Нізка вершаў «Места» таксама атрымалася адметнай. Дзякуючы М. Багдановічу ў беларускай паэзіі ўпершыню па-сапраўднаму загучалі гарадскія матывы. Да яго паэты апявалі толькі вёску. Бо яны былі ўраджэнцамі яе. Але вясковая тэма пераважала яшчэ і таму, што ў Беларусі ў асноўным жыло сельскае насельніцтва. Яно размаўляла па-беларуску. Да яго паэты і звярталіся, шукаючы свайго чытача.

Максім Багдановіч быў дзіцем горада. Таму не мог пра яго не пісаць. Ходзячы вуліцамі і вулкамі Вільні, ён бачыў сляды беларускай мінуўшчыны. Мінуўшчына гучала і ў ягоным сэрцы. Ён ведаў, якое важнае значэнне ў ёй належыць Вільні. Таму і адбылося тое, пра што паэт засведчыў ва «Уступе» да гэтага цыкла:

Звярнуў калісь Пегас на вулкі
З прывольных, палявых дарог, —
І пракаціўся топат гулкі
І іскры сыпнулі з-пад ног.

У грудзі кволыя запала,
Дачка каменняў, места мне.
Пачую я той іскры жала
І верш аб месце з сэрца мкне.

Прыгадаўшы «даўнейшыя дні», ён праўдзіва паказаў і Вільню, сённяшнюю яму. Але не ўсё прыняў у ёй. Горад для яго — гэта:

І места, дзе няма прастора
Дзеля прыроды буйных сіл,
Прабіла сцежку мору гора
Палёў, лясоў, капцоў, магіл.

Усё гэта ягоная душа працівілася ўспрымаць:

Ўвесь бледны, млосны прыхіліўся
Я ля ліхтарні да варот.

Пісаў у час спякотнага лета. У Ракуцёўшчыне пісаў. Аднак у думках быў не толькі з гэтай вёскай, што прапісалася ў ягонай біяграфіі. Але і далёка ад яе. Як у часавым вымярэнні, аб чым засведчыла нізка «Старая Беларусь». Так і ў прасторавым — нізка «Места».

## Права, якога ніхто не забярэ

Перад тым, як паехаць у Вільню, у жыцці Максіма адбылася важная падзея. 1 чэрвеня 1911 года ён скончыў Яраслаўскую гімназію. Трэба было вызначыцца адносна далейшага жыццёвага шляху. Максім з бацькам у гэтым сэнсе з’яўляліся аднадумцамі: трэба працягваць вучобу. Але Адам Ягоравіч схіляўся да думкі, што сыну неабходна атрымаць юрыдычную адукацыю. Балазе, пераконваў ён, і ехаць у які-небудзь горад няма сэнсу. У Яраслаўлі працаваў Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй.

Аднак Максім пра гэта і слухаць не хацеў. Па словах бацькі, ён заявіў «пракурорам быць не хачу, адвакатам не хачу, суддзёй не хачу; хачу быць літаратарам ці вучоным». Паспяшаўся вызначыцца і з вышэйшай навучальнай установай, куды збіраўся паступаць — Пецярбургскі ўніверсітэт.

Выбраў для сябе філалагічны факультэт не без дапамогі вядомага вучонага, рускага мовазнаўцы Аляксея Шахматава. Ён цікавіўся і беларускай мовай. Запісваў беларускі фальклор.

З Аляксеем Аляксандравічам Максім, праўда, не быў знаёмы. Але А. Шахматаў, які працаваў менавіта ў Пецярбургскім універсітэце, звярнуўся ў рэдакцыю газеты «Наша ніва» з просьбай падшукаць юнака, які б пад ягоным кіраўніцтвам прысвяціў сябе вывучэнню мовы, этнаграфіі і гісторыі Беларусі. З такім прыцэлам, каб потым ён узначаліў кафедру па беларусазнаўстве.

Максім Багдановіч для гэтага якраз і падыходзіў. Таму нашаніўцы, не вагаючыся, і назвалі ягоную кандыдатуру. Аб чым і паведамілі Максіму. Ён, безумоўна, не задумваючыся, згадзіўся. Гэта было тое, што яму імпанавала. Спачатку сам атрымае дыхтоўную адукацыю. А потым і іншых зможа вучыць. Жадаючыя ж займацца беларусікай абавязкова знойдуцца. Ёсць у народзе нацыянальна свядомая моладзь.

Адам Ягоравіч, аднак, працягваў настойваць на сваім. У пацвярджэнне сваёй праваты ён вылучыў два аргументы. Абодва з іх, калі разабрацца, істотныя.

Па-першае, пецярбургскі клімат адмоўна паўплываў бы на Максімава здароўе. Вільготнае паветра, пастаянная сырасць вельмі небяспечныя для таго, у каго хворыя лёгкія. Дый умовы для пражывання жадалі б лепшага. Яму давялося б здымаць нейкую кватэру. Зразумела, як мага больш танную. Затхласць жа памяшкання таксама не лепшым чынам сказалася б на ягоным самаадчуванні. А да ўсяго дрэннае харчаванне ў студэнцкай ці гарадскіх сталоўках. Дый хутчэй зусім перакус на хуткую руку якім-небудзь піражком ці булачкай...

Усё гэта Максім і сам разумеў. Ды ён цяпер, як і заўсёды, гатовы быў забыць пра сваё здароўе, абы можна было займацца любімай справай.

Другі бацькаў аргумент супраць вучобы ў сталіцы таксама сведчыў не на ягоную карысць. Стыпендыю ва ўніверсітэце яму не абяцалі. Максімаў жа брат Лёва, які меў вялікія матэматычныя схільнасці, праз год збіраўся паступаць у Маскоўскі ўніверсітэт.

— Двух утрымліваць я не змагу, — роспачна ўздыхнуў Адам Ягоравіч. — Так што вучыся ўсё-такі на юрыста.

Максіму засталося пагадзіцца. Назаўтра ён паспяшаўся ў Дзямідаўскі ліцэй з заявай аб паступленні.

Без асаблівай радасці ішоў туды.

Самотлівы вяртаўся і назад.

Ні за што не хацелася брацца. Нават кнігу якую-небудзь пачытаць не было ахвоты. З нецярпеннем чакаў толькі чарговы нумар «Нашай нівы».

Ён, як і звычайна, прыйшоў са спазненнем. Ад Вільні ж да Яраслаўля не так і блізка. Разгарнуўшы яго, Максім убачыў апублікаваным яшчэ адзін верш.

Здзівіла супадзенне. Не адно нават, а два.

Нумар датаваўся 2 чэрвенем 1911 года. Акурат тым днём, калі Максім занёс свае дакументы ў Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй.

Да ўсяго ж змешчаны верш надта адпавядаў цяперашняму, далёка не радаснаму Максімаву настрою:

Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае:
«Сцежка ў полі пралягае, траўкай зарастае.
Каля сцежкі пахіліўся явар да каліны, —
Там кахаліся калісь-то хлопец і дзяўчына.
Ой, ішла дарога долам, ды ішла і горкай, —
Не схавалася дзяўчына ад тэй долі горкай:
Бо ляжыць яе дарожка, траўкай зарастае;
Сумна глянуць, цяжка бачыць, жаль душу праймае».

З цыкла «Згукі Бацькаўшчыны» гэты верш. Бацькаўшчыне Максім і збіраўся служыць, атрымаўшы вышэйшую адукацыю. Узначаліўшы ў Пецярбургскім універсітэце кафедру беларусістыкі. Не атрымалася...

Толькі не ўсё страчана... Кволая ўсмешка кранулася Максімавага твару. Бацькаўшчыне ён усё адно будзе служыць. Сваёй паэзіяй служыць. І ўвогуле літаратурнай дзейнасцю. Такога права ў яго ніхто не забярэ.

## На крылах «Лебедзя»

Кожны паэт марыць аб сваёй першай кнізе. Вядома, Максім не быў выключэннем. Аднак, як і ў кожнага, шлях у яго да першай кнігі быў няпростым. Спачатку ягоныя вершы ў «Нашай ніве» друкавалі не вельмі ахвотна. Некаторыя супрацоўнікі гэтай газеты меркавалі, што не такая літаратура неабходна селяніну-мужыку. А ён, як вядома, з'яўляўся асноўным чытачом «Нашай нівы».

Паэзія М. Багдановіча была высокага інтэлектуальнага ўзроўню. У газеце ж шмат змяшчалася твораў простых, пазбаўленых належнага майстэрства. Сёй-той з супрацоўнікаў і сам так пісаў, падробліваючыся «пад народ». Таму шмат якія творы М. Багдановіча і траплялі ў архіў.

Але Максім настойліва ішоў да ажыццяўлення свайго жадання мець уласную кнігу. Гэтая думка ў яго акрэслілася пасля таго, як сабралася нямала публікацый. Да ўсяго ў Максіма былі і неапублікаваныя творы.

Усе — апублікаваныя і неапублікаваныя — сабраў разам. Вызначыўся і з назвай будучай кнігай. Асабліва не мудрагеліў. Назваў яе «Кніжка выбраных вершаў».

У канцы 1911 года, а, магчыма, у пачатку 1912-га рукапіс паслаў у рэдакцыю «Нашай нівы». З нецярпеннем чакаў адказу. Але нічога пэўнага пачуць ад супрацоўнікаў не мог. Яны і самі былі ўжо не супраць таго, каб дапамагчы яму. Ды сутыкнуліся з праблемай, з якой і сёння нярэдка сутыкаюцца выдаўцы. Каб надрукаваць кнігу М. Багдановіча, у рэдакцыі не было грошай.

Гэта, вядома, Максіма мала радавала. Але ён не страчваў надзеі. Больш за тое, не сядзеў склаўшы рукі. 29 ліпеня 1912 года паслаў у рэдакцыю свае перакла-

ды твораў французскага паэта Поля Верлена. Прасіў змясціць іх у будучай кнізе ў раздзеле «З чужой глебы».

Гэта пры тым, што часам адчуваў сябе вельмі блага. Ды мара мець уласную кнігу, жаданне працаваць на карысць беларускай літаратуры надавалі яму сіл. Нават тады, калі станавілася невыносна цяжка, ён не падаў духам.

Прынамсі, 22 красавіка 1913 года пісаў у «Нашу ніву»: «Не дзівіцеся, што ў мяне літары выходзяць зусім дзіцячыя — пішу я лёжучы. Бо моцна хварэю… Тэмпература ў мяне падымаецца да $40^0$, а 39, $5^0$ бывае кожны дзень». У той жа час запэўнівае: «… калі я ачуняю, ды я папрабую заняць пад кніжку ў розных сваіх знаёмых грошы».

Знаходзіць і такое выйсце: «Значыцца, прадасца колькі сот экз. яе, вы мне надашлёце тыя грошы. Другое, вы мне не шліце аўтарскіх экземпл., я іх куплю і куплю шмат».

Рэдакцыя «Нашай нівы» ўсё ж знайшла неабходныя грошы. У пачатку 1914 года кніга М. Багдановіча пабачыла свет у прыватнай беларускай друкарні ў Вільні, заснаванай друкаром і выдаўцом Марцінам Кухтам. Гэта ў ёй быў надрукаваны і першы нумар «Нашай нівы». Выйшлі таксама кнігі Францішка Багушэвіча, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло, Цёткі. У тым ліку верш «Скрыпка беларуская».

Праўда, на тытульным лісце Максімавай кнігі стаіць 1913 год.

Называлася кніга М. Багдановіча «Вянок». Але ж сам Максім, як вядома, прапаноўваў іншую назву: «Кніжка выбраных вершаў». «Вянком» яна стала дзякуючы В. Ластоўскаму.

Вацлаў Ластоўскі паклапаціўся і аб тым, каб зборнік меў адпаведнае афармленне. Малюнак на вокладцы сапраўды крыху напамінае вянок. Гэты малюнак В. Ластоўскі знайшоў у сваім архіве. Ён жа і патлумачыў, чаму кніжка мае менавіта гэтую, а не іншую назву: «…я на першым пасля загалоўка, лісце памясціў раз’ясненне: «Вянок на магілу С. А. Палуяна ( + 18 красавіка 1910 г.). Зрабіў я гэта без ведама аўтара, але асноўваючыся на яго сардэчным адношанні да нябожчыка Палуяна».

Унізе тытульнага ліста, з вянка, які ўпрыгожвае вокладку, быццам «вырастае» выява лебедзя. Гэтая птушка з’явілася ў афармленні невыпадкова.

«Лебядзь» — герб шляхецкага роду Вялікага Княства Літоўскага Завішы. Дзякуючы дачцэ Яна (Івана) Казіміра Завішы — Магдалене Радзівіл «Вянок» і пабачыў свет.

Радзівіл — яе прозвішча па мужу. Пасля смерці свайго бацькі Магдалена Іванаўна з’яўлялася спадчынніцай ягоных маёнткаў на Беларусі і ў Польшчы. Яна была выхавана ў духу беларускай культуры. Таму і стала вядомым дзеячам беларускага нацыянальнага культурнага руху. Фінансавала дзейнасць некаторых выдавецтваў. Спрыяла выхаду асобных кніг. У знак удзячнасці ёй і было вырашана змясціць родавы герб «Лебедзь» на вокладцы «Вянка».

## «Краскі … думак шчырых і чуцця»

Убачыўшы сваю кнігу, М. Багдановіч быў вельмі задаволены. Тое, што зрабіў В. Ластоўскі, па сутнасці адпавядала ягонай задуме. Сапраўды атрымаўся свайго роду вянок на магілу С. Палуяна, які ў самым росквіце сваіх жыццёвых і творчых сіл пайшоў з жыцця.

Але перш-наперш «Вянок» — гэта кніга лёсу самога Максіма. Ёй наканавана было стаць ягоным адзіным прыжыццёвым выданнем твораў. І адначасова стаць класікай беларускай паэзіі. Дый нашай нацыянальнай літаратуры ў цэлым.

Сёння, як і амаль сто гадоў таму, паэт быццам жывы звяртаецца да нас. Чытаеш першы верш «Вянка, і адчуванне такое, што гэта прамаўляе сучаснік з сучаснікамі. Настолькі Максімавы думкі пачатку XIX стагоддзя сугучныя нашым думкам. Думкам чытачоў XXI стагоддзя:

Вы, хто любіце натрапіць
Між страніц старых, пажоўклых
Кнігі, ўжо даўно забытай,
Блёклы, высахшы лісток, —
Праглядзіце гэты томік:
Засушыў я на паперы
Краскі, свежыя калісьці,
Думак шчырых і чуцця.

Сапраўды, гэта «краскі … думак шчырых і чуцця». Хоць, кажучы паэтавымі словамі, яны і засушаныя на паперы, але не страцілі свайго водару. Не страцілі колішняй вабнасці.

Каторы верш «Вянка» ні возьмеш — гэта тое, што не губляе з гадамі сваёй першароднай свежасці. Нават не з гадамі, а з дзесяцігоддзямі. А хутка ўжо з часу выхаду «Вянка» і 100-годдзе мінецца.

Пад вокладкай кнігі напаткаеш многія творы М. Багдановіча, якія даўно сталі хрэстаматыйнымі. Гэта і «Раманс» («Зорка Венера»), і «Слуцкія ткачыхі», і «***Цёплы вечар, ціхі вецер…», і «***Добрай ночы, зара-зараніца…», і «Зімой».

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер.
І волен лёгкіх санак бег.

Праўда, адчуванне такое, што і на самай справе апынуўся пад вечар дзе-небудзь на вясковай дарозе? Ступіш на снег, а ён пульхны, бо яшчэ нядаўна выпаў. Ногі правальваюцца. Пры гэтым снег паскрыпвае. Быццам балюча яму. А можа, сярдуе з-за таго, што, ступіўшы ў яго, пасягнуў на ягоную чысціню.

Толькі не да гэтага, каб зважаць на такую скаргу. Харашынь-то наўкола такая, ажно дух захоплівае. Нібыта ў чароўную казку трапіў.

Дзе яшчэ такое напаткаеш, як не тут, за аселіцай:

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Між тым надвячорак пакрысе пераходзіць у вечар. Толькі не цямнее… Адно цені па наваколлі распаўзаюцца. І таму, што цемры не ўдаецца «праглынуць» усю бель снегу. Як ні стараецца цемра, нічога ў яе не атрымліваецца. Дый перашкаджае такому намеру месяц:

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых накрыў.

У некаторых сваіх творах М. Багдановіч ішоў ад фальклору. У прыватнасці, у вершы «Змяіны цар». У аснову гэтага твора пакладзена паданне, запісанае Максімавым бацькам ад яго бабулі Рузалі. Але дзякуючы М. Багдановічу яно набыло новае гучанне. Стала самастойным літаратурным творам. У ім паяднана зямное і касмічнае, рэальнае і фантастычнае. Пры ўсім адчуваецца загадкавасць:

Ў цёмным небе — хараводы
Сiняватых зорак,
Ў цёмным небе свеціць месяц
Залатым сярпом...
Мы ўжо выйшлі з цесных, душных
Падзямельных норак,
На зімовы цёплы вырай
Цягнемся-паўзём.

Адзін Змяіны цар ці іх усё ж некалькі? Аднак менавіта гэтая загадкавасць і надае твору яшчэ большую непаўторнасць.

Апроч згаданых вершаў, у нізцы «У зачараваным царстве» мне вельмі падабаецца яшчэ адзін. Ён безыменны. Ды любая назва тут будзе лішняй. Бо, якой бы яна дакладнай ні была, не можа перадаць усю насычанасць паэтычнага малюнка. Дый усю гаму тых пачуццяў, што нараджае гэты твор.

Ён адразу настолькі бярэ ў свой палон, што адчуваеш усю знітаванасць, еднасць з прыродай. Непрыкметна становішся часцінкай яе. Яна ўваходзіць у цябе. І ты таксама ўваходзіш у яе. З'яўляецца адно цэлае, непарыўнае:

Ціха па мяккай траве
Сінявокая ноч прахадзіла;
    Ціха з заснуўшых палян

Плыў у гару і знікаў,
Быццам дым сіняваты з кадзіла,
    Рэдкі прывідны туман;

Неба ўсю глыбь ажывіўшы,
Патроху праз цемнь выглядалі
    Зорак дрыжачых вянкі…

Паэт на дзіва ўдала падкрэслівае гэтае адзінства, непаўторнасць прыроды і чалавека. Дарэчы, яшчэ ў адным сваім вершы «***Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы снег…» таксама прысутнічае такое паяднанне:

…Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расце трава.

Максім Багдановіч не проста сузіральнік прыроды, як можа падацца на першы погляд у вершы «***Ціха па мяккай траве…» Ён сам увесь у прыродзе. Ён сапраўды зліўся з ёй душой. Нават быццам раствараецца ў ёй. Таму і адсутнічае звычайны падзел твора на сказы. Яны, канечне, ёсць. Але іх адначасова нібыта і няма. Прысутнічае плынь думак, пачуццяў. Таму папярэдні сказ не заканчваецца. Ён па сутнасці «прыпыняецца». Каб даць месца наступнаму. Падзел паміж імі не кропка, як звычайна. Між імі стаіць кропка з коскай. Гэтым і дасягаецца непарыўнасць. Цэласнасць дасягаецца:

…Конікі суха звінелі;
Шырэй разліваліся хвалі
    Цёмнай, люстранай ракі;

Пала раса; у палёх
Загарэліся пацеркі мілых
    Жоўта-чырвоных агнёў…

Нарэшце, як бы падагульненне. Яно нечаканае:

Час, калі трэба журыцца
Душою на свежых магілах
    Пуста пранёсшыхся днёў.

Аднак дастаткова перачытаць верш «***Ціха па мяккай траве…», як стане відавочным, што якраз нічога нечаканага ў такім падагульненні і няма. Наадварот, завяршэнне твора лагічнае. М. Багдановіч ненавязліва правёў думку пра тое, наколькі цесна ўзаемазвязана ўсё на зямлі.

Радасць і смутак. Жыццё і смерць. Ад гэтага нікуды не дзенешся. Таму чалавек, калі ён хоча жыць годна, ніколі, ні ў якім разе не павінен забываць аб тых, хто адышоў. Бо яны таксама наша часцінка. Як мы часцінкі іх. І ў гэтым само жыццё. Жыццё ж, як вядома, няспыннае ў сваёй хадзе.

***Працяг будзе.***

Аляксандр КАВАЛЕНЯ,
Васіль ЛЯЎКОВІЧ

# ПУЛЬС ЧАСУ

## (да 75-годдзя з дня заснавання Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі)

Самастойнае дзяржаўнае будаўніцтва аб'ектыўна вымагае яднанне грамадства вакол элітарнай, найбольш актыўнай адукавана-інтэлектуальнай яго часткі. Вырашэнне гэтай складанай задачы адбываецца шляхам заснавання спецыяльных навукова-даследчых устаноў, якія забяспечваюць навуковае абгрунтаванне сістэм і мадэлей сацыяльна-эканамічнага развіцця дзяржаў, раскрываюць ідэалагічныя асновы паходжання тытульных нацый шляхам даследавання гісторыка-культурнай спадчыны як фундаментальнай духоўнай асновы іх жыццядзейнасці.

У многіх краінах Еўропы такімі ўстановамі станавіліся нацыянальныя акадэміі навук, першыя крокі дзейнасці якіх былі накіраваны на асэнсаванне сутнасці грамадскай арганізацыі дзяржаўнага будаўніцтва, назапашванне гуманітарных ведаў і забеспячэнне грамадства багаццем духоўных ведаў, у тым ліку літаратурнымі крыніцамі, падручнікамі, слоўнікамі і даведнікамі. Не стала выключэннем і Беларусь.

Найбольш актыўна гуманітарныя навукі пачалі развівацца пасля заснавання ў 1922 годзе Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта). У 1924 годзе ў ім былі створаны секцыі: гісторыка-археалагічная, беларускай мовы і літаратуры (з камісіяй па рэформе правапісу), беларускага мастацтва (з падсекцыямі: музейнай, тэатральнай і выяўленчага мастацтва), вывучэння рэвалюцыйнага руху (з камісіяй па стварэнні біяграфічнага слоўніка рэвалюцыянераў), этнаграфічная, прававая (з тэрміналагічнай камісіяй).

Далейшае развіццё нацыянальнай гісторыі і культуры актыўна разгарнулася пасля рэарганізацыі ў 1929 годзе Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук. Тым самым з'явілася навуковая ўстанова акадэмічнага тыпу, дзейнасць якой была скіравана на вывучэнне гістарычнага шляху развіцця беларускага народа, яго традыцый, культуры і мовы. Нездарма на пачатку яго дзейнасці пераважную большасць членаў акадэміі складалі вучоныя-гуманітарыі. Нават першымі яе прэзідэнтамі былі акадэмікі-гуманітарыі — У. М. Ігнатоўскі, П. В. Горын (Каляда), буйны дзяржаўны дзеяч І. З. Сурта. Перавага аддавалася гуманітарным даследаванням, у першыя два гады захоўвалася структура Інстытута беларускай культуры. У складзе акадэміі былі Інстытуты гісторыі і мовазнаўства, а таксама секцыі, кафедры, камісіі і іншыя навуковыя падраздзяленні.

Разумеючы сацыяльную і грамадскую іх значнасць, Прэзідыум Акадэміі навук БССР 31 мая 1936 года прыняў рашэнне аб стварэнні Аддзялення грамадскіх навук, у якое ўвайшлі Інстытут філасофіі і права, Інстытут эканомікі, Інстытут гісторыі, Інстытут літаратуры і мовы, Педкабінет і Фальклорная камісія.

У склад Аддзялення было ўключана 35 вядомых вучоных і грамадскіх дзеячаў, у тым ліку акадэмікі: Максім Горкі, П. В. Горын, Т. Ф. Домбаль, Д. Ф. Жылуновіч, І. І. Замоцін, В. П. Затонскі, І. Д. Луцэвіч, В. П. Лубяка, С. Ю. Матулайціс,

М. М. Нікольскі, І. Я. Пятровіч, П. Я. Панкевіч, і прадстаўнікі іншых устаноў. Арганізацыя і каардынацыя даследаванняў ускладвалася на Савет Аддзялення ў складзе: С. Я. Вальфсона, К. М. Міцкевіча, В. К. Шчарбакова, П. Я. Панкевіча, Я. Г. Ракава, А. А. Красноўскага. Акадэмікам-сакратаром Аддзялення быў прызначаны дырэктар Інстытута філасофіі, акадэмік С. Я. Вальфсон[1].

У гэты няпросты час кіраўніцтва вырашала шэраг складаных задач, накіраваных на стымуляванне і ўдасканаленне развіцця грамадазнаўчай навукі. Даводзілася працягваць работу па пошуку і ўдакладненні арганізацыйнай структуры навуковых устаноў Аддзялення, каардынаваць выкананне актуальных даследчыцкіх праектаў. Адным з першых і найбольш значным агульным мерапрыемствам гэтага часу стала першая сесія Аддзялення, скліканая ў чэрвені 1936 года. На ёй былі абмеркаваны праблемы сям'і ў філасофскай навуцы, літаратуры і фальклоры.

Вядома, сам час і развіццё сацыяльна-палітычных працэсаў у 30-я гады XX стагоддзя ў СССР аказвалі вызначальны ўплыў на асноўныя напрамкі дзейнасці навуковых устаноў. Напрыклад, вучоныя Інстытута філасофіі і права займаліся «Распрацоўкай тэарэтычных пытанняў на падставе Сталінскай Канстытуцыі» і «Ідэалогій польскага фашызму». Навукоўцы Інстытута эканомікі стваралі Вялікі атлас БССР і аналізавалі гісторыю развіцця беларускай прамысловасці за 20-гадовы перыяд савецкай улады, даследавалі шляхі развіцця ўнутранага гандлю і працоўныя рэсурсы калгасаў БССР. Калектыў Інстытута гісторыі вырашаў цэлы комплекс важных заданняў. Ствараўся падручнік па гісторыі Беларусі для сярэдніх школ, шмат увагі ўдзялялася вывучэнню становішча беларусаў у Заходняй Беларусі, даследавалася каланіяльная палітыка царызму ў Беларусі, сутнасць ідэалогіі літоўскага фашызму, гісторыя Беларусі ў час вайны 1812 года. Былі разгорнуты археалагічныя даследаванні ў басейне Дняпра і іншых месцах. Актыўную работу праводзілі вучоныя Інстытута літаратуры і мовы. Ствараліся нарысы па гісторыі беларускай літаратуры, беларуска-рускі, руска-беларускі і яўрэйска-рускі слоўнікі. Рыхтаваліся акадэмічныя выданні твораў народных песняроў Беларусі Якуба Коласа і Янкі Купалы, разгортвалася работа па перакладзе на беларускую мову твораў А. С. Пушкіна.

20—30 гады XX стагоддзя сталі часам вялікай работы па нацыянальным адраджэнні. Выдаваліся навуковыя працы па актуальных праблемах гісторыі, грамадскай думкі, эканомікі, літаратуры і мастацтва. На роднай мове рыхтаваліся падручнікі, складаліся граматыкі, слоўнікі, стваралася навуковая тэрміналогія. Але праца гэтая засталася не завершанай у сувязі з разгорнутай хваляй рэпрэсій, накіраванай у першую чаргу супраць беларускай інтэлігенцыі. Сярод 826 актыўных дзеячаў нацыянальнага руху ў 1917—1924 гадах былі рэпрэсіраваны ўсе, хто застаўся на тэрыторыі СССР[2]. У Акадэміі навук аб'явілі ворагам народа звыш 140 чалавек, у тым ліку 26 акадэмікаў і 6 членаў-карэспандэнтаў. Больш за палову членаў страціў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Былі фізічна знішчаны акадэмікі-грамадазнаўцы: Павел Горын, Тамаш Домбаль, Зміцер Жылуновіч, Вацлаў Ластоўскі, Сцяпан Некрашэвіч, Іван Сурта, Браніслаў Тарашкевіч, Васіль Шчарбакоў, Мацвей Яворскі; члены-карэспандэнты Якаў Бранштэйн, Ісак Харык. Скончыў жыццё самагубствам акадэмік Усевалад Ігнатоўскі[3].

У передваенны час планы і структура Аддзялення грамадскіх навук пастаянна змяняліся ў залежнасці ад унутрыпалітычнай сітуацыі. Так, у маі 1941 года ў складзе яго засталіся Інстытут гісторыі (з гістарычным архівам), Інстытут эканомікі, Інстытут літаратуры і мовы (з яўрэйскай секцыяй), Навукова-даследчая група атэізму. У складзе Аддзялення аб'ядноўвалася 9 акадэмікаў, 2 члены-карэс-

[1] Центральный научный архив НАН Беларуси. Ф.1, оп. 1, д. 50, л. 70.

[2] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кн. 1. — Мн. 2001. — С. 175.

[3] См. Национальная академия наук Беларуси. Персональный состав. 1928—2008. — Мн. 2008; Возвращенные имена: Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий. — Мн. 1992.

пандэнты, 10 кіраўнікоў устаноў. Да чэрвеня 1941 года Аддзяленне ўзначальваў С. Я. Вальфсон, яго намеснікам быў філосаф Г. І. Якуб, вучоным сакратаром — літаратуразнаўца І. В. Гутараў.

Цяжкія выпрабаванні на долю вучоных, як і ўсяго народа, выпалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Многія былі прызваны ў дзеючую армію, частка змагалася ў радах партызан і падпольшчыкаў, некаторым удалося эвакуіравацца ў савецкі тыл. Апынуўшыся ў Маскве, Іжэўску, Ташкенце, Свярдлоўску і Казані, працягвалі працаваць групы гісторыі, літаратуры, мовы і эканомікі. Ужо ў 1942 годзе на лістападаўскай сесіі Акадэміі навук у Маскве быў зацверджаны тэматычны план іх работы. У адпаведнасці з ім працягвалася вывучэнне пытанняў гісторыі і культуры Беларусі, гісторыі Прусіі, асобных пытанняў Вялікай Айчыннай вайны.

Дзейнасць Аддзялення як структурнай акадэмічнай адзінкі аднавілася толькі ў канцы 1943 года. У 1944 годзе ў яго складзе працавалі Інстытуты гісторыі, эканомікі, літаратуры, мовы і мастацтва, літаратурны музей Янкі Купалы. Акадэмікам-сакратаром Аддзялення быў прызначаны гісторык У. І. Перцаў. Часткова інстытуты працягвалі распачатую перад вайной дзейнасць. У галіне літаратуры, мовы і мастацтва на 1945 год планавалася заканчэнне распрацоўкі руска-беларускага слоўніка і кароткай гісторыі беларускай літаратуры. Перад Інстытутам гісторыі была пастаўлена задача вывучэння жыцця і дзейнасці выдатных беларускіх дзеячаў, перад Інстытутам эканомікі — вызначэння шляхоў хуткага аднаўлення эканомікі.

У пасляваенны перыяд у склад Аддзялення паступова ўключаліся новыя навуковыя ўстановы. У 1947 годзе быў адноўлены Інстытут філасофіі і права. У 1951 годзе створаны Інстытут мовазнаўства і Інстытут літаратуры і мастацтва.

Установы Аддзялення ў 1948—1950 гадах распрацавалі праблемы гісторыі і культуры Беларусі XVI—XVIII стагоддзяў, гісторыі рабочага руху ў Беларусі, барацьбы беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Больш увагі ўдзялялася вывучэнню гісторыі старажытнага перыяду, разгарнуліся археалагічныя даследаванні жалезнага і бронзавага вякоў. На новым узроўні вялося вывучэнне беларускага народнага мастацтва, фальклору і рамёстваў. Вырас узровень даследавання гісторыі грамадскай і філасофскай думкі Беларусі, праблемы права і капіталістычнай ідэалогіі, марксісцка-ленінскай эканомікі, беларускай лексікаграфіі і многіх іншых. Акадэмічныя эканамісты распрацоўвалі «Генеральную схему асушэння і асваення балот і забалочаных зямель Палескай нізіны». Пабачылі свет «Нарысы эканамічнай геаграфіі БССР», зборнікі і манаграфіі па пытаннях развіцця калгасаў і асобных галін беларускай прамысловасці.

Выдатным дасягненнем стала падрыхтоўка і выданне першага тома «Гісторыі БССР», у якім сістэмна, з улікам дасягненняў тагачаснай гістарычнай думкі асэнсоўвалася гісторыя Беларусі са старажытных часоў да лютаўскай (1917 г.) рэвалюцыі. Навукоўцы Інстытута літаратуры сканцэнтравалі ўвагу на даследаваннях творчасці Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Францішка Багушэвіча. Дзякуючы вучоным Інстытута мовазнаўства выйшаў «Руска-беларускі слоўнік» на 85 тысяч слоў[1].

У складзе Аддзялення ў 50-х гадах было 10 акадэмікаў і 7 членаў-карэспандэнтаў[2], у тым ліку акадэмік П. Ф. Глебка, вучоны сакратар Д. І. Сярко, акадэмік М. Ц. Лынькоў, член-карэспандэнт В. В. Барысенка, кандыдат гістарычных навук І. С. Краўчанка, кандыдат эканамічных навук Г. Ц. Кавалеўскі, кандыдат філасофскіх навук К. П. Буслаў.

У 1959—1965 гадах Інстытут філасофіі існаваў асобна ад прававых навук, у 1958—1963 гадах аддзел іх існаваў пры Аддзяленні грамадскіх навук, а ў 1963—1965 гадах гэты аддзел быў пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. У 1957 годзе вызначана новая структура ўстаноў культуралагічнага профілю. Пастановай Савета Міністраў БССР № 340 ад 11 чэрвеня 1957 года былі створаны

---

[1] Центральный научный архив НАН Беларуси. Ф.1, оп. 1, д. 736, с. 9.

[2] Центральный научный архив НАН Беларуси. Справочник на 1957 год. С. 78—79.

асобныя Інстытут літаратуры (з ліпеня таго ж года — імя Янкі Купалы) і Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Інстытуту мовазнаўства ў 1956 годзе прысвоена імя Якуба Коласа. У 1957 годзе ў складзе Аддзялення з'явіўся Музей Якуба Коласа[1].

У 1960 годзе акадэмікам-сакратаром Аддзялення грамадскіх навук быў выбраны акадэмік Ц. С. Гарбуноў, у склад Бюро ўвайшлі намеснік акадэміка-сакратара П. Ф. Глебка, вучоны сакратар Д. І. Сярко, член-карэспандэнт В. В. Барысенка, член-карэспандэнт І. С. Краўчанка, член-карэспандэнт С. П. Маргунскі, кандыдат філасофскіх навук К. П. Буслаў, кандыдат эканамічных навук Ц. Г. Кавалеўскі, кандыдат філалагічных навук М. Р. Суднік. Персанальны склад Аддзялення налічваў 8 акадэмікаў і 9 членаў-карэспандэнтаў[2].

Увага супрацоўнікаў Інстытута філасофіі ў гэты час была накіравана на вывучэнне працэсаў развіцця сацыялістычнага грамадства і становішча нацыянальных культур. Калектыў Інстытута гісторыі пад кіраўніцтвам Ц. С. Гарбунова прыступіў да напісання «Гісторыі Беларусі» ў 8 тамах. Навукоўцы Інстытута эканомікі распрацоўвалі праблемы, звязаныя з павышэннем прадукцыйнасці працы і эканамічнай эфектыўнасці прамысловасці. Асноўная ўвага вучоных Інстытута літаратуры імя Я. Купалы засяроджвалася на падрыхтоўцы двухтомнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», выданні твораў класікаў беларускай літаратуры і старажытных тэкстаў. Інстытут мовазнаўства ажыццявіў грунтоўную работу па забеспячэнні філалагічных факультэтаў ВНУ рэспублікі вучэбнымі дапаможнікамі. Перспектыўным накірункам развіцця ў пачатку 1960-х гадоў сталі даследаванні славістычнага профілю. Аддзел прававых навук у гэты час распрацоўваў праекты Грамадзянскага і Грамадзянска-працэсуальнага кодэксаў БССР[3].

Час уносіў карэктывы ў арганізацыйнае жыццё. Так, у 1963 годзе са складу Аддзялення былі выведзены Аддзел прававых навук (перададзены ў веданне БДУ), музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа былі перададзены ў сістэму Міністэрства культуры БССР.

Абавязкі акадэміка-сакратара Аддзялення грамадскіх навук у 1967 годзе стаў выконваць П. Ф. Глебка. У Бюро абралі акадэмікаў П. У. Броўку, М. Ц. Лынькова, В. А. Сярбенту, членаў-карэспандэнтаў В. В. Барысенку, Н. В. Каменскую, І. С. Краўчанку, С. П. Маргунскага, Ф. С. Марцінкевіча, доктара філасофскіх навук К. П. Буслава, кандыдата філалагічных навук М. Р. Судніка. Вучоным сакратаром стаў Д. І. Сярко. Персанальны склад Аддзялення налічваў 7 акадэмікаў і 8 членаў-карэспандэнтаў[4].

Установы Аддзялення на высокім узроўні ажыццявілі даследаванні ў адпаведнасці з загадамі, аддадзенымі ў сувязі з 50-годдзем БССР. Інстытут філасофіі вывучаў ролю інтэлігенцыі ў сацыялістычным грамадстве. Працягваліся даследаванні па праблемах дыялектычнага матэрыялізму і філасофскіх пытаннях навуковага пазнання. Была падрыхтавана першая ў рэспубліцы манаграфія па гісторыі грамадства і права БССР. У Інстытуце эканомікі вывучаўся шэраг праблем, у тым ліку актуальныя пытанні вызначэння эканамічнай эфектыўнасці, навуковых асноў кіравання народнай гаспадаркай. Установы культурнага профілю вывучалі ўзаемасувязі і ўзаемадзеянні літаратур, гістарычную лексікалогію беларускай мовы, беларуска-ўкраінскія тэатральныя сувязі. Значную ролю ў дзейнасці Інстытута гісторыі мелі палявыя археалагічныя даследаванні, штогод праводзілася каля 10 экспедыцый. Іх арганізоўвалі і вучоныя Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.

У 1970—1976 гадах Аддзяленне грамадскіх навук узначальваў акадэмік-сакратар К. П. Буслаў. У склад Бюро ўваходзілі акадэмікі В. В. Барысенка,

---

[1] Центральный научный архив НАН Беларуси. Ф.1, оп. 1, д. 793, с. 5.

[2] Центральный научный архив НАН Беларуси. Справочник на 1960 год. С. 88-89.

[3] Центральный научный архив НАН Беларуси. Ф.1, оп. 1, д. 1115, с. 88.

[4] Центральный научный архив НАН Беларуси. Справочник на 1967 год. С. 121—122.

П. У. Броўка, І. С. Краўчанка, М. Ц. Лынькоў, В. А. Сярбента, члены-карэспандэнты І. М. Ігнаценка, Н. В. Каменская, С. П. Маргунскі, М. Р. Суднік, доктар гістарычных навук В. К. Бандарчык. Абавязкі вучонага сакратара выконваў У. У. Агіевіч. Персанальны склад Аддзялення налічваў 8 акадэмікаў і 12 членаўкарэспандэнтаў. Аддзяленне ажыццяўляла кіраўніцтва не толькі буйнымі акадэмічнымі ўстановамі, але і шэрагам дробных арганізацый, якія выконвалі, тым не менш, значныя навуковыя задачы. Шмат рабілі навуковыя саветы па філасофскіх праблемах, праблемах гісторыі Беларусі, беларускага мовазнаўства, мастацтвазнаўства, эканамічнай эфектыўнасці і іншых[1].

У 1970 годзе завяршылася чарговая пяцігодка, за час якой арганізацыі Аддзялення выканалі больш за 30 тэм. Праводзілі работы з выкарыстаннем сучасных дасягненняў навукі і тэхнікі, актыўна ўжывалі матэматычныя метады даследавання. Бюро Аддзялення шмат увагі ўдзяляла распрацоўцы каардынацыйных планаў навукова-даследчых работ па праблемах камуністычнага будаўніцтва, комплексных пытаннях навуковага кіраўніцтва сацыяльнымі працэсамі, сацыяльных наступстваў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

У цэнтры ўвагі вучоных-эканамістаў знаходзіліся пытанні вытворчых адносінаў сацыялістычнай эканомікі, гісторыкаў — гісторыя беларускага народа ў цэлым і рабочага класа ў прыватнасці, мастацтвазнаўцаў і этнографаў — помнікі гісторыі і культуры Беларусі, мовазнаўцаў — падрыхтоўка «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа». Штогод друкавалася больш за 50 манаграфій і зборнікаў навуковых прац, колькасць навуковых і навукова-папулярных артыкулаў у 1975 годзе дасягнула 728.

На працягу пятнаццаці гадоў — з 1977 па 1992 год — Аддзяленне грамадскіх навук узначальваў акадэмік М. В. Бірыла. У склад Бюро Аддзялення ўваходзілі акадэмікі К. П. Буслаў, І. М. Ігнаценка, І. С. Краўчанка, Ф. С. Марцінкевіч, членыкарэспандэнты Я. М. Бабосаў, І. Я. Навуменка, С. П. Маргунскі, У. М. Сікорскі, П. Ц. Петрыкаў, М. Р. Суднік, доктар гістарычных навук С. В. Марцэлеў, намеснік акадэміка-сакратара член-карэспандэнт Д. І. Шыраканаў, вучоны сакратар У. У. Агіевіч. Персанальны склад Аддзялення ў 1978 годзе налічваў 11 акадэмікаў і 17 членаўкарэспандэнтаў. У пачатку 1980-х гадоў ва ўстановах Аддзялення працавала ўжо 640 навуковых супрацоўнікаў, сярод іх — 52 дактары і 262 кандыдаты навук, праходзіла падрыхтоўку звыш 200 аспірантаў і 150 суіскальнікаў вучонай ступені[2].

Асаблівая ўвага ў межах Аддзялення надавалася распрацоўцы актуальных навуковых пытанняў. У Інстытуце эканомікі даследаваліся ўмовы і фактары павышэння сацыяльна-эканамічнай эфектыўнасці вытворчасці, распрацоўваліся метадычныя рэкамендацыі па паляпшэнні матэрыяльнага стымулявання працы вытворчых аб’яднанняў і іншых пытаннях. Вучоныя Інстытута філасофіі і права займаліся пытаннямі павышэння ролі працоўных калектываў у развіцці вытворчасці, стымулюючых фактараў уздзеяння прававых форм яе арганізацыі. Даследчыкі Інстытута гісторыі вывучалі наступствы саюзнай нацыянальнай палітыкі ў збліжэнні эканамічнага і культурнага ўзроўню ў працэсе развіцця сацыялістычных нацый, пытанні інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва. У Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору асэнсоўваліся праблемы развіцця сацыялістычных нацый, разглядаліся пытанні ўзаемаўплыву культур у свеце.

Не выпускаліся з-пад увагі і традыцыйныя накірункі: гісторыя беларускага сялянства, старажытнабеларуская культура, гісторыя Вялікай Айчыннай вайны, працэс фарміравання дыялектыка-матэрыялістычнай філасофіі, развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы. Толькі за 1976—1980 гады з’явіліся 293 манаграфіі і 3647 навуковых артыкулаў.

Станаўленне незалежнай Рэспублікі Беларусь запатрабавала і развіцця новых навуковых накірункаў. У 1992 годзе Аддзяленне ўзначаліў акадэмік Г. М. Лыч,

---

[1] Центральный научный архив НАН Беларуси. Справочник на 1978 год. С. 197—201.

[2] Центральный научный архив НАН Беларуси. Ф.1, оп. 1, д. 72, с. 91,100.

яго наменсікамі сталі члены-карэспандэнты М. П. Касцюк і А. І. Падлужны. У склад Бюро Аддзялення ўваходзілі акадэмікі М. В. Бірыла, І. М. Ігнаценка, Д. І. Шыраканаў, члены-карэспандэнты Я. М. Бабосаў, Л. Ф. Яўменаў, В. А. Каваленка, А. А. Лойка, С. В. Марцэлеў, В. І. Семянкоў. Вучоным сакратаром быў прызначаны кандыдат філасофскіх навук В. К. Банько. Персанальны склад Аддзялення ў 1992 годзе налічваў 8 акадэмікаў і 27 членаў-карэспандэнтаў. Ва ўстановах Аддзялення працавала 512 навуковых супрацоўнікаў, сярод іх — 72 дактары і 274 кандыдаты навук. З 1990 года ў структуры Аддзялення з'явіўся Інстытут сацыялогіі[1].

Сацыяльна-эканамічныя і палітычныя пераўтварэнні патрабавалі ўнясення карэктыў у навукова-арганізацыйную дзейнасць. Аддзяленне грамадскіх навук Акадэміі навук БССР у 1992 годзе было ператворана ў Аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі. Разгарнуліся даследаванні ў рамках пяці навуковых праграм: «Гісторыя станаўлення і развіцця беларускай народнасці і нацыі. Нацыянальныя працэсы і міжнацыянальныя адносіны на сучасным этапе», «Суверэнітэт Рэспублікі Беларусь — эканамічны, прававы і сацыялагічны аспекты», «Культура беларускага народа: актуальныя праблемы сучаснага развіцця і гістарычны вопыт», «Беларуская мова і літаратура: гісторыя і сучаснасць», «Чалавек, культура, навука: праблемы гуманізацыі сацыяльна-палітычных і маральна-прававых адносін».

Ажыццяўляліся і новыя формы навуковага супрацоўніцтва. Так, у 1992 годзе Аддзяленне разам з Беларускім Экзархатам выступілі ініцыятарамі і арганізатарамі правядзення міжнароднай навукова-царкоўнай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю Полацкай епархіі і Праваслаўнай Царквы на Беларусі. У дзейнасці канферэнцыі прымалі ўдзел госці з краін Еўропы, Амерыкі, Блізкага Усходу.

У 1997 годзе Аддзяленне ўзначаліў акадэмік А. І. Падлужны, яго намеснікамі сталі члены-карэспандэнты У. В. Гніламёдаў і А. М. Данілаў, а вучоным сакратаром кандыдат філасофскіх навук В. І. Ляўковіч. У склад Бюро ўваходзілі акадэмікі Я. М. Бабосаў, М. П. Касцюк, Г. М. Лыч, І. Я. Навуменка, Д. І. Шыраканаў, члены-карэспандэнты А. М. Булыка, А. С. Майхровіч, Л. Ф. Яўменаў, П. Г. Нікіценка, М. Ф. Піліпенка, С. В. Марцэлеў, В. І. Семянкоў. Значна пашырыўся персанальны склад: 15 акадэмікаў і 22 члены-карэспандэнты[2].

Актыўна ажыццяўлялася выдавецкая дзейнасць. У 1998 годзе ўстановамі Аддзялення надрукавана 1636 публікацый, у тым ліку 35 манаграфій, у 1999 годзе — 1961 публікацыя (48 манаграфій), у 2000 годзе — 1062 публікацыі (38 манаграфій), у 2001 годзе — 1273 публікацыі (48 манаграфій), у 2002 годзе — 1412 публікацый (50 манаграфій), у 2003 годзе — 822 публікацыі (56 манаграфій).

У пачатку XXI стагоддзя праца навуковых устаноў Аддзялення ажыццяўлялася ў адпаведнасці з дзяржаўнымі праграмамі фундаментальных даследаванняў. З 2001 года пачалося выкананне шасці праграм: «Даследаванне гісторыі Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі», «Даследаванне мастацтва, фальклору і этнакультурных традыцый Беларусі ў кантэксце славянскіх культур», «Даследаванне беларускай мовы на рубяжы тысячагоддзяў, яе гісторыі, сучаснага стану, сувязей з іншымі мовамі», «Распрацоўка гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры ў кантэксце сусветнага літаратурнага працэсу», «Распрацоўка філасофска-светапоглядных і сацыяльна-культурных асноў развіцця беларускага грамадства», «Распрацоўка асноў фарміравання прававой дзяржавы і прынцыпаў эфектыўнага правапрымянення».

Пад кіраўніцтвам акадэмікаў-сакратароў П. Г. Нікіценкі (2004—2009 гады) і А. А. Кавалені (з 2009 года) Аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў пераўтварылася ў цэнтр, які каардынуе комплекс даследаванняў па прыярытэтных накірунках у галіне сацыяльных і гуманітарных навук Рэспублікі Беларусь.

---

[1] Центральный научный архив НАН Беларуси. Ф.1, оп. 1, д. 81, с. 68.

[2] Центральный научный архив НАН Беларуси. Ф.1, оп. 1, д. 81, с. 68.

За апошнія гады значна актывізаваліся даследаванні, закліканыя садзейнічаць умацаванню беларускай дзяржаўнасці. У 2006—2010 гг. апублікавана больш за 7,5 тысячы артыкулаў і тэзісаў, падрыхтавана і выдана звыш 430 кніжных выданняў, у тым ліку 327 манаграфій. Ажыццяўляліся даследаванні ў рамках дзяржаўных комплексных навуковых праграм «Эканоміка і грамадства» і «Гісторыя і культура», а таксама дзяржаўнай праграмы фундаментальных даследаванняў «Беларуская мова і літаратура».

У **Інстытуце эканомікі** вывучаецца комплекс праблем, звязаных з удасканаленнем кіравання валютным рынкам, развіццём крэдытных адносін, упарадкаваннем іституцыянальнай структуры беларускай эканомікі. Распрацаваны прапановы па паляпшэнні дзяржаўнага рэгулявання макраэканамічных працэсаў, па ўзмацненні накіраванасці нацыянальнай грашова-крэдытнай сістэмы на запатрабаванні рэальнага сектара і забеспячэнне ўстойлівасці яе функцыяніравання ва ўмовах знешнеэканамічнай нестабільнасці.

Навукоўцы-эканамісты распрацавалі Комплексны прагноз навукова-тэхнічнага прагрэсу Рэспублікі Беларусь на 2011—2030 гады з больш падрабязным яго абгрунтаваннем на 2011—2015 гады. Ажыццявілі аналіз гэтага працэсу ў сусветнай эканоміцы, даследавалі інавацыйны патэнцыял Беларусі, уключаючы галіновы і рэгіянальны аспекты. Падрыхтаваны доўгатэрміновы прагноз інавацыйнага развіцця краіны ў разрэзе галін і рэгіёнаў, а таксама механізмы, якія абумоўліваюць яго паспяховую рэалізацыю.

Упершыню ў Беларусі распрацавана праграма развіцця лагістычнай сістэмы, стварэння адпаведных цэнтраў, уведзены ў нарматыўную прававую базу паняцці, якія характарызуюць такую дзейнасць. Прапанаваны новыя падыходы да прыцягнення інвестараў для будаўніцтва гэтых цэнтраў. Абгрунтавана неабходнасць развіцця лагістычных паслуг як найважнейшага накірунку інавацыйнага развіцця краіны.

У **Інстытуце сацыялогіі** праведзена даследаванне дынамікі беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці і яе базавых частак у кантэксце сучасных інтэграцыйных працэсаў ва ўзаемасувязі са зменамі еўрапейскай і славянскай ідэнтыфікацый насельніцтва краіны. Распрацавана канцэптуальная аснова стратэгіі развіцця кадравага патэнцыялу беларускай навукі ва ўмовах станаўлення інавацыйнай эканомікі і канцэпцыя фарміравання аптымальнай сістэмы ўзнаўлення навуковых кадраў у адпаведнасці з нацыянальнымі прыярытэтамі. Даследаваны асноўныя тэндэнцыі развіцця міграцыйных працэсаў у навуковай сферы.

Вучоныя падрыхтавалі і накіравалі зацікаўленым органам дзяржаўнага кіравання шэраг інфармацыйна-аналітычных матэрыялаў: «Рынак працы Беларусі і эфектыўнасць выкарыстання працоўнага патэнцыялу», «Інавацыйная дзейнасць малых прадпрыемстваў ва ўмовах станаўлення інавацыйнай эканомікі Беларусі», «Адносіны насельніцтва Рэспублікі Беларусь да медыцынскага абслугоўвання», «Дынаміка ўзроўню і характару рэлігійнасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь», «Якасць жыцця сучаснага беларуса», «Якасць школьнай адукацыі», «Інтэлектуальная міграцыя ў Рэспубліцы Беларусь: становішча, тэндэнцыі, прагнозы», «Становішча і тэндэнцыі змены сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь», «Патэнцыял знешняй працоўнай міграцыі ў арганізацыях рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання: сацыялагічны аналіз», «Аналіз дынамікі міграцыі навуковых работнікаў НАН Беларусі 2001—2008 гг.», «Патэнцыял знешняй працоўнай міграцыі ў арганізацыях Дзяржкамваенпрама», «Сацыяльныя амартызатары сучасных крызісных з'яў Беларусі», «Адзнакі насельніцтвам Рэспублікі Беларусь распаўсюджанасці ў краіне карупцыйнай злачыннасці», «Сацыяльныя аспекты сусветнага фінансавага крызісу».

Шмат тэарэтычных напрацовак у навуковых супрацоўнікаў **Інстытута філасофіі.** Распрацавана канцэпцыя фарміравання духоўна-маральных асноў нацыянальнай стратэгіі развіцця і забеспячэння гуманітарнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, нейтралізацыі маральна-прававых фактараў дэвіянтных паводзін, процідзе-

яння рэлігійнаму, этнічнаму, рэлігійна матываванаму палітычнаму радыкалізму. Даследаваны тэарэтыка-метадалагічныя аспекты праблемы духоўна-маральнай культуры ў сучасным грамадстве; вызначаны напрамкі і сродкі ўвасаблення каштоўных прынцыпаў сацыяльнай згоды, гармоніі міжэтнічных і міжканфесійных адносін. Распрацавана канцэптуальная мадэль станаўлення нацыянальнай ідэнтычнасці Беларусі ў кантэксце шматбаковай узаемасувязі гісторыка-культурных традыцый. Сфармуляваны асновы метадалогіі вывучэння дынамікі інтэлектуальнай прасторы Беларусі ў гістарычнай перспектыве ідэйна-светапогляднага ўзаемадзеяння на памежжы культур. Выдадзены першы і другі тамы шасцітомніка «Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі», першы том трохтомніка «Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі».

Акадэмічныя гісторыкі дасягнулі значных поспехаў у асэнсаванні складаных і супярэчлівых падзей нацыянальнай гісторыі. У **Інстытуце гісторыі** вядзецца актыўная і мэтанакіраваная работа па вывучэнні і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны і прапагандзе дасягненняў гістарычнай навукі. Праведзена больш за 50 навуковых канферэнцый у малых гарадах, абласных і раённых цэнтрах, на якіх навукоўцы, настаўнікі, краязнаўцы і прадстаўнікі мясцовага ідэалагічнага актыву выступілі з дакладамі і паведамленнямі. Гэтыя мерапрыемствы атрымалі шырокі грамадскі рэзананс і высокую адзнаку навуковай супольнасці.

Апрацаваны матэрыялы, атрыманыя пры комплексным вывучэнні тэрыторыі Шклоўскага замка. Гэта дазволіла вызначыць этапы і характар узвядзення замкавых абарончых умацаванняў Шклова ў XVI—XVII стагоддзях. Выяўлена ўнікальнае калектыўнае пахаванне старажытнарускага часу на тэрыторыі Друцкага археалагічнага комплексу, звязанае з ваеннымі падзеямі.

У выніку апрацоўкі звыш 20 тысяч артэфактаў, знойдзеных у зоне будаўніцтва Гарадзенскай ГЭС, атрыманы цікавыя матэрыялы аб культуры насельніцтва каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў. Лакалізаваны дзясяткі новых археалагічных помнікаў на тэрыторыі Белавежскай пушчы і на прылеглых тэрыторыях. Наступнае іх вывучэнне дазволіць раскрыць асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры першабытных жыхароў рэгіёна. Упершыню складзены поўны звод палеалітычных помнікаў заходніх рэгіёнаў Беларусі, вызначаны шляхі і час з'яўлення насельніцтва на гэтых тэрыторыях.

Выкананне інавацыйнага праекта «Правесці гісторыка-археалагічныя даследаванні на помніках Нясвіжа, якія ўключаны ЮНЭСКА ў спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны, скласці звод дакументальных дадзеных для ажыццяўлення комплексных рэстаўрацыйных работ і кіравання намінацыяй» дазволіла ўпершыню вывучыць канструктыўныя асаблівасці планіроўкі профілю рва і сцен бастыёнаў Нясвіжскага замка, што паспрыяла распрацаваць і на практыцы рэалізаваць праект іх рэканструкцыі.

Добры плён дала і рэалізацыя інавацыйнага праекта «Вывучыць гісторыка-культурную спадчыну Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» і выпрацаваць пэўныя рэкамендацыі па практычным выкарыстанні гэтай спадчыны». Упершыню праведзена глыбокае комплекснае даследаванне гістарыяграфіі, крыніц, археалагічнай і этнаграфічнай гісторыка-культурнай спадчыны згаданага рэгіёна. Выяўлены шэраг унікальных гістарычных, археалагічных і этнаграфічных матэрыялаў, якія сталі асновай для выпрацоўкі канкрэтных рэкамендацый па практычным выкарыстанні гісторыка-культурнай спадчыны гэтай тэрыторыі. Дзякуючы даследаванням распрацавана навуковая канцэпцыя і створана экспазіцыя Музея Нацыянальнага парку «Белавежская пушча», адчыненага восенню 2009 года.

Таксама ўпершыню ў нашай краіне ажыццёўлены навуковыя канцэпцыі экспазіцый Музея гісторыі НАН Беларусі, Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь і музейнай археалагічнай экспазіцыі, што з'яўляецца асновай навукова-інфармацыйнага і вучэбнага цэнтра для падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне вывучэння і аховы гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

Важкім папаўненнем гістарычных ведаў стала пошукавая праца навукоўцаў у архівах краіны і блізкага замежжа. Прынамсі, знойдзены новыя матэрыялы аб грамадска-палітычным жыцці гарадоў Беларусі XV—XVIII стст.

Прааналізаваны вопыт стварэння беларускіх воінскіх падраздзяленняў у складзе расійскай арміі ў перыяд з лютага па кастрычнік 1917 года, працэс фарміравання армейскіх часцей з жыхароў Беларусі ў складзе Чырвонай Арміі ў гады Грамадзянскай вайны і замежнай ваеннай інтэрвенцыі, а таксама ваеннага будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі ў міжваенны перыяд. Пайменна ўстаноўлены імёны беларусаў і выхадцаў з Беларусі, якія прымалі ўдзел у ваенных дзеяннях у Кітаі (1923—1927) і ўзброеным канфлікце на Кітайскай чыгунцы (1929), а таксама ў перыяд аказання інтэрнацыянальнай дапамогі Кітаю падчас адбіцця японскай агрэсіі (1937—1941). Выяўлена больш за 900 імёнаў выхадцаў з Беларусі, якія загінулі ў Савецка-фінляндскай вайне 1939—1940 гадоў. Устаноўлены імёны больш за 200 суайчыннікаў, якія аказвалі дапамогу Дэмакратычнай Рэспубліцы В'етнам падчас агрэсіі ЗША (1964—1973). Удакладнены спісы прадстаўнікоў Беларусі, якія прымалі ўдзел у пасляваенных канфліктах у Сірыі, Эфіопіі, Анголе, Алжыры, Мазамбіку, Егіпце, Паўночнай Карэі (больш за 1 тыс. чалавек).

Вялікую цікавасць грамадскасці выклікалі вучэбна-метадычны комплекс «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны)»; калектыўная манаграфія «Беларусь: Народ. Дзяржава. Час», якая стала пераможцам у намінацыі «Лепшае масава-палітычнае выданне» нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2010» і была адзначана Гран-пры на Міжнародным конкурсе «Навуковая кніга-2010».

Прыхільна сустрэты і 1-шы том «Вялікага гістарычнага атласа Беларусі», выдадзенага сумесна з Дэпартаментам па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі, РУП «Белкартаграфія». Ён адлюстроўвае перыяд ад з'яўлення чалавека на тэрыторыі Беларусі і да 1569 года. Гэтае выданне не мае аналагаў на прасторы СНД. Станоўча ацэнены навуковай грамадскасцю калектыўная манаграфія «Белавежская пушча: вытокі запаведнасці, гісторыя і сучаснасць» і фотаальбом «Зямля сілы. Белавежская пушча». Падзеяй стаў выхад падрыхтаванага да 70-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР зборніка дакументаў і матэрыялаў «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі…» у 2 кнігах і інш.

Значныя і арыгінальныя даследаванні навукоўцаў **Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы**, якія праводзяць актыўную працу па навуковым забеспячэнні рэалізацыі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Распрацаваны асноўныя прынцыпы ўвядзення новых правіл у граматычныя і лексікаграфічныя даведнікі, прызначаныя для шырокага карыстання. Створана новая лексікаграфічная база сучаснай беларускай мовы, сфарміраваны рэестр асноўных лексічных адзінак у адпаведнасці з новымі арфаграфічнымі нормамі. З'явіліся новыя нарматыўныя даведнікі і слоўнікі: «Беларускі арфаграфічны слоўнік», «Беларуска-рускі слоўнік», «Руска-беларускі слоўнік», «Асобна, разам, праз злучок», «Вялікая, малая літара», «Слоўнік беларускай мовы», «Слоўнік новых слоў беларускай мовы».

Падрыхтаваны і выдадзены 26—30 выпускі, распрацаваны слоўнікавыя артыкулы для 33—37 выпускаў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» — першага ў краіне лексікаграфічнага выдання слоўнікавага складу нашай мовы канца XIV—XVIII стагоддзяў. Пабачылі свет 11—13 тамы «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы».

На распрацоўку навукова-тэарэтычных асноў сістэмы нацыянальных мастацкіх каштоўнасцей, метадалогіі даследавання, якая адпавядае сучасным патрабаванням культуры і літаратуры з улікам нацыянальных мастацкіх традыцый і сусветных дасягненняў у галіне духоўнай і інтэлектуальнай творчасці, былі накіраваны асноўныя намаганні вучоных-літаратуразнаўцаў. Яны ўдакладнілі і вызначылі грамадскі статус беларускай літаратуры і літаратуразнаўства ў сістэме гуманітарных навук і мастацтваў як навукова-эстэтычнай і арганізацыйна-твор-

чай сістэмы сучасных грамадскіх ведаў. Абагульнены і сістэматызаваны дасягненні і актуальныя праблемы сучаснай тэорыі і гісторыі літаратуры, літаратурнай крытыкі, а таксама дапаможных дысцыплін (гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства, рэцэптыўная эстэтыка, герменеўтыка, праблема чытача і масавай чытацкай аўдыторыі, тэкстуальных і выдавецкіх стратэгій).

Вывучана сутнасць гісторыка-культурнай дынамікі мастацкай канцэпцыі чалавека і вызначаны месца і значэнне сучаснай беларускай літаратуры ў працэсе вырашэння актуальнай антрапалагічнай праблематыкі. Завершана навукова-тэксталагічная падрыхтоўка да выдання Збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах. У адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб увекавечанні памяці народнага пісьменніка Беларусі Шамякіна Івана Пятровіча» праведзена навукова-тэксталагічнае даследаванне твораў класіка і падрыхтаваны да выдання 11 тамоў Збору твораў І. П. Шамякіна ў 23 тамах. Гатовыя да выдання і тры тамы «Помнікаў даўняга пісьменства Беларусі», у якіх сабраны тэксты твораў старажытнабеларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў.

У **Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы** ўпершыню ў айчыннай навуцы раскрыты агульныя (нацыянальныя) рысы архітэктуры Беларусі як кампанента нацыянальнай культуры, паказана рэгіянальная і лакальная разнастайнасць дойлідства Беларусі, яго ўзаемасувязь з прыродна-ландшафтным і гісторыка-культурным асяроддзем.

Распрацавана навуковая канцэпцыя развіцця нацыянальнай і рэгіянальнай своеасаблівасці ў сучаснай беларускай архітэктуры, яе перспектыў, рэгенерацыі і адаптацыі спадчыны. Раскрыты сучасныя тэндэнцыі развіцця сістэмы рассялення ў Беларусі, канцэпцыі новых генеральных планаў гарадоў, роля дзяржаўных праграм горадабудаўнічага развіцця, адраджэння малых гарадоў, сяла, будаўніцтва аграгарадкоў. Падрыхтавана і выдадзена першае ў айчыннай навуцы і ва Усходняй Еўропе шматтомнае выданне па гісторыі архітэктуры Беларусі «Архітэктура Беларусі: нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце».

З’явіліся чарговыя тамы ўнікальнага шматтомнага энцыклапедычнага выдання «Гарады і вёскі Беларусі», прысвечаныя населеным пунктам Брэсцкай, Магілёўскай, Мінскай абласцей, у якіх на падставе архіўных і дакументальных крыніц адлюстравана гісторыя, сучаснае эканамічнае і культурнае становішча ўсіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак названых абласцей. Падрыхтаваны і выдадзены 9—12 тамы фундаментальнай працы «Беларусы», аўтарскі калектыў якой удастоены спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» 2008 года.

Па выніках навуковых экспедыцый створана база дадзеных па рухомых помніках Брэстчыны, абследаваны 141 культавы аб’ект. Упершыню ў айчыннай навуцы праведзена комплекснае даследаванне гісторыі, сучаснага становішча і перспектыў развіцця традыцый у матэрыяльнай, сацыяльнай і духоўнай культуры этнічных супольнасцей.

Комплекснае даследаванне сучаснага сцэнічнага мастацтва Беларусі дазволіла распрацаваць навуковую канцэпцыю яго развіцця, накіраваную на захаванне рэалістычных традыцый і нацыянальнай самабытнасці; сфармуляваны прыярытэтныя накірункі дзейнасці тэатра па захаванні традыцыйных маральных каштоўнасцей беларускага народа.

Плённа і вынікова ажыццяўляюць даследаванні і актыўна ўдзельнічаюць у навукова-педагагічнай дзейнасці акадэмік Я. М. Бабосаў, член-карэспандэнт А. М. Данілаў, дактары сацыялагічных навук І. В. Катляроў, Р. А. Смірнова, С. А. Шавель, доктар філасофскіх навук Г. М. Сакалова, кандыдат філасофскіх навук У. Л. Абушэнка, кандыдаты сацыялагічных навук А. В. Таранава, С. М. Кройтар.

У галіне беларускага літаратуразнаўства натхнёна працуюць акадэмік У. В. Гніламедаў, члены-карэспандэнты С. С. Лаўшук, М. І. Мушынскі, кандыдаты Т. С. Голуб, С. Л. Гаранін, Т. І. Пякуцька-Вабішчэвіч, доктар навук І. А. Чарота. Пры іх актыўным удзеле рыхтуюцца да выдання буйныя навуковыя

працы, Поўны збор твораў Я. Коласа, зборы твораў І. Шамякіна і І. Навуменкі. Велізарны пласт навуковых даследаванняў здзейснены апантанымі мовазнаўцамі, сярод якіх члены-карэспандэнты А. М. Булыка, А. А. Лукашанец, доктар філалагічных навук В. П. Русак, кандыдаты філалагічных навук І. Л. Капылоў, В. М. Курцова, А. У. Андрэева, В. В. Герасімовіч.

Значны ўклад у даследаванне гісторыі станаўлення беларускай дзяржаўнасці, вывучэнне і захаванне гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі ўносяць акадэмік М. П. Касцюк, члены-карэспандэнты А. І. Лакотка, М. Ф. Піліпенка, доктар мастацтвазнаўства В. І. Жук, дактары гістарычных навук П. Ф. Лысенка, А. М. Літвін, В. М. Ляўко, Г. І. Каспяровіч, кандыдаты гістарычных навук В. В. Даніловіч, А. М. Мядзведзеў, М. У. Смяховіч, М. Г. Жылінскі, В. Л. Лакіза, А. Б. Доўнар, А. І. Груша, А. У. Мацук. На ніве выяўленчага мастацтва і мастацкай літаратуры шырока вядомы творчыя дасягненні акадэміка Г. Г. Паплаўскага, ганаровых членаў НАН Беларусі В. А. Грамыкі і В. В. Зуёнка.

Шматлікія пытанні інавацыйнага сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця краіны актыўна распрацоўваюць акадэмікі Г. М. Лыч, П. Г. Нікіценка, члены-карэспандэнты У. А. Бабкоў, М. У. Мяснікові‌ч, В. Ф. Мядзведзеў, доктар эканамічных навук А. В. Маркаў, кандыдаты эканамічных навук В. С. Булко, С. М. Дзядкоў, Г. Л. Вардэванян, В. В. Ганчароў, М. В. Маркусенка, В. Л. Шулейка.

Актыўна і вынікова ўдзельнічаюць у навукова-педагагічным працэсе, уносяць значны ўклад у развіццё філасофскіх даследаванняў акадэмік Д. І. Шыраканаў, члены-карэспандэнты П. А. Вадап’янаў, Л. Ф. Яўменаў, дактары філасофскіх навук Т. І. Адула, Э. М. Сарока, кандыдаты філасофскіх навук А. А. Лазарэвіч, В. А. Паўлоўская, Н. Я. Захарава, В. А. Белакрылава, Т. А. Капітонава…

Навуковая і педагагічная дзейнасць членаў-карэспандэнтаў В. І. Семянкова, В. Г. Ціхіні, В. І. Шабайлава аказвае значны ўплыў на развіццё прававых даследаванняў у краіне, шырока выкарыстоўваецца ў заканатворчай рабоце.

У Аддзялення шмат планаў і задум. У бягучай пяцігодцы гуманітарыі ажыццяўляюць даследаванні ў рамках адной дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў — «Гуманітарныя навукі як фактар развіцця беларускага грамадства і дзяржаўнай ідэалогіі (гісторыя, культура, грамадства, дзяржава)» — навуковы кіраўнік А. А. Каваленя, якая аб’ядноўвае шэсць падраздзелаў (падпраграм): «Гісторыя, духоўная і матэрыяльная культура беларускага народа (гісторыя і культура)» — навуковыя кіраўнікі А. А. Каваленя і У. С. Кошалеў; «Навуковае абгрунтаванне механізмаў росту канкурэнтаздольнасці беларускай эканомікі ва ўмовах глабалізацыі (эканоміка)» — навуковы кіраўнік А. М. Тур; «Тэарэтыка-метадалагічныя асновы і каштоўнасна-светапоглядныя фактары нацыянальнай стратэгіі сацыякультурнага развіцця, рэгіянальнай і глабальнай інтэграцыі (сацыялогія і філасофія)» — навуковыя кіраўнікі І. В. Катляроў, А. У. Рубанаў, А. А. Лазарэвіч; «Беларуская мова і літаратура ў кантэксце цывілізацыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь: гісторыя, сучаснае становішча, тэндэнцыі (беларуская мова і літаратура)» — навуковыя кіраўнікі А. А. Лукашанец, І. С. Роўда; «Тэарэтыка-метадалагічныя асновы ўдасканалення нацыянальнай прававой сістэмы і кіравання ў кантэксце сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь (права і кіраванне)» — навуковыя кіраўнікі В. І. Семянкоў, С. А. Балашэнка; «Нацыянальная сістэма адукацыі (адукацыя)» — навуковыя кіраўнікі А. І. Жук, Г. У. Пальчык.

Структура гэтай праграмы дазволіць больш эфектыўна ажыццяўляць каардынацыю даследаванняў і аператыўна вырашаць шматлікія пытанні арганізацыі навуковых даследаванняў. Плануецца, што да 2015 года ўпершыню ў гісторыі беларускай навукі будзе выкананы шэраг буйных праектаў, якія ўзбагацяць нацыянальную навуковую думку новымі тэарэтычнымі ведамі. На іх аснове мяркуецца рэалізаваць шэраг фундаментальных задум.

Па-першае, падрыхтаваць шматтомную «Гісторыю Беларусі», у якой будуць абагульнены найважнейшыя працэсы і падзеі айчыннай гісторыі, а таксама дасяг-

ненні Рэспублікі Беларусь. Гэтая праца стане своеасаблівай нарматыўнай базай падрыхтоўкі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для школ і ВНУ, з'явіцца важным арыенцірам для наступнай распрацоўкі недаследаваных або малавывучаных актуальных праблем гісторыі Беларусі.

Па-другое, прадоўжыць навуковыя даследаванні і выпуск комплексу кніг «Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага», якія ўпершыню раскрыюць многія невядомыя старонкі айчыннай гісторыі, пазнаёмяць грамадскасць і міжнародную супольнасць з багатай духоўнай спадчынай беларускага народа ў перыяд сярэднявечча.

Па-трэцяе, не спыняць навукова-даследчую працу па падрыхтоўцы і выданні ўнікальных тамоў «Вялікага гістарычнага атласа Беларусі», у якіх на аснове найноўшых распрацовак айчынных і замежных навукоўцаў упершыню будзе прадстаўлена нацыянальная гісторыя з 1569 года, адлюстраваны найноўшыя дасягненні развіцця сучаснай Беларусі.

Па-чацвёртае, на аснове матэрыялаў археалагічных, гістарычных, культуралагічных і філасофскіх падрыхтаваць новыя арыгінальныя кнігі серыі «Старажытныя гарады Беларусі» (Полацк, Мінск, Заслаўе, Орша, Брэст і інш.), у якіх будзе раскрыта не толькі гісторыя, але і аблічча іх арыгінальнай забудовы, што дазволіць відочна прадэманстраваць гарадскую культуру і побыт шматлікіх рэгіёнаў Беларусі.

Па-пятае, папоўніць серыю кніг «Людзі беларускай навукі», якая раскрые шматграннасць гісторыі беларускай навукі.

Па-шостае, навуковыя даследаванні стануць асновай падрыхтоўкі і выдання шматтомных фундаментальных прац: «Культура Беларусі: актуальныя праблемы развіцця»; «Звод рухомых помнікаў гісторыі і культуры Беларусі»; «Звод помнікаў духоўнай культуры Беларусі»; «Беларускага фальклорна-этналінгвістычнага атласа»; «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» 14—16 тамы.

Па-сёмае, працяг выдання фундаментальнай 6-томнай «Гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі», 3-томнай «Гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі».

Па-восьмае, падрыхтоўка і выданне першага навукова-каменціраванага Збору твораў Івана Шамякіна.

Вырашэнне гэтых складаных і дзяржаўна важных задач грунтуецца на высокім навуковым патэнцыяле акадэмічных вучоных-гуманітарыяў, якія здольны працаваць на лепшым еўрапейскім узроўні, узброены неабходным метадалагічным інструментарыем. Сёння ў склад Аддзялення ўваходзяць шэсць дзяржаўных навуковых устаноў: Інстытут філасофіі, Інстытут эканомікі, Інстытут сацыялогіі, Інстытут гісторыі, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы, Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. У канцы 2010 года пастановай Прэзідыума НАН Беларусі ў склад Аддзялення ўключаны Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі і Выдавецкі дом «Беларуская навука». У навуковых установах плённа працуюць 533 даследчыкі, у тым ліку 8 акадэмікаў і 16 членаў-карэспандэнтаў, а таксама 64 дактары і 206 кандыдатаў навук.

Многія супрацоўнікі Аддзялення з'яўляюцца не толькі гонарам НАН Беларусі, але і нашай краіны. Працы найбольш яркіх прадстаўнікоў гуманітарнай сферы Усевалада Ігнатоўскага, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Паўла Горына, Зміцера Жылуновіча, Сцяпана Некрашэвіча, Сямёна Вульфсана, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Цімафея Гарбунова, Казіміра Буслава, Міхася Лынькова, Мікалая Нікольскага, Уладзіміра Перцава, Петруся Броўкі, Заіра Азгура, Пятра Глебкі, Максіма Танка, Івана Краўчанкі, Васіля Барысенкі, Віктара Каваленкі, Алеся Адамовіча, Мікалая Бірылы, Міхася Лазарука, Іларыёна Ігнаценкі, Івана Шамякіна, Аляксандра Падлужнага, Альфрэда Майхровіча, Івана Навуменкі, Міхаіла Савіцкага не толькі шырока вядомы ў Рэспубліцы Беларусь, але і за мяжой. Яны аказалі велізарны ўплыў на грамадска-палітычнае жыццё краіны, спрыялі фарміраванню нацыянальнага і духоўна-культурнага аблічча Беларусі XX стагоддзя.

Значны ўклад супрацоўнікаў Аддзялення ў развіццё нацыянальнай літаратуры і культуры высока ацэнены дзяржавай. У свой час акадэмікам Петрусю Броўку і Максіму Танку была прысуджана Ленінская прэмія, 13 членам Аддзялення — Дзяржаўная прэмія СССР. Звыш 50 чалавек удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі.

Аднаму з першых высокае званне Героя Беларусі прысвоена акадэміку М. А. Савіцкаму. Членамі Аддзялення сёння з’яўляюцца Прэм’ер-міністр Рэспублікі Беларусь, доктар эканамічных навук, прафесар, член-карэспандэнт М. У. Мясніковіч, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук, прафесар Р. А. Васілевіч, Першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, доктар педагагічных навук, прафесар А. М. Радзькоў.

На Першым з’ездзе вучоных Беларусі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка справядліва падкрэсліў, што гуманітарныя навукі «асабліва актуальныя для нашай маладой дзяржавы, у якой шмат чаго яшчэ фарміруецца, знаходзіцца ў стадыі станаўлення»[1]. Гэта патрабуе крытычнага перагляду старых і выпрацоўкі новых фундаментальных метадалагічных прынцыпаў, на падставе якіх ажыццяўляецца дзейнасць і прымаюцца рашэнні на розных узроўнях грамадскай арганізацыі. Адказваючы на выклікі часу, трэба распачаць сістэмную працу па вырашэнні праблем метадалогіі дзяржаўнага будаўніцтва, сацыяльнага кіравання, адукацыі і выхавання, камунікацыі, міжкультурнага ўзаемадзеяння і інтэграцыі.

Неабходна вылучыць наступныя важнейшыя напрамкі: стварэнне комплексу сучасных сродкаў гуманітарнага пазнання, якія раскрывалі б прыроду такой складанаарганізаванай, шматузроўневай, дынамічнай сацыяльнай рэальнасці, як сучаснае беларускае грамадства; даследаванне асаблівасцей функцыянавання нацыянальнай дзяржавы ва ўмовах глабальнай бяспекі, міжэтнічнага, міжкультурнага, міжканфесійнага дыялогу; вывучэнне характэрных рыс беларускай нацыянальнай культуры не толькі як сістэмы матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, але і як дзейнасці, накіраванай на захаванне, узнаўленне і трансляцыю прынцыпаў і нормаў мыслення, асноў светапогляду і «жывой» ідэалогіі, што складаюць базіс сацыяльна адказнай асобы — грамадзяніна нашай краіны.

Выключна важная задача — актуалізацыя айчыннай інтэлектуальна-культурнай спадчыны, узнаўленне забытых старонак гісторыі і культуры. Тое, што многія персаналіі, ідэі, канцэпцыі, помнікі нашай гісторыі ўводзяцца ў сусветны навуковы і культурны ўжытак, істотным чынам «працуе» на міжнародны імідж беларускай навукі і дзяржавы ў цэлым.

Вялікае значэнне набывае кансалідацыя беларускай гуманітарнай супольнасці ў пошуку шляхоў пераадолення крызісу духоўнасці і павышэння чалавечага патэнцыялу, гарманізацыі сацыяльна-прыродных адносін.

І нарэшце апошняе — хоць можна назваць гэты напрамак і найважнейшым — фарміраванне інавацыйнай культуры. Памылкова разумець інавацыйны працэс як простае механічнае абнаўленне тэхналогій вытворчасці і выпрацоўкі схем упраўлення. Інавацыйнае развіццё беларускага грамадства — па-свойму ўнікальная, шматаспектная задача, якая ўключае ў сябе і захаванне традыцыйных сацыяльных форм і сувязей, і ўкараненне новых тэхналагічных і арганізацыйных механізмаў, і пераарыентацыю сістэмы ведаў на актуальныя праблемы нацыянальнага будаўніцтва, і неабходную экалагічную і этычную экспертызу прагрэсу тэхналогій. Гістарычны вопыт вучыць: поспех навуковых і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у любой дзяржаве залежыць ад светапогляду сучаснікаў, іх культуры, маральна-этычных якасцей і паводзін людзей, іх актыўнага і добрасумленнага ўдзелу ў жыцці.

---

[1] Лукашенко А. Г. Стратегия будущего. //Первый съезд ученых Республики Беларусь. — Мн. 2007. С. 35.

Васіль ЛЯНОВІЧ

# СІЛА НАЦЫІ — У СІЛЕ ДУХА

**ЦАРКВА ЗАКЛІКАЕ ДА АДЗІНСТВА.**

**Слова Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла.** *Складанне А. У. Вялько. Мн.: Беларуская Праваслаўная Царква, 2010.*

**СІЛА НАЦЫІ — У СІЛЕ ДУХА.**

**Кніга разваг Свяцейшага Патрыярха Кірыла.**

*Складанне А. У. Вялько. 2-е выданне. Мн.: Беларуская Праваслаўная Царква, 2009.*

**БЫЦЬ ВЕРНЫМ БОГУ.**

**Кніга гутарак са Свяцейшым Патрыярхам Кірылам.**

*Складанне А. У. Вялько. 2-е выданне. Мн.: Беларуская Праваслаўная Царква, 2010.*

На шчасце, часы ваяўнічага атэізму канулі ў Лету. Часткай гісторыі стала і цэлая эпоха, звязаная з насіллем духу, з адмаўленнем чалавеку ў праве мець уласнае меркаванне на пэўныя падзеі, ролю асобных гістарычных асоб. Яшчэ, што таксама немалаважна, а калі глядзець шырэй і глыбей, то гэта, бадай, адзін з галоўных набыткаў апошніх дзесяцігоддзяў у духоўным плане — не на словах, а ў рэальнасці вяртанне да агульначалавечых каштоўнасцей: «Сэрца радуецца таму, што сёння на прасторах гістарычнай Русі адбываецца адраджэнне веры. І як бы ні злараднічалі тыя, каму гэтае адраджэнне непрыемнае, яно праходзіць не таму, што нехта загадаў народу адрадзіцца ў веры, не таму, што нехта перстам з вышыні ўказаў, каму і куды ісці, а таму, што наш народ, перажыўшы ўсе гэтыя мукі і пакуты, зразумеў — як, магчыма, ні адзін іншы народ — вялікую ісціну, што жыць трэба з Богам і па Божым законе».

Гістарычная Русь — гэта, як вядома, Расія, Беларусь і Украіна. Прыведзенае ж выказванне ўзята са Слова Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла, якое прагучала пасля Боскай літургіі ў Свята-Георгіеўскім храме на Паклоннай гары 6 мая 2010 года. Звярнуў тады Свяцейшы ўвагу і на такі важны момант: «І сёння наша малітва менавіта аб гэтым — каб моцнай была вера нашага народа, каб мы маглі справіцца з нашымі жыццёвымі цяжкасцямі гэтаксама, як нашы продкі справіліся са смяротнай небяспекай, каб Гасподзь дараваў нам часціцу той вернасці і веры, якія меў святы вялікапакутнік Георгій Пабеданосец, святыя пакутнікі, якія сталі сімваламі Перамогі — той Перамогі, якая здзейснілася па Божай волі».

Слова Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі набывае важкі сэнс, вялікае значэнне не толькі таму, што Свяцейшы Кірыл узначальвае Праваслаўную Царкву. Да ягонага голасу прыслухоўваюцца не адны вернікі. Да яго меркаванняў, вывадаў, яго стаўлення да тых ці іншых падзей не могуць заставацца абыякавымі і тыя, хто пакуль яшчэ не вызначыўся з верай у Бога. Іначай і быць не можа. Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі з'яўляецца аўтарытэтным багасловам, высокаадукаваным чалавекам, які ўмее на дзіва пераканаўча, аргументавана данесці свае думкі. Прытым робіць гэта так ярка, што тое, што выказвае ён, бярэ за жывое.

Слова Свяцейшага Кірыла — гэта слова чалавека неабыякавага за будучыню народа, сапраўднага патрыёта,

які, годна выконваючы місію таго высокага служэння, на якое яго паставіў сам Гасподзь, ад імя Праваслаўнай Царквы заклікае да адзінства, пастаянна праводзіць думку аб тым, што сёння Праваслаўная Царква ідзе насустрач кожнаму, хто гатовы прыслухацца да яе голасу. Адкрываючы свае дзверы людзям неабыякавым, яна становіцца тым агульным домам, якога пакуль так не стае шмат каму з тых, хто яшчэ не вызначыўся са сваёй пазіцыяй у гэтым свеце. Так ужо атрымліваецца, што людзі раздзелены па палітычных, сацыяльных, маёмасных, нацыянальных і іншых прыкметах. Праваслаўная ж Царква заўсёды гатова прытуліць іх у сваім агульным доме, увайшоўшы ў які, шмат што пачынаеш успрымаць другасным, не вартым увагі, не істотным, а на першы план выступае вера, што вядзе да Бога. Таму Праваслаўная Царква і шукае аднадумцаў сярод тых, хто яшчэ знаходзіцца ў пошуку ісціны.

«Царква заклікае да адзінства» — так называецца і адна з кніг трохтомніка, выпушчанага Выдавецтвам Беларускага Экзархата. Усе тры кнігі — гэта ўспрыманне як самой рэчаіснасці, так і гісторыі Святейшым Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Кірылам. У першай з гэтых кніг прыводзяцца вытрымкі з выступленняў, пропаведзей, гутарак і інтэрв'ю Святейшага Патрыярха, які стаіць за захаванне адзінства ўнутры Рускай Праваслаўнай Царквы, а таксама заклікае да адзінства і супрацоўніцтва Царквы і дзяржавы. Калі ж глядзець шырэй, то гэта і імкненне да адзінства людзей розных поглядаў і перакананняў. Пры тым не толькі ў самім грамадстве, а і «на ўзроўні любога чалавечага аб'яднання — сям'і, працоўнага калектыву, вёскі, горада».

Наступная кніга — «Сіла нацыі — у сіле духа» — па сутнасці працяг першай. Гэта відаць нават па свайго роду эпіграфу, у якасці якога вынесена такое меркаванне Святейшага Патрыярха: «Калі мы пачнём служыць адзін аднаму, падтрымліваць адзін аднаго і несці адзін за аднаго адказнасць — тады мы дасягнем жыццёва важнага для нас адзінства». Зразумела, што абсяг меркаванняў, выказванняў — шырокі, але ўсё па сутнасці зводзіцца да адной думкі: Праваслаўная Царква становіцца ўсё больш адкрытай для грамадства. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, тое, што важнейшыя царкоўныя падзеі асвятляюцца ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку па радыё і тэлебачанні. Праваслаўная Царква, паслядоўна праводзіць сваю думку Патрыярх Кірыл, становіцца царквой усяго народа, ператвараецца ў ягоную духоўную апору. А чым больш моцны народ духоўна, тым мацнейшай становіцца і нацыя ў цэлым.

У трохтомнік увайшла і кніга «Быць верным Богу». Змест яе склалі выступленні і інтэрв'ю, дадзеныя Святейшым патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі шэрагу часопісаў і газет у розныя гады яго архіпастырскага служэння, а таксама радыё і тэлебачанню. Аспект праблем, якія закранаюцца, самы шырокі, што відавочна па тых вытрымках, якія прыводзяцца ў кнізе. Дакладней, нават па саміх ужо загалоўках іх: «Як чалавеку захаваць праваслаўны лад жыцця і норму веры?», «Царква зусім не супраць новых адкрыццяў і прагрэсу», «Сусветная гандлёвая сістэма. Свабода? Справядлівасць? Дэмакратыя?», «Самая вялікая праблема цяпер — гэта крызіс чалавечай асобы», «Свабода па-за маральнай сістэмай каштоўнасцей небяспечная», «Не бойцеся быць сабой! Не саромейцеся вернасці сваім духоўным і маральным каштоўнасцям!» і г. д.

Калі знаёмішся з трохтомнікам у цэлым, істотны і такі момант: Святейшы Кірыл адкрыты свету і людзям, у ягоных выказваннях няма якіх-небудзь недагаворак, пры тым гэта тычыцца не толькі ягонага архіпастырскага служэння. Прынамсі, у гэтым пераконвае такое выказванне Святейшага Патрыярха, узятае эпіграфам да кнігі «Быць верным Богу»: «Няма і не можа быць у жыцці Патрыярха нічога асабістага, прыватнага: ён сам і ўсё яго жыццё без астатку належаць Богу і Царкве, яго сэрца баліць аб народзе Божым, асабліва ж аб тых, хто адышоў ад царкоўнага адзінства і хто яшчэ не набыў веру».

Дарэчы, ужо само жыццё Святейшага варта асобнай кнігі. У гэтым упэўні-

ваешся не толькі праз прызнанні Патрыярха Кірыла, а дзякуючы ягонай біяграфіі, што прапануецца ў кнігах «Сіла нацыі — у сіле духа» і «Быць верным Богу». Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл (у міру Уладзімір Міхайлавіч Гундзяеў) — ленінградзец. Святаром быў і ягоны бацька, а дзед за царкоўную дзейнасць і барацьбу з абнаўленнем у 20-х, 30-х і 40-х гадах мінулага стагоддзя падвяргаўся турэмнаму зняволенню, высылаўся. З'яўляўся ён і вязнем сумнавядомых Салаўкоў. З маленства будучы Патрыярх не сумняваўся ў тым, што таксама прысвеціць сваё жыццё служэнню Богу, таму ніколі не быў ні піянерам, ні камсамольцам. Па яго прызнанні, «у 15 гадоў ... пайшоў з дому, стаў працаваць, лічыў, што не павінен сядзець на шыі ў бацькоў. Перайшоў у вячэрнюю школу. Потым працаваў у геалагічай экспедыцыі». Скончыў Ленінградскую Духоўную семінарыю і Ленінградскую Духоўную акадэмію. Перад тым, як Памесны Сабор Рускай Праваслаўнай Царквы 27 студзеня 2009 года выбраў яго Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі, быў Мітрапалітам Смаленскім і Калінінградскім.

Між іншым, словы Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла пасля інтранізацыі ў саборным Храме Хрыста Спасіцеля 1 лютага 2009 года засведчыла, наколькі новы Патрыярх усведамляе тую высокую місію, якая стаіць перад ім як абаронцам «знешніх кананічных рубяжоў Царквы»: «Гэта служэнне набывае асаблівае значэнне ў той сітуацыі, што ўзнікла пасля ўтварэння незалежных дзяржаў на прасторы гістарычнай Русі. Паважаючы іх суверэнітэт і клапоцячыся аб дабрабыце кожнай з гэтых дзяржаў, Патрыярх у той жа час прызваны клапаціцца аб захаванні і ўмацаванні духоўных сувязей паміж насяляючымі іх народамі ў імя зберажэння той сістэмы каштоўнасцей, якія дае свету адзіная праваслаўная цывілізацыя Святой Русі».

Часткай гэтай «адзінай праваслаўнай цывілізацыі Святой Русі» з'яўляецца і Беларусь. На сустрэчы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам 25 верасня 2009 года Сцяцейшы Кірыл адзначыў: «Дух беларускага народа за стагоддзі знаходжання ў праваслаўнай веры сцвердзіўся ў сапраўдным шанаванні Бога і набыў непарушныя асновы сваёй нацыянальнай самабытнасці ў Евангельскіх запаведзях. Усё ХХ стагоддзе стала для беларускага народа часам выпрабаванняў. Рэвалюцыйнае ліхалецце, час ганенняў на веру, Другая сусветная вайна, Чарнобыльская трагедыя прынеслі шмат гора і слёз. Але народнае цярпенне і працалюбства, выхаваныя хрысціянскімі ідэаламі самаахвярнасці і любві да бліжняга, змаглі пераадолець наступствы ўсіх гэтых катастроф. І сёння, прайшоўшы праз узрушэнні, Беларусь зноў ідзе да цвёрдай апоры і надзейнай саюзніцы сваёй дзяржаўнасці — да праваслаўнай веры, якой жыве набожны беларускі народ».

Нельга не пагадзіцца са Свяцейшым Кірылам і ў тым, «што наша адзінства — адзінства духоўнай прасторы Святой Русі, гістарычнай Русі — гэта агромністай сілы цывілізаваны праект, і ён не прызначаны для таго, каб быць вядзёным. Ён прызначаны для таго, каб генерыраваць ідэі, і гэта цяпер адбываецца...» Патрыярх упэўнены: «Духоўны патэнцыял народа разам з моцным духам становяцца непарушнай сілай для паспяховага развіцця Беларусі ў трэцім тысячагоддзі».

Развагі Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла, ягоныя выказванні — гэта сапраўднае апірышча духоўнасці. Пазнаёміўшыся з трохтомнікам, лішні раз упэўніваешся, што сіла нацыі ў духоўнасці, таму, прыслухаемся яшчэ раз да Свяцейшага Патрыярха: «Трэба рабіць усё магчымае для таго, каб сувязі нашых народаў, выпрабаваныя стагоддзямі, былі непарушнымі; каб Праваслаўная Царква была тым духоўным змацаваннем, якое ўтрымлівае ў адзінстве культурную і цывілізаваную прастору, гэты неацэнны скарб, што дастаўся нам у спадчыну ад продкаў».

Казімір КАМЕЙША

# КАБ НЕ РВАЛІСЯ ЖЫВЫЯ НІЦІ

**Віктар ШНІП. Проза і паэзія агню.** *Вершы, аповесці, эсэ. Серыя «Беларуская паэзія XXI стагоддзя». Мн.: Мастацкая літаратура, 2010.*

Здаецца, яшчэ нядаўна яго імя часта гучала ў пераліку маладзейшых пер-спектыўных паэтаў, яму прарочылі добрую творчую будучыню. Час бяжыць, і сёння маладзейшаму ўжо за поўдзень веку. Не памыліліся і прарочцы. У асобе Віктара Шніпа мы маем даўно прызнанага, з уласнай індывідуальнай акрэсленасцю, манерай, непадобнага на іншых паэта. Не правакуе сябе на ягоным прыкладзе і даўно сцверджаная ісціна: абраў сабе сцягу, то і трымайся яе, не мітусіся, не зварочвай на больш прываблівыя, роўныя і, магчыма, больш прыкметныя ды прыцягальныя. А спакуслівае, не тваё, яно заўсёды нетрывалае. Паэту, будучы асобай надзвычай чуйнай да ўсяго навакольнага, вельмі важна ў першую чаргу (і своечасова) пачуць голас уласнай душы, прыслухацца да яго і прамаўляць толькі гэтым голасам. Іншыя хоць і імкнуцца да такога, ды часцей за ўсё лёгка і суладна спяваюць у агульным шматгалосым хоры, дзе іх індывідуальныя, асабістыя рысы расплываюцца і трацяцца. У агульным харавым спеве нават непаўторная птушка губляе непаўторнасць свайго голасу. Але ўцёкі «з хору» даюцца творцам заўсёды цяжка. Ды і не церпіць гэтага крытыка, што заўсёды рыхтуе творцу свае рэцэпты, свае правілы руху, якія зноў жа вядуць ці не ў той самы «хор».

Выйграе заўсёды той, хто ідзе сваім шляхам, ні на кога не азіраючыся, слухаючы, але не прытрымліваючыся крытычна-рэцэптурнага. Іменна такі шлях аднойчы абраў сабе і В. Шніп. Па ім ён не толькі крочыць, але і прыпыняецца, нібы азіраючыся на тое, што пройдзена, часам ступае ў адны і тыя ж сляды, пачынае нібы ўсё спачатку. Крытыкі ўжо даўно добра бачаць ягоную паходку, загадзя ведаюць усе яго звыклыя павароты і манеўры, усю логіку і простасць хады. Шмат чаго яны не прымаюць у яго творчасці. А ён ідзе. І, прадчуваючы ўсё тое непрымальнае ў сваёй новай кнізе «Проза і паэзія агню», паэт апярэджвае сваіх «непрыхільнікаў» вершам:

Я зноў пра Храмы, сум,  
любоў і пра крыжы,  
Пра сцежкі, валуны, князёў  
і пра магілы…  
А вы мне кажаце:  
«Пра гэта болей не пішы!»  
Як не пісаць, калі ўсё гэта  
край мой мілы?!  
І кожны верш мой новы — новая царква,  
Дзе я малюся і дзе сам я чую Бога.  
І вінаваты я, калі ўзрасла трава  
Ля храма і ўтравела да святынь дарога.

Вось гэтак апярэдзіўшы (ці папярэдзіўшы) сваіх крытыкаў і чытачоў, В. Шніп адразу запрашае нас да вельмі няпростага чытання першага, стрыжнявога раздзела сваёй кнігі «Балады крыві і любові». І мы, яшчэ непадрыхтаваныя пасля ўступнага верша, нібыта адчуваем нейкую разгубленасць, бо пачынаецца, бяжыць перад вачыма жалобны спіс імён і дат, перад якімі і сама гісторыя павінна ўкленчыць. Вунь колькі імёнаў і ў якім разрэзе часу! Кожнаму імені і адрасуецца адна з балад.

Сказаць шчыра, калі пачынаеш чытаць балады, увесь час не пакідае адчуванне нібыта ты знаходзішся ў сценах нейкага незвычайнага пантэона, дзе прамаўляе толькі памяць, а душу вярэдзіць нейкі трывожлівы халадок жаху, як быццам на цябе глядзяць вочы саміх герояў балад, нібыта чуеш у згустках цішыні іх крокі. Прыкладна такое адчуванне было ў мяне, калі спускаўся ў склеп Нясвіжскага касцёла, дзе захоўваюцца труны (мноства вялікіх і малых трун) радзівілаўскага роду.

Каля ста сямідзесяці балад (я так і не зразумеў гэтага «каля»), як сказана ў анатацыі да кнігі, сабрана пад адной вокладкай, а гэта ж столькі і чалавечых лёсаў, амаль столькі ж трагедый. Нават сам пералік імён і даты ў дужках змушаюць задумацца, а часам і адкласці тое чытанне дый паразважаць, ужо без самога аўтара над вялікай, багатай і шматпакутлівай гісторыяй нашага народа. Бо так многа адразу і болю, і слёз, і крыві, і ўсяго іншага, што бачыцца за гэтымі імёнамі. Балады робяць сваю справу. Чытач дасведчаны пачне адразу шукаць у іх пацвярджэнне нейкіх сваіх меркаванняў, здагадак, прыкладаў. Недасведчаны ж хутчэй за ўсё не праміне звярнуцца да гістарычных крыніц, шукаць энцыклапедычнае тлумачэнне прачытанаму. Бо не кожны здольны ўсвядоміць у нейкай няўлоўнай метафары нешта намнога аб’ёмнейшае і па часе, і па сваім насычэнні. Толькі дасведчаны можа прачытаць у наступных радках пра Еўфрасінню Полацкую гісторыю, у якой заключана не адно стагоддзе:

Нібы малітва, праз жыццё дарога
Твая не зарасце палын-травою,
А стане вечным крыжам Еўфрасінні,
Які шукаць, губляць, ізноў знаходзіць
Нам на зямлі, якую не пакіне
Ніколі Бог, бо Ён жыве ў народзе,
Як ты жывеш у нашае Айчыне…

Уся балада будуецца на вобразе славутага крыжа Еўфрасінні. Толькі той, хто ведае сакрэты і магчымасці паэзіі, можа меркаваць, наколькі аўтару ўдалося засяродзіцца на незвычайным вобразе. Бо і ў самім крыжы, яго знікненні і незвычайным уваскрэсенні, ёсць шмат сімвалічнага, роднаснага прыёмам паэзіі.

Мы не ставім сабе задачай спыняцца на кожнай баладзе, адзначым толькі, што да вядомага гістарычнага матэрыялу паэт падыходзіць з пункту гледжання і агульнавядомай, даўно ўсталяванай думкі, дадаючы сюды хіба нейкае адценне сваіх уласных суперажыванняў.

Незвычайны паэтычны пантэон В. Шніпа завяршаецца «Баладай Анатоля Сыса». Гэта ўжо самае блізкае да нас па часе імя, у многім супярэчлівае, з добрым, часта неапраўданым арэолам узвялічанасці. Які ж тут мастацкі вобраз знаходзіць паэт, каб акрэсліць сваю думку, якая ў прынцыпе ва ўсіх баладах адна: засведчыць імя таго, хто усёй сутнасцю і жыццём сваім ахвяраваўся Беларусі, яе несмяротнасці? За аснову бярэцца вобраз вышыванай нацыянальнай кашулі, у якой, як згадваюць сябры А. Сыса, паэта праводзілі ў апошні шлях у родным палескім Гарошкаве. Вобраз кашулі нібыта дадае пяшчоты і лагоды і вобразу самога паэта Сыса. Крыху менш давяраеш аўтару, калі ён, выкарыстоўваючы вядомыя радкі Аляксея Пысіна «Ведайце: калі мяне не стане — я ў сваю дывізію пайшоў», кліча і паэта, свайго аднагодка, Алеся Пісьмянкова ўжо ў пысінскую дывізію: «Ён да Аляксея Пысіна / У яго дывізію пайшоў…»

Увогуле хацелася б хоць крыху паразважаць пра сам жанр балады. Ці не занадта па-свойску вольна абыходзіцца з ёй В. Шніп? І такое меркаванне даводзілася чуць ад сваіх калег-паэтаў. Што ж, балада — не санет. Гэта таму шанцуе ад пачатку і да дзён сённяшніх. Ён і самых маладзейшых, што ў рожкі бяруцца з усім традыцыйным, змушае цюцелька ў цюцельку ўкладвацца ва ўсе параметры пракрустава ложа яго формы. Але толькі самой формы. На ўсё астатняе наклаў сваю пячатку час. А вось баладзе пашанцавала менш. Думаю, і самаму вялікаму «баладніку» В. Жукоўскаму было б сёння дзіўным пабачыць, як нязвыкла змяніўся яго каронны жанр.

Даследчыкі, мне здаецца, мала ўдзяляюць увагі гэтай, некалі запатрабаванай, форме паэтычнага самараскрыцця. Балада, вытокі якой ляжаць у фальклоры, зведала шмат якія этапы свайго развіцця. Можна спрачацца адносна таго, узбагацілі яны ці збяднілі яе магчымасці, аднак прыйшла яна ўрэшце да звычайнага верша, дзе абавязкова падкрэсліваецца гістарычная значнасць самой дзеі. У баладзе абавязкова мусіць быць галоўны герой, у той час як у лірычным вершы ён часта толькі падразумяваецца.

Думаю, шмат істотнага ў зрух баладнай традыцыйнасці ўнесла і героіка Вялікай Айчыннай вайны. Здаецца тады, падкрэсліваючы трагічнае і славячы гераічнасць народнага змагання, жанр балады зноў запатрабаваў тое далёкае, фальклорнае, яго асноўныя прыёмы. І тады зусім натуральна загучалі вядомыя балады А. Куляшова, П. Броўкі, А. Вялюгіна, А. Бялевіча. Баладнае часта бачылася творцам у безвыходнасці самога моманту. Як тут не згадаць «Смерць Маланні» А. Бялевіча, дзе чалавечы лёс трымціць на агеньчыку свечкі, якую праз вёску на вятры пад спагаднымі позіркамі людзей, нясе гераіня твора Маланця.

Баладнае, як уласна жанравае, і сёння многім паэтам бачыцца менавіта ў безвыходнасці сітуацыі. Што ж тычыцца В. Шніпа, дык ён, як мне здаецца, сам таго не падазраючы, выпрацаваў сваю ўласную мадэль балады, сканцэнтраваўшы ўсю ўвагу на пераасэнсаванні чалавечага лёсу. Але за кожным лёсам, падкрэслім гэта яшчэ раз, мусіць абавязкова стаяць лёс самой Беларусі. Урэшце, словы «Беларусь», «Бог», «Храм», «Царква» малітоўна прамаўляюцца ледзь не ў кожным творы паэта. Добра гэта ці дрэнна? Замест адказу дадзім слова самому паэту: «І я задумаўся: «Вельмі ўжо часта слова «Бог» прысутнічае ў маіх вершах. І гэта, кажуць крытыкі, вельмі дрэнна… І я разумею іх, але ж…»

Вось гэтае «але ж» — не проста нейкая ўлюбёнасць паэта, якая сама па сабе перарасла ў звыкласць прыёму. Думаецца, гэтага вымагае аўтарскі прынцып: не паўтараць кагосьці, а лепш ужо лішні раз, але падкрэслена, паўтарыць сябе.

На мой погляд, кнігу паэта ўдала разнастаяць празаічныя, амаль дзённікавыя мініяцюры з раздзела «Вечнае і роднае». Адчуваецца насцярожанае жаданне аўтара сягнуць за межы паэзіі і больш памяркоўна аддацца чарнавой рабоце прозы, дзе таксама ёсць свой «агонь», свая «краса і сіла». Але сэнс і сутнасць творчасці, відаць, усё ж не ў агні, а ў самім гарэнні. Адчуваецца, што ў прозе паэту няўтульна, і ён увесь час хапаецца за выратоўнае крыло верша. Там для яго гарэнне больш адчувальнае і натуральнае. Наогул, проза для В. Шніпа па яго прызнанні — гэта «нітка, на якой жывуць вершы». Жывуць яны ці не жывуць, рвецца тая «нітка» ці не, пакажа час, а пакуль што можна сцвярджаць, што паэт шукае, працуе нястомна, у поўную напругу сіл, і, магчыма, ён на парозе нейкіх значных, нечаканых адкрыццяў. Паэты, як правіла, і працуюць у імя таго самага адкрыцця. А што такое паэтычнае адкрыццё? Часта яно бачыцца і ў тым, калі і пра старое, даўно вядомае, сказана так нечакана, па-новаму, што яно адразу западае ў сэрца і нават робіцца тваім, неад'емным. Вось жа якой нечаканасцю «стрэльнула» для мяне чатырохрадкоўе пра старую хату:

Хата анямелая, сівая,
З шэраю буслянкай, бы вянком,
Вокнамі задумна пазірае,
Склаўшы рукі на дзвярах замком.

Ну як не парадавацца такой знаходцы! А зусім побач адкрылася, сталася маім, блізкім, і такое:

Цыбулю мама у вянкі пляце,
Нібыта дочкам заплятае косы.
Ёй чуецца ў задумнай немаце
Гадоў забытых гоман шматгалосы…

Колькі ёмістага, лёсаносна-важкага закладзена тут у двух першых радках! Узнікае ў памяці адразу рой самых розных па-сялянску цёплых асацыяцый, прыпамінаў. Кранае ўсё ж, калі яно таленавіта.

Сам паэтычны вобраз, шніпаўская метафара будуецца вельмі проста — пры дапамозе ўдалага параўнання. Гэта добра відаць і па вышэй прыведзеным чатырохрадкоўі. Часам здзіўляешся, як гэта аўтару хапае тых самых параўнанняў. Яны ж у кожным вершы і неаднаразова. Тут усё, напэўна, залежыць ад багацця аўтарскага ўяўлення. Калі аўтар нас зрокава пераконвае, што полымя агню акрэслівае абрысы менавіта храма, дык і даверу да яго роўна столькі, колькі сілы ў тым пераканнні. Калі параўнанне здольнае ўзрушыць цябе сваёй нечаканасцю і апантанай праўдзівасцю, тады яно выконвае сваю адведзеную яму ролю, тады, як кажуць, яно да месца, а іншае месца будзе ўжо не ягоным.

Шніпаўскія частыя «як» і «нібы» ў мяне не выклікаюць ніякай раздражнёнасці, хоць часам яскрава бачыш, што мера ўсё ж перабіраецца. Не адным мной гэта заўважана. Магчыма, у далейшым В. Шніп прыйдзе і да большай разнастайнасці сваёй мастацкай палітры. Час пакажа.

А наогул сваёй новай кнігай паэт яшчэ раз сцвярджае свой абавязак чалавека і грамадзяніна быць за ўсё ў адказе на гэтай зямлі, дзе жывеш хоць і часова, але мусіш служыць вечнасці. Пра сваё чалавечае прызначэнне ў адным з вершаў ён піша так:

Хто я? Што я? Толькі, як усе, вандроўнік  
У прасторы вечнай вечнасці зямной.  
Ды ўсё ж мне ніколі не было ўсё роўна,  
Хто і як жыве тут на зямлі са мной…

Пакуль жывеш, кажа ў адным з вершаў паэт, важна пачувацца на гэтай зямлі не слупам, а дрэвам. У слупа няма каранёў, хоць ён таксама нясе сваю зямную службу, а вось у дрэва яны ёсць. У каранях не толькі жыццё, але і яго працяг. Карэнні, відаць, і ёсць тая нітка, на якой трымаюцца не толькі вершы, а і само жыццё.

# Т

Арцём ЛАГОДА

# ТОНКІ ЛЁД — СМЕЛЫМ НЕ ПЕРАШКОДА

**Григорий АНДРЕЕВЕЦ. Сто лет Анисимова.** *Документальный роман. Гомель, ОАО «Полеспечать», 2011.*

Рыгор Андрэявец — пісьменнік шматграннага таленту. Прынамсі, у сваёй творчасці ён не абыходзіць увагай гістарычную тэму, аб чым сведчыць, у прыватнасці, ягонае даследаванне «Невядомая Беларусь», у якім упершыню прасочваецца выхад беларусаў у Расію на працягу тысячы гадоў, а гэта па падліках Р. Андрэяўца звыш 10 мільёнаў чалавек. Атрымліваецца цэлая краіна. Праўда, «Невядомая Беларусь» яшчэ на падыходзе да чытача, але няма сумнення, што яна будзе запатрабавана.

Упэўнена асэнсоўвае Р. Андрэявец і нядаўняе мінулае. У прыватнасці, у кнізе «Резидент Генерального штаба» ён першым расказаў пра чалавека ўнікальнага лёсу, ураджэнца Беларусі Івана Коласа. У гады вайны І. Колас быў адным з арганізатараў партызанскага руху на Палессі, потым з'яўляўся разведчыкам, напісаў некалькі кніг. За мужнасць і геразім у гады Вялікай Айчыннай вайны яму было прысвоена ганаровае званне Герой Расійскай Федэрацыі.

Кнігі ж «Русская нива», «Белорусы в России» і «Две Родины» — ужо самая блізкая нам сучаснасць. У іх расказваецца пра тых беларусаў, якія не проста жывуць у Расіі, а дзякуючы сваёй дзейнасці ўваходзяць у эліту братняй краіны. У пэўнай ступені тое, наколькі паяднаны лёсы беларускага і рускага народаў, відаць і па новай кнізе Р. Андрэяўца «Сто лет Анисимова».

Гэтым разам асноўным героем пісьменніка стаў першы ўпраўляючы «Гомельэнерга» Мікалай Анісімаў, з дня нараджэння якога летась споўнілася сто гадоў. Адначасова кніга гэтая і пра гісторыю энергетыкі Гомельскай вобласці. У гэтай галіне Гомельшчына, дарэчы, з'яўляецца першынцам у нашай краіне, бо Гомельская цэнтральная электрастанцыя стала першай на тэрыторыі Савецкай Беларусі. Да таго ж адзінай, узведзенай паводле плана Дзяржаўнай электрыфікацыі... Расіі. Так, Расіі, а не Беларусі. Як і чаму гэта адбылося і можна даведацца з дакументальнага рамана, як пазначыў жанр гэтага твора сам аўтар.

Як і ў сваіх папярэдніх кнігах, асабліва тады, калі гэта тычыцца канкрэтных людскіх лёсаў, Р. Андрэявец не абмяжоўвае сябе толькі ўзнаўленнем тых фактаў, што маюць непасрэднае дачыненне да асноўнага дзеяння, а і заглыбляецца і ў даўнія падзеі, каб лепей высветліць і паказаць тую атмасферу, тыя рэаліі, што не маглі не прывесці да фарміравання менавіта такой, а не іншай асобы. У дадзеным выпадку Анісімава, які нарадзіўся ў горадзе Пінску, што некалі з'яўляўся сталіцай самастойнага княства.

На жаль, пра гэта ведаюць не ўсе, таму Р. Андрэявец і нагадвае асобныя факты з гісторыі горада над Пінай, адначасова расказвае пра адметнасць тамашніх мясцін, непаўторнасць палескай прыроды. Пасля чаго знаёміць чытача з родам Анісімавых. Дый як жа іначай — у героя ягонага аповеда менавіта анісімаўскія карані, ён жа сваёй работай, апантанай улюбёнасцю ў справу, што стала справай ягонага жыцця, даў ім новыя жыватворныя сокі.

Стаў тым, пра што ў прадмове «Вядучы ў будучыню» дакладна сказаў генеральны дырэктар Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Гомельэнерга» Аляксандр Петух: «Его без преувеличения можно назвать отцом энергетики Гомельщины. В самые тяжелые военные годы на его плечи была возложена работа по эвакуации и восстановлению Гомельской электростанции. И он блестяще справился с ней! Так же блестяще решил и задачу, связанную с теплофикацией областного города. Неизмеримы его заслуги и по электрификации сельского хозяйства области, когда огромная отрасль народного хозяйства получила новое ускорение в развитии. Он проработал на руководящих должностях ответственнейшей энергетической отрасли 35 лет. Не побоюсь этого слова, но он был гениальным руководителем, прибавившим к своему таланту и знаниям титаническое трудолюбие».

Магчыма, гучыць крыху і пафасна, але на дзіва праўдзіва і справядліва, у чым неаднойчы ўпэўніваешся, знаёмячыся з творам. Дзякуючы майстэрству аўтара, ягонаму ўменню пэўны факт падаецца так, каб ён, як кажуць, зайграў. Самы красамоўны прыклад таму — тое, што адбылося пасля таго, як восенню 1943 года, пасля вызвалення Гомеля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Анісімаў разам з іншымі энергетыкамі вяртаўся з Томска, дзе працаваў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Ехалі, зразумела, не з пустымі рукамі — везлі з сабой неабходны інструмент і прыстасаванні. Але цягніком дабраліся толькі да Навабеліцы. Далей чыгунка была разбурана, як і мост праз Сож. А лёд жа тонкі... Але, не зважаючы на гэта, рызыкуючы жыццём, паўзлі па ім з грузам. Затым, зноў жа паўзком, вярталіся назад і ўсё пачыналі спачатку.

Вобраз тонкага лёду тым самым становіцца свайго роду сімвалам. Такое жыццё было ў Анісімава, бо сам ён мусіў часам ісці быццам па тонкім лёдзе. Рызыкуючы, калі-нікалі дзейнічаючы на мяжы магчымага. Аднак гэта была ўсвядомленая рызыка. Дзеля таго, каб справа рухалася наперад. У імя таго, каб задуманае ажыццявілася. Р. Андрэявец і паказвае свайго героя такім кіраўніком, з якога трэба браць прыклад. Пра падобных людзей асабліва неабходна пісаць сёння, калі моладзь часам губляецца ў пошуку сапраўдных ідэалаў.

Свайго роду дапаўненнем да рамана «Сто лет Анисимова» з'яўляюцца ўспаміны тых, хто добра ведаў Мікалая Навумавіча, працаваў поруч з ім. Ад гэтага партрэт нашага выдатнага сучасніка, а менавіта такім і быў Анісімаў, становіцца яшчэ больш поўным і прывабным. Ён жыў так, як і трэба жыць: ярка, паўнацэнна, з поўнай аддачай. Гэтаму нельга не вучыцца.

# Т

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ВАНДРОЎКІ ПА ІГУМЕНШЧЫНЕ

***Ігуменскі павет здаўна прыцягвае маю краязнаўчую зацікаўленасць. Павет — гэта, зразумела, па-ранейшаму, з мінулых дарэвалюцыйных стагоддзяў, адміністраванню. Цяпер — гэта Чэрвеньскі, Пухавіцкі, Бярэзінскі, лапікі Смалявіцкага, Уздзенскага і Старадарожскага раёнаў. Вось і вандрую гадамі, шукаючы не толькі ў вёсках і іншых паселішчах Ігуменшчыны, але і ў архівах, бібліятэках, па ўсім свеце штосьці новае і мне дагэтуль невядомае пра наш край. Пра некаторыя знаходкі ўжо расказаў у кнігах «Сцежкамі Ігуменшчыны», «Ігуменскі блакнот», «І марам волю дам», пра іншыя расказваю цяпер. А шмат што яшчэ і надалей даследую, высвятляю. Прыклад са збіраннем матэрыялаў пра Ігуменшчыну паказвае, што вывучэнне айчыннай гісторыі, краязнаўства Беларусі — бясконцая праца…***

## Дарога ў Смілавічы

Нядаўна пошта прынесла ліст з Францыі. Ад пісьменніка Барыса Носіка. У карэспандэнцыі, адрасаванай у выдавецтва «Літаратура і Мастацтва», літаратар, які даследуе жыццё і творчасць рускіх мастакоў у эміграцыі, прапанаваў для публікацыі шэраг сваіх рукапісаў… А яшчэ праз некаторы час патрапіла на вочы кніга Барыса Носіка і Валерыя Жарліцына «Рускія мастакі ў эміграцыі» (з серыі «Другая радзіма»), выдадзеная ў Санкт-Пецярбургу ў 2007 годзе. Грунтоўны фаліянт, дзе расказваецца пра многіх жывапісцаў, скульптараў, графікаў, чые дарогі вялі ў вялікі свет колераў, фарбаў, мастацкай гармоніі пачыналіся з гарадоў і мястэчак Расійскай імперыі. У тым ліку — і з губерняў, паветаў сучаснай Беларусі. Ці не галоўны персанаж кнігі — ураджэнец чэрвеньскіх ці ігуменскіх Смілавіч Хаім Суцін.

Але ж і ў рускага пісьменніка Барыса Носіка — свая повязь з мястэчкам Смілавічы, з Мінскам, з Беларуссю. Чытаем у раздзеле «Ты што, са Смілавіч?» наступнае: «Быў ён, канечне, як і ўсе падобныя яму, прыдумшчык, міфастваральнік, нават датай яго нараджэння называюць то 1893, то 1894 год, але ў адным сыходзяцца ўсе біёграфы — у тым, што нарадзіўся ён кіламетрах у дваццаці на поўдзень ад беларускага горада Мінска, у мястэчку Смілавічы, і што мястэчка гэта было зусім захудалае. Так ужо склаўся мой лёс, што назва гэтая была ў нас з сястрычкамі з самага дзяцінства на слыху, таму што і бабуля мая, і мама нарадзіліся ў гэтых самых беларускіх Смілавічах, і яшчэ куча родзічаў…»

Расказваю пра гэтае завочнае знаёмства смілавіцкаму краязнаўцу Івану Паўлавічу Ярашэвічу. Ён зараз працуе ў мясцовым аграрэхнічным каледжы. А раней дырэктарстваваў у СШ № 1 г. п. Смілавічы. Стварыў у школе музей. Зрабіў шмат для зацікаўлення школьнікаў мясцовай гісторыяй. Вось зараз і мяне распытвае пра Носіка, цікавіцца, як з ім звязацца…

Барыс Носік, імя якога можна смела заносіць у «Літаратурную карту Чэрвеньшчыны», нарадзіўся ў Маскве ў 1931 годзе. Закончыў рэдактарскае аддзя-

ленне факультэта журналістыкі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. А крыху пазней — яшчэ і англійскі факультэт Інстытута замежных моў. І гэтая другая адукацыя зусім невыпадковая. Барыс Носік, акрамя англійскай, авалодаў яшчэ армянскай, польскай, італьянскай, французскай і нямецкай мовамі. Некаторы час працаваў на маскоўскім радыё, у англійскай рэдакцыі. А затым перайшоў на «вольны хлеб», каб пісаць прозу і падарожнічаць. Аб'ехаў Сярэднюю Азію, Каўказ, абышоў Крым, пабываў на Камчатцы, на востраве Берынга, падоўгу жыў у кішлаках Таджыкістана. Пазнаёміўся з гарадамі, вёскамі Прыбалтыкі, Чэхіі, Славакіі, Польшчы, Германіі… Паўсюль насіў з сабою слоўнікі, пішучую машынку.

Пераклаў творы Іўліна Во, Уільяма Сараяна на рускую мову. Выдаў тры падарожныя аповесці для падлеткаў. Напісаў цікавую дакументальную кнігу «Па Русі Яраслаўскай». У серыі «Жыццё знакамітых людзей» выйшаў біяграфічны аповед Б. Носіка «Швейцэр». Напісаў некалькі раманаў, якія прыйшлі да чытача ўжо ў 1990-я гады.

…А што ж Смілавічы? Вядома, дарэчы, як зняважліва згадваў сваю малую радзіму вялікі мастак. Нешта падобнае прысутнічала і ў сям'і Носікаў у Маскве. У Банным завулку, у двары, які быў перанаселены правінцыяламі, часта гаварылі: «Эх ты, дзярэўня, валёнак, калгаснік…» Ведалі б яны, якія сімпатычныя валёнкі робяць смілавіцкія шапавалы. Дарэчы, і зараз расійскія модніцы просяць, каб прывезлі альбо пераслалі ў Маскву ці куды-небудзь за Урал менавіта валёначкі са Смілавіч. Што ўжо казаць пра дзяцей, для якіх такі абутак у зіму самы цёплы і самы дарагі… А дома ў Носікаў гаварылі: «Ты што, са Смілавіч?» «Ну і бруду тут у вас, сапраўдныя Смілавічы!..»

І ўсё ж неяк трывожна-эмацыянальна вярталіся ў свядомасць Барыса Носіка маміны, бабуліны Смілавічы. Даведаўшыся, што родам са Смілавіч і «французскі мастак Хаім Суцін», пісьменнік і журналіст звяртаецца ў рэдакцыю часопіса «Советский экран», з якім супрацоўнічаў як вольны літаратар, з просьбай даць камандзіроўку ў Беларусь. Яшчэ і напісаў у заяве: «Прашу адправіць мяне за кошт часопіса на гістарычную радзіму». У рэдакцыі жарт не зразумелі, бо за «другую радзіму» лічылі далёкую ад СССР краіну. Давялося Носіку тлумачыць, што меў ён на ўвазе Смілавічы… Камандзіроўку ўсё ж выдалі. «…Тады я паляцеў у Мінск і адтуль на таксі рынуўся на поўдзень. Шафёрша высадзіла мяне на шашы насупраць мястэчка — некуды яна спяшалася. У іх заўсёды — свае важныя справы, твае — справа дзясятая. Я пайшоў праз поле і ўбачыў крыжы, могілкі… Падышоў бліжэй — не па-руску напісана, па-польску. Вось гэта навіна! Значыць, жылі тут палякі. Так, каторыя каталікі, тыя палякі, а праваслаўных называлі беларусамі. І яўрэяў тут жыло мноства. Увайшоў я ў Смілавічы і ўсё зразумеў. Я заспеў апошнія дні старых Смілавіч. Хутка пасля гэтага прыехалі бульдозеры, усё знеслі і набудавалі блочных хрушчоб. А калі я быў, усё было, як у часы маладосці прыгожай маёй бабулі Розы, суседкі і равесніцы Хаіма Суціна… Хаткі былі ўсё тыя ж, малюхаценькія — у тры, а то і ў два акны. І знутры — метраў чатырнаццаць. Ды печка, ды лаўкі, ды сталы. Шавец Залман Суцін меў адзінаццаць дзяцей…»

Барыс Носік паспрабаваў шукаць адрасы, звязаныя са смілавіцкім геніем Хаімам Суціным. Ды напрыканцы XX стагоддзя ці дакладней — у трэцяй яго чвэрці зрабіць гэта было няпроста. Пісьменнік выйшаў да пажарнага дэпо. «…У цэнтры мястэчка я ўбачыў драўляны дом памерамі большы, чым астатнія. У ім размяшчаліся пажарнікі. Сумны дзяжурны паведаміў мне, што ў гэтым памяшканні ў дагістарычныя часы (яшчэ пры прыватніках) быў у доме кандыдатарскі цэх, рабілі цукеркі. Яўрэі рабілі.

— Ты ж ведаеш, тут яўрэі жылі. І зараз некалькі жывуць, але мала…

— А дзе яны зараз?

Ён не вельмі дакладна махнуў рукою некуды на задворкі, і я пайшоў туды…»

Так у паходах па мястэчку Барыс Носік адкрыў для сябе і яўрэйскія могілкі.

Даведаўся, якога маштабу трагедыя адбылася ў Смілавічах у кастрычніку 1941 года. Барысу з маленства расказвалі пра гэта злачынства, пра тое, што ў той дзень — 14 кастрычніка 1941 года — загінулі дзясяткі, мо нават сотня родзічаў. І вось — сустрэча з памяткай пра велізарнейшую бяду.

Русінава — прозвішча смілавіцкай бабулі Барыса Носіка. Русінавых у мястэчку пісьменнік ужо не знайшоў. Як, відаць, нічога новага і не адкрыў пра легендарнага мастака. Затое ўбачыў на свае вочы паселішча, што вывела ў свет геніяльнага творцу.

У сваёй кнізе «Рускія мастакі ў эміграцыі», падрабязна расказваючы пра жыццё Хаіма Суціна ў Парыжы, узнаўляе сяброўства колішняга смілавіцкага падлетка з іншымі ўраджэнцамі Беларусі. З Пінхусам Крэменем (нарадзіўся ў гродзенскім Жалудку) і Міхаілам Кікоіным (родам з Віцебскай губерні) Хаім пазнаёміўся яшчэ ў мастацкім вучылішчы ў Вільні. Не пакідалі адзін аднаго сябры і ў першыя гады парыжскага жыцця. Напісаная простай, зразумелай мовай, пазбаўленая доўгіх мастацтвазнаўчых экскурсаў, кніга Б. Носіка пра Х. Суціна, М. Шагала, П. Крэменя, несумненна, вартая ўвагі шырокага кола чытачоў. Тэкст яшчэ дапаўняюць і рэпрадукцыі з работ самых розных мастакоў.

А я рады, што Барыс Носік, які зараз жыве ў Парыжы, носіць у сэрцы іншыя, добрыя, сардэчныя, шматпакутныя Смілавічы, а не старое паселішча з бруднымі канавамі, з якога так кпіла яго маскоўская радня.

## Якой славай жывеш, такой і праслывеш

Выпраўляемся далей, у раённы цэнтр. Мне часта даводзіцца завітваць у бібліятэку, Чэрвеньскі раённы музей. Яны — поруч, у адным будынку, старым, яшчэ з пазнакамі павятовасці. І ўвогуле цэнтр Чэрвеня — колішняга Ігумена, — гэта прыцягальны куточак дабрыні і гістарычнай памяці. А Чэрвеньская раённая бібліятэка — сапраўдны цэнтр краязнаўчай работы. Прыкладаў на тое можна прывесці нямала. Неаднойчы тут праводзіліся краязнаўчыя чытанні. Сярод сяброў музея і бібліятэкі — маскоўскі гісторык Аляксей Каўка, цікавы чэрвеньскі краязнаўца Уладзімір Дарагуж, мясцовыя паэты Святлана Адамовіч і Ігар Адамовіч…

Дастаткова часта чэрвеньскія бібліёграфы, бібліятэкары матэрыялы сваіх даследаванняў афармляюць у асобныя брашуры, кніжачкі, тыражуюць іх у 10 і болей асобнікаў. З работ апошніх гадоў — «Якой славай жывеш, такой і праслывеш (Прыказкі і прымаўкі роднай старонкі)» (чэрвень, 2006 год). Укладальнік — Г. А. Ніціеўская. Выданне з’яўляецца вынікам працы вясковых бібліятэкараў Чэрвеньшчыны, якія на працягу 2003—2004 гг. сабралі і запісалі прыказкі і прымаўкі, пачутыя ў сваёй мясцовасці. Размеркаванне матэрыялу алфавітнае (па першым слове). У дужках пазначаны мясцовасць, дзе зроблены запіс, і, калі вядома, прозвішча таго, ад каго пачуты прыказка ці прымаўка. На гэтыя акалічнасці звернута ўвага на самым пачатку кніжачкі.

Усяго ў зборніку змешчаны 121 устойлівы выраз. Запісы моўных залацінак зроблены ў наступных паселішчах Чэрвеньшчыны: Дзерці, Дамавіцк, Майзарова, Чарнаградзь, Лысая Гара, Горкі, Красны Дар, Вайнілава, Замасточча, Турэц.

Чытаеш, напрыклад, наступныя выразы і багацееш душою: «Багатыр збяднеў — кот скварку з’еў», «Бог даў дзеці, але як іх у долю ўдзеці» (гэтыя запісы — з Турца і Замасточча адпаведна), «Брат мой, а ежма хлеб хто свой» (запісана ад Аляксандра Мацвеевіча Свістуна ў Турцы), «Вылупіўся як жаба ў гузік» (таксама з Турца). «Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка замужам, ды ідуць» (запісана ў вёсцы Лысая Гара ад Кацярыны Суша). «Гэта не гаспадыня, калі за раніцу ўвесь пыл падыме», «Да носа качаргой не дастаць» — абедзве знаходкі зноў жа з вёскі Турэц.

Знаёмства з запісамі чэрвеньскіх бібліятэкараў нагадала пра ўнікальную працу, з часу выдання якой ужо споўнілася болей як 80 гадоў, — пра «Краёвы

слоўнік Чэрвеньшчыны» (Мінск, 1929 год). Яго сабраў настаўнік Мікалай Васільевіч Шатэрнік — яркая, шматгранная асоба, ураджэнец вёскі Старына былога Ігуменскага павета (сённяшні Чэрвеньскі раён). Яшчэ ў 1914 годзе Шатэрнік закончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў у розных школах Міншчыны: у Смілавічах (да 1921 года), Чэрвені (1921—1923 гады), Лядах (1923—1924 навучальны год). Наступныя пяць гадоў Мікалай Васільевіч настаўнічаў у Пухавіцкім раёне: у Дукоры і Навасёлках. Шмат часу педагог аддаваў збіранню мясцовай лексікі. Слоўнікавая камісія Інбелкульта ў канцы 1926 года дае М. Шатэрніку даручэнне ўкласці «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны». Праз год рукапіс слоўніка паступае на разгляд камісіі. У 1929 годзе праца прыходзіць да чытача асобнай кніжкай — пад рэдакцыяй М. Я. Байкова і Б. І. Эпімах-Шыпілы. А дзе ж запісваў моўныя залацінкі Мікалай Васільевіч Шатэрнік? У 35 паселішчах трох раёнаў былога Ігуменскага павета: Пухавіцкага (Омельна, Белая, Блужа, Дайнава, Дубраўка, Загай, Запярынне, Клятное, Крамяні, Дяцо, Міхайлава, Навасёлкі, Падбярэжжа, Русаковічы, Самін, Сінча, Скобраўка, Скрыль), Смілавіцкага (Бор, Востраў, Голацк, Дукарка, Дукора, Дукоршчына, Жораўкі, Забалацце, Капейна, Лешніца, Матарова, Раўнаполле, Рудзенск, Старына, Турэц, Харавічы) і Шацкага (Слопішча). Пераважная большасць лексем запісана ў вёсцы Старына, дзе нарадзіўся Мікалай Васільевіч Шатэрнік.

Усяго ў «Краёвым слоўніку Чэрвеньшчыны» — каля дзевяці тысяч слоў. Гэта і агульнанародныя, вядомыя па ўсёй Беларусі, і, канечне ж, вузкамясцовыя словы, уласцівыя толькі гаворкам Чэрвеньшчыны. Поруч са словамі ў асобныя слоўнікавыя артыкулы вылучаны фразеалагічныя звароты. Прыкладам — лынды біць, казлы драць, даць драпака, балясы тачыць, лезці ў вочы, дзёбам сядзець… Часта М. Шатэрнік прыводзіць мясцовыя прыказкі і прымаўкі. Устойлівых выразаў у «Краёвым слоўніку Чэрвеньшчыны» каля двухсот. Звернем увагу хаця б на некаторыя знаходкі з 1920-х гадоў: «Бяда бяды шукая»; «Бяды ня чапай, дык яна цібе ня зачэпіць»; «Ня бяда, што адна, — а што дзве»; «То ня бяда, што ня п’ецца вада»; «Лепяй хлеб есці з вадою, чым булку з бядою»; «Чужая бяда — людзям за вяселля»; «Чужую бяду — рукамі развяду». Між іншым, ніводнага з такіх выразаў у слоўнічку сучасных чэрвеньскіх бібліятэкараў няма. Праўда, пра бяду ёсць наступная прыказка: «Чужую бяду рукамі развяду, а сваёй і віламі не сапхну» (запісана ў вёсцы Чарнаградзь).

Да слова «розум» М. Шатэрнік прапаноўвае наступныя «ілюстрацыі»: «Людзей слухай, а свой розум май»; «Што галава, то й розум»; «Чужога розуму лыкам ня мерай».

Запісаныя і зусім нядаўна прыказкі і прымаўкі ўражваюць сваёю вобразнасцю, сапраўднай народнай філасофіяй, закладзенай у змесце. Вось паслухайце: «Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі конік ды дзячок» (запісана ў Вайнілава ад Кацярыны Якіменка). Альбо: «Рукі пабрудзіш і вадой памыеш, а душу забрудзіш — мылам не адмыеш» (запісана ў той жа вёсцы і ў тае ж спадарыні). З вёскі Турэц: «Няма хаты, а дзверы купляюць». Ізноў адтуль жа і ад таго ж рэспандэнта — Аляксандра Каспяровіча: «Пажывеш, і Кузьму бацькам назавеш».

Сціплы памерам зборнік «Якой славай жывеш, такой і праслывеш», у якім агучаны імёны каля 40 рэспандэнтаў — носьбітаў прыказак і прымавак, уражвае змястоўнасцю, багаццем моўных фарбаў і красак. Як мне падаецца, выданне падобнага кшталту — неад’емны дапаможны матэрыял у вывучэнні роднай мовы. Хіба ж не ўпрыгожваннем школьных урокаў на Чэрвеньшчыне можа стаць такое даследаванне — прычым, для розных класаў?..

Часта звяртаючыся да кнігі незабыўнай памяці Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага «Само слова гаворыць», ледзьве не на памяць згадваю наступнае: «Роднае слова, родная фразема, родная прыказка, родная песня, казка!

Ацэньваць іх як золата, як залацінкі? Не, яны — не золата. Золата — усяго *толькі* дарагі *метал*.

Сябе, здаецца, падрыхтаваў ужо да працы. Падрыхтаваў да працы і ў працы са словам, з маім родным словам. А з ім працуй вымытымі рукамі, адгортвай ад сябе ўсялякае мурзатае, здрадлівае, адгортвай пацяруху, смецце».

Здабытае, знойдзенае, занатаванае чэрвеньскімі бібліятэкарамі — здабытак, які нельга абысці ўвагай. Быў час, калі ў часопісах часцей друкаваліся слоўнікі пэўнай мясцовасці. Выходзілі і асобныя слоўнікі-прыклады, шматкніжжа Георгія Юрчанкі пра гаворку Мсціслаўшчыны. Мо такая практыка яшчэ вернецца да выдаўцоў беларускай перыёдыкі і беларускай кнігі?..

## Сустрэчы ў Турыне

Пакідаючы Чэрвень, накірунак свайго маршруту мы вызначаем у бок Турына. Гэта — ужо Пухавіцкі раён. Але — усё тая ж Ігуменшчына. Праз Турын ездзяць аўтобусы і машыны з Мар'інай Горкі на Чэрвень.

Вядомасць сваю вёска мае з XVI стагоддзя. У Турыне нарадзіўся вучоны Якуб Наркевіч-Ёдка. У адным з турынскіх пасёлкаў яшчэ ў даваенныя гады было лецішча славутага дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра. Дарэчы, прыязджаў ён у Турын і ў пасляваенныя гады, наведваў і іншыя паселішчы Пухавіччыны. Быў знаёмы і сябраваў са старшынёю калгаса імя Чапаева М. Андрэевым.

Настаўнічаў у Турыне і паэт Міхась Скрыпка. Чалавек актыўны, ён таксама пакінуў свой след на Пухавіччыне. Мне асабіста шмат расказвалі пра М. Скрыпку як пра свайго настаўніка колішнія вучні Турынскай сярэдняй школы Аляксандр Іванавіч Смеяновіч, Фёдар Іванавіч Смеяновіч.

Гартаючы падшыўку пухавіцкай раённай газеты (тады яна называлася «Сцяг комунізма») у нумары за 9 сакавіка 1956 года знайшоў артыкул М. Скрыпкі «Аб творчасці маладых». Фактычна перад намі — класічны агляд літаратурнай пошты, што паступала ў рэдакцыю «раёнкі». Пакінуўшы ў баку агульныя і ўвогуле правільныя разважанні аб прыродзе творчасці, дамо слова аўтару: «Перада мною добрая паўсотня вершаў, апавяданняў, нарысаў, дасланых у рэдакцыю раённай газеты чытачамі. Пішуць настаўнікі, калгаснікі, вучні. Хай гэта іншы раз і нясмелыя крокі ў паэзіі, а толькі зарыфмаваныя думкі, але яны гавораць аб тым, што аўтар імкнецца выказаць радасць сваёй душы аб нашых днях, або бічуе тое, перашкаджае нам ісці наперад. Хацелася б ад душы пажадаць усім пачынаючым пісаць: памятайце, што да літаратурнай справы патрэбна ставіцца сур'ёзна, бо гэта не гульня ў рыфму…

З дасланых у рэдакцыю твораў заслугоўваюць увагу два: байка «Образованная свинья» і сатырычны верш «Надо строить баню» — Н. Г. Шуранкова. Адразу відаць, што чалавек ведае жыццё і валодае тэхнікай вершаскладання. У байцы аўтар высмейвае пустых зазнаек, якія, маючы адукацыю, з пагардай адносяцца да простага чалавека.

Скажите слово ей —
Смешает с грязью вас:
— Щенок! Болван! Ты ничего не знаешь
Окончил, может быть, случайно класс,
А и меня, свинью, уж поучаешь!

Верш «Надо строить баню» напісаны на канкрэтным матэрыяле. У Турынскім сельсавеце няма добрай лазні, і аўтар піша:

Чтоб я грязью не оброс,
То, как говорится,
Мне в столицу за сто вёрст
Надо ехать мыться.

Аўтар заканчвае верш заклікам пабудаваць лазню. Ёсць для гэтага ў калгасе і лес, і людзі. Уся справа ў кіраўніцтве…»

*(«Сцяг комунізма», 1956, 9 сакавіка).*

У аглядзе Міхась Скрыпка згадвае творы Фралова, Зубкоўскага, Шулякоўскага, Залеўскага, васьмікласніка Скачко, загадчыцы Кабыліцкай хаты-чытальні. І завяршаецца агляд наступнымі парадамі: «У вершы т. Залеўскага «Міру — мір» ёсць багата добрых мясцін, але «перасолены» рытарычнасцю, задужай прыўзнятасцю. Спусціць бы гэты верш з паднябесся на зямлю, ды адгабляваць яго паэтычным гэблем і выказаць добрыя думкі больш шчыра і проста, каб у вершы «ўсё дазвання зразумеў не толькі аўтар, а й чытач».

Заканчваючы на гэтым, яшчэ раз хочацца пажадаць маладым таварышам плённай і настойлівай працы. Вучыцеся пісаць у вялікіх майстроў нашай літаратуры. Будзьце самі актыўнымі і чэснымі будаўнікамі новага грамадства, бо толькі з пазіцыі перадавога чалавека можна пісаць добрыя творы. Пішыце аб тым, што варта нашага часу, што дапамагае нашаму народу паскорыць свой рух да светлай будучыні — комунізма».

Міхась Скрыпка і сам выступаў у раённай газеце. У прыватнасці, у 1956 годзе друкуе нарыс «Думы простых людзей», дзе расказвае пра лёсы сялянак, калгасных працаўніц — Юліі Адамаўны Качура, Надзеі Сідараўны Шкатулы, Ксеніі Андрэеўны Усцінчык. «…Я ведаю гэтых простых жанчын і ў быту, і ў працы. Яны належаць да тых людзей, аб якіх не пішуць у газетах, іх не фатаграфуюць для кінахронік, аб іх нават мала калі гавораць у раёне. Гэта простыя, сціплыя работнікі калгаснай вытворчасці, якія паціху робяць сваю вялікую справу, ствараючы багацце для нашага народа».

*(Сцяг комунізма, 1956).*

Сам Міхась Аляксандравіч родам з вёскі Месціна Бярэзінскага раёна. Нарадзіўся 26 лістапада 1907 года ў сялянскай сям'і. Скончыў Рагачоўскі педагагічны тэхнікум у 1930 годзе. Настаўнічаў у Рагачоўскім раёне. У 1940 годзе скончыў завочна літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. У час Вялікай Айчыннай вайны быў у партызанах, у 1944—1945 гг. — у Савецкай Арміі. Пасля вайны настаўнічаў у школах Магілёўшчыны і Міншчыны. У 1965—1971 гг. працаваў намеснікам дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР. Памёр 8 кастрычніка 1991 года. У друку ўпершыню выступіў у 1927 годзе. Выдаў зборнікі вершаў, баек, сатырычных мініяцюр «Сатыра і гумар» (1958), «Сатырычны калаўрот» (1967), «Ад смеху не ўцячэш» (1975), зборнікі аповесцей, апавяданняў «Мая хата не з краю» (1959), «Пад корань» (1962), «Усяк бывае…» (1963), «Шануючы вас» (1982), кніжку антырэлігійных нарысаў «Сцеражыся цемрашалаў!» (1964), «Дзіва ў кошыку» (1983), «Злазьце — прыехалі!» (1985), «З сэрцам і перцам» (1987), кніжку апавяданняў для дзяцей «Дзіва ў рэшаце» (1963) і вершаваны зборнік «Пад смешнай вясёлкай» (1971). У 1977 годзе пабачыла свет кніга выбраных твораў «І з перцам, і з сэрцам». Аўтар болей як трыццаці аднаактовых п'ес, камедый для мастацкай самадзейнасці. Перакладчык з рускай і ўкраінскай моў. Пераклаў асобныя вершы А. Твардоўскага, С. Маршака, С. Міхалкова, А. Барто, С. Алейніка, А. Вішні, П. Глазавога і інш.

Мне давялося сустракацца і гутарыць з некаторымі вучнямі Міхася Скрыпкі па Турынскай СШ. У Ташкенце пра Міхася Аляксандравіча расказваў Фёдар Іванавіч Смеяновіч, у вёсцы Пухавічы — Аляксандр Іванавіч Смеяновіч.

Праўда, жыццё ніколі не бывае аднаколерным. І вось мне на вочы патрапіла кніга Сяргея Мікалаевіча Сяргеева «Педагагічныя накіды» (Мар'іна Горка—Мінск—Масква, 2004), які з 1960 па 1972 гады працаваў дырэктарам Турынскай СШ. Вось невялікая цытата з грунтоўнага, манаграфічнага памеру тома: «Я школу прыняў у 1960 годзе ў верасні месяцы. У педкалектыве быў вялікі скандал. Дырэктара школы знялі з працы, Рудакоўскага Г. І. адправілі ў Светлаборскую СШ, Скрыпка (пісьменнік-сатырык) паехаў у Мінск, але групы сапернікаў у школе засталіся…» Не будзем шукаць падтэкст, але і не працытаваць не мог. Ужо хаця б на тое, каб акрэсліць спрадвечную ісціну: жыццё складаецца яшчэ і з праблем, непрыемнасцей, самых розных хібаў.

…У 1971 годзе кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Пухавіцкай выбарчай акрузе № 87 быў вылучаны пісьменнік Іван Пятровіч Шамякін.

Адна з сустрэч з вядомым літаратарам і актыўным грамадскім дзеячам адбылася ў вёсцы Турын. Цяжка знайсці сведкаў з тых дзён. У раённай газеце была надрукавана невялікая нататка В. Зінчанкі «І. П. Шамякін у выбаршчыкаў» пад рубрыкай «13 чэрвеня — выбары ў Саветы»: «…З цёплым уступным словам звярнуўся да выбаршчыкаў сакратар РК КП Беларусі А. П. Грышан.

Мы ведаем, — сказаў А. П. Грышан, — Івана Пятровіча Шамякіна, як выдатнага беларускага пісьменніка, грамадскага дзеяча.

Затым старшыня калгаса «Сцяг камунізму» Г. А. Усюкевіч расказаў прысутным аўтабіяграфію пісьменнніка, ахарактарызаваў творы аўтара, які зрабіў шмат у справе росквіту беларускай літаратуры.

Давераная асоба Т. І. Маргель адзначыла, што галасаваць за кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР — І. П. Шамякіна — вялікае шчасце для выбаршчыкаў, якія ведаюць празаіка па творах, насычаных ідэйнай глыбінёй, шчырасцю. Давераная асоба па Турынскім участку С. М. Сяргееў (на той час дырэктар Турынскай СШ — **А. К.**) гаварыў аб вялікім эмацыянальным уздзеянні твораў пісьменніка на чытача.

Цікавым было выступленне даверанай асобы па Блонскім выбарчым участку М. С. Кліндзюка. Ён сказаў, што творы І. П. Шамякіна выхоўваюць у кожнага з нас пачуцці патрыятызму, любові да Радзімы.

Кнігі пісьменніка, — падкрэсліў П. І. Кунько, давераная асоба па Дукорскім выбарчым участку, — чытаюцца з захапленнем. Пісьменнік І. П. Шамякін выявіў у аповесцях і раманах добрае веданне побыту працаўнікоў вёскі, паказаў людзей, якія будуюць камунізм.

Сакратар партыйнай арганізацыі калгаса «Камсамолец» В. В. Капскі гаварыў аб мастацкіх вартасцях твораў І. П. Шамякіна.

Затым выступіў І. П. Шамякін, які падзякаваў выбаршчыкам за давер, расказаў аб сваіх творчых планах, задумах, развіцці беларускай савецкай літаратуры на сучасным этапе».

*(Сцяг працы, 1971, 27 мая).*

Канечне ж, хацелася б жывога ўспаміну пра той дзень, пра тое, што гаварыў Іван Пятровіч Шамякін, тады аўтар ужо такіх твораў, як цыкл аповесцей «Трывожнае шчасце», раманаў «Глыбокая плынь», «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», аповесцей «Помста», «Першы генерал», «Ах, Міхаліна, Міхаліна»… На той час пісьменнік ужо быў адзначаны званнямі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (яшчэ ў 1951 годзе — лаўрэата Сталінскай прэміі), лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР. Паспеў пабыць рэдактарам альманаха «Советская Отчизна» (сённяшні «Нёман»). З 1954 года — намеснік старшыні, сакратар, другі сакратар, першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Думаецца, што важнай была для турынцаў гэтая сустрэча, можа быць, нейкая памятка ад яе засталася і ў творчай свядомасці ўважлівага да жыцця, да вобразаў сучаснікаў Івана Пятровіча Шамякіна.

А раённая газета «Сцяг працы» як партыйны прапагандыст працягвала сачыць за ходам падрыхтоўкі да выбараў, вынік якіх, канечне ж, быў зразумелым і вядомым. 8 чэрвеня на старонках «раёнкі» з вялікім артыкулам, прысвечаным кандыдату ў народныя выбраннікі выступае Браніслаў Зубкоўскі — «Пісьменнік вялікага таленту». Журналіст, які на той час працаваў загадчыкам аддзела пісьмаў раённай газеты, узнаўляе ў памяці і асабістую сустрэчу з Іванам Пятровічам Шамякіным у час вучобы ў Магілёўскім педінстытуце. Згадвае, наколькі цікавыя пытанні задавалі студэнты, наколькі ўражлівай была тая шчырая і шырокая размова.

Радочкам укладваецца ў літаратурную памяць Турына і такі прывабны факт. У 1970 годзе гасцявалі ў старажытнай вёсцы Янка Брыль, Ніл Гілевіч і Фёдар Янкоўскі. Спярша ў бібліятэцы Турынскай сярэдняй школы была афармлена кніжная выстава пад шырокай назвай «У нас у гасцях будуць пісьменнікі Янка Брыль, Фёдар Янкоўскі, паэт Ніл Гілевіч». Мо і задужа шырокае тлумачэнне вынікае з загалоўка, але сучасным арганізатарам літаратурнага жыцця трэба

было б павучыцца разумным падыходам у прапагандзе айчыннай літаратуры. Напярэдадні сустрэчы школьнікі болей актыўна бралі ў бібліятэцы кнігі згаданых аўтараў, ахвотна знаёміліся з іх апошнімі творамі, апошнімі публікацыямі ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы. Часопісы ж тады выпісвалі ў школу амаль усе — і «Полымя», і «Маладосць», і «Нёман», і «Беларусь», і «Вожык», а таксама і газету «Літаратура і мастацтва». Многія школьнікі набылі кнігі Янкі Брыля «Мой родны кут», «Адзін дзень», Ніла Гілевіча «Лісце трыпутніку», каб пасля на добры ўспамін атрымаць аўтографы. Сама сустрэча настаўнікаў і вучняў 5—10 класаў з вядомымі беларускімі літаратарамі праходзіла ў памяшканні сельскага клуба. Адкрыў сустрэчу доктар філалагічных навук Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі. Ён расказаў не толькі пра тое, што яго цікавіць у літаратуры, але і пра педагагічны інстытут, дзе працаваў на той час. Напрыканцы сваёй размовы перадаў школьнай бібліятэцы свае кнігі. Затым выступілі чытальнікі мастацкіх твораў — артыст А. Каляда, студэнты Мінскага педагагічнага інстытута Аляксандр Лугоўскі, Вольга Паўлоўская, Ганна Ганчарова і Мікалай Яленскі. Яны прачыталі вершы Ніла Гілевіча, урыўкі з апавяданняў Янкі Брыля «Галя», «Граніца». Ніл Гілевіч прачытаў таксама свае вершы, пераклады з балгарскай паэзіі. Янка Брыль парадаваў удзельнікаў сустрэчы расповедамі пра паездкі ў Індыю, Амерыку, Югаславію, адказаў на шматлікія пытанні. Прызнаюся, што і з вышыні сённяшняга часу зайздрошчу турынскім школьнікам, бо кожная сустрэча з вялікімі, сапраўднымі пісьменнікамі — сапраўдны ўрок выхавання, узвышэння ўласнай душы. Здавалася б, радавы факт — сустрэча з пісьменнікам, але гэта ж не проста слуханне жывога стваральніка кніг, а гэта яшчэ і ўрок любові да мастацкага слова, урок пранікнення ў таямніцы і глыбіні творчасці. Адна справа — чытаць сам-насам брылёўскую «Галю» ці «Граніцу», зусім іншая — слухаць іх мастацкае чытанне ў прысутнасці аўтара… «…Хутка знікне імгла, і за пшаніцай, за лёнам адкрыецца чорны прастор свежай, духмянай раллі, стане відаць, колькі за ноч узняў зямлі яе Сярожа. А можа, гэта ён яшчэ сядзіць за рулём? Не, не ён. Нават трактар ракоча не там, — не даходзіць у сэрца яго несціханы, бязлітасны, добры, любімы гул. Не, не ён.

Нехта ідзе па дарозе…
Божа мой — ён!..

Галя хацела рвануцца, пабегчы туды, але спынілася — глядзіць… Сярожа ідзе без шапкі, у сінім расхрыстаным на грудзях камбінезоне — такі самы, якім яна нібыта бачыла яго праз акно.

«Не, ён не ўбачыць мяне!.. Не, не цяпер!..»

Яна сышла са сцежкі ў пшаніцу.

Сяргей ідзе і не бачыць над калоссем яе галавы ў белай хустцы, пад колер імглы. Ды ён сюды і не глядзіць… Толькі на яго, услед яму глядзяць Галіны карыя, сумныя вочы.

«Вярніся ты хоць як-небудзь назад, мая харошая, мая загубленая маладосць! Вярніся, заспявай мне вясёлую песню пра чорную галку, якая яшчэ ўсё твая, зірні мне ў вочы, і я сама падпалю гэты хутар, вазьму дзяцей, пайду з табой усюды, куды скажаш!..»

А пшаніца, якая пшаніца навокал! Густая, чыстая, высокая. Так і трэба!..»

Слухаць гэтыя спакойныя і ўзрушлівыя радочкі, прачытваць у памяці ўвесь сюжэт любімага апавядання ў прысутнасці аўтара — ці не найвышэйшая чытацкая асалода?!.

…З Турына я звычайна еду ці — часам здараецца і такое — іду ў Блонь альбо ў Мар'іну Горку. Ці — у мястэчка Пухавічы. Усе дарогі мне знаёмыя і дарагія, усе дарогі любімыя, з тых, прайсці якімі — адна асалода. Тут і ногі не баляць, і сэрцам і душою адчуваеш вечную акрыленасць, узнёсласць, вечнае паяднанне з роднай старонкай.

Ідзе падпіска
на II паўгоддзе 2011 года:

індывідуальная льготная
для настаўнікаў (індэкс — 00471)

на 1 месяц — 6710 руб.
на 3 месяцы — 20 130 руб.

індывідуальная (індэкс — 74985)

на 1 месяц — 10 350 руб.
на 3 месяцы — 31 050 руб.

ведамасная (індэкс — 749852)

на 1 месяц — 17 032 руб.
на 3 месяцы — 51 096 руб.

ведамасная льготная
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)

на 1 месяц — 13 812 руб.
на 3 месяцы — 41 436 руб.

e-mail: polymya@bk.ru

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар М. М. Гілевіч
Камп'ютарная вёрстка С. І. Стараверавай

Падпісана ў друк 06.10.11 г. Фармат 70  108$^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 14,00. Ул.-выд. арк. 13,94. Тыраж 2751 экз. Заказ 2755.
Кошт нумара ў розніцу 11 500 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.